№3 (124)
/травень-чэрвень/ 2023

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Дранько-Майсюк



...Навучы мой дух загнаны
Звонам зор загойваць раны,
Сонцам асвятляць юдоль...

# Stabat Mater

***Паводле сярэдневяковай каталіцкай секвенцыі***

1. Маці, плачучы, стаяла,
Крыж слязамі абмывала, –
Сын распяты на крыжы.

2. Адчувала ў паняверцы
Боль такі, як меч у сэрцы,
І агонь ва ўсёй душы.

3. Не адсунуць гэты камень,
Раны не закрыць рукамі,
Доля Матчына – палын.

4. Большае няма атруты –
Бачыць Сынавы пакуты,
Памірае родны Сын.

5. Хто ля Сына ўгледзеў Маці,
Слёз ніяк не мог стрымаці,
Нібы тая сірата.

6. Мора слёз і ласкі мора,
Людзі падзялілі гора
Маці нашага Хрыста.

7. За грахі ўсяго народу,
Нас ратуючы ад зводу,
Узышоў на крыж Хрыстос.

8. Чуе Маці, як у Сыне
Роднае дыханне гіне
І знікае ў глыб нябёс.

9. Маці, любасці крыніца,
Дай малітвы той напіцца,
Што паможа мне прыдбаць

10. Сілы, роўныя Хрыстовым,
І такія ж думкі, словы,
Каб сябе Яму аддаць.

11. Так зрабі, каб мукі Сына
Ува мне жылі няспынна
І былі маёй крывёй.

12. Жыць хачу ў Ягонай тайне,
Боль за Сына Ты аддай мне
На Галгофе на святой.

13. Плакаць я хачу з Табою,
Спачуваць Хрысту душою
Век, пакуль мне паміраць.

14. І стаяць з Табой, як зоры
У начной стаяць прасторы,
І як сонца, так стаяць.

15. Панна, светлая Дзяўчына,
Ля Твайго пры смерці Сына
На Галгофе быць дазволь.

16. Навучы мой дух загнаны
Звонам зор загойваць раны,
Сонцам асвятляць юдоль.

17. Гэтак жа раскіну рукі
І прыму такія ж мукі,
Як Твой Сын прыняў за нас.

18. І ад кары нечаканай
Уратуй мяне Ты, Панна,
Як надыдзе Судны час.

19. У апошнія хвіліны,
Хрысце Божа мой адзіны,
Дай душы з табой пабыць.

20. І як згіне маё цела,
То дазволь душы збалелай
Славу райскую здабыць.

*10 сакавіка 2023 г., пятніца, 17 г. 37 хв.; Менск.*

проза

Святлана Воцінава



...шчасце

патрабуе адвагі...

# Дом лістоў

***Аповесць***

*Прысвячаецца светлай памяці*
*прафесара Аляксея Пяткевіча*

### Пачатак

*У межах літаратурнага праекту “Слаўная кампанія: рэANIMАцыя”.*

Ніякае гэта не запазычанне ў Марка Z. Данілеўскага, іначай было б «Дом лісця»[1]. Твор жа, які цяпер, пакуль яшчэ не зусім сцямнела, знайшоўшы паперу і кавалак алоўка, прыладкаваўшыся на нізкім шчарбатым ганку, я пачынаю пісаць, не хаваючы хвалявання (бо хаваць яго тут няма ад каго), павінен называцца «Дом лістоў».

Таму што ён не пра лісце, якое шапаціць ад пераднавальнічнага ветру (вецер, дарэчы, мяне трывожыць: не ведаю, ці цэлы на доме дах, які Афтаназы[2] апісвае як гладкі, на два схілы, падбіты гонтаю, і наколькі страшна ў навальніцу знаходзіцца ў цемры стогадовай закінутай вілы, ~~у якой ад-~~

~~бываецца чорт ведама што~~, у якой адбываецца нешта такое, што я пакуль не здолела зразумець), і не пра лісты ў сэнсе аркушы, а толькі пра тыя лісты, якія ў эпоху да эсэмэсак людзі пісалі адно аднаму, каб дзяліцца падзеямі і надзеямі.

Я прыехала сюды па невядомай прычыне мінулай ноччу, аддаўшы таксісту добрую частку атрыманага напярэдадні ганарару. Магла б пакінуць гэтыя грошы ў «Галіяфах», набраўшы ў іх кнігарні дзясяткі два кніг. Або купіць тры скрыні сочнікаў.

Замест таго, каб пісаць належнае, я пішу пра сочнікі. Гэта не дзіўна для чалавека, які не еў больш за суткі. А пішу, што прыехала сюды па невядомай прычыне, бо не ведаю, што прымусіла мяне сярод ночы адарвацца ад тэксту, які пісала, глытаючы праз старонку чарнюткі перасаладжаны чай, узяць таксоўку і дзве гадзіны без адзінай думкі ў галаве ўзірацца ў дарогу перад сабой. Таксіст маўчаў. Яму не хацелася ехаць за сотні кіламетраў у ноч. Таму і давялося мне развітацца з трыма скрынямі сочнікаў. Усё, больш ні слова пра ежу.

Паўразбуранай вілай, узведзенай на мяжы XIX і XX стагоддзяў, у наш час валодае ўніверсітэт, у якім я працую. Але гэта інфармацыя ні пра што: я не ведаю планы ўніверсітэта адносна будыніны, якая выглядае закінутай і ў якую я трапіла без перашкод, не пытаючы ніякага дазволу. Не думала, што гэта будзе так проста: падняцца на ганак, узяцца за ручку, адчуць, што дзверы не замкнутыя... Я ўвайшла ў дом, па-ранейшаму не маючы ў галаве ніводнай думкі. Нягледзячы на ноч і самоту, страху я не адчувала. Нібы нехта адключыў у маім арганізме некаторыя опцыі. Цемру, якая паспешліва мяне атуліла, ледзь толькі промні ад фар таксоўкі рассеяліся за даляглядам, крыху разбаўляла святло месяца. Пад яго цікаўным вокам я і дайшла да дзвярэй і з лёгкасцю іх адчыніла. Яны і не рыпнулі. Хаця ў гэтым упэўненасці няма: хто ведае, ці не быў у мяне разам з іншымі опцыямі выпадкова адключаны слых.

Шалёны вецер. Ледзь утрымала паперу. Уявіла, як гэты прайдзісвет вырывае яе і нясе ў нязнаную далеч. Нехта знойдзе і прачытае. Або не чытаючы выкіне. Вырашаць, як заўсёды, будзе выпадак. Некаторыя лічаць, што выпадкам, як псеўданімам, карыстаецца Бог, калі не хоча сябе называць.

Зноў парыў ветру. Яшчэ і яшчэ. Вось што! Чытай уважліва той, у чые рукі прыляціць гэты аркуш. Перад тым, як трапіць сюды (53.027648 паўночнай шыраты і 25.816376 усходняй даўгаты), я ціхамірна сядзела на кухні і пісала біяграфію Элізы Ажэшкі. Разважаючы пра нязведаныя шляхі, якімі ў наш час вяртаецца з нябыту цікавасць да падобных персон (чыя колішняя заслужана гучная слава без відавочных прычын зрабілася асуджанай быць патрэбнай толькі спецыялістам і апантаным прыхільнікам), адзін з маіх сяброў-творцаў выказаў меркаванне, што спадчына па-сапраўднаму значных асоб праз сотні гадоў пасля іх жыцця непазбежна актуалізуецца імі самімі. Згустак нерастрачанай творчай энергіі вандруе па свеце, імкнучыся хоць некага абудзіць, і той, з кім яму гэта ўдаецца, пачынае раптам бачыць усё, што раней было незаўважным, і паведамляе астатнім: «Глядзіце! Гэта было створана вельмі даўно, але гэта ўсё роўна пра нас». І гэтае «пра нас» не залежыць ні ад грамадскага ладу, ні ад імёнаў кіраўнікоў, ні ад тэхналогій быцця. Гэтаму «пра нас» усё роўна, перамяшчаемся мы брычкай, запрэжанай коньмі, ці самалётам і электрамабілем. Гэтаму «пра нас» ёсць прыгожая назва: класіка.

На віле Паўлінава, дзе Эліза Ажэшка гасцявала больш чым сотню гадоў таму і дзе цяпер знаходжуся я, гэтым словам знайшліся шыкоўныя доказы. Нават тое, што мяне падняло і панесла сюды сярод ночы, даказвае іх безумоўную слушнасць. Наконт жа ўсяго астатняга – што адбылося са мной ужо тут, – можна не сумнявацца: я трапіла ў пазачассе, міжчассе, надчассе, эйнштэйнаўска-хокінгаўскі прасторачас... Я не ведаю, як назваць.

Вецер усё настойлівей вырывае паперу. Далася яна яму... Цямнее. Я ледзь разбіраю радкі, пішу амаль усляпую. У доме пісаць не магу – там ужо цёмна.

Карацей! Таго, хто гэта прачытае, я прашу трапіць у маю кухню і знайсці там біяграфію Элі

Я не дапісала яе: мне не хапіл

Тое, што не паспела зрабі

Таму што я абя

Мой ад

«Прыемныя завершаныя справы», – пісаў Га

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

– А гэта быццам Ян Груздзіцкі. Дзіда прабіла яму руку.

– Ой, і як толькі вытрываў, небарака... А тут конь паранены. Рыцар зваліўся, шлем пакаціўся. Вось дык вясельны турнір!

Рыцарскі вясельны турнір, перад пачаткам якога папяровыя ўдзельнікі адпусцілі адзін аднаму ўсе верагодныя грахі, – на выпадак, калі хто каго зачэпіць, пакалечыць, а мо і зусім заб'е, – завяршыўся. Не без ахвяраў, канечне. Конь пад панам Мілкоўскім цяжка паранены, пан Добка свайго каня ўвогуле страціў, а пана Казімерскага так моцна торкнула кардонная дзіда ворага, што дзяўчынкам зрабілася страшна: быццам яны апынуліся на плошчы Кракава і перад імі не аксамітная паверхня канапы-жабы[4], а ўтрамбаванае рысталішча, з якога ўсе жабы, калі яны там былі, паразбягаліся ў пошуках схованак.

– Клямуня, а праўда, нявеста прыгожая? Сукенка ў яе такая...

Сукенка Грызельды з Баторыяў, ужо некалькі гадзін Замойскай, ад вузенькай таліі пераходзіць у пышны купал спадніцы, падол якой аздоблены карункавымі проразямі. Пышныя буфы змяняюцца тонкімі рукавамі, а над шырокім гафраваным каўнерыкам узвышаецца акуратненькая галоўка. Пані Замойская хоць і папяровая, але такая ўся дасканалая, што не адвесці вачэй. Яе выразалі нажнічкі пана Філіповіча, адзінокага мастака, якога *maman* знайшла недзе ў Гродне і запрасіла выкладаць з пражываннем. Чалавек адзінокі і немалады, пан Філіповіч пераязджае з Паўлоўскімі на зіму ў Гродна, дзе яны здымаюць дом на Брыгіцкай, а на лета вяртаецца ў родную для іх Мількаўшчыну і акрамя ўрокаў жывапісу, якія дае Клямуні, мае клопат, які каштуе яму цярплівасці анёла, – бясконца выразаць папяровых герояў і антураж да іх дзеяў. Людзі і дрэвы, камяніцы і замкі, коні, карэты, рыцары, зброя... Ужо апрабавана ў папяровым баі армія Хадкевіча, ужо памянялі дыслакацыю – перанесліся з салона ў пакой – казакі Хмяль-ніцкага, ужо двор Вішнявецкага лёг адпачыць пад канапай, і вось цяпер з належным размахам адзначаецца вяселле каралеўскай пляменніцы. Папяровыя кароль з каралевай уважліва назіраюць за дзеямі, седзячы на балконе камяніцы Шпіглера[5], якой дзяўчынкам служыць вялікая скрыня

з рукапісамі бацькі. Ролю балкона выконвае фаліянт старога знаёмага Мірабо. Вельмі старога, старэйшага за іх на стагоддзе. Але яны чыталі яго «Memories des Contemporaries», таму ён ім не чужы. Яны няшмат зразумелі ў гэтых яго «Успамінах сучаснікаў», але некаторыя месцы нават дэкламавалі — так ім падабалася мудрагелістасць выразаў, якія хацелася прамаўляць патэтычна. Некалькі дзён таму Зюня і Клемянцінка дачыталі купленую *maman* кнігу «Граф Монтэ-Крыста». Гісторыя пра Эдмона Дантэса іх не вельмі ўразіла. Не дзіўна: у тым замку Іф, дзе воляй варожай задумы апынуўся кніжны герой, месье Мірабо знаходзіўся ў сапраўдным, а не прыдуманым затачэнні.

*Maman*... Зюня ажно нямее ад захаплення, калі пані Францішка, седзячы перад люстэркам, расчэсвае доўгія чорныя валасы. Плаўныя павольныя рухі тонкіх прыгожых рук заварожваюць, ад маленькай галоўкі на тонкай шыі нельга адвесці пагляд. Беласкуры, з тонкімі рысамі тварык, пяшчотны позірк выразных вачэй з-пад маляўніча выгнутых броваў, акуратны прамы нос, яркія пухлыя вусны над кругленькім падбародкам... З такім жа захапленнем Зюня глядзіць на бабку Альжбету, калі тая бярэ ў рукі кошык з вязаннем і, схіліўшы над карункамі зморшчаны твар, пачынае распавядаць пра старыя часы. Унучкі любяць паслухаць бабулю, седзячы перад ёй на падлозе. А нядаўна панна Міхаліна, якая вучыць іх усяму патроху, ад польскай і французскай граматык да музыкі і матэматыкі, паведаміла, што *maman* неўзабаве будзе вянчацца. Знаёмцеся: будучы Зюнін айчым пан Відацкі, прыгожы і вельмі разумны мужчына з вялікімі добрымі вачыма і пышнымі вусамі, якія ён часта прыгладжвае не іначай як з мэтай быць трошкі больш важным. Мае такую патрэбу, бо маладзейшы за пані Францішку на сем гадоў.

Бацьку Зюня зусім не памятае. Вядомы гродзенскі юрыст, старшыня павятовага суда Бенедыкт Паўлоўскі памёр шэсць гадоў таму, праз два з паловай гады пасля яе нараджэння. Але і памятае таксама – той неўміручай напаўлегендарнай памяццю, якую стварыла па ім атмасфера мількаўшчынскага дома: не праходзіць і дня, каб нехта пра яго тут не згадваў, такі гэта быў чалавек – светлы душой і з вялікім пачуццём абавязку. Зюня часта разглядае яго твар на партрэце, напісаным дзядзькам Янам. Бацькаў малодшы брат, нездаровы псіхічна, але адораны талентам жывапісца, таксама пайшоў з жыцця досыць рана і таксама паспеў пакінуць па сабе каштоўную памяць – партрэты Бенедыкта і яго жонкі Францішкі. Сур'ёзны мужчына ў гадах, пан Бенедыкт на партрэце трымае ў руцэ разгорнуты ліст, але не чытае яго, а пазірае задумліва некуды ўдалячынь. Пані Францішка, дачка паручніка лейбгвардзейскага Кексгольмскага палка мушкецёраў, героя вайны 1812 года, маладзенькая маці дваіх дзяцей, на партрэце выяўлена з малодшай, Зюняй. Старэйшая, Клемянцінка, ад нараджэння хварэе, амаль увесь час у ложку, і што ні рабіла пані Францішка, якіх дактароў ні выпісвала – і з Гродна, і з Вільні, і нават з Варшавы, – ніводзін не можа даць рады.

Аднаго разу, калі Клемянцінцы было так кепска, што не магла яна з Зюняй гуляць, малодшая, сумуючы, запісала ў сшытак гісторыю пра служанку Эмільку, якую пасадзілі ў турму ні за што, і як яна там замаркоцілася да смерці. Пачатак гісторыі быў рэальны, спісаны з жыцця: фройляйн Фехнер, бона немка, паклала свой бранзалет у шуфляду з бялізнай, а шукала яго пасля ў куфры і, не знайшоўшы, абвінаваціла ў

крадзяжы служанку. Вось Зюня і выпісала яе ў вобразе пані N. А што? І ў жыцці служанку Паўлоўскіх маглі з-за Фехнеркі пасадзіць у турму, як у апавяданні, і яна магла б там памерці, і тады пахавалі б яе, як Эмільку, і ляцеў бы над зямлёй пахавальны звон.

Так і назвала Зюня свой першы твор – «Пахавальны звон». Не ведаючы, што ўжо вельмі хутка яна пачуе гэты звон па сястры і стане ён першым у яе жыцці вельмі цяжкім выпрабаваннем. Адгукнецца ён невыносным болем і пакіне ў душы першую з тых шматлікіх ран, што разам утвораць невымерную глыбіню, з якой толькі і можа чэрпаць сапраўдны талент.

## За сямнаццаць гадзін да падзей, апісаных у самым пачатку

Сапраўды смелы чалавек можа праяўляць баязлівасць, пакуль на нешта рашаецца, але дзейнічаць яму трэба адважна. Гэта паводле Герадота. У мяне ніколі не бывае паводле Герадота: я прымаю рашэнні адважна і без разваг, а дзейнічаю як прыйдзецца.

Апынуўшыся ў Паўлінаве, я адчула сябе калі не гаспадыняй, дык, прынамсі, вельмі жаданай госцяй. Уяўленне – наша ўсё. Бярэм першы, які трапіць на памяць, харошы раман мяжы перадапошніх стагоддзяў, французскі ці наш, створаны ў Парыжы ці Гродне, – і знаходзім у ім такія апісанні пакояў, якія мне ніколі не паўтарыць.

Найперш я ўявіла сябе ў бальнай зале: заўсёды хацела ўбачыць падлогу ў кругі, прыдуманую спецыяльна, каб нельга было па ёй проста ісці, каб узнікала жаданне кружыцца, кружыцца, кружыцца... Закружвацца ў танцы да кружэння ў галаве. І вось ужо з жырандоляў у сто стэарынавых свечак на падлогу ў сотню паркетных кругоў радасна спадаюць светлавыя снапы, паспяваючы па дарозе згуляць у адбіткі з гіганцкімі люстрамі ў мармуровых кансолях.

Паволі пераходжу з пакоя ў пакой. На фоне адамашкавых сцен колеру *vert-de-gris* (мой любімы хвойна-зялёны з адценнем шэрасці палыну) святочна ўзвышаюцца келіхі бога Шывы – беласнежныя бутоны індыйскага дурману. З акна на вакно, задрапіраванае флярансам і аксамітам, перапаўзае чэпкая пасіфлора, пакідаючы на кожнай парцьеры па некалькі цікаўных зорак-вочак. Над сталамі і столікамі, камодамі і бюро, расстаўленымі ўздоўж абцягнутых шоўкам сцен, над строгай паліцай каміна і фрывольным дубовым сервантам высяцца фігуркі з беласнежнага мармуру, сярод якіх абавязковая Ніка і цалкам верагодны Вальтэр, лямпы на малахітавых пастаментах, падсвечнікі на бронзавых ножках і надтрэснутыя японскія керамічныя вазы – як сімвалы перафарматаваных няўдач: усё, што нас не забівае, ператварае нас у кінцугі[5]. На нейкі момант мне падалося, што недзе ў дальнім пакоі нехта перабірае клавішы фартэпіяна і да мяне далятае такая дабратворная музыка, што хочацца схіліцца ў цырыманіяльным паклоне. Але паколькі не было мне тут перад кім схіляцца (хіба перад уласнай легкадумнасцю, якая, між іншым, часта таго заслугоўвае), я проста пад музыку пакіравала да месца, якое цікавіла мяне больш за ўсё.

Мне патрэбен быў кабінет гаспадара вілы Яна Отана Бохвіца, высокага старога з доўгай снежнай барадой і глыбока пасаджанымі вачыма, пагляд якіх з-пад моцна навіслых броваў скіраваны больш не на тое, што знаходзіцца перад імі, а на тое, што залягае ў глыбінях памяці. А там, ні многа ні мала, удзел у паўстанні і смяротны прысуд, заменены

на зняволенне. Пасля вызвалення пан Бохвіц заняўся быў садаводствам. Збудаваная ім віла Паўлінава, аточаная цудоўным садам, – апошні дом, у якім Эліза Ажэшка гасцявала такой самай летняй парой, якая стаіць цяпер. Яна прыехала сюды ў слаўнай кампаніі выдатных прадстаўнікоў свайго часу і з еўрапейскім шыкам – на аўтамабілі нашчадка легендарнага Тадэвуша Рэйтана[6], гаспадара блізкай Грушаўкі. Мяне ж, самотную і нават без думак у галаве, прывёз у Паўлінава з некалі правінцыйнага Мінска суровы маўклівы таксіст. Хто ведае, якія сілы рухаюць авантурыстамі? Я ні хвіліны не сумнявалася, што кабінет старога Бохвіца дасць мне тое, для чаго я тут апынулася. І што акурат для гэтага я і апынулася тут.

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

– А во яшчэ выпадак. Ехаў аднаго разу мужык. Ды надта ў яго нос быў вялікі. А проці яго ехаў тады Радзівіла, а хоць дарога была шырокая, але Радзівіла хацеў з мужыка пасмяяцца, дык і кажа яму: «Гэй, з доўгім носам набок!» Тады мужык пальцам адхіліў нос набок і кажа: «Проша пана ехаць!» Радзівіла паглядзеў, што мужык не дурань, даў яму жменю грошай дый сам з дарогі змыліў.

Знаёмцеся: Франак, падлетак з вёскі, дапамагае садоўніку ў сядзібе Паўлоўскіх, а ў вольны час дае парады юнай агародніцы, у якую Зюня ператварылася па рэкамендацыі дактароў, калі, застаўшыся без сястры, атрымала моцнае нервовае ўзрушэнне. Франак можа і павучаць, і крытыкаваць, калі трэба. Пані Францішцы не падабаецца сяброўства дачкі з дзецьмі простага люду, але Зюні цяпер больш няма з кім гуляць... Не тое. Зюню прываблiваюць такія стасункі, яна цягнецца да простых людзей так, быццам яны яе прыварожваюць. А з Франакам ёй вельмі цікава. Сядзе ён, бывае, на лавачку, паставіць ногі шырока, як мужычок, выгне спіну паўабараначкам, упрэцца локцямі ў калені, пачухае патылічку, паправіць чубчык, пасля разагнецца павольна і важна, падаўшы грудзі наперад, правядзе вялікімі пальцамі пад паяском, якім падперазана кашулька, абцягне яе ўніз і, бліснуўшы вачыма, пачне расцягваць кожнае слова, нібы спяваць:

– Аднае нядзелі сама людзі ішлі да касцёла, ажно бачаць – стаіць ля дарогі чалавек такі чорны, зашмэрганы. А гэта быў скарб, перакінены ў чалавека. Усе людзі з яго анно смяяліся і далей ішлі. А адна дзеўка, на самум задзі ішоўшы, падышла да яго і кажа: «Чаму ж ты, чалавечку, носа не ўватрэш? То ж з цябе ўсе смяюцца! Пажджы, я ўватру» – і як даткнулася, так той і рассыпаўся каля ног. З цэлага чалавека зрабілася гурба золата! Дык дзеўка не ішла ўжэ да касцёла, бо золата да хаты валачыла.

Бывае, што ў сярэдзіне аповеду Франак, як сапраўдны артыст, робіць паўзу. Спачатку маўчыць, зазірае ў цікаўныя Зюніны вочкі і радуецца, а потым важна падымаецца з лаўкі, правярае яе надзейнасць, стукаючы нагою ў апорныя слупчыкі, пазірае то на неба, то на зямлю, абавязкова нешта гаворыць пра заўтрашняе надвор'е і адразу ж тлумачыць, адкуль ён пра гэта ведае.

– Ці бачыць паненачка, як чарвячкі выгінаюцца? Гэта на дождж. І браткі галоўкі павесілі – таксама дождж адчуваюць. І вераб'і сёння ў пыле купаліся.

У іншы дзень кажа іншае:

– Жаўручына завісла высока-высока, ледзь песня чуваць. Будзе скварна. І галубы буркуюць, падтакваюць.

Зразумеўшы, што паненачцы абы слухаць, працягвае баяць:

– А вось пра ката. Як хлопец адзін праз яго ўзбагацеў. Адзін чалавек паміраў і, паміраючы, мовіў да сына: «Помні, каб, калі паедзеш першы раз па маёй смерці да места, то што ўперад угледзіш, тое і купі». Ну, і паехаў ён да места, аж бачыць – баба нясе ката тапіць. Ён ёй: «Стой, не тапі!» – і купіў яго за дзясятку. А той кот чыста як сабака – усюдачкі за ім бегаў. Пайшоў ён у свет, ідзе так, ідзе, ажно прыйшоў у такое месца, дзе катоў не зналі.

Тут Франак зноў робіць паўзу – бо так гэту казку Тадэвуш з Шыдловіц распавядаў, а ён яго слухаў на кірмашы, што ў Зэльве, дзе гаспадарам новых коней куплялі, – і потым зноўку працягвае:

– Заходзіць ён да аднае хаты, ажно там сядаліся есці, дый розгі каля сябе кладуць. Думае ён: «Нашто гэта?» Ажно як высыплюць пацукі ды мышы: яны іх б'юць, а яны лезуць – проста не адагнаць! Дык ён пытае ў гаспадара: «Чаму гэта?» – «Ат, намножылася гэтай брыдоты!» – «А я маю такога, – кажа, – звера, што гэту брыдоту выдушыць». І як пусціць таго ката, той як пачне пацукі душыць! А гаспадар яму гэта... гаршчок золата ў лапу. За ката таго, каб аддаў. Ну, і жыў ён ужэ вельмі шчасліва без ката.

Франак для Зюні такі ж настаўнік, як і фройляйн Фехнер, і пан Філіповіч, і панна Міхаліна, і выпісаная з Вільні капрызная панна Аўгустыноўская. З той толькі розніцай, што Франак не надакучвае з французскімі канчаткамі і нямецкімі артыклямі ды не патрабуе ад *maman* усё болей грошай, а бясплатна выкладае беларускую гаворку і мясцовы фальклор. Зрэшты, у дарослым жыцці вучаніца шчодра разлічыцца з гэтым сваім настаўнікам шматлікімі добрымі справамі, якія здзяйсняцьме для яго ад усёй сваёй вялікай душы. Сімпатыя да простага люду знойдзе адлюстраванне ў многіх яе творах – і ў маленькіх апавяданнях, і ў вялікіх раманах.

## Назад у будучыню

Неяк узялася лічыць, колькі разоў спатрэбілася б сказаць «пра», калі б Эліза Ажэшка была маёй бабкай. Высветліла, што тройчы. Так многа і так мала яе ад мяне аддзяляе. Але да яе часу я прызвычаілася і адчуваю сябе ў ім камфортней, чым у сваім. Кожны раз, калі сядаю пісаць яе біяграфію, я перамяшчаюся на паўтара стагоддзі назад, у думках пераапранаюся ў яе строй – сукенку сіняга або шэрага, а найчасцей любімага ёю бэзавага колеру, аздобленую стужкамі і карункамі, з фальбонамі, элегантным каўнерыкам, кветачкай або бантам... Яна была фарсуха яшчэ тая, і ў свае 68 гадоў пісала ў лісце да Тадэвуша Бохвіца (сына таго старога, у чый колішні дом я трапіла цяпер без дазволу) какетліва: «Калі б пан толькі бачыў, якая на мне ладная новая сукенка! Тканіна ад Герсэ[7]! Тут затрымалася і падумала, ці не замазаць апошнія словы атрамантам, каб нельга было прачытаць, але няхай застаюцца – і сведчаць: пра жаночую легкадумнасць, няскоранасць перад ракой часу, смутак *etc*. Жанчына, пух марны!» У думках апрануўшы яе сукенку, я падыходжу да яе стала, сядаю ў яе крэсла (з якога папярэдне лёгкім рухам зганяю ката, бо з тым пракудам яна так заўсёды рабіла) – і з гэтага імгнення ніколі не бываю ўпэўненай,

што пішу сама, а што выводзіцца мною, але з-пад яе пяра, заточанага так, як мне сваё не затачыць. Але я спрабую, стараюся.

Праз кабінет, які ў гэтым залітым цемраю доме існуе цяпер хіба толькі намаганнем майго ўяўлення (яму, зрэшты, пазайздросціў бы нават і Арыстоцель, які браўся навукова тлумачыць такі ўласцівы фізічнаму зроку феномен як бачанне пры адсутнасці крыніцы святла[8]), я намерылася трапіць у іншы кабінет. Істотна яны не адрозніваюцца: і ў тым, і ў другім ёсць пісьмовы стол, абсталяваны ўсім, што ў XIX стагоддзі патрабуецца для напісання ліста. Па правую руку ўзвышаецца акуратненькі стос паперы, закрываючы сабой ножку лямпы з папяровым экранам, па левую складзены канверты і паштовыя карткі, побач стаяць, паблісківаючы срэбрам, чарнільніца і пясочніца, ляжаць у футляры пёры, сургучовыя палачкі, бронзавая пячатка... Мне, канечне, бачыцца яшчэ і вялізны кубак гарачай салодкай гарбаты з талеркай сочнікаў, але гэта дамалёўвае голад. Розніца паміж двума кабінетамі толькі ў тым, што першага няма ў існуючым доме, а другога – у доме, якога таксама няма. Але паколькі і першы, і другі ў мінулым былі рэальнымі памяшканнямі, я не бачу перашкоды для тэлепартацыі, калі за яе прыняць перамяшчэнне адначасова ў прасторы і часе – з аднаго імгнення ў адным месцы ў іншае імгненне ў іншым месцы. Не, я зусім не намерваюся распадацца на атамы тут і нанова збірацца з іх там. Я заўважыла (некаторыя прыкметы далі зразумець), што не ўсе законы фізікі тут, у Паўлінаве, дзейнічаюць як ім належыць. Напрыклад, час. Калі я ў Мінску выклікала таксі, была палова на трэцюю. Межы горада я пакідала не раней, чым а трэцяй, ехаць да Паўлінава прыкладна дзве гадзіны, значыць, прыехаць я павінна была а пятай. Чэрвеньскім ранкам а пятай неба ўжо асветлена сонцам. Я ж уваходзіла ў дом пад наглядам месяца. Час нібы спыніўся. Ён насамрэч спыніўся. Гэта сведчыла пра верагоднасць неверагоднага. Калі законы не дзейнічаюць, імі можна распараджацца на сваё бачанне. Я не маю ніякіх сумненняў у тым, што ўдасца мне правярнуць тут якую заўгодна штуку. У галаве ўжо ўсплываюць думкі пра квантавую тэлепартацыю, імгненнае перамяшчэнне на якую заўгодна адлегласць як, словамі вучоных гаворачы, эксперыментальна рэальную і матэматычна даказаную з’яву. Хіба можна адмовіцца ад санкцыянаванага цуда ў сітуацыі, калі табе без яго ніяк?

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

— Памятаеш, мы пра Касцюшку чыталі, як ён сто дзён пасціўся і ў касцёле маліўся? Як у боты зямлі набраў, калі пакідаў айчыну, і на той зямлі прысягаў у Расіі смела? Як зняволілі яго ў Петрапаўлаўскай крэпасці? Ён быў гатовы пакутаваць. Ён быў цярплівы. А я?..

Зюня стаіць на каленях і са слязьмі на твары і ў горле звяртаецца да памерлай сястры. Так кожны дзень. Аднойчы, кінуўшы выпадковы пагляд на вялікае люстэрка, яна ўбачыла ў ім Клямуню, якая стаяла за спінай у той самай белай сукенцы, у якой была пахавана, толькі пажоўклай. Давялося зноў выклікаць у дом доктара. Той чарговы раз рэкамендаваў паболей гуляць. З кім гуляць?

Вясна, кажуць, лечыць усялякія раны, калі да яе прыглядацца, прыслухвацца і напітвацца яе колерамі і гукамі. Але першая пасля смерці Клемянцінкі вясна толькі развярэдзіла боль раны, нанесенай у лютым. Зюня

не можа чуць ні гукі катрынкі, што далятаюць з вёскі, ні спевы аргана ў касцёле ў Каменцы, куды яны з бабкаю ходзяць, каб маліцца за жывых і памерлых, ні шум ветру ў дрэвах, ні нават спеў птушак у садзе. Нішто не можа ўзрадаваць і ўсцешыць — ні яркае вясёлае сонца, ні дзеткі яго дзьмухаўцы, што гарэзным дэсантам сыплюцца на зямлю, каб потым ператварыцца ў воблачкі і сысці зноў на неба.

У маі расцвіў, паўсюдна кустамі раскіданы, ружовакветкавы глог. Расцвіў такі куст і каля магілкі сястры. Зюня, якая часта прыходзіць сюды з бабкай Альжбетай, узяла ў галаву, што куст гэты – сама Клемянцінка. Галінкі – рукі, лісцікі – валасы, кветкі – вочы. Зюня папрасіла дазволу сарваць з куста колькі галінак, прынесці дадому і прычапіць у пакоі дзенебудзь над ложкам. Кожны вечар, кладучыся спаць, яна зазірала ў вочыкветкі і прамаўляла «дабранач», а ранкам віталася, быццам не з кветкамі, а з Клямуняй. Неўзабаве галінкі пачалі засыхаць і аднойчы канчаткова засохлі. Тады Зюня ўзяла лапатку, з якой працавала ў агародзе, выкапала ў парку ля сажалкі ямку і зладзіла глогу ўрачыстае пахаванне.

Прычыны самых неверагодных праяў часта з'яўляюцца вынікамі самых звычайных здарэнняў, а паміж якім заўгодна рэчывам і якой заўгодна істотай ці з'явай існуе такая безліч прамых і зваротных сувязяў, непасрэдных і ўскосных, што на іх спасціжэнне не хопіць і вечнасці. Не бывае, напрыклад, каб колер кляновага лісця падчас навальніцы не залежаў ад гучнасці ветру ў кроне, каб на пах кветак акацыі не ўплывала статыстыка міграцыі чарапах, каб шлях смаўжа сямейства геліцыдаў па драўляным плоце ніяк не карэліраваў з транзітам Меркурыя па дыску Сонца, а ў карункавай белі марознага шкла не прачытвалася формула Герона.

Так і з колькасцю вадзяных кропель, якія ўпадуць на капялюш паважанага пана за пэўны прамежак часу, праведзены ім пад дажджом: яна цалкам адпавядае мэце, з якой гэты пан выехаў з дому ў непагадзь. А выехаў ён у Мількаўшчыну з суседніх Алешавіч у дажджлівы дзень пачатку лета 1851 года толькі дзеля таго, каб паведаміць паважаным суседзям сваю нядаўнюю думку. Знаёмцеся: пан Незабытоўскі, не толькі сусед, але і крыху сваяк – муж сваячкі з боку бабкі Альжбеты. Калі Бенедыкт Паўлоўскі памёр, Канстанцін Незабытоўскі стаў апекуном яго дочак. Цяпер воляй лёсу і неба, якое не ўсачыла за тым, каб быў гэты лёс меней горкім, у маладога чалавека засталася адна падапечная. І вельмі яго непакоіць яе здароўе. Дробненькая, хоць ёй ужо дзесяць гадоў, лёгенькая, як матылёк. Ружовенькі матылёк з маленькай чорнай галоўкай, белым, як папера, тварыкам, на якім выступаюць, быццам намаляваныя, тоненькія блакітныя жылкі, з вачыма, якія маюць дзіўную здольнасць мяняцца: то карыя, то зялёныя... Ружовенькі матылёк у чорненькіх туфліках на тоненькіх ножках, ледзь толькі госць падхапіў яго на рукі і падкінуў пад столь, адразу ж і спусціўся на падлогу – не меў жадання гарэзаваць. І гэтыя рознакаляровыя вочы падаліся апекуну яшчэ болей сумнымі, чым падчас яго мінулага візіту ў Мількаўшчыну. Зюня зноў плакала па сястры.

– Дзяўчынка выхоўваецца ў самотнасці, якая перавышае меру, – без таварыства іншых дзяцей, – сказаў пан Незабытоўскі дарослым сямейнікам.

– Для паненак высакароднага паходжання, – працягнуў ён, ужо седзячы за сталом пры талерцы наварыстага булёну, – няма на свеце лепшага выхавання, чым, – тут ён вымушаны быў зрабіць паўзу, каб пракаўт-

нуць, – чым, – тут ён прамакнуў вусны беласнежнай сурвэткай, – чым, – кашлянуў (сырое надвор'е, не дзіўна), – кляшторнае.

– Што?! – пані Францішка ўважліва паглядзела на госця.

– Пан Незабытоўскі мае жонку, выхаваную для яго ў пансіёне пры кляштары, і гэта дае яму права лічыць, што кляшторнае выхаванне – найлепшае, – перакладае жонцы пан Відацкі.

– Пан Незабытоўскі проста вельмі шчаслівы ў шлюбе, – пагаджаецца пані Відацкая.

– Сесілія выхоўвалася пры кляштары сясцёр візітак у Вільні, – далучаецца да размовы бабка Альжбета.

– Цудоўнае месца, – пацвярджае пан апякун. – І недалёка: двое сутак – і там.

– Двое сутак... – паўтарыла, нібы сама сабе, пані Францішка. – Пакуль Ясь маленькі і хворы, будзе не вельмі зручна ездзіць у Вільню часта.

Менш чым за год да смерці сястры ў Зюні нарадзіўся брат. Пані Францішка, пахаваўшы дачку, якая доўга і пакутліва хварэла, трасецца цяпер над сынам: Ясь, як і Клемянцінка, ад нараджэння вельмі слабы.

– Вось што я вам, шаноўны сваяк, скажу на вашу цудоўную думку: Эліза паедзе вучыцца ў пансіён пры кляштары, але не ў Вільню.

– Не ў Вільню? – перапыталі адразу некалькі галасоў.

– Варшава нашмат больш прывабная.

– Але да Варшавы, душа мая, ехаць на суткі даўжэй, – заўважыў Зюнін айчым.

– Але ў Варшаве, душа мая, у нас радня, а ў Вільні няма нікога, – адказала *maman*.

У дзеда Элізы Вінцэнта Каменскага, які памёр у год нараджэння Клемянціны, ёсць брат Ян, варшаўскі адвакат. Яго жонка Зоф'я на пяць гадоў заменіць Элізе яе любімую бабку, а іх унучка Яана, выхаванка таго самага пансіёна, стане сяброўкай на ўсё жыццё. Час вучобы прамчыць імгненна. Варшаўскі пансіён пры кляштары сясцёр сакраментак, чыя мэта – выхаванне добрых жонак і маці, выпусціць за межы сваіх намоленых сцен у адзін год адразу дзве будучыя літаратурныя зоркі: маладзейшая за Элізу на год Марыя Васілоўская стане пісьменніцай Марыяй Канапніцкай. Сама ж Эліза менавіта адсюль, з гэтых сцен вынесе ў трапяткім юным сэрцы вобраз свайго будучага мужа – каб праславіць яго прозвішча на ўвесь еўрапейскі свет.

А Ясік Відацкі пражыве толькі шэсць гадоў. Апрануты ў касцюмчык кракавяніна, ён паспее сустрэць сваю сястрычку Эльзюню ў парлуары[9] кляштара, адкуль яны ўтрох, разам з мамай, паедуць па варшаўскіх модных дамах і потым шчаслівыя вернуцца ў Гродна. Будзе пачатак лета 1856 года. Пятнаццаты раз у жыцці Эльзюні рассыплюцца па зямлі маленькія сонейкі-дзьмухаўцы.

## Герой не яе рамана

Калі снежаньскім ранкам 1857 года *maman* у прысутнасці айчыма і бабкі паведаміла, што паважаны пан Гліндзіч, даўні прыяцель, былы старшыня грамадзянскай палаты і проста сівы дабрак, збіраецца прасіць руку Элізы для Пятра Ажэшкі, брата сваёй жонкі, і спытала ў дачкі, ці хоча яна выйсці замуж за гэтага чалавека, хоць ён старэйшы ў два разы і толькі два разы

яна яго бачыла ў сваім доме, Эліза сказала: «Так». А калі б у яе спыталі «чаму так?» – не знайшлася б што адказаць. Шаснаццацігадовае дзяўчо, не развітае ні целам, ні духам, без поўнага ўяўлення пра шлюб, пагадзілася стаць жонкай малазнаёмага чалавека, які «больш чым іншыя спадабаўся знешне». Як Божы дзень ясна, чаму спадабаўся. Усё праз чытанне раманаў, дазволеных і не дазволеных у кляштарах. У гэты вобраз – высокі прыгожы бландзін з густымі, моцна завітымі валасамі, цёмнымі бровамі пад шырокім ілбом, вялікімі блакітнымі вачыма і пышнымі пшанічнымі вусамі – Эліза Паўлоўская закахалася яшчэ ў 14 гадоў як у вобраз героя рамана Юзафа Кажанёўскага, «пісьменніка-педагога, выхавацеля юнага пакалення». Давыхоўваўся, каб на яго...

Ясная рэч, што мама для дачкі хацела шчасця, якое па-старасвецку звязала са шлюбам (пераважна як з фактам, не больш). Пётр Ажэшка даводзіўся раднёй яе мужу, пану Відацкаму, таму разглядаўся як не самая горшая партыя. Прынамсі, такая, што можна адмовіць нават і графу О'Брыену дэ Ласі. Ну, меў ён даўгі, бо любіў шыкаваць і гуляць у карты, але тут Відацкія, святая прастата, разважылі на свой розум: Пётр пазбавіцца фінансавых праблем, бо яго жонка стане адзінай спадчынніцай свайго бацькі, якая пасля вяселля завалодае Мількаўшчынай непадзельна, а гэта пяць тысяч рублёў чысцюткага гадавога даходу, 30 валокаў цудоўнага лесу і ў доме ўсялякага дабра, серабра і карцін аж на дзесяць тысяч. І абое ўціхаміраццa: Элізе за сямейнымі клопатамі будзе не да пісання (бо пісанне з жаночым шчасцем не спалучаецца, ад гэтага трэба ўвагу яе адцягнуць), а Пётр, стаўшы мужам, нарэшце пасталее. Хіба можна іх асуджаць? Ці маглі яны ведаць, што ідэя апынецца так сабе?

Што Эліза? Прапанова замуства прываблівала яе перспектывай стаць па факту дарослай. Што гэта значыла ў яе разуменні? Валодаць карэтай і распараджацца прыслугай. Ёй хацелася пасяліцца ў новым краі, завесці новых знаёмых, якіх Пётр, цудоўны танцор і ўважлівы кавалер, абяцаў ёй безліч, і ездзіць па ваколіцах на забавы, дапамагаць адно аднаму ўпрыгожваць і развясельваць дом і жыццё. Што з усяго гэтага выйшла? Праз два гады пустых забаў і прыяцельскіх, «без сантыментаў, але без нязгоды», стасункаў з мужам Эліза раптам нібы расплюшчвае вочы, збягае ад яго ў Варшаву, потым вяртаецца, а потым акурат наспявае паўстанне. Выхаваная на бабчыных успамінах пра былыя часы, на мамчыным нацыянальным гонары, які пані Францішка не прапускала выпадку прадэманстраваць, на патрыятычных гульнях і чытанні шчымлівых паэм пра святую тугу па айчыне, страчанай не фізічна, але фактычна (от і ў мяне на мабілцы рынгтон «Развітанне з Радзімай», але з сабою мабілкі няма), пасябраваўшы з малодшым братам Пятра і паспеўшы арганізаваць з ім школку для дзетак сялян, Эліза не магла не апынуцца ў цэнтры падзей – і апынулася. Яна стала сведкай гістарычнай нарады, на якой Рамуальд Траўгут[10] прыняў прапанову ўзначаліць войска паўстанцаў, і паверыла ў незвычайнасць гэтага чалавека. У паўстанні яна выконвала ўсе ролі, якія магла выконваць жанчына: шыла кашулі і канфедэраткі, рыхтавала перавязачны матэрыял, пякла хлеб, рабіла сыр, была сувязной і хавала ў сябе паўстанцаў, у тым ліку і Траўгута. І калі ў Вікіпедыі пішуць, што «ўжо 1 ліпеня 1863 года яго злучэнне было разгромлена, а сам Траўгут цудам здолеў збегчы ў Варшаву», дык трэба ведаць, што гэты цуд быў забяспечаны Элізай Ажэшка. Гэта яна прыкінулася сваячкай, якая вязе

хворага кузэна да лекара, і ніводным мускулам не ўздрыгнула пры затрыманні карэты для праверкі. Дзякуючы сваёй жалезнай волі, яна даставіла свайго куміра да мяжы былога польскага каралеўства. Словамі сённяшніх знаўцаў кажучы, яна захавала імя Траўгута для нашай гісторыі, бо, здаецца, адзіным дакументам, які свечыць пра факт той гістарычнай нарады і, так бы мовіць, яе пратаколам стала навела Ажэшкі «Яны» – адна з цэлай серыі прысвечаных паўстанню навел, запланаваных папярэдне як цыкл «Пасля буры», але напісаных пасля буры ўжо 1905 года як цыкл з іншай назвай – «Gloria victis».

Па разгроме паўстання арыштоўваюць не яе, а мужа – за «политическую неблагонадежность», якая выявілася ў сведчаннях супраць яго, прадстаўленых яго ж фурманам і іншымі служкамі: маўляў, даваў паўстанцам падводу і дазваляў хавацца ў доме. А не таму, што, як некаторыя думаюць, жанчына была ніхто, адказваў за яе муж, за яе і нёс пакаранне. Іншых жонак доля ссыльных не абышла, астатнія самі выправіліся ў Сібір за мужамі.

Эліза таксама збіралася ехаць. Наўрад ці крывіла душой у лісце, дзе пра гэты намер пісала, бо ліст адрасаваўся асобе духоўнага звання. Але не паехала. А калі муж праз два гады нечакана быў амніставаны – распачала з ім развод. Нейкімі неспазнанымі шляхамі засталася на волі, хаця заслугі яе ў паўстанні цягнулі мо і на шыбеніцу, – і на табе: развод з чалавекам, які за такую святую для яе справу быў высланы і відавочна цярпеў пакуты, бо вярнуўся счарнелы і хворы!

Яна пакахала. Па-сапраўднаму пакахала першы раз у жыцці. Доктар Зыгмунд Свянціцкі, які вучыўся з мужавым братам і яшчэ да паўстання прыязджаў разам з ім са сталіцы ў Людвінава на вакацыі, падчас паўстання стажыраваўся ў Берліне, а потым нейкім чынам яе знайшоў. Відаць, яна яму адразу спадабалася, відаць, ведаў ён пра яе лёс, іначай не стаў бы шукаць.

Хто піша мастацкую біяграфію пісьменніка, той вагаецца: што істотны факт, а што не? Але тут істотнасць у іншым: калі ўжо мая гераіня назвала развод з Пятром вялікай этычнай памылкаю, у якой усё жыццё каялася, дык варта паглыбіцца ў акалічнасці, і калі няма ніякага апраўдання такому ўчынку, акрамя кахання (а хто што каханнем сур'ёзна апраўдвае?), дык ці не знойдзецца нешта такое, што апраўдае саму гераіню, хаця б і *post factum*: не ў памылцы, дык у выпраўленні? У мяне ўзніклі некаторыя падазрэнні, якія, калі б пацвердзіліся, дакладна рэабілітавалі б маю гераіню, і не важна, што ў фармаце *post factum*. Але як такое можна пацвердзіць? Тут можна толькі напрамую спытаць: шаноўная пані Эліза, маўляў, так і так, ці пацвердзіце? Вось, уласна, з якой нагоды я тут. Маё пісанне біяграфіі Элізы Ажэшкі завісла адразу на некалькіх эпізодах, нешта мяне падняло і панесла. Чамусьці ў Паўлінава. Хаця я здагадваюся, чаму. Акурат напярэдадні ішла пра яго размова на працы.

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

– А вось гэта варта надрукаваць.

1866 год. Людвік Еніке, варшаўскі публіцыст нямецкага паходжання, жвавы 48-гадовы мужчына з высокім шырокім ілбом і інтэлігентнай маршчынай паміж кусцістымі бровамі, прачытаў абразок пад назвай «Малюнак з галодных гадоў», прысланы нейкай пані Элізай А., і ўбачыў

у ім такую шчырасць перакананняў, такія жывыя і яркія вобразы, што не змог не канстатаваць задаткі незвычайнага таленту, яшчэ не ўпэўненага ў сабе, яшчэ трохі шаблоннага, але, як бы там ні было, шматабяцальнага. Почырк, якім напісаны твор, а з ім і нясмелая просьба ацаніць і надрукаваць, «калі друку варты», нечым нагадвае почырк Матэйкі[11] і сведчыць пра вынослівасць і ўпартасць.

Эліза перапісвала абразок так старанна, і так старанна ёй перашкаджаў шэры кот па мянушцы Мінусь, што калі, вярнуўшыся з прагулкі па ваколіцах, яна, праглядаючы складзеную на пісьмовым стале прэсу, убачыла на газетнай старонцы сваё імя, ён не здолеў пазбегнуць «расправы».

«Пані Элізе А. за цудоўны “Малюнак з галодных гадоў”, поўны шчымлівай паэзіі і прастаты, выказваем сардэчную падзяку. Просім выслаць паштовы адрас для далейшых стасункаў», – прачытала 24-гадовая пані Эліза А. і, як малая дзяўчынка, пачала скакаць вакол бацькавага стала, за якім і быў напісаны твор. Не, спачатку яе нібы абліло варам, потым пабеглі па целе дрыжыкі, пасля яна расплакалася, а на завяршэнне кінулася ганяць па пакоях Мінуся. Уволю яго паганяўшы, схапіла небараку ў абдымкі і пачала цалаваць, і насіла па ўсіх пакоях, нібы дзіця.

Аповед пра пакуты простага люду пададзены быў праз зварот да паноў і паняў, якія са сваіх бліскучых вышынь наўрад ці калі зазіралі ў нізіны, дзе непрыгожа і цёмна, дзе для таго, каб жыць, даводзіцца цяжка, без продыху працаваць.

Ужо праз два тыдні пасля дэбюту, у іншым выданні, будзе надрукаваны яе першы артыкул – пра «Гісторыю цывілізацыі ў Англіі», напісаную Боклем[12]. Падпішацца пад ім як Li...ka. Пані Эліза А. і тут не пажадае раскрыць сваё прозвішча. Але вось парадокс: калі пасыплецца на яе за гэты артыкул крытыка, яна адкажа на яе ўжо адкрыта, як Эліза Ажэшка, і адказ гэты будзе па-свойму смелым: «Што я пачаткоўка ў літаратуры – я гэта не адмаўляю: што праўда, тое не грэх, як гаворыцца ў прыказцы. Толькі ж знаходзяцца тыя, хто і праўду называе грахом – так яна ім недаспадобы. А мне не сорамна, што я пачынаю. Бо на зямлі нічога без пачатку не можа заіснаваць». Вынослівасць і ўпартасць – гэта сапраўды пра яе.

Вось не шанцуе ёй з публіцыстыкай. Што ні напіша – усё або крытыкуецца, або пакідаецца без увагі. Іншая рэч мастацкае. Напачатку крытыкуецца і яно, але праз крытыку штораз праглядвае перакананасць крытыка ў тым, што мае ён справу не з «грызяпёркай». «Звернем найперш увагу на знешнюю форму аповесці Элізы Ажэшкі», – піша на старонках «Літаратурнага агляду» не абы-хто, а сам Генрык Сянкевіч, разважаючы над творам «Пан Граба» і называючы яго «значнай рыбінай», што трапіла ў яго літаратурна-крытычны невад. Ад дэбюту пані Элізы А. прабегла ўжо шэсць гадоў.

«Аўтарка валодае стылем і ўмее выказвацца вобразна, – чытае пра сябе пані Эліза, седзячы цяпер не за пісьмовым сталом мількаўшчынскага кабінета, а за сваім новым сталом у сваім кабінеце ў доме, які ўжо трэці год здымае ў Гродне. Мількаўшчыну яна прадала. Развод з Пятром каштаваў ёй столькі ж, колькі ён некалі аддаў на вяселле. Весці гаспадарку належным чынам яна не здолела. «Помещица Елизавета Венедиктовна Орешкова» ледзь трывала пад цяжарам кантрыбуцыі, якую пасля падаўлення паўстання землеўласнікі Паўночна-Заходняга краю павінны былі выплочваць дзяржаве. У рэшце рэшт, як ні балюча было расставацца з родным домам, купленым і абстаўленым

некалі яшчэ бацькам, а давялося гэта зрабіць. І мама настойвала, і адвакат Нагорскі рэкамендаваў.

Станіслаў Нагорскі... З ім пані Элізу звялі цяжкасці юрыдычнага кшталту. Як выявілася, назаўсёды. Гродзенскі адвакат, старэйшы за сваю мількаўшчынскую кліентку на паўтара дзясяткі гадоў, закахаўся ў няшчасную бездапаможную пані з чуйным сэрцам і такім уважлівым паглядам рознакаляровых вачэй з-пад прыўзнятых, нібы ў вечным здзіўленні, броваў, і хоць сам жанаты (памылка юначых гадоў, шлюб даўно ператварыўся ў фармальнасць, жонка псіхічна хворая), стаў спадарожнікам яе лёсу і ў доме яе лічыцца гаспадаром. А ёй і патрэбен такі – не каханак, а абаронца.

З доктарам Свянціцкім у пані Элізы не склалася... Чаму?.. Шчасце патрабуе адвагі. А калі яно замаячыць перад такой няўпэўненай асобай, як яна, якой прывычней лічыць, што ўсё лепшае адбываецца з некім, а з ёю адбыцца не можа, яна зробіць усё, каб не парушыць сюжэт, які даўно ў яе падсвядомасці рэалізаваны. Эліза адмовілася ад вялікага кахання і ціхага ўтульнага сямейнага шчасця – мары свайго жыцця – з-за страху, што ўсё гэта можа страціць. Страх прымусіў яе сказаць каханаму чалавеку: «Хто не хоча ахвяраваць усім дзеля таго, каб быць са мной тут, з тым я не магу быць нідзе». А яму на той час, калі б ён застаўся ў сталіцы, свяціла кар’ера прафесара... З той пары яна рассыпае па старонках лістоў і твораў лацінскія выразы і насяляе аповесці і раманы высакароднымі лекарамі. За акном яе кабінета стаіць ужо 1872 год, а ўсё, што паспела стварыць, прасякнута адной тэмай: героі робяць памылкі ў каханні, разводзяцца або вельмі балюча стрэчваюць адно аднаго і адчайна пакутуюць – то ад грамадскага асуджэння, то ад тугі па тых, каго не могуць вярнуць. «Апошняе каханне», «У правінцыі», «У клетцы», «Цнатлівыя»... Цяпер вось «Пан Граба». Але калі ўжо Сянкевіч узяўся пісаць на апошні твор водгук і хваліць яго за вобразнасць, дадаючы, што яе майстэрства даказана ўжо многімі папярэднімі творамі («у якіх вобразнасці было мо і болей, чым іншага»)... Сянкевіч месцамі іранізуе, але па-добраму. І праз іронію бачна, што ён на самой справе хоча сказаць і ў рэшце рэшт у тым жа артыкуле скажа: літаратура мае большыя абавязкі, чым ускружваць галовы школьніцам, большыя, чым аплакваць няшчасце дурняў, хоць бы яны красамоўнейшым чынам пыталіся ў месяца, зорак і хваляў марскіх, чаму такія няшчасныя; літаратура мае абавязкі грамадзянскія, якіх павінна выканаць дастаткова, калі хоча яна існаваць, бо не можа яна быць самой сабе мэтай, яе мэта – грамадства, яго дабрабыт. Эліза Ажэшка зразумела гэта і ці не першай з жанчын-пісьменніц перастала пісаць ні пра што.

Адну з фармулёвак маніфесту сваёй творчасці яна змясціла ў аповесці «У правінцыі»: «Твае пакуты датычацца толькі цябе, а твая праца, думкі, дзейнасць – належаць грамадству. Грэбуючы імі па нейкай асабістай прычыне, ухіліўшыся ці расслабіўшыся хаця б на імгненне, ты ператвараешся ў злодзея, таму што адбіраеш у грамадства плады сваёй духоўнай моцы, якія належаць не табе, а яму». Ёй было важна напісаць гэтыя словы і ўкласці іх у вусны героя, які суцяшае таго, хто пакутуе ад няспраўджанага кахання: гэтыя словы – яе эліксір ад той незагойнай раны, якой стаўся разрыў з каханым Зыгмусем...

«А звернем увагу прыхільнікаў формы на адну асаблівасць, якая стварае характэрную рысу таленту пані Ажэшкавай, – чытае далей пісьменніца ў артыкуле пра сябе. – Аўтарка на манер мастакоў галандскай школы вы-

малёўвае аксесуары, асабліва тыя, з якімі звязаны камфорт. Гэта патрабуе вялікага густу, – у гэтым месцы яна сціпла ўсміхаецца. – Ніхто так не мэблюе пакоі, ніхто з такім стараннем не апранае і не прычэсвае сваіх гераінь, як пані Ажэшкава, – яна працягвае ўсміхацца: што ёсць, таго не адняць, яна гэта любіць. – Міжволі кожны падумае: пані як пані, але якое крэсла! а якія фіранкі! а карціны! а скульптуры! а бронза! – пакеплівае Сянкевіч. – А гэта прыкмета добрага сэрца – не шкадаваць выгод для герояў і гераінь, і супраць эстэтыкі твора ніякі не грэх». Далей аўтарам артыкула выказваецца меркаванне, што ў маленькіх навелках такая звышапісальнасць парушае прапорцыі і можа давесці да смешнага, але ў большых творах, асабліва ў гісторыях з жыцця вялікага свету, такіх, як «Пан Граба», – спрыяе мастацкасці. «Што да грамадскай значнасці, – тут Сянкевіч робіцца сур'ёзным, – трэба аддаць належнае ідэі аўтаркі: грамадская вартасць кнігі перавышае мастацкую. Пані Ажэшкава робіць мудра, калі бічуе ляноту, хамаватасць, бяздзейнасць і мужчынскія залежнасці, а таксама жаночыя бязвольнасць, абмежаванасць і марнасць, што пануюць у вышэйшым свеце. Пры гэтым перападае ад яе тым заганам, якія звычайна квітнеюць на фоне названых рыс: дастаецца і пляткарству, і нікчэмнасці грамадскага меркавання, і набожнасці, і многаму іншаму».

З усмешкай, якая нібы прыклеілася да вуснаў, пані Эліза згадвае, як даваўся ёй вобраз Калікста Грабы – хіжага павука, што прыманьвае ў свае сеткі, быццам мух, уладальнікаў тоўстых гаманцоў, каб ашукваць, гуляючы ў карты. Цікава ёй прачытаць у Сянкевіча, што твор не мае мэтай выпраўленне такіх Грабаў – «гэтых ужо не паправіць», што аўтарка клапоціцца пра іншых, чые заганы, высмеяўшы, выкараніць яшчэ можна. Клапоціцца, сапраўды. Амаль ад самага пачатку творчасці яна паставіла сабе мэту змагацца з паразітызмам, філасофіяй марнатраўства і спажывальніцтва, якія ў грамадстве літаральна буяюць, захапіўшы ўсе ўзросты, мужчын і жанчын, малыя засценкі і вялікія гарады. Вобразы паразітаў выходзяць у яе каларытныя, на іх апісанні накладаецца столькі іроніі, і падсвечана яна такім жалем, і гэты жаль мае такія адценні – ад паблажлівага шкадавання да пагардлівага спачування, – што не можа гэта не атрымаць належнай ацэнкі.

Натхнёная канстатацыяй поспеху, пані Эліза, пакінуўшы ўсіх дамашніх самім сабе (пан Станіслаў, пазяхаючы, перабірае судовыя справы, кампаньёнка Моніка Гашкоўская, як заўсёды, стракоча на швейнай машынцы, кот Мінусь шукае, што б яму такое ўпаляваць пры адсутнасці доступу да пяра гаспадыні), прывычна сядае за стол, бярэ чысты аркуш – і вось ужо пяро з ціхім шоргатам сунецца па паперы, пакідае на ёй радкі.

«Жыццё жанчыны – гэта вечны пажар кахання, – кажуць адны. Жыццё жанчыны – гэта ахвяра, – сцвярджаюць іншыя. Жыццём жанчыны з'яўляецца мацярынства, – крычаць яны. Жыццё жанчыны – дробязь, – жартуюць цынікі. Жанчыны выконваюць усё з таго, што свет ім загадвае, але свет неяк коса на іх пaглядае і кідае папрокі: нешта, маўляў, з вамі не так». Нядоўга думае аўтарка, як назваць новы твор: выводзіць над першым радком сваім упартым матэйкаўскім почыркам першае жаночае імя, якое прыходзіць у галаву: «Марта».

Пытанне побытава-фінансавай залежнасці жанчын ад мужчын, праблема адсутнасці такога выхавання і такой адукацыі, якія давалі б дзяўчынкам магчымасць вырастаць не ў распешчаных, далікатных, бездапаможных прынцэс, а ў годных самастойных асоб з правам мець працоўнае месца

і ўласны даход, былі для Элізы Ажэшкі не ідэяй фікс – яна разглядала гэта як грамадзянскі абавязак. Каб напісаць нарыс «Некалькі слоў пра жанчын» (у які і ўкладзены асноўныя думкі-шуканні ў гэтай шматграннай тэме), яна праштудзіравала з алоўкам працы польскіх, бельгійскіх, французскіх, нямецкіх свяцілаў розных навук – педагогаў, псіхолагаў, сацыёлагаў, фізіёлагаў, эвалюцыяністаў і ўрачоў – усё тое, што здолела выпісаць праз варшаўскае выдавецтва «Gebethner & Wolff», дзе замаўляла асветніцкую літаратуру здаўна і памногу.

Перш чым паненцы пакахаць некага, варта ёй палюбіць нешта, – разважае гродзенская мыслярка. Але гэта не пра модныя строі і каштоўныя ўпрыгожванні – гэта нешта прыгожае і жывое, у чым думка і сэрца знайшлі б сабе сілкаванне: навука, да якой ёсць цікавасць, мастацтва, калі паненка адорана талентам, прафесія, каб у ёй сябе ўдасканальваць, або вялікая ідэя, якая напоўніць і ўзвысіць, або праца ў доме, якая своечасова навучыць быць гаспадыняй і маці. Такая любоў, усвядомленая і ўвасобленая, – ледзь не адзінае, што па-сапраўднаму падрыхтуе дзяўчыну да сур'ёзнага пачуцця. Гэта тое, што адвядзе ад яе небяспеку ператварыцца ў ляльку ці гуску. Жанчыны-лялькі не могуць ні кахаць, ні сябраваць і ад парцэлянавых адрозніваюцца толькі тым, што, паваліўшыся, не разбіваюцца. Кіруе імі не сэрца, а этыкет. Жанчыны-гускі адрозніваюцца ад сваіх прататыпаў тым, што іх гагатанне, якое заглушае разумныя гутаркі, не выратавала Рым. Затое за няшчаснае зярнятка, знойдзенае на памыйцы, яны гатовыя затаўчы адна адну дзюбамі і запэцкаць брудам, як самыя сапраўдныя гусі.

Праца «Некалькі слоў пра жанчын» напісана даўно, але пані Элізе закарцела, перапыніўшы пісанне «Марты», перагартаць старонкі гэтага нарыса, каб зразумець, чаму ён не выклікаў чаканай цікавасці.

Моніка Гашкоўская спыніла ўжо сваю швейную машынку і панесла ў салон прыкладаць да вокнаў новыя шторы, пан Станіслаў задрамаў за паперамі прама ў крэсле, кот Мінусь стаміўся ганяць па падлозе скінуты са стала футляр для акуляраў, якія пані Элізе прапісаў доктар Цывіньскі, знакаміты віленскі акуліст, і скруціўся ў клубок каля ног гаспадыні. А яна яшчэ скардзіцца, што не мае сваёй сям'і...

## Законы Кларка

Калі выдатны вучоны ў гадах сцвярджае, што нешта магчыма, ён амаль беспамылкова мае рацыю. Калі ён сцвярджае, што нешта немагчыма, ён, хутчэй за ўсё, памыляецца. Першы закон Кларка[13]. Як жа я люблю такія матывацыйныя выразы! Яны мяне бадзёраць, як ліпеньскі дождж. У мяне хопіць сілы, каб шукаць і знайсці выйсце з цемры і выбрацца на дарогу ўпэўненасці.

Вось і кабінет старога Бохвіца.

Шмат бы я цяпер аддала за тое, каб зразумець, што рабіць далей.

Можа, сесці за стол і напісаць? Так і так, маўляў, вітаю шаноўную пані пісьменніцу... А далей? Як я адпраўлю такі ліст?

Адзіны спосаб выявіць межы магчымага – гэта прасунуцца трохі далей, у немагчымае. Другі закон Кларка. А Марк Z. Данілеўскі ў сваім «Доме лісця» піша, што веды дзейнічаюць на свет як гарачае пранне на шэрсць: яна «садзіцца». Хлусіць. Або не правяраў.

Што я ведаю пра перамяшчэнні ў часе?

Першае і самае важнае – што яны магчымыя.

Другое і самае абнадзейвальнае – што назад перамяшчацца прасцей, чым наперад.

Трэцяе і зусім ужо радаснае – што перамясціць прадмет лягчэй, чым сябе.

*Andiamo!*

Машына часу – перажытак мінулага. Цяпер у прасторачасе перамяшчаюцца праз тунэлі кратовых нор. Паводле меркавання Стывена Хокінга, працэс іх з'яўлення няспынны: самыя розныя часткі прасторачасу злучаюцца выпадковым чынам кожную долю імгнення і адразу знікаюць. Фантастыка? Трэці закон Кларка: любая дастаткова развітая тэхналогія не адрозніваецца ад магіі. Калі такія тунэлі стабілізаваць і павялічыць да патрэбных памераў... Хокінг падлічыў, што на гэта патрэбна процьма энергіі. Адзін чалавек аднаго разу сказаў, што маёй энергіі хопіць, каб запусціць гідраэлектрастанцыю. Паколькі да гэтай пары я такую сваю магчымасць не выкарыстала... Я сядаю за стол. Папера, пяро, чарнільніца.

«Szanowna i droga Pani[14]!..»

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

«Szanowna i droga Pani!..» – прачытала пані Эліза пачатак атрыманага з Варшавы ліста. Ён прыйшоў ад самага дарагога сябра, духоўнага брата, а па сумяшчальніцтве літаратурнага агента, які лёгка наладжвае кантакты ў выдавецкіх колах і спрытна дабіваецца для гродзенскай сяброўкі найвыгоднейшых ганарараў. Знаёмцеся: пан Леапольд Меет, сама дабрыня і лагоднасць, памножаныя на тонкае пачуццё гумару. У апошнім яны з пані Элізай адно аднаго вартыя. У новым лісце пан Леапольд апісвае нядаўнюю сустрэчу з Вінцэсем Каратынскім, рэдактарам «Тыднёвіка ілюстраванага».

«Бачыў днямі Каратынскага. Сядзеў "над Нёманам" (найноўшым раманам п. Ажэшкавай). У руцэ трымаў вялікі чырвоны карэктарскі аловак. Намерваўся тут, "над Нёманам", знішчыць мноства велічных дубоў гэтай ваколіцы. Але такое захапленне апанавала яго "над Нёманам" (найноўшым раманам п. Ажэшкавай), што аловак, той самы, вялікі і чырвоны, выпаў з яго рукі, зламаўся і зрабіўся няздатным ні да якіх ваяўнічых спраў "над Нёманам". Пра гэта мне прыемна паведаміць аўтарцы рамана, які "над Нёманам" адшукаць не будзе складана».

З лістамі паштар прынёс і прэсу. У «Тыднёвіку ілюстраваным» на 2 і 3 старонках знайшоўся самы пачатак рамана, так дасціпна згаданага Меетам. Радкі пра летні святочны дзень, у якім валошкавае неба праменіцца цеплынёй, і радасць спявае птушыным хорам, і бераг рэчкі падковай абдымае раўніну, а ўздоўж берага шнурком выгінаецца вёска, узносячы ў паветра кудзелістыя пасмы дымкоў, – гучаць так, быццам выводзіліся не пяром, а пэндзлем.

Да радасці ад апублікавання першых старонак рамана і такога прыемнадасціпнага водгуку на яго прымешваецца трывога. Пачатак гэты пісаўся з натуры – у вёсцы Міневічы, дзе пані Эліза і дарагія ёй яе не-сямейнікі здымалі дом у Яна Каменскага. Міневічы яна ператварыла ў Корчын, а Яна Каменскага – у Анджэя Карчынскага. Суседнія Багатыровічы пераняслiся на паперу як ёсць – з усімі сваімі хатамі, агародамі, кветкамі і

палеткамі, жыхарамі і іх прозвішчамі: Багатыровічы, Занеўскія, Стралкоўскія... «Здаецца, здолею гэты твор дапісаць, бо вельмі ж бярэ за сэрца», – пісала пані Эліза летам сваёй малодшай сяброўцы Юзэфе Савіцкай, таксама пісьменніцы. Але восенню, калі вярнуліся ў Гродна, яна была вымушана прызнаць, што «мазгавая машына спынілася, работу выконваць не хоча». Валасы ў яе станавіліся дыбам пры думцы, што твор можа быць не завершаны своечасова, а мо і ўвогуле не завершаны, але ў «Тыднёвік ілюстраваны» яна аддала «як ёсць, колькі ёсць», бо твор быў замоўлены і нават прарэкламаваны.

«Тыднёвік ілюстраваны» належыць выдавецкаму дому Гебетнера і Вольфа. Гэтыя зубры кнігавыдання і кнігагандлю абмяркоўвалі з Меетам суму ганарару для аўтаркі некалькі гадзін запар. У выніку ён быў прыстойным: больш атрымаць мог бы толькі Сянкевіч, на чые ганарары скідваюцца тры часопісы і адно выдавецтва.

Самы вялікі страх – не збочыць нідзе ў «сялянку». Бо твор быў замоўлены акурат як гісторыйка падобнага кшталту: Гебетнер і Вольф праз рэдактара Гавалевіча папрасілі Элізу Ажэшку напісаць гісторыю няроўнага кахання – шляхцянкі і селяніна (або хаця б засцянкоўца), – і каб у фінале абавязкова быў шлюб. Захацелі паставіць эксперымент на канфлікце рамантызму і пазітывізму. Прыняўшы прапанову, пані Эліза і сама над сабой цяпер ставіць эксперымент: ці атрымаецца ў адной дзежцы замясіць цеста і на жытнёвы бохан, і на вясельны пірог? Пазітывісты, да якіх яна адчувае сваю прыналежнасць, нібыта і супрацьпастаўляюць сябе рамантыкам як прадстаўнікам папярэдняй эпохі, але комплекс рамантызму ў іх, як ні круці, праяўляецца.

Новы твор літаратурнай зоркі Элізы Ажэшкі рэкламаваўся пад назваю «Мезальянс», але пяро аўтаркі раптоўна павярнулася іншым бокам – замахнулася на гістарычную эпапею, у якой лёсы людзей разгортваюцца на фоне даўно праміналых падзей і апошнія працягваюць уплываць на першыя. Набліжаецца 1888-ы, чвэрць стагоддзя мінае пасля паўстання. Пра паўстанне яна і піша, але ў міжрадкоўях, якія здолее прачытаць толькі той, хто ключ для расшыфроўкі носіць у сэрцы і памяці. І калі ў першай версіі – у «Мезальянсе» – гаспадыня Корчына мела імя Лаура, то цяпер яна Эмілія. Бо пусці Лауру ў твор – і «сялянка» гарантавана. Хто быў Росцем, той стаў Ружыцам, Алесь – Вітольдам, Адам з Багатыровічаў – Янам, яго бацька спачатку зваўся Уладзіславам, а цяпер Ежы, Карчынскія раней былі Карчыцкімі... Хто ведае, мо і астатнія героі займелі б іншыя імёны, калі б так не прыспешвалі аўтарку яе выдаўцы...

Пакуль не атрымліваюцца ключавыя эпізоды, пані Эліза высявае з пяра на паперу гваздзікі, наготкі, званочкі, чабор, аздабляе вобразы герояў і гераінь вачыма, як незабудкі, валасамі колеру спелай пшаніцы, тварамі, якія румяняцца нібы півоні, вымалёўвае постаці падобнымі на дубы... Вясковыя жанчыны ў хустках выглядаюць у яе як карагоды сланечнікаў, працоўны люд параўноўваецца з рассыпаным у полі гарохам. Нічога дзіўнага, што ва Упсале, дзе некалі жыў бацька новай батанікі прафесар Карл фон Ліней, знойдзецца жанчына, якая вялікія кавалкі з рамана вывучыць літаральна на памяць, калі яго на шведскую мову перакладзе пісьменніца Элен Вестэр. Апошняя настолькі ўразіцца творчасцю Элізы Ажэшкі, што перакладацьме з польскай на шведскую твор за творам, запэўніваючы аўтарку, што калі шведскі выдавец друкуе яе няспынна, дык гэта па той прычыне, што яе

кнігі добра прымаюцца шведскай публікай, і дадавацьме: няма ніводнай замежнай аўтаркі і няшмат аўтараў сярод мужчын, якія маглі б пахваліцца такой папулярнасцю ў Швецыі, якую мае Эліза Ажэшка.

А калі так, то ў 1905 годзе Элен Вестэр пачне кампанію па здабыванні для сваёй любімай пісьменніцы Нобелеўскай прэміі па літаратуры. «Наш абавязак – зрабіць усё, каб гэтая міжнародная слава дасталася пані», – напіша пазней у лісце да Ажэшкі яшчэ адна яе прыхільніца, апантаная той жа ідэяй, – згаданая Юзэфа Савіцкая. «Над яе аповесцю "Марта" жачыны некалі плакалі, праз яе здабываючы ідэалы душы і сумленнай працы. У сваёй аповесці "Хам" яна вывела селяніна, які ўзносіцца да вяршыняў міласэрнасці і ўсёдаравання. У "Двух полюсах" яна паказала жанчыну, якая адмовілася ад каханага чалавека з-за розніцы ў поглядах на ідэалы народа і грамадства. Сіла яе спачування пакрыўджаным і пакутнікам, яе змаганне з любымі праявамі Зла, яе любоў да Дабра, яе тонкае адчуванне людскога болю, з аднаго боку, а з другога, замілаванне прыродай – вось тое, чым яна здабыла вагу не толькі сярод суайчыннікаў, але і паўсюдна сярод мысляроў. Жыве яна сярод нас, а належыць усім народам і ўсім стагодзям», – пісалася ў лісце, накіраваным у Нобелеўскі камітэт[15].

## Першы ліст

«Szanowna i droga Pani» – выводжу, абмакнуўшы ў чарніла XIX стагоддзя такое ж старое пяро. Нешта адбываецца пасля трэцяга слова: мой почырк перастае быць маім, затое маім становіцца накрамзоленае мною наступным імя любімай пісьменніцы. Што за чорт! – прамільгнула ў галаве, але я адразу ж і супакоілася: хіба я не для гэтага тут? Хіба не адказ на сваё пытанне я ў хуткім часе, працягваючы пісаць, тут убачу? Ды яшчэ выведзены гэтым да дрыготкі знаёмым матэйкаўскім почыркам?!

Памятаю, з якім трапятаннем першы раз падступалася да чытання яе лістоў. Памятаю, як спачатку было складана чытаць яе рукапісныя тэксты. Почырк у яе часцей шпаркі, чым мерны. Яна спяшалася, яна павінна была пісаць хутка, бо ў дзень, бывала, адпраўляла розным адрасатам да дзясятка лістоў, і гэта пры тым, што не спынялася пісаць творы. Калі ўсё паспявала – хто ведае... Не спускала марна ніводнай хвіліны – вось і ўвесь сакрэт. У яе лістах схавана палова яе літаратурнага таленту, як заўважыў не памятаю ўжо хто.

Я макаю ў чарніла XIX стагоддзя такое ж старое пяро – і на маіх вачах мой мерны круглявы почырк перастае быць маім, становіцца паспешлівым і завостраным.

«Мая дарагая пані, перш за ўсё абдымаю цябе – доўга, моцна, сардэчна. З гэтым абдымкам, у які ўкладаю любоў і павагу, сімпатыю і ўдзячнасць, пераходжу адразу да справы, дзеля якой ты тут, – адказваю на пытанні, на якія ты, звяртаючыся да мяне ў сваіх думках, шукала адказы так прагна, так настойліва і з такім трапятаннем, што праблескі асобных здагадак не маглі не складацца ў промні. Гэтыя промні, павінна ты ведаць, з'яўляюцца тым, што развейвае непраглядную цемру і разганяе бязлітасны холад вакол былых імён і памяці пра іх. Мне заўсёды здавалася, што глыбокая, істотная сімпатыя ёсць нечым такім, што мы неўпрыцям канстатуем нават тады, калі нішто пра яе знешне не сведчыць. Не ведаю, як гэта тлумачыцца спадарамі прыродазнаўцамі, але для звычайнага назіральніка за жыццём факт тое,

што нашы прыхільнасці, інтэлектуальныя і эстэтычныя, звязаныя з гэтай неакрэсленай сімпатыяй, крыніцы якой мы не ведаем, як нябачныя атамы вырываюцца з камор чалавечай душы і ствараюць сабой атмасферу, якую не адчуць немагчыма, якой хочацца дыхаць і дыхаць.

Шмат што пра сябе я ніколі нікому б не выдала. Гэта не падобна на праўду, але гэта праўда: я вельмі нясмелая ў стасунках з тымі, хто займае ў маёй душы асаблівае месца. Чым вышэй і шырэй гэтае месца, тым менш адчуваю я права займаць іх сабой і ўсім, што маё. Таму для іх я застаюся яшчэ большай чужынкай, чым для чужых. Ты, пані, мяне разумееш. Але я вельмі хацела і лепш, і смялей гаварыць пра сябе, каб распавесці, што і як адчувала і думала. Таму тваёй прысутнасці тут, у гэтай ваколіцы, сумнай, але прыгожай, я чакала шчыра і моцна. Адразу напішу, што не веру ў звышнатуральныя цуды. Здзяйсняюцца цуды звычайныя.

Ты, пані, правільна здагадалася: я не развялася з Пятром. Ты раскрыла маю таямніцу, як той Шэрлак Холмс, гісторыю пра якога пераклала на польскую мову мая сардэчная прыяцелька Яўгенія Жміеўская. Дэдукцыя – вялікая сіла.

Развод у маім часе штука складаная: ён можа быць здзейснены пры наяўнасці адной з трынаццаці кананічных прычын: *error, crimen, cognatio, impotentia, cultus disparitui, honestas publica*... Ці меў мой шлюб хоць адну? Ніводнай. Таму старанні маглі скіроўвацца толькі на тое, каб прызнаць яго несапраўдным, заключаным *extra legem*[16]. Паспрабаваць зрабіць стаўку на непаўналецце? Гэта быў ці не адзіны мой шанец. Справа цягнулася, як ты з маіх лістоў ведаеш, доўга. Адных прасіла, іншым плаціла, біскупа на свой бок перацягнула, калі ён ужо ў самым канцы (заставаліся толькі фармальнасці) ледзь усё не сапсаваў. Вынік павярнуўся на маю карысць, я стала вольнай ад шлюбу з Ажэшкам, але якім чынам? Шлюбу нібы не было, і ніякіх яго слядоў, ні ў касцёльных запісах, ні ў грамадзянскіх, нельга было знайсці. Каб павярнуць назад, трэба было крымінальную справу заводзіць не толькі на маю маці і дзясяткі сведкаў, але і на ўвесь віленскі капітул. Так я напісала пану Сікорскаму, якога, як ты з маіх лістоў да яго ведаеш, інфармавала ў той час пра свае асабістыя справы часта і падрабязна – цягнулася да яго, як да бацькі, якога не мела.

Пасля таго, ты разумееш цудоўна, я вымушана была ўказваць паўсюль, што нарадзілася не ў 1841-м, а на год пазней, і ў Варшаўскім пансіёне вучылася з 1852-га па 1857-ы. Я так старалася выраўняць даты... Ці ж я магла ведаць, што будуць яны некага турбаваць праз дзесяцігоддзі? Што знойдзецца такая ўніклівая пані, якая пойдзе па могілках і так уважліва будзе ўзірацца ў надпісы на помніках, што ўся мая легенда стане вартай жалю. Першы раз цябе насцярожыла магіла майго брата, які памёр, як ты помніла з маіх слоў, у год майго вяртання з пансіёна. Помнікі, ясная рэч, не хлусяць, на гэта здатныя толькі людзі. На помніку Ясіку выбіты 1856-ы, не 1857-ы. Ведаю, ты спачатку не верыла, што гэта той самы Ясь. Маім успамінам ты давярала больш...

Ты і далей разважыла правільна: калі б гэта быў не развод, а прызнанне шлюбу незаконным, як я напісала пану Сікорскаму, канечне, я не насіла б далей прозвішча мужа. І гэта было тое, што насцярожыла цябе другі раз. У якасці адказу на пытанне, чаму мне засталося прозвішча Ажэшка, ты не прыняла наіўную версію іншых даследчыкаў, што я, маўляў, пашкадавала славы твораў, якія ўжо былі напісаны мной як Ажэшкай. Ты пачала

шукаць іншы адказ – і знайшла яго, шляхам логікі, як адзіна магчымы: папросту шлюб мой з Пятром Ажэшкам не перарваўся: ні разводам, ні прызнаннем яго незаконным – ніяк. Ці мала што я там пісала – у тых лістах да Сікорскага. Шлюб перарваўся толькі са смерцю Пятра, толькі ў 1874-м, праз пяць гадоў пасля тых лістоў.

Зноў твая рацыя, пані: калі ў канцы лета 1874 года пасля цяжкай працяглай хваробы Пётр паміраў у варшаўскім шпіталі евангелістаў, я папраўляла сваё здароўе акурат у Варшаве, у тамтэйшых медыцынскіх свяцілаў, і 28 жніўня сапраўды наведала касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі на вуліцы Лешна, адкуль мой няўдалы няшчасны муж выправіўся на вечны спачын.

Ты дапусціла ў сваіх думках верагоднасць таго, што я не толькі прыйшла развітацца з целам, але і наведвала мужа ў шпіталі, пакуль ён яшчэ жыў, што я была сведкай апошніх дзён... Ці не баішся, пані, што твае сучаснікі абвінавацяць цябе ў залішняй сімпатыі да маёй сціплай асобы і ў жаданні выставіць мяне ў лепшым святле пры бяздоказнасці меркаванняў? Для ўсіх я жанчына, якая пакінула хворага мужа. Ісці за інтуіцыяй і сэрцам – на гэта патрэбна мужнасць.

Я ведаю, пані: ты не баішся».

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

«To madame Eliza Orzeszko – from Jeremiah Curtin with best wishes. Bristol Wermont United State of America Octobre 15 1901[17]», – напісаў містэр Кэрцін на тытульнай старонцы кнігі «The Argonauts» – толькі што выпушчанага ў нью-ёркскім выдавецтве «Charles scribner's sons» перакладу на англійскую мову аповесці «Арганаўты», якую Эліза Ажэшка напісала літаральна летась. Пастараўся Аўгуст Роберт Вольф, адзін з зуброў «Gebethner & Wolff»: параіў яе твор амерыканскаму фалькларысту і вялікаму прыхільніку славянскіх моў, які апантана перакладае з польскай і мае на сваім рахунку ўжо сёе-тое з Пруса і Сянкевіча. Твор новай для яго аўтаркі – «захапляльная і павучальная гісторыя пра жыццё ў Польшчы» – літаральна захапіў амерыканца ў палон. «Яна апісвае жыццё так праўдзіва», – занатаваў у дзённіку містэр Кэрцін.

Пані Элізе такое прызнанне не ў навіну – яе кнігі друкуюцца па ўсёй Еўропе ў перакладзе на ўсе распаўсюджаныя на кантыненце мовы, а ў Злучаных Штатах тры гады таму выйшаў па-англійску яе раман «Мейр Эзафовіч», які на радзіме даўно займеў сапраўдны трыумф.

На пісьменнікаў, якія бяруць у свае творы яўрэяў для сцэнак гумару або махлярства, пані Эліза глядзіць акурат як на махляроў і блазнаў. Яна сабе паставіла задачу глыбока вывучыць усе акалічнасці штодзённага побыту гэтага незвычайнага люду і дазнацца, якія псіхічныя і гістарычныя матывы і традыцыі кіруюць іх справамі і ўчынкамі. Для гэтага наведвала рабіна і, як старанная вучаніца, гадзінамі вяла з ім размовы пра Мішну[18] і Гемару[19]. Перад тым прачытала дзясяткі прац пра яўрэяў, але гэтага ёй было мала, таму наступным этапам рушыла ў народ, які складае палову насельніцтва Гродна, і справіла сваёй шчырай цікавасцю вялікую радасць чалавеку з доўгай белай барадой, разумнымі вачыма і цудоўным польскім маўленнем. «Чаго ён толькі мне не распавёў! – радавалася яна. – Цяпер мае яўрэі атрымаюцца натуральнымі». І атрымаліся! Раман «Мейр Эза-

фовіч», напісаны на 13-м годзе напружанай працы на ніве літаратуры, стаў першым сапраўдным яе шэдэўрам. Рэцэнзію на яго напісаў ажно сам Юзаф Ігнацый Крашэўскі, ахвотна прызнаўшы, што нават і другасныя героі гэтай гісторыі надаюць ёй каштоўнасць, роўную палотнам Матэйкі, а ў таго кожны твар выпісваўся літаральна з натуры.

«Арганаўты», якія цяпер таксама перасеклі Атлантыку, – рэч іншая. Гісторыя мультымільянера, які ўвесь час здабывае «залатое руно» і не заўважае, якія пакуты церпіць сям'я з-за яго вечнай занятасці і прагі нажывы, нарадзіла ў галовах літаратурных крытыкаў тэрмін «арганаўтызм». Аўтарка звяртае ўвагу грамадства на з'яву, якая ляжыць каранямі ў вечнасці, але цяпер, у акалічнасцях капіталізму, пусціла свежыя парасткі. Арганаўтызм – гэта калі чалавек шукае ў сваіх вандроўках па свеце не Бога, не свяшчэнны грааль, як трактуе адпаведная міфалогія, а ўсяго толькі матэрыяльныя выгоды. Твор вельмі вылучаецца на фоне іншых, напісаных Ажэшкай. Гэта так аддалена ад наднёманскіх хат і так нахіляецца ў амерыканскі бок, што калі б пані Эліза жыла ў ЗША, ёй прыпісалі б ролю кумíркі Тэадора Драйзера, чыя літаратурная зорка яшчэ толькі ўзыходзіць: з «Арганаўтаў» вычэрпваюцца і тытан-фінансіст, і ў пэўным сэнсе стоік, і геній[20]. У гэтым творы няма ажэшкаўскіх фірмовых апісанняў і яе заўсёднай тонкай, ледзь улоўнай іроніі, тут стыль больш лаканічны – амерыканізаваны.

Містэр Джэрэмія Кэрцін у прадмове да амерыканскага выдання фантазіруе, што можа быць, калі еўрапейская літаратурная зорка Эліза Ажэшка прыедзе ў Амерыку, наведае Чыкага, самы вялікі горад Зямлі, і Нью-Ёрк, сталіцу фінансаў. «Калі яна да нас прыедзе, яна ўбачыць многае, што ўзбудзіць яе думку. Што яна ўбачыць? Што мы ўмеем зарабляць грошы і правільна імі распараджацца? Што б яна ні ўбачыла, гэта будзе нешта па-сапраўднаму каштоўнае для яе, нешта, што яна зможа параўнаць з еўрапейскім, нешта, што нагадае гісторыю, апісаную ёю ў гэтай кнізе».

У Амерыку яна не паедзе. Ёй хапае наднёманскіх хат.

## Наступны ліст

Калі ўсе верагоднасці свету раскласці перад вачыма на манер велізарнай палітры, можна паспрабаваць зразумець, як іх колькасці і адметнасці ўраўнаважаны. І акажацца: усё ў нашым свеце, ад тэмпературы кіпення вады ў чайніку да сілы трапятання чалавечага сэрца перад нязведаным, ад хуткасці лёту божай кароўкі да будовы гэтага сказа абумоўлена і ўнутранымі прычынамі, і знешнімі акалічнасцямі. У кожнай выпадковасці хаваецца неабходнасць, якая і рухае гэты свет, здольны ў любой сваёй кропцы быць прасякнутым... кратовай нарой. Іх, я гляджу, вакол дома накапана столькі, што не падлічыць.

Я прачнулася сонечным ранкам на ганку вілы Паўлінава, куды трапіла невядома як. Памятаю, як узыходзіла на гэты ганак і спрабавала адчыніць дзверы. Віла належыць універсітэту, у якім я працую, але я прыехала сюды сама па сабе, як асоба прыватная. Адкуль у мяне маглі быць ключы? Я, відаць, так і заснула на ганку, уткнуўшыся лбом у калені, падцягнутыя да галавы. Поза эмбрыёна ў сне – яскравы доказ неўсвядомленага жадання адчуць надзейную абарону, якой чалавек на яве пазбаўлены, але ў маім выпадку поза была яўна змушаная. Пры іншым антуражы я выбрала б сон на левым баку, закруціўшыся ў коўдру, як у кокан, і абавязкова накрыўшы

вуха. Дарэчы, ніколі не задумвалася над тым, у якой позе любіла спаць Эліза Ажэшка. Пра ўсё перадумала, пакуль збіралася пісаць пра яе: сава яна была ці жаўрук, што больш любіла – гарбату ці каву, салодкае ці салёнае, як стаяла, хадзіла, сядзела, як складвала рукі і нахіляла галаву, якім голасам гаварыла, якія любіла колеры, пахі, рэчы, як ставілася да чысціні і бруду, спёкі і холаду, святла і цемры, сонца і месяца і ўсялякае іншае – а пра сон не задумвалася.

Аднаго разу мяне наведала авантурнае навязлівае жаданне – сустрэцца з Элізай Ажэшкай так, быццам мы з ёю сучасніцы. Над спосабам, як гэта можна ў рэальнасці правярнуць, я разважала нядоўга. Ніколі не думаю доўга над тым, што здаецца невырашальным, бо іначай яно невырашальным і застанецца. Канстытуцыя, пагадзіцеся, наша ўсё: хочаш даведацца пра чалавека, які жыў вельмі даўно, нешта такое, пра што ніхто дакладна не ведае і даведацца няма адкуль, – вызнач яго канстытуцыю (канстытуцыянальны тып), а для гэтага зрабі тое, што рабілі да цябе яго лекары, якія, не ў прыклад сённяшнім эскулапам, засяроджваліся на арганізме, а не на хваробе, і для якіх пры выбары схемы лячэння было важна нават тое, як пацыент рэагуе на дождж і лужыны. Гэта я пра гамеапатыю, якую пані Эліза дакладна выкарыстоўвала. Тут яшчэ трэба сказаць, што нашы сучаснікі спрабавалі садзіць яе на кушэткі паслядоўнікаў Фрэйда, якія спецыялізуюцца на псіхааналізе мастацкай літаратуры з мэтай зразумець, як асабістая праблема пісьменніка можа сябе праявіць у канкрэтным творы. Іншыя стваралі псіхалагічныя партрэты геніяў мінулых часоў праз аналіз вобразаў і метафар, выкарыстаных імі ў творчасці, а таксама ўражанняў і эмоцый, рэфлексій і рэмінісцэнцый, якімі насычаны іх мемуары, дзённікі, лісты...

– Лісты! Вам лісты! Вазьміце лісты!

З прыемных успамінаў пра поспехі пошукаў невядомых рыс Элізы Ажэшкі мяне вырвалі дзіўныя, нечаканыя гукі: званок ровара і жаночыя выкрыкі. Падняла галаву – і ўбачыла перад сабой жанчыну, у якой нельга было не пазнаць паштарку. У руцэ, свабоднай ад ровара, яна трымала лісты і трэсла імі так, быццам я даўно павінна была іх прачытаць і як мінімум даць адказы.

– Вам лісты! – паўтарыла яна і паклала на ганак канверты з такімі прыкметамі не нашага часу, што я схамянулася. А ёй хоць бы што: села на ровар і з’ехала, як не было.

Асцярожна, баючыся, каб канверты не зніклі, быццам яны прывідныя (бо на тое падобна), і ў той жа час нецярпліва і з недаверам (чые гэта жартачкі?!) я ўзяла іх і на ўсялякі выпадак заплюшчыла вочы. Расплюшчыла – яны не знікалі.

«Пагаворым, пані, пра гадзіннікі», – пачала мая карэспандэнтка без нічога ніякага сваім звыклым матэйкаўскім почыркам і такім самым звыклым ментарскім тонам. Добра, думаю, пагаворым.

Гадзіннікі – яе ўсё. Разам з птушкамі і раслінамі яны ствараюць трыкветр сімвалаў яе творчасці. Гадзіннікі яна растаўляе па апавяданнях, аповесцях і раманах так, як рассейвае кветкі і размяркоўвае птахаў. Гілі з канарэйкамі нясуць у яе адказнасць за радасць і бесклапотнасць, салоўкі, зразумелая рэч, за каханне, жаўрукі за расстанне, дамашнія птушкі сімвалізуюць сямейныя сувязі і пачуцці (хоць іншы раз гусі з курамі ўстойліва асацыіруюцца з крытыкаю ўлады, а кураняты – з жаночымі страхамі),

просты люд пераносіцца на сокалаў і галубоў, дробную шляхту ўвасабляюць шчыглы, яны ж разам з пліскамі – рэлігійнасць і веру, лебедзь і горліца – атрыбуты какецтва ды розных жаночых хітрыкаў, і толькі адна птушка спявае часцей уначы – зязюля, што жыве ў гадзінніку.

У прысвечанай паўстанню навеле «Яны» гадзіннік малюецца чорнай постаццю на светлай сцяне, з галавой аж пад столлю, з тварам, перакрэсленым стрэлкамі як маршчынамі. Пачаўшы адбіваць час у момант з'яўлення Траўгута, гадзіннік нібы супрацьпастаўлены гэтаму чалавеку з яго суровай заўчаснай маршчынай, што пралегла ад броваў да валасоў, быццам выпаленая ўнутраным полымем. У рамане «Два полюсы» гадзіннік – сродак падкрэслівання палярнасці псіхалогій герояў: адны там абапіраюцца на яго як на грунт у штодзённых справах, другім ён патрэбен, каб ведаць, калі выбірацца з дому дзеля дзяжурных візітаў. Гэта толькі адна са шматлікіх указак на полюснасць, не самая важкая, але ёю забяспечваецца вельмі прыгожая сцэна, поўная і іншых сімвалаў, і старадаўняга каларыту, і тонкага гумару, якога аўтарцы, як я не стамляюся паўтараць, не займаць. У апавяданні «Бабуля» гадзіннік гучаннем паланезу даводзіць старую жанчыну ажно да брамы нябёсаў і ладзіць ёй там спатканне з нябожчыкам мужам, і толькі плач хворага ўнука, што мацней за ўсякія паланезы, вырывае з абдымкаў бясклапотнага іншасвету. У замалёўцы «Агніва» гадзіннік робіць роўнымі беднага яўрэя і багатага графа, бо якімі б ні былі імёны, вопратка, рысы твару, лёсы і прызначэнні, а гадзіннікі непрадузятыя: ідуць для ўсіх з адной хуткасцю. Ну, і ў раі гадзіннікаў няма, як абвяшчаецца ў аповесці «У клетцы».

Дык што пані Эліза піша пра гадзіннікі ў гэтым сваім лісце?

«А ці памятае пані, у якія глыбокія разважанні пагрузіла яе чытанне навелы "Gloria victis"?» – ці то гарэзна, ці то сур'ёзна пытае яна мяне, і я першы раз у жыцці пачынаю шкадаваць, што смайлаў у яе час не было.

Твор, які абвясціў пераможаным славу, пісаўся праз чвэрць стагоддзя пасля паўстання, але яго герой вецер, які над лясными магіламі стогне, пачуўшы расповеды елкі, бярозы і дуба пра лёсы паўстанцаў і не ўшанаваную памяць, не быў у тым лесе ажно паўстагоддзя. Шыпшына, што асыпае магілы сваімі пялёсткамі, запэўнівае яго, што робіць гэта ўжо паўстагоддзя, і званочкі прызнаюцца, што вызвоньваюць жалобную малітву на працягу паўстагоддзя кожнае лета... Задаўшыся пытаннем, што гэта за дзівацтва аўтаркі – абавязкова паведамляць, колькі часу вецер лятаў па свеце, перш чым сустрэцца са старым знаёмым лесам, каб той распавёў пра трагедыю, і чаму паўстагоддзя, а не больш або менш ад яе прамінула, чаму, у рэшце рэшт, не чвэрць стагоддзя, як акурат мае быць на час напісання, – задаўшыся такімі пытаннямі, я ўпарта выходзіла на адзіны адказ, але прызнаць сваю рацыю не рашалася...

«Ты, пані, павінна была аддзяліць ад твора дзве часавыя стужкі, накладзеныя на яго і адна на адну. Ты ж чытала Артура Кларка і ведаеш: светы, якія цякуць па Рацэ Часу, – шматлікія і разнастайныя, і ёсць такія, што плывуць і ўпоперак, і супраць цячэння, і нават па-за ім, не ведаючы ні мінулага, ні будучыні. Ад года напісання – 1888-га – адкінуўшы паўстагоддзя, атрымаеш год нараджэння маёй няшчаснай сястры, што памерла яшчэ падлеткам. У дзяцінстве пад уплывам прачытанага і пачутага мы, дзве дзяўчынкі, чыя бабка памятала яшчэ двор Станіслава Аўгуста, а выхавацелька, бона немка, на свае вочы бачыла апошні сейм і тых, хто ў ім браў удзел, адчувалі

сябе закаханымі то ў Баторыя, то ў Касцюшку, і прыходзілі нам у галовы думкі пра тое, што трэба ўсур'ёз рыхтавацца да гераічных ахвяр і ўчынкаў. Каб выхаваць у сабе адвагу і здольнасць да адрачэння, не елі мы любімыя стравы і далікатэсы – рабілі перад дарослымі выгляд, што разлюбілі. А калі нешта балела або здаралася нейкая прыкрасць, не скардзіліся нікому, а заклікалі адна адну быць цярплівымі і маўчаць. Таму што, гаварылі сабе, нельга плакаць і енчыць, пакутуючы за айчыну. У 1888-м, на 25-годдзе паўстання, калі я пісала навелу "Слава пераможаным", Клемянціне магло б споўніцца пяцьдзясят. Такім спосабам – зрабіўшы ўказку на паўстагоддзя, – я і адзначыла гэты дарагі для мяне юбілей.

Горача сціскаю твае далонькі і яшчэ больш прапісваюся ў тваіх думках, калі ты не супраць. А ці памятаеш, пані, верш таго маладога паэта, якога я маю на ўвазе ў іншай навеле на тэму паўстання, у "Дзіўнай гісторыі"[21]? Перапішу сюды тыя радкі, што ўзяла з яго зборніка ў твор:

Туга па жыцці недарэмным,
Што чэзне, як іней слатой,
З'яўляецца патаемнай
Тугой па душы святой.

Як табе? Вось яна, праўда чалавечай душы: туга па той лепшай долі, якой чалавеку ніяк не здабыць, — гэта нішто іншае як туга чалавечай душы па ўласнай святасці. Герой навелы даходзіць да святасці, бо крочыць да яе ўсё жыццё. "Дзіўная гісторыя" — гэта пра сілу, якую можа развіць дух, і глыбіню, якую можа займець душа, прапушчаная праз пакуты. Навела абвяшчае перамогу міласэрнасці над любой чалавечай крыўдай і найвышэйшае заступніцтва — Божае прабачэнне — за любы чалавечы грэх. Некалі мы з Клемянцінай часта падоўгу гарталі трактат Чэзарэ Бекарыя "Пра злачынствы і пакаранні". Насычаны прагрэсіўнымі думкамі пра вытокі злачыннасці і гуманістычнымі заклікамі адмяніць катаванні, гэты фаліянт з бібліятэкі бацькі, выпушчаны ў 1764 годзе, яшчэ нават да яго нараджэння, не мог быць намі прачытаны: мы толькі разглядалі на палях бацькаў почырк — пазнакі, зробленыя па-італьянску. Але дух гэтай працы, узмоцнены энергіяй бацькі, здолеў прабрацца ў наш светапогляд.

А з часам, пані, скажу табе, каб ты ведала, можна рабіць што заўгодна: можна сціскаць яго і расцягваць, можна спыняць, прымаруджваць і паскараць – абы толькі гэта рабілася з правільнай мэтай і было на карысць.

Вось табе яшчэ трохі перлінак таго аўтара:

Па спешчаных сонцам нябёсах
Крадуцца блакітныя цені,
Вякуе над долам бялёсым
Галінак шкляное цвіценне...

"Дзіўная гісторыя" не толькі табе нагадвае калядную казку. Хоць вырываецца яна з вуснаў гераіні-апавядальніцы ў чорную ноч лістапада...»

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

Лістапад для пані Элізы на ўсё жыццё стаў месяцам значных падзей, і добрых, і кепскіх. Некалі ў чорную ноч у самым канцы лістапада ма-

ленькая Зюня страціла бацьку. У лістападзе праз шэсць гадоў займела айчыма, чалавека, які бацьку не замяніў, але быў і добрым, і годным. У лістападзе ж, толькі праз 35 гадоў, яна пахавала і маці. Лістапад 1896-га забраў у яе апошняга блізкага чалавека, які ўсяго за два гады да таго (і таксама ў лістападзе) стаў яе мужам ужо не толькі перад людзьмі, але і перад Богам: праз паўгода пасля смерці фармальнай жонкі пан Нагорскі нарэшце павёў сваю сапраўдную шматгадовую спадарожніцу жыцця ў фарны касцёл, дзе яны абвянчаліся раннім ранкам, без сведкаў. Так яна стала Ажэшковай-Нагорскай.

19 лістапада 1896 года ў доме Станіслава Нагорскага, які для гісторыі пачынаў пакрысе ператварацца ў тое, чым застанецца ў ёй назаўсёды (выраз «сціплы драўляны дамок на Мураўёўскай вуліцы» яшчэ ў XIX стагоддзі, яшчэ пры яе жыцці кожны гродзенец разумеў як трэба), адбывалася невялікая сямейная ўрачыстасць з нагоды імянін гаспадыні. Нішто не прадказвала ніякіх няшчасцяў. Хіба толькі сам лістапад... Калі ўсе разышліся, пану Нагорскаму раптам зрабілася кепска. Яшчэ ў кастрычніку ён, заўзяты паляўнічы, хадзіў па лясах са стрэльбай, і вось ужо ён паралізаваны: спатыкнуўся на лесвіцы, паваліўся і з той пары ўжо не ўстаў, а ляжаў, прыкаваны да ложка. «Муж мой раптоўна памёр», – напіша пані Эліза ў лістах да знаёмых праз некалькі дзён пасля апошняга дня лістапада – апошняй чорнай даты, з надыходам якой не было ўжо ёй каго страчваць...

Недапісанай заставалася навела «Панна Ружа». Закінутая на некалькі месяцаў, на працягу якіх пані Эліза магла хіба што перакладаць, а пісаць не магла нічога, яна будзе завершана толькі наступным летам і толькі пасля таго, як на магіле любага Стася, адваката Станіслава Нагорскага, з'явіцца велічны чорны помнік з выбітымі словамі сёмага псалма: «Божа, адно на Цябе я ў пакутах надзею ўскладаю...»

## Яшчэ адзін ліст

Погляд, кінуты на чорны высокі помнік на магіле Станіслава Нагорскага і Элізы Ажэшкі ў Гродне, пагрузіў мяне ў сумныя думкі. Пад першым іменем разам з датамі жыцця выбіты словы псалма, пад другім акрамя дат нічога: не было каму выбіць словы, не знайшлося ні чалавека, які б гэта зрабіў, ні псалма.

Другі з лістоў, прынесеных паштаркай, даваў адказы на многае.

«Беларускім цыклам пра чалавека з нізін назвалі мае творы пра беларускіх сялян. Не стварала такога цыклу. Пісала пра гэтых людзей у многіх творах. Не сцвярджала "задаткаў вялікага развіцця, затоеных у прыніжаным, але стойкім і цярплівым народзе" – бо бачыла не задаткі, а гатовую чалавечую веліч, якой прыніжэнні і цяжкія акалічнасці побыту перашкаджалі не развівацца, а толькі сябе праяўляць. Сімпатыя мая да сялян сягае часу маіх самых першых пачуццяў і думак, адтуль жа бярэ пачатак павага мая да іх мовы. Гэты люд, якім поўняцца вёскі, дзе і я ўвесь час імкнулася жыць, я прагла спазнаваць літаральна ва ўсім, даследаваць да самага донца, так вычарпальна, як толькі гэта магчыма. Але мэты, якія перад сабой мела, літаратурныя і грамадскія, распасціраліся значна далей, і каб іх дасягнуць, пісаць мне было загадана (уласнымі сэрцам і думамі) не толькі пра гэты люд, але і пра іншых прыніжаных і пакрыўджаных. Чаму я пісала па-польску, чаму не пра адзін толькі просты вясковы народ,

які палюбіла ўсім сэрцам, – пра гэта расказваюць творы, трэба іх толькі чытаць. Ужываць беларускую мову для напісання аповесцяў і раманаў, якімі маеш мэту дагрукацца да тых сэрцаў, ад якіх залежаць лёсы правобразаў герояў гэтых аповесцяў і раманаў, але якія па-беларуску чытаць іх не будуць, – такая сабе задача. Мэтавая аўдыторыя, як гаворыцца ў тваім часе, не тая. Я пісала не для, а дзеля, і няхай той, хто не адчувае розніцы паміж гэтымі прыназоўнікамі, не бярэцца мяне судзіць. Самым правільным з мэтай «дзеля» было б наогул пісаць па-руску, але і без таго мае творы амаль што ўсе адразу ж па напісанні перакладаліся на рускую мову. Іншая справа, што самі ідэі, якія часам канцэнтраваліся ў адным шматкроць паўтораным слове ці сказе, пры перакладзе часта наўмысна выдаляліся або перараблялiся так, што страчваліся і сіла, і сэнс, і гучанне. Ну, але не бывае ружаў без калючак.

Пішу так, быццам апраўдваюся. Што рабіць? Да кола беларускіх пісьменнікаў, як ты ні разглядай маю творчасць, я, атрымоўваецца, не належу. Сябра мой Багушэвіч – паэт беларускі. Але яго творчасць і прызначалася для простага вясковага люду, няшчаснага, занядбанага, не па сваёй ахвоце здзічэлага. Мая ж творчасць – для таго, ад каго ў гэтым свеце хоць нешта залежыць. У мае і твае часы.

Часы гэтыя, і мае, і твае, досыць цяжкія. Яны так перапоўнены жоўцю і воцатам, што... Насупраць нашай хаты вокны так шчыльна закрытыя, што патрэбен выключны зрок, каб расшчапіць усе зашчапкі, і выключная галава, каб у цемры не страціць апору. Я мяркую па тым, што назіраю сама, па той атмасферы, якую ўдыхаю. Пры недахопе святла і паветра пануюць у нас і ў вас разнастайныя старажытныя маніі – паланізацыі, русіфікацыі, вызваленчых місій суседніх плямён, патрыятычнага шавінізму... Зрэшты, чалавечае глупства настолькі ж неабмежаванае, наколькі і Божая міласць. Не бывае, каб не было ратунку. То і ратуймася, як толькі можам. Вучымся. Думаем. Робім».

## З рукапісу, знойдзенага ў кухні

«Паміраю», – апошняе, што пачулі ад яе тры ўрачы, якія ранкам 5 мая 1910 года выступілі насустрач герольдам, што абвяшчалі набліжэнне госці, якой яна зусім не баялася.

Герольдамі яшчэ год таму ў гарэзным лісце да сябра назвала яна задышку і боль у сэрцы, якія павялічваліся пры трошкі больш энергічным руху. Апошнія тыдні праходзілі то ў «чорным тумане», то «з феноменамі надзвычайнага», калі прыходзілі ў галаву, нягледзячы на слабасць у целе, ідэі новых раманаў, вобразы даўніх герояў і розныя смелыя і рашучыя думкі. Хацелася пісаць, а не толькі «ўжываць лекі і берагчыся». «Такая вегетацыя не па мне», – гаварыла яна.

Ведала, як усё будзе.

Так яно і было.

Калі сарвалася з вуснаў апошняе слова, пакорлівае, без бунту, стаяла яна ўжо побач з нябеснай брамай. Наступным імгненнем раскінулася заслона, якую паглядам не агарнуць, і ў крыштальнай празрыстасці заіскрыліся росы, распусціліся кветкі, заблішчалі зарніцы, паўсталі вясёлкі, запалілася сонца, замігцелі зоркі, заззялі каметы на сваіх вечных шляхах. На гэтай заслоне адбілася ўсё незлічонае хараство свету, і ў гэтай бязмежнасці, якую

нельга спасцігнуць, пакуль жывеш на зямлі, загучалі ўсе гукі, зліўшыся ў ладны хор, які прасякнуў прастору без канца і без краю. У гэтым нябесным хоры – вось дзіва! – былі чутны паасобку ўсе галасы зямлі: і шчабятанне птушак, і шэпт дажджавых кропель, і шоргат лістоты, і рухі жучкоў у траве, і трапятанне пялёсткаў, і калыханкі, і гукі, з якімі макавае зярнятка прарастае ў раллі...

«Паміраю».

## Апошні ліст

Дождж, як я і баялася, ліў усю ноч, і такія маланкі асвятлялі ваколіцу, так моцна грымела з усіх бакоў, што мне не заставалася нічога іншага, як толькі пайсці туды, дзе, як я ведала па старых фотаздымках, у Бохвіцаў знаходзілася капліца. Маленькая сямейная царква. Гэта ў левым крыле дома, у тым, што на адзін паверх. Над яго дахам узвышалася некалі тонкая вежачка з крыжыкам. Пад гэты дах, уяўляючы над ім тую вежачку, я і пайшла, калі ўжо зусім сцямнела, а вецер нарэшце вырваў з маіх рук паперу. Вырваў з іх адну, каб укласці ў іх іншую. Калі я прачнулася раннім ранкам пад Божым дахам (не пад тым, што з вежачкай, а ў літаральным сэнсе – пад ясным блакітным небам, раскінутым над галавой, – зноў упёртай ілбом у калені, зноў на ганку перад дзвярыма, замкнёнымі на замок), я трымала ў абедзвюх руках разгорнуты ліст.

«Вітаю цябе пад ласкавым сонцам, абуджаную ад сну. Надвор'е было фатальным, пахмурна было да роспачы – што ў паветры, што на душы. Але не ў нашых правілах падпарадкоўвацца неспрыяльным абставінам, ці не так?..

Лёс наш мае такую прыемную ўласцівасць: тое, што для іншых выглядае як жменька пяску, для нас вырастае ў гару. Нічога. Трэба спрабаваць пераадольваць і горы. Ці ж не для гэтага нешта такое ёсць унутры, што штурхае наперад, прымушае знаходзіць сілы? Ніхто не здагадваецца, як чорна бывае ў глыбінях вод, якія, аднак, плывуць і плывуць і нават паблісквáюць на паверхні. Шмат у жыцці ёсць кепскага, шмат ёсць добрага, шмат ёсць слабасці і шмат сілы. Часам простыя дзеянні патрабуюць ад нас большай мужнасці, чым гераічныя ўчынкі. Але жыццё не спыняецца, і погляд на мінулае мяняецца, і будучыня бачыць новы курс. Таму ні надзеяў нельга страчваць, ні абавязкаў сваіх пакідаць. Трапіць страла ў сэрца – дастаць яе з яго, прыляціць у твар камяк бруду – выцерціся, і з ранай у сэрцы і плямай на твары, якую час змые, ісці далей.

Пасылаю пані на развітанне найсардэчнейшыя зычэнні і не маю ніякіх сумненняў у тым, што ўсе нашыя мары калі-небудзь здзейсняцца. Бо зоркі нашых прызначэнняў не гаснуць. Да зор!»

Я ведала: цяжкія кроплі, што падалі тут уначы, здабываліся з хмарак, у якія ператвараюцца воблачкі дзьмухаўцоў, што гарэзным дэсантам малюсенькіх сонцаў спускаюцца на зямлю, каб сысці зноў на неба.

– Хто тут замаўляў скрыню сочнікаў і таксі на Мінск? – пачула я над галавой і ў наступную хвіліну ўбачыла свайго пазаўчарашняга маўклівага таксіста. Цяпер ён нагадваў мне твар Рэйтана з матэйкаўскага палатна.

[1] Mark Z. Danielewski (1966) – амерыканскі пісьменнік, яго «House of Leaves» (2000) перакладзены на многія мовы і выкладаецца ў многіх універсітэтах ЗША і іншых краін.

[2] Раман Афтаназы (1904–2004) – польскі гісторык, аўтар шматтомніка «Гісторыя рэзідэнцый на даўніх ускраінах Рэчы Паспалітай». Даследаваў і апісваў замкі, палацы, сядзібы.

[3] Від канапы, моднай у XIX стагоддзі.

[4] Жыў у Кракаве такі мешчанін. Яго камяніца стаяла на плошчы каля касцёла Панны Марыі і была на самой справе зарэзервавана каралём і каралевай на час вяселля гетмана Яна Замойскага і Грызельды з Баторыяў у 1583 годзе.

[5] Кінцугі – японскае мастацтва рэстаўрацыі керамічных вырабаў пры дамозе лаку, змяшанага з залатым, сярэбраным і плацінавым парашкамі. Разбітыя вазы склейваюць, але трэшчыны не маскіруюць, а наадварот, падкрэсліваюць.Такія рэчы лічацца ўнікальнымі, таму што маюць сваю гісторыю, нават лёс.

[6] Тадэвуш Рэйтан (1742–1780) – беларускі шляхціч прускага паходжання, знакаміты тым, што спрабаваў сарваць сейм, каб не дапусціць зацвярджэння першага падзелу Рэчы Паспалітай. Гэты яго ўчынак мастак Ян Матэйка адлюстраваў на карціне «Рэйтан».

[7] Герсэ – прозвішча дынастыі прадпрымальнікаў-мадэльераў, уладальнікаў моднага дома ў Варшаве, які існуе там і сёння.

[8] У 1826 годзе фізіёлаг Іаганес Мюлер найдасканалым чынам даследаваў гэтую з'яву, але наўрад ці тут будуць да месца яго навуковыя выклады.

[9] Parloir (*франц.*) – гасцёўня ў манастыры.

[10] Рамуальд Траўгут (1826–1864) – падпалкоўнік расійскіх войскаў, які ў адстаўцы стаў рэвалюцыянерам.

[11] Ян Матэйка (1838–1893) – польскі мастак, вядомы, у прыватнасці, работай «Рэйтан», згаданай у спасылцы 6.

[12] Генры Томас Бокль (1821–1862) – англійскі гісторык, прыхільнік новых ідэй. Пісаў сярод іншага пра ўплыў жанчын на поспехі мужчын і прагрэсу.

[13] Артур Чарльз Кларк (1917–2008) – англійскі пісьменнік, футуролаг, вынаходнік, папулярызатар навукі.

[14] Шаноўная і дарагая пані (*польск.*).

[15] На Нобелеўскую прэмію па літаратуры Эліза Ажэшка прэтэндавала двойчы – у 1905 і 1909 гадах. Першы раз прайграла (варта заўважыць, што ў адной кампаніі з Львом Талстым і Рэдзьярдам Кіплінгам) Генрыку Сянкевічу, другі раз – Сельме Лагерлёф.

[16] Па-за законам (*лац.*).

[17] Мадам Элізе Ажэшцы – ад Джэрэміі Кэрціна з найлепшымі пажаданнямі. Брыстоль Вермонт Злучаныя Штаты Амерыкі кастрычнік 15 1901 (*з англ.*).

[18] Мішна – старажытнаяўрэйскі рэлігійна-юрыдычны зборнік законаў і прадпісанняў артадаксальнага іудаізма.

[19] Гемара – звод аналізаў тэкстаў Мішны.

[20] Тэадор Драйзер (1871–1945) – амерыканскі пісьменнік. «Фінансіст», «Тытан», «Стоік», «Геній» – назвы яго раманаў.

[21] Эліза Ажэшка мае на ўвазе Генрыка Скірмунта (1868–1939), паэта і кампазітара, свайго сябра.

## Валеры Дубоўскі



...Кампазіцыя
Нумар адзін –
Ты.
Сыграная Панам Богам...

# А.

*(Вершы з пазнакай А. – з аднайменнай кнігі, здадзенай у друк. Пісаліся многія гады –як прысвячэнні жонцы Але – Аліне, Алёнцы. Пісаліся пры жыцці і пішуцца пасля яе адыходу).*

**В.Д.**

### ІНСТЫНКТ

Чыталі
Барадулінскія “Ксты”.
Узносіў верш
праніклiва-гатычны
і твой жаночы
трапяткі інстынкт,
і мой інстынкт,
мужчынска-паэтычны.

*У публікацыі выкарыстаныя малюнкі аўтара.*

У дні выбоістым
нябёсна так зацвіў

наш сподзеў
доказам
прасветлена-агністым,
што ты – ліцвінка
і што я – ліцвін,
упарты
і ў меру ганарысты.

*24.02.2014*



## *РАЎНУЮ*

Засею поле зноў
чаканнем вёснаў,
каб дзень прарос
і дужы й ранні.
Жыццё – імя
майму жаданню.
Руйную поле
і раўную да нябёсаў.

Ва ўзвышанай
над побытам мальбе,
бы птахам агнявым,
над полем узляцеўшы,
няхай і шараговы,
і няхай не першы,
руйную неба
і раўную да цябе.

*01.08.2013*

## *ЖАНЧЫНА*

Яшчэ не падумаў,
а ты смяешся.

Яшчэ не сказаў,
а ты крыўдуеш.

Яшчэ не зрабіў,
а ты адгукнулася.

Яшчэ не пайшоў,
а ты са слязінай.

*25.11.2011*

## *ЛАДЗІЎ ГРАК ГНЯЗДО*

Каханая,
ты помніш, як
мы на любоўнай хвалі
смяяліся з грака, а грак
смяяўся з нас, што мы не так
вясну спявалі?

Наўзахапкі і наўкасяк
галінкі у гняздоўе торкаў,
басовым гра грахоўна, тонка
ён падаваў грачысе знак.
Непераўзыдзены спявак
быў грак.

*22.04.2019*

## *БЕЗ РЭЗОНУ*

Грымлю нябёсам,
а найперш – табе,
падобна, звон –
уніклівай званіцы.

Нячутны крык
у гарадской гудзьбе.
У цішыні так хочацца
забыцца.

Юр перуновай жарсці
праміне.
І словы тайныя
без пэўнага рэзону
ты прамаўляеш
так ціхутка мне.
Нібы званіца
здзіўленаму звону.

*09.09.2009*

## *АПРАТКА*

Ніхто
усмешкі не адняў.
У ёй, узрадаваны, мешкаў.
Найлепшая апратка
дня –
твая гарэзлівая ўсмешка.

Дзён недарэчных
калатня.
І слову, і пагляду – зімна.
Нябоская апратка
дня –
твая ціхоткая
слязіна.

*28.01.2010*

## У ТОЙ ХВІЛІНЕ

У той хвіліне ты такі!
Сляды адчаю.
Хоць ты на неба маякні,
да ўсёй найвышняй талакі –
мо палягчае.

У той хвіліне ты такі!
З зямнога жарту,
Сціскаеш смела кулакі...
На твары Бога жаўлакі,
пагляд – упарты.

А ў той хвіліне ты такі!
З нябёснай рэдзі.
Пералятаеш раўчукі...
Сябе ў сумневах ушчыкні –
не сон?
Пацвердзі.

У той хвіліне ты такі!
Анёл нібыта.
Выходзіць голая з ракі –
пагляд усмешны з-пад рукі...
Каханка.
Мроя.
Афрадыта.

*29.06.2011*

## ЗАЎЖДЫ МАЛАДАЯ

Наталяюся
рытмам блюза.
Падскокваю
ў рытме полькі.
Кахаю цябе,

паколькі
без кахання пачуцці –
юзам.

Пераспяваў цябе,
перапеў.
З чаго ж
душа галадае?
З таго, што я –
стары пень?
А ты – заўжды
маладая!

*15.08.2017*

### НЕ ДАБРАЎ

Не ты з майго –
а я з твайго рабра,
уразумеў,
нябёсы адчыніўшы.
Няхай даруюць мне
і Біблія й Найвышні:
тры ночы цешыўся,
а ночкі не дабраў.

*10.05.2010*

### ПАРУКАЛІСЯ

Між краем келіха
і вуснамі тваімі
знайшоўся,
разгубіўся
і – згубіўся...
Мы душы нашыя
пажадна наталілі
і парукаліся,
захопленыя выссю.

*11.10.2019*

### ГЛЯДЖУ

У вочы твае глядзець –
бачыць мрою.
Гляджу.

У вочы дзяцей глядзець –
бачыць тутсамасць.
Гляджу.

У вочы ўнукаў глядзець –
бачыць наступнасць.
Гляджу.

У вочы сусвету глядзець –
бачыць бясконцасць.
Гляджу.

*14.09.2019*

## *РАЗ-ПОРАЗ*

Упадабай мяне
не за салодкі голас,
пагляд інтымны,
дужую руку.
З душой маёй
імгненне правякуй!

У каторы раз.
Штораз.
Раз-пораз.

*02.16.2012*

## *ПОЖАД*

І быццам дні – не неразовы,
стогны.
І поўня не паглядвае паўней.
І як удовы – цені ад алей.
Ды пожад зноў кахаць –
нястомны.

Хай воблака дажджоў
цяжэй за словы
і ветрык, што з ракі,
лягчэй за мрою,
ёсць твой пагляд,
жаданнем нарысаваны,
падгледжаны за яваю зямною.

*12.09.2019*

* * *

Адчуваю
тваё адчуванне.
Вечнасці і мяне.

*03.07.2019*

### АПОСТРАФ

У цяперашнім
прызнанні маім у каханні –
адзін нечаканы
знак.

Апостраф маладзіка.

І аніякіх
знакаў прыпынку.

*05.12.2013*

### ЖЭСТ

Неба зорнае долам ступала –
светлыня – светлячковая.
То не снег
з верша Купалы,
а так зачароўвае.

У шчасці
ночка не зморыцца.
Твой жэст –
за жыццё даўжэй.
Удваіх мы – адно,
светлатворцы.
Светлыню дабераажэм.

*13.01.2017*

### ПАСЯРОД ЖЫЦЦЯ

На ўскрайку лета,
пасярод жыцця,
у сераду – да вечнага нечага –
з кветкі на кветку
твайго пачуцця
шчамель і я
ляцім –
ад сланечніка.

Наўперач нас,
на пальчык твой мезенны
зайчык сонечны
прыпаў лацвей.

Ад сланечніка – сонцавей.
Ад усмешкі тваёй –
паэзія.

*06.11.2016*

## *ЗЕЛЛЕ*

Паснулы горад
сненнем галасны.
Таполевага лісця
спад пярэсты.
І жарсці жэст
у восені Пярэспы,
і згук пачуты
будучай вясны.

І ты уся –
атрутлівае зелле,
падманваеш
паглядам непадманным.
Усё
збылое
аніяк не зменім.
Усё наступнае –
за сённяшнім туманам.

*16.11.2016*

## *ПЕРШАРОДСТВА*

Ля вогнішча
жыцця твайго –
майго жыцця
нявысыхлае дэнца.
Тут лёгка дыхаецца,
весела смяецца
і верыцца
у праўду і багоў.

У белыя і чыстыя
снягі,
што саграваюць

лютасць халадэчы,
у вечар,
што світанку супярэчыў,
былому дню
вяртаючы даўгі.

І верыцца
у першародства нас.
У пілігрымку
браму адчыніўшы,
сумнеўна,
непаўторна і ўвішна,
з нас кожны пражывае
першы раз.

*26.03.2008*

## *СУМУЕ БУКЕТ*

Патухла вакно.
Горад аціх, празмерны.
Прадчуваннем завалакло
ноч.
Зоркі просяцца ў дзверы.

На горада плечы
палеглі паснула крыжы.
Рукі грэеш ля свечкі.
Сагрэй мяне,
каб ажыў.

Сумуе букет
без усмешак і рук
тваіх.
Рыфмуе паэт.
Грае муз*ы*ка на слых.

*06.08.2008*

* * *

Ты выгукнеш «ты».
Я выгукну «ты».
Выгукне рэха «мы».

*21.09.2008*

## *ПА ШОЛАХУ ЛІСЦЯ*

*(Сентыментальны вальс)*

Нязбыўна і руда
кастрычнік брыдзе.
Чаканы, раптоўны,
як выдых халодны.
Ты з ім. Ля тэатра,
а можа, нідзе
згубіла мяне
і сябе, верагодна.

Ты пэўна – маё,
я – тваё адгалоссе.
У звыкласці дзён,
у сваёй чарадзе,
з неапошняй надзеяй
неапошняе восені
нязбыўна і руда
кастрычнік ідзе.

Няшпарка пакрочу
з Траецкай гары
у роздум самотны,
нібыта з Парнасу.
Па-восеньску страчу
юнацкі парыў
па шолаху лісця,
па шолаху часу.

*19.10.2006; 01.11.2008*

## *МАЛА*

Вусціш...
Верас...
Вечарэе...
Неба вымытага шоўк.
Па-над камарыным рэем –
ветлы ветах,
веташок.

Лецішча каля сталіцы.
Збеглая адна душа
засумуе.
Ёй не спіцца,
собіць паспяваць
спярша.

Собіць
у нястрымнай жарсці
да нябёсаў крыліць цела,
на далонь далонь пакласці –
той, якая ўсхацела.

Той, якая заспявала
так мінорна, так мажорна.
Той, з якой
заўсёды мала
усяго.
Як неба жураву.

*19.04.2018*

## СПЁКА

Лíслівая
лашчыцца спёка.
У цень перабягу.
А цень –
без цябе і далёка.
На месячыкавым рагу.

І не заснуць,
не забыцца.
Часопіс не дачытаў.
У ім гераіня лісіца
ля перасохлага
раўчука.

*02.01.2018*

* * *

Маўчаннем скажаш,
у маўчанні ўчуеш –
закаханы.

*13.10.2009*

## УСПАМІН

Натхняюць з раніцы
вітальныя званы
трох цэркваў,
адзінотнага касцёлу.
І крок, і бег –

чарговы, прызавы –
не згасам,
кветнем дыхаюць вясёлым.

Хвалюе хваля Свіслачы-ракі.
І дых глыбей:
бягу, не чэзну!
За паваротам завярну –
і напрасткі.
Да ценю
нашага купалаўскага бэзу...

*22.06.2022*

## *БЛІЗІНЯ*

Ува сне
так дрыготка сніцца
не благотка –
блазноўка, блазніца.

На бяссонне
сон размяняў –
між блазніцай і мной
блізіня.

*16.11.2022*

## *КАЛІ-НЕБУДЗЬ НА 90-ГОДДЗЕ...*

*(Мара-жарт)*

Ты –
светлая пад сонечным лістоўем –
мне усміхнешся
здзіўлена-спакусна.
І святлацень
збяжыць па светлавуснах.
І светлавокі дзень
запомніць тое.

І я не буду
хламам зазвычаістым.
Ў нязбыўным часе
тое засталося.
Жыццёвай прагі,
светлым адгалоссем:
усмешна
ля твайго пляча застыў.

*10.07.2010*

## *НАВОШТА ЦАЛУЕШ?*

Твой пацалунак –
раптоўны.
Як снег.

Твой пацалунак –
нібыта нашэсце.

Навошта цалуеш?
З розуму звесці?

Навошта цалуеш?
Завесці ў грэх?..

*08.03.2006*

## *УСЦЕШЫЛА*

Зазірнуў да цябе –
даверыцца,
а тваё зачынена
сэрца.

Зайшоў знарок –
развітацца,
а ты запрашаеш
да танца.

Усцешыла –
вушы развесіў:
«Давай заспяваем
песню».

Удваіх пастаім
на масточку.
«Ты хочаш сына
ці дочку?»

*23.03.2016*

## *ТАЯМНІЦА*

Помню,
помню да драбніцы
шэпт
тваіх салодкіх вуснаў.
Не баяўся памыліцца
пацалункам непрымусным.

Ты і сёння таямніца,
не мяне –
унука песціш.
Я ж цалункам
самым лепшым
рызыкну не памыліцца.

*14.03.2011*

## ЗБЕРАГЛА

Жар-птушкаю сонца ўпала.
Следам – ветрык, яго апякун,
сцярожка,
як мыш па цымбалах,
унікае за Свіслач-раку.

Раптоўныя ўсмешкі-залёты
значавалі на тых берагах.
Для шчасця
і для самоты
незабыўнае ты зберагла.

*02.08.2022*

## СПРОБА

І гэта пройдзе ўсё...
хаця...

Каханне –
спроба несмяротнасці
праз адчуванне
забыцця.

*11.11.2011*

## ХВАЛІ МІНСКАГА МОРА

Цябе прабівае
нераспазнаным рытмам.
Мяне прабівае
яшчэ невядомай рыфмай.
І горы наўкола і мора,
хоць мы
на беларускай раўніне.
І голас твой ціхі, дапытлівы,
крыху раўнівы.

Шалёныя краскі,
ад іх я натхнёна шалёны.
Малюю цябе –
ты хваля, ты мора, Алёна.
А рыфма збіваецца,
рыфма чамусьці не йдзе.
Як ты, уцякае,
беражкам – ты, яна – па вадзе.

Юнацкія чуцці,
неклапатлівыя мройныя хвалі.
Мы й сёння кахаем,
як у юнацтве кахалі.
Кудысьці плылі, ляцелі,
ўзрасталі ў часе...
І сёння ляцім.
І пішацца рыфма.
І рытм захоўны застаўся.

*23.02.2019*

## ***ДЗЬМУШКА***

Адна пушынка
з квету дзьмухаўца,
ў жыцці маім
ты – срэбраная дзьмушка.
Палёту лёгкага
ніхто не абяцаў.
Ўсхацелі лёту –
лёс прыязна гушкаў.

Каханне – мара й дзея
без канца,
нябёсным князем
нашаптана ў вушка.
Ад першага
да вышняга вянца
кахаў цябе я,
і цвяліў...
І гушкаў.

*18.01.2023*

* * *

Жанчынай каханай –
як вершамі –

найлепей
бываеш усцешаны.

*07.09.2017*



## *РЭХА ДАЖДЖУ*

Памяць нашую патрывож.
Ты такая была маладая.
Мы праходзім з табой
Праз дождж...
То ўзнікаем...
То прападаем...

Для цябе і цяпер –
Словы і сэрца.
Зноў табе і дажджу дагаджу.
Сэрца маё
Табе застаецца.
Мне – рэха дажджу.

*07.02.2019*

* * *

О, жанчына!
Нябёсаў чало,
Неспасцігнутасцю незямною
Зачараваны я.
Ад чаго
Ты і побач
І ты – нада мною.

Найдзівоснае дзіва з дзіў!
Ад цябе –
Ніякіх засцярогаў.
Кампазіцыя
Нумар адзін –
Ты.
Сыграная Панам Богам.

---

"Дзеяслоўцы" найшчыра віншуюць
шаноўнага **Валера Дубоўскага**
з сямідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму
моцнага здароўя, душэўнае трываласці, Божае ласкі,
а таксама – новых вершаў ды яскравых праектаў!

Давід Шульман



...нейкая гісторыя толькі
для таго і заканчваецца,
каб магла пачацца новая...

# Цырульня

***Два апавяданні***

## У Талачын і назад

Міша Абрамовіч, нягледзячы на такое гаваркое прозвішча, не быў яўрэем. Лічыў сабе каталікам. Але тут ён рабіў па-яўрэйску: у іудзеяў твая прыналежнасць да яўрэйства ідзе ад маці. Мішава мама, мадам Стася Абрамовіч, была палячкай, каталічкай. А бацька Пётр быў атэістам, у пашпарце пісаўся рускім. І вельмі не любіў папоў.

Бацькі ўжо даўно жылі толькі ў памяці Мішы. Бо два дні таму ён адзначыў свае семдзесят два гады. Седзячы ў рэстаране ў сваёй ужо негустой кампаніі, Міша ўспомніў бацькоў. Па правілах маці, вядома ж, трэба было называць “пані Абрамовіч”. Але Стасі падабалася “мадам”. Таму што ў мястэчку, дзе яна жыла да замуства, усе жанчыны былі мадамамі: аптэкарка мадам Брайніна, настаўніца – мадам Школьнік, краўчыха – мадам Гіперфельд... І нават Насця Серaброва, прадавачка ў сельпо, мадам Насця.

Казалі, што “мадамства” ў гэтае беларускае мястэчка завезла мадам Ева, жонка начальніка сплаўканторы Берліна. У яго ў падначаленні было амаль трыццаць сплаўшчыкаў, яшчэ некалькі чалавек іншага персаналу, асобная сістэма забеспячэння таварамі і харчамі. Такім чынам, ён быў вельмі паважаны чалавек.

Бацька Стасі, дарэчы, таксама быў сплаўшчыкам. І яшчэ пра Берліна. Ён быў... шасціпалы. На руках і нагах у начальніка сплаўканторы было па шэсць пальцаў. І калі з рукавіцамі ўзімку, куды ён хаваў свае рукі, праблемаў не было, то з абуткам і зімой, і летам былі складанасці. Драўляныя калодкі, на якіх шавец Аўром-Бер рабіў Берліну абутак, пасля таго, як ён быў гатовы, адразу адносілі начальніку дадому. Больш за ўсё той баяўся іх страціць.

Каб ужо скончыць бацькоўскую лінію Мішы Абрамовіча, трэба сказаць, што і Пеця Абрамовіч быў таксама сплаўшчыкам. Ён прыплыў у мястэчка разам з брыгадай на плытах адным прыўкрасным летнім вечарам. І, будучы маладым хлопцам, выкупаўся, апрануўся і падняўся па ўзгорку на танцы. Там Пеця ўбачыў Стасю, а Стася ўбачыла Пецю...

Гэта ўсё было вельмі даўно. А сёння...

Будучы пасажыр падышоў да адзінай на стаянцы машыны. З яе насустрач выйшаў кіроўца і сказаў: “Я – Міша Абрамовіч”. Ён рассунуў каўнер кашулі, каб паказаць крыжык, які вісеў на шыі. Тым самым адразу паведаміўшы, што чалавек з прозвішчам Абрамовіч не абавязкова яўрэй.

– Эдвард, можна проста Эдзік, – адказаў чалавек з заплечнікам.

– Марк, наш агульны прыяцель, дакладна вас абмаляваў.

– А мне ён пра вас, акрамя імя і прозвішча, амаль нічога не сказаў. Хіба яшчэ колер і нумар машыны. Што мне, лічы, і не спатрэбілася. Акрамя вас на гэтай стаянцы каляваротаў санаторыя сённяшняй раніцай нікога.

– Гэта таму, што, як і ўчора, неба хмарнае, абяцаюць дажджы, і ў такое надвор’е лепей не ехаць у госці да сяброў, што адпачываюць у санаторыі. Не сядзець жа ў цесным пакоі, калі навокал сосны, возера, сцежкі, па якіх варта гуляць. Не ў дождж жа? Хаця вам, пэўна, пасля гарачых дзён, сярод якіх вы бавіце сваё жыццё, дождж і пахмурнасць вельмі падабаюцца.

– Так. У гэтых метэаўмовах я астываю.

– Усім не дагодзіш, – сказаў Міша. – Заходзьце ў мой “кар”, час ехаць.

– Ну што ж, пажадаем сабе шчаслівага шляху.

“Таёта” акуратна развярнулася і павольна адкаціла ад прахадной санаторыя. Ёй трэба было накруціць на свае колы амаль чатырыста кіламетраў.

Звычайна той, хто збіраецца доўга сядзець за стырном, не апранаецца так, быццам праз дзесяць-пятнаццаць кіламетраў ён павінен пайсці на афіцыйны прыём. Міша Абрамовіч быў апрануты ў строгі цёмны касцюм і цёмную, адпрасаваную, як і пінжак са штанамі, кашулю. Строгія чорныя туфлі на нагах пераскоквалі па педалях машыны. Карацей кажучы, ён быў “пры парадзе”.

А той, каго ён вёз, быў у джынсах, кашулі навыпуск, красоўках, а куртка разам з заплечнікам леглі на задняе сядзенне.

Пасажыр ведаў, што наперадзе гадзінаў шэсць-сем дарогі, туды-назад. Гэты шлях быў яму добра знаёмы. Кожны год, прыязджаючы на месяц у адпачынак, ён, выконваючы запавет бацькі, наведваў месца заспакаення сваёй бабулі і іншых самых блізкіх сваякоў. Гэтае сумнае месца знаходзілася на ўскраіне гарадка Талачын на высокім пагорку, бачным здалёк дзякуючы высокім елкам, якія нудзіліся ўнутры агароджы. Вакол гэтага месца было толькі поле з высокай травою, якую скошваў нехта з жыхароў дамоў, што

стаялі метраў за сто. У сярэдзіне агароджы быў помнік з надпісам на трох мовах. Тэкст скупа расказваў пра тое, што тут адбылося 13 сакавіка 1942 года...

Дык вось, пасажыр наняў Мішу Абрамовіча за сто даляраў праз "пасярэдніка", аднаго з некалькіх прыяцеляў, што засталіся ў Мінску. Той сам не змог паехаць у Талачын і параіў Абрамовіча. Міша пагадзіўся адразу. Па-першае, на сваёй машыне ў той бок і так далёка ён яшчэ не выязджаў. А па-другое, Марк паабяцаў яму цікавага суразмоўцу. А пагаварыць Міша любіў. У апошнія гады, вольны па ўзросце ад працы, ён займаўся сабою: шмат чытаў, круглы год плаваў, ці то ў рэчцы, ці то ў басейне. Калі-нікалі заводзіў сяброўак, бавіў з імі час. З жонкай яны разышліся перад ягоным выхадам на пенсію, пасля перапрацоўкі ўзросту афіцыйнага льготнага выхаду на пенсію ажно на дзесяць гадоў. Міша працаваў зваршчыкам, быў выдатным спецыялістам, і яго ўгаворвалі папрацаваць "ну хаця б яшчэ год". "Хаця б" заняло дзесяць гадоў. Дзякуй Богу, здароўе дазволіла. Але аднойчы ён сказаў сабе: "Баста! Мне трэба пажыць незалежным ні ад каго".

Усё гэта, не прызнаўшыся Мішу ў час знаёмства, Эдвард даведаўся ад Марка. Напрыканцы размовы той дадаў: "Грошы ў яго ёсць! Ён чалавек забяспечаны!" Апошняе Эдварду было ўсё роўна. Ён ніколі не цікавіўся колькасцю грошай, схаваных банкаўскім рахункам, у сустрэтых ім людзей. Будучы чалавекам назіральным, ён даведваўся пра гэта праз "крыніцы паводзінаў". Наяўнасць дастатковых сум ніколі не было галоўным у зносінах Эдварда з іншымі людзьмі. Таму што ён лічыў: калі чалавеку хапае на неабходнае, то ён багаты. А без лішняга можна і абысціся. Так было доўгі час і з ім. Але потым з'явіліся грошы і на "лішняе". Якое аказалася нечакана зусім не лішнім. Ён стаў забяспечаным чалавекам. Але працягваў па звычцы не шыкаваць. У кішэні, праўда, заўсёды была дастатковая колькасць грошай на ўсялякі выпадак. Раптам падвернецца цікавае "лішняе".

– Эдвард, вы ад'ехалі адсюль да развалу Саюза ці пасля? – Міша перапыніў маўчанне, што зацягнулася кіламетраў на трыццаць.

– Хутчэй за ўсё, у час. Але...

– Што "але", Эдвард?

– Дата 13 студзеня 1948 года, калі ў Мінску быў забіты Саламон Міхоэлс, народны артыст СССР, засталася ў памяці параўнальна нямногіх. Але менавіта тады пачаўся вельмі працяглы працэс развітання СССР са сваім яўрэйскім народам. Так, менавіта ў 1948 годзе пачаўся працэс прызнання яўрэяў савецкай уладай, як цяпер прынята фармуляваць, "непажаданымі". Менавіта з тых часоў яўрэі ў Савецкім Саюзе, каб чагосьці дамагчыся, павінны былі перастаць быць яўрэямі ці – з'язджаць... дадому. І тое, што адбывалася далей у 1949–1952 гады, – падрыхтоўка Сталіным Халакосту ў СССР – скіроўвала большасць яўрэяў у бок эміграцыі. Тады здавалася, што ад'езд назаўсёды рве звыклыя сувязі з мінулым, з блізкімі, з сябрамі. Але праходзілі гады, мяняўся свет. У тым ліку і Ізраіль. Калі мы прыехалі ў 1991 годзе, ён быў яшчэ не такі адбудаваны, "маларослы", правінцыйны. Зараз – гэта ўльтрасучасная маладая дзяржава са старажытнай гісторыяй. І таму хачу спытаць вас, Міша: як вы ставіцеся да лічбаў, датаў, якія абазначаюць межы?

– Спачатку проста з інтарэсам, а потым, часцей за ўсё, і з разуменнем, пасля некаторай расшыфроўкі.

– Тады вам вось такі досвед з "расшыфроўкай". У 1948-м годзе нарадзіўся Аўраам. Ад стварэння свету, вядома. У 5708-м годзе, таксама ад стварэння,

была абвешчана незалежнасць Ізраіля. Гэта таксама 1948 год, але па сучасным летазлічэнні. Здавалася б, якая сувязь? Самая непасрэдная. Кожны дзень стварэння адпавядае тысячы гадоў. Падзяліўшы на дваццаць чатыры, мы атрымаем працягласць "Боскай гадзіны" – 41 год і 8 месяцаў. Такім чынам, дзяржава Ізраіль нарадзілася ў пятніцу, у пяць гадзін пасля поўдня. У той самы час, калі прынята акунацца напярэдадні суботы ў мікву – басейн для рытуальных абмыванняў. Праз "гадзіну" пасля гэтага (1990–1991-ы гады) адбылася яшчэ адна цікавая падзея – развал Савецкага Саюза і наогул сацыялістычнага лагеру...

Яны пераехалі з захаду на ўсход па самай доўгай вуліцы таго горада, які Эдвард пакінуў больш за трыццаць гадоў таму.

– Я ў гэтым горадзе нарадзіўся, – сказаў ён Мішу.

– І даўно гэта было?

Міша стаяў ля святлафора, пазіраючы на гэтую трохвочную прыладу. "І навошта я задаў пытанне? – падумаў ён. – І так бачна, што мы аднагодкі".

– Мне здаецца, вы тады ўжо жылі.

– Адкуль такая ўпэўненасць?

– У мяне заўсёды было па матэматыцы "пяць".

Загарэлася зялёнае вока, і статак машын паімчаў за межы скрыжавання, адна з вуліц якога сыходзіла да завода, дзе Эдвард Яўгенавіч дваццаць чатыры гады па прыступках службовых сходаў падымаўся да сваёй апошняй пасады – галоўнага цеплатэхніка.

– Вам, Міша, семдзесят два?

– Так. Гэта вам Марк сказаў?

– Не. Я склаў вашыя гады да пенсіі – трошкі раней вы, не заўважыўшы, выбалбаталі тое-сёе пра сябе. Улічваючы, што яна ў вас ільготная, перапрацоўку і ўжо чыста адпачывальны перыяд вашага жыцця. Вы на тры гады старэйшы за мяне. Але, як мне здаецца, узрост – гэта не тое, што напісана ў вашым пашпарце. Узрост – гэта адчуванне сябе ў навакольных акалічнасцях.

– Усё роўна, лічы, мы аднагодкі, адно пакаленне. Адна музыка, аднолькавыя штаны калісьці, плашчы... Памятаеце – з "балонні"?

– І дзяўчаты, хутчэй за ўсё, прыкладна аднаго ж тыпажу.

– Так, высокія, стройныя, але не худыя, – сказаў Міша.

– І ножкі, як у танцорак бальных танцаў. Вы, Міша, заўважалі, якія прыўкрасныя ножкі ў іх? Эталон! Мара мужчыны, які цяміць у гэтай справе.

– Вы мелі дачыненне да танцаў, Эдвард?

– Любіў танчыць заўсёды, і калі выпадае цяпер, раблю гэта з задавальненнем. Я вось што хачу яшчэ сказаць: нават сярод модных сёння худых жанчын нашага густу можна сустрэць асобнік, які прымусіць забыцца на ўсе мінулыя прыхільнасці.

– І гэта натуральна. Эталоны прыгажосці могуць мяняцца, але сама агульная прыгажосць застаецца!

– Так, Міша. Яна трымае мір на павадку. Часам і цябе падцягне. І ацверазіць. Адна ўпадабаная паненка нядаўна мне сказала: "Ты – самы дарослы мужчына, з кім я спала". "Ну, вось і дажыў, што цябе абзывае старым твая жанчына", – падумаў я. Але на ўсялякі выпадак сказаў толькі: "І?" – "Я не ведала, што можа быць так цудоўна!" Ці трэба казаць, што ў астатнія да раніцы гадзіны я не адпускаў яе...

– Ёй было гадоў дваццаць пяць – трыццаць?

– Так. Я пайшоў а дзявятай раніцы па справах, а яна працягвала спаць у маім нумары, усміхаючыся ў сне.

– Гэта было ў санаторыі?

– Так.

Як і ў большасці мужчын ва ўзросце, у Мішы былі праблемы з прастатай: кожную гадзіну ён спыняў машыну, заходзіў у кусцікі. І калі побач не пралятала, шыпячы коламі па асфальце, машына, то было чутна, як па траве і кусціках шамацела.

– Так далёка ў гэты бок не заязджаў. Не было прычыны.

– Мы ад'ехалі ад Мінску ўжо кіламетраў сто трыццаць. Можа трошкі болей. Засталося, – вось і паказальнік, дарэчы, – яшчэ трыццаць, – сказаў Эдвард, углядаючыся наперад. – Я гэтую дарогу ведаю нядрэнна. У свой час паездзіў.

– Навошта?

– Падрабляў. Турыстаў вазіў на аўтобусе, экскурсаводам.

– Нават так?

– Многа гадоў, і зімой, і летам, чатыры-пяць разоў на год. Але гэта было, вядома, даўно. Да ад'езду Туды. Я быў яшчэ малады.

– Ясна.

– Міша, ты заўважыў, як нізка неба апусцілася?

– Зараз зноў дождж лупане.

І дождж пайшоў. Але не звычайны дождж, а сапраўдны лівень. Ён мыў стомлены асфальт, гнаў ручаіны па пясчаных збочынах, пакідаючы ў зямлі звілістыя сляды. Дворнікі машыны стаміліся і не паспявалі зганяць шырокія палосы вады.

– Прасвету не відаць. Мы хутка будзем на месцы, давядзецца ногі аб траву мачыць.

– Так, боты не пашкодзілі б, – адказаў Міша.

Калі яны з'ехалі з галоўнай дарогі направа, лівень перайшоў у нудны шэры дождж, які скончыўся хвілінаў праз дзесяць. Якраз, калі "Таёта" падкацілася да стаянкі каля калодзежа. Ад гэтай невялікай пляцоўкі праз дарогу пачыналася сцежка, спачатку ўніз, у лагчыну, а потым яна гублялася ў траве.

Разам падымаліся па пагорку, падышлі да металічнай агароджы, унутры якой быў яшчэ ўзгорак, елкі, помнік і свежыя вянкі. Эдвард і Міша, абышоўшы ўсярэдзіне агароджы ўзгорак, выйшлі вонкі і зачынілі брамку. Сталі супраць помніка, трымаючыся рукамі за жалезныя пруты агароджы.

– Яны не разумелі таго, што адбываецца. Тое было да такой ступені неўяўляльным, што розум не мог гэтага прыняць.

– Я б назваў усё, што адбывалася, абесчалавечваннем, – сказаў Міша.

– Трэба ўдакладніць гэтае слова: абязлюдненнем забойцаў. А тым, у каго стралялі, была незразумелай неабходнасць паміраць, неабходнасць смерці, што прыходзіла звонку і не мае ніякай сувязі з іх целамі. Гінучы, яны ўздымалі вочы да маўклівага неба. Яны нічога не маглі там прачытаць, акрамя надзеі, што іх вернасць Усявышняму можа быць заснаваная на нейкай не бессэнсоўнай аснове свету...

– А Гасподзь адвярнуўся, стаяў да іх спінай, – сказаў Міша, апусціўшы вочы на зямлю.

– Іх апошняя малітва так і засталася без адказу... У тыя імгненні перад адыходам людзі былі абвінаваўцамі, Бог – абвінавачаным. А можа, іх Бога

таксама забілі? Іначай чаму? Некаторыя рабіны ў канцлагерах тады казалі: “Каб гэта было магчыма, Яго трэба было павесіць!” Яны галілі бароды, пераставалі славіць Госпада.

– Хто ў цябе тут?

– Мая бабуля, бацькава маці, цётка з мужам, мае стрыечныя браты і сёстры, іншыя родныя. Такіх узгоркаў у Беларусі, пад якімі мае родныя, шмат. Раней, калі жыў бацька, раз у год мы аб’язджалі гэтыя месцы. А цяпер я бываю толькі тут. Малюся і прашу прабачэння, што не магу пад’ехаць да астатніх.

– Ты будзеш маліцца?

– Так.

– Я пачакаю цябе ля машыны.

Эдвард, прыцiснуўшы да галавы апранутую яшчэ ля машыны кіпу, пачаў чытаць “Бог міласэрнасці поўны...”. Яго народ заўсёды быў у сувязі з Усявышнім, ён быў Ім выбраны. І ў той жа час так рабіць са Сваім народам... “Чалавек – магчымы, Бог – сапраўдны!” – успомніў Эдзік словы бацькі. Бацька верыў у Яго.

– У мяне ў заплечніку дзве стограмоўкі. Сваю я вып’ю, памяну тых, хто там супакоіўся, ну а ты ўжо дома. Добра?

– Вядома, вядома. Дзякуй.

– Ну, а закусіць ты можаш. У мяне сэндвічы з добрай каўбасой.

– А ў мяне карэйская капуста ў слоіку, шакалад і пячэнне.

Расклаліся на капоце, заслаўшы маленькі абрусік з багажніка. Эдвард адкруціў корак і выпіў з рыльца каньяк. Узяў сэндвіч. Моўчкі з’еў яго. Потым другі.

– Жыццё і смерць нейкае імгненне існуюць адначасна, перш чым здрыгануцца ў агоніі апошнім рухам цела... – Эдзік замоўк. Абапёршыся на машыну, глядзеў на акружаны агароджай узгорак. “Ці будзе яшчэ такая магчымасць прыехаць? Не маладзею ж...”

Амаль гадзіну ехалі моўчкі. У кожнага былі свае думкі. Эдвард успамінаў аповеды бацькі пра даваеннае жыццё родных, уяўляючы ў сваіх фантазіях, як бы яны яго, Эдзіка, прынялі.

“Вось жа лёс у народа, – думаў Міша. – Так паслядоўна, з такой упартасцю ні адзін народ не адстойваў сваю ўнікальнасць і ідэнтычнасць, як яўрэі. Калі б не вернасць свайму прызначэнню, яны не выжылі б, пазбаўленыя дзяржавы, зямлі, у безуважлівасці сярод чужых народаў, пад бесперапынным пераследам”.

– Ты думаеш пра яўрэяў? – перапыніў маўчанне Эдвард.

– Так.

– Ведаеш, з чаго складаецца яўрэй? З роздумаў, з бедаў і памылак, знакамітай сумнай усмешкі на твары. З нежадання звацца рабом. У ім пакуты ўсіх забітых ягоных продкаў. Яўрэі заўсёды традыцыйна былі лютымі апанентамі прыхільнікаў касмапалітызму і ўніверсальнай культуры. Калі армія Напалеона падышла да межаў Расіі, заснавальнік Хабада Шнеур Залман з Ляд маліўся за яго паражэнне. Ён усведамляў, што лозунг французскай рэвалюцыі “Усё для яўрэяў як індывідуалаў, нічога для яўрэяў як нацыі”, магчыма, і добры для асобных яўрэяў, але азначае знікненне яўрэяў як народа. І таму расейскія яўрэі дапамагалі сваёй расейскай дзяржаве.

– Дзяржаве-антысеміту.

– Адносіны дзяржавы да яўрэяў падсумоўваліся словамі Елізаветы, дачкі Пятра: “Ад ворагаў Хрыстовых не жадаем цікавага прыбытку”. Рысу аседласці адмяніў толькі Керанскі ў 1917 годзе. Уласна кажучы, традыцыйны расейскі антысемітызм лёгка ўвайшоў у Савецкі Саюз. Можна шмат і доўга размаўляць на гэтую тэму, і ўсяго не раскажаш.

– Я зноў хачу звярнуцца да вайны, – сказаў Міша. – Мне ўсё ж незразумела, як можна было ісці, прабач мне, моўчкі на расстрэл, ведаючы, чым усё скончыцца?

– Старая песня, якую спяваюць, на жаль, многія. Ты знаёмы са станам Чырвонай арміі ў першыя дні вайны? Тады немцы паланілі цэлыя дывізіі. У былым СССР і ў сучаснай Расіі не публікуюць фотаздымкі, дзе суцэльнай плынню на кіламетры ідуць дывізіі савецкіх ваеннапалонных, а па баках гэтага шматтысячнага натоўпу, “ахоўваюць” іх, усяго некалькі нямецкіх салдатаў. Плыве плынь, і ніхто з яе не спрабуе вырвацца, супраціўляцца. Потым частка “плыні” будзе аддана служыць немцам, а частка згіне ў лагерах. І СССР не будзе іх ратаваць, хоць магчымасць была, праз Чырвоны Крыж. Але гэта асобная гісторыя. Расія заўжды хацела і хоча выглядаць пераможцай. Яна забывае любыя паразы і знявагі. Дык вось, тыя плыні ваеннапалонных былі з мужчынаў у самым лепшым узросце. А да равоў вялі старых, жанчын, дзяцей. І ўсё роўна знаходзіліся смельчакі, якія вырываліся з-пад аўтаматаў і ўцякалі. Некаторым шанцавала, і яны заставаліся жывымі. Іх хавалі, рызыкуючы жыццём, звычайныя, прыстойныя людзі. А некаторых...

Мне мама расказвала. Калі ў мястэчку па мосце праз Бярэзіну гналі яўрэяў у лес на расстрэл, два хлопцы кінуліся ў ваду. Адзін выплыў, трапіў да партызан. І тыя яго расстралялі. Ён плыў, плыў, плыў і, калі сканчаліся ўжо сілы, выпаўз на бераг. Поўз па зямлі. Раніцай яго знайшлі партызаны. Хлопец узрадаваўся: будзе помсціць фашыстам за маму, сясцёр, бабулю і дзядулю, за ўсіх, каго ўчора расстралялі немцы. Але яго зноў вялі на расстрэл. Свае. Свае! Чаму? За што? Нехта пахаваў яго. Пасля вайны родныя, якія вярнуліся з эвакуацыі, перахавалі хлопца і хацелі напісаць на помніку, як ён загінуў. Але ўлады сказалі: “Толькі паспрабуйце!”

Калі мне было гадоў трынаццаць і я прыехаў на вакацыі ў мястэчка да бабулі і дзядулі, аднойчы раніцай мы на лодцы перабраліся на другі бераг Бярэзіны. Моста ўжо не існавала. Яго разбамбілі пры канцы вайны. Мы – гэта дзядуля, бацька, сусед Мейер і я. Мейер вёў нас па лесе. Спыніўся і сказаў: “Вось тут”. Злева, акружаны дрэвамі і густымі зараснікамі, ледзь праглядаўся ўзгорак, доўгі і шырокі. Расліннасць на ім рэзка адрознівалася ад таго, што расло навокал. На ўзгоркураслі высокія фіялетавыя кветкі. Гэта прырода так адзначыла месца трагедыі. Іншых прыкметаў, акрамя самога ўзгорка, не было. Хоць пасля вайны прайшло пятнаццаць гадоў. Мы стаялі і маўчалі. Потым бацька памаліўся, і мы ў канцы сказалі: “Амэн!” Дзядуля і бацька пачалі высякаць зараснікі і тонкія дрэвы. Узгорак стаў бачным метраў за пяцьдзесят. З высечаных дрэў, здымаючы кару, дзядуля рабіў жэрдкі. А мы з бацькам пілавалі таўсцейшыя дрэвы на слупкі. Мейер сядзеў на зямлі і цяжка дыхаў. У яго была астма. Гадзіны праз тры зрабілі агароджу вакол узгорка. Мейер дастаў з торбы фанерку, на якой чорнай фарбай было напісана: “Тут, у гета, былі забітыя яўрэі мястэчка Свіслач. Вечная ім памяць!” Дзядуля прыбіў фанерку да высокага слупка, які мы потым укапалі.

Не ведаю, колькі часу прастаяла зробленая намі агароджа. І ці зрабіў хто-небудзь нешта лепей.

Гэта было маё першае жывое, не па расказах, знаёмства з гета...

Мы ўсе даведваліся аб катастрофе ў дзяцінстве. Гэтыя трагічныя старонкі сямейнай гісторыі міжволі рабіліся часткай нас, тым болей, што даведваліся мы з першых вуснаў.

Моўчкі мы вярталіся на лодцы дадому. Бабуля паставіла графін. Дзед і бацька пілі самагон. Моўчкі. Шмат. Потым ляглі спаць.

Пасля вайны яўрэі перадавалі адзін праз другога цыдулкі, у якіх пісалі свае адрасы і прозвішчы з імёнамі тых, каго яны шукалі. Здаралася, што знаходзілі.

Нашая сувязь з нявіннымі ахвярамі, з усімі, хто быў забіты, арыштаваны, прыніжаны, забыты ў агульнай магіле, жывая і зберагаецца. Зараз шмат кажуць пра Еўропу. Яна даўно памерла, у час той вайны. Яна забіла шэсць мільёнаў яўрэяў і замяніла іх на дваццаць мільёнаў мусульманаў. У канцлагерах яна спаліла сваю культуру, мысленне, талент. Яна разбурыла абраны народ. Абраны па-сапраўднаму. Народ, што нарадзіў людзей, якія змянілі свет. Яўрэі падарылі свету паняцце "сумленне".

Дваццаць мільёнаў мусульманаў, якія прынеслі невуцтва, нецярпімасць, злачыннасць і беднасць. Еўропа абмяняла культуру на фанатычную нянавісць, творчы дар на дар разбурэння, інтэлігентнасць на адсталасць і першабытныя забабоны.

Памятаеш, я казаў пра "Боскую гадзіну"? Дык вось, гэта Гасподзь адказаў Еўропе. І прайшло толькі ўсяго паўтары "Боскія гадзіны".

– Дзякуй, Эдзік. Я столькі не ведаў, хоць большасць маіх сяброў да вашага агульнага ад'езду былі яўрэямі. Схіляюся перад мужнасцю і цярпеннем яўрэяў. Дзіўлюся, што ніколі пра гэта не думаў. Выхаванне савецкае, антысеміцкае.

– Доля яўрэяў быць ахвярай гісторыі была адменена з узнікненнем іх Дзяржавы! Якая музыка ў цябе ёсць, Міша? Уключы што-небудзь. О, Фрэнк Сінатра! Музыка дарослых людзей... Калі разглядаць жыццё як кнігу, то кожны дзень жыцця – гэта новая старонка. І яна можа быць поўная сюрпрызаў. Пакуль не перагорнеш яе, не будзеш ведаць, што здарыцца хоць бы заўтра, калі пяройдзеш на новую старонку. А сённяшняя амаль прачытаная. Там, за гарызонтам, у гэтай раўнавазе неба і зямлі, ужо дыхае Мінск. Горад, які я люблю.

– Яшчэ кіламетраў дзесяць, і мы зноў будзем ля варот санаторыя.

– Міша, дзякуй. Вось твой заробак.

– Можа, не трэба?

– Трэба!

Абодва выйшлі з машыны, абняліся.

– Ты мне праз год патэлефануй. Пагаворым. Я пакажу табе мае любімыя дзікія мясціны на беразе Свіслачы. Дарэчы, яны недалёка адсюль. Дзікія мясціны ў самім горадзе.

– Дзеля гэтай "дзічыны" ў горадзе трэба дажыць, "начытаць старонкі".

Ва Украіне прэзідэнт – яўрэй. Багдан Хмяльніцкі, які прадаў украінцаў Расіі і адзін з самых вядомых пагромшчыкаў і антысемітаў, які замучыў тысячы яўрэяў і чыё імя носіць адна з вуліц Мінска, пэўна, перавярнуўся ў сваёй магіле. Пакуль, Міша, пакуль. Дзякуй!

*03.02.2023 г.*

## Цырульня

Гэта былі гады, калі ўсе мужчынскія цырульнікі ў горадзе былі яўрэі. Хоць не: у залінейным раёне, *ін дрэрд кафікал*, у чорта на кулічках, як казалі цырульнікі, не згаджаючыся ехаць туды працаваць, галіў і стрыг Іван Фёдаравіч, стары армейскі цырульнік з гарнізоннага Дома афіцэраў, што ў гарадку Печы. Ён жыў непадалёк ад сваёй "цырульнічкі". Калі Іван Фёдаравіч сыходзіў у адпачынак, на дзвярах маленькай прыбудовы да крамы "Прадукты" з'яўлялася аб'ява: "Майстар у адпачынку да..."

Іван Фёдаравіч не быў адметным цырульнікам, але майстрам мужчынскай стрыжкі, боксаў і паўбоксаў, якія адвастрылі яго майстэрства за многія гады, ён, безумоўна, быў.

Калі пабудавалі ў цэнтры горада, метрах за пяцьдзясят ад царквы, трохпавярховы дом, то першы паверх з вялікімі арачнымі вокнамі аддалі пад гастраном і цырульню. Усіх майстроў з будачак, прыбудоў з адным, максімум двума крэсламі перасялілі ў гэтае памяшканне. Тут, у вялікай зале, праз вокны на вуліцу глядзелі дзесяць крэслаў, а вакол іх кружыліся цырульнікі, што стрыглі і галілі сваіх кліентаў.

У дамскай зале, якая праз невялікія вокны глядзела ў двор і дзе ўвесь дзень з-за гэтай дваровай цемры гарэла электрычнасць, было шэсць крэслаў. Манікюрша Рыта сядзела адразу ля ўваходу ў дамскую залу, злева.

Яшчэ ў цырульні была зала чакання з касай і касіркай, гардэроб з гардэробшчыцай, які пачынаў працаваць з сярэдзіны восені, пасля першых халадоў.

Увогуле, добрая ўстанова, якая працавала ў дзве змены, з сямі раніцы да дзесяці вечара.

У дамскай зале "круцілі галовы" Аркадзь і тры яго калегі. Дарэчы, Аркадзь быў адзіны, хто мог апрацаваць і мужчынскія, і жаночыя галовы. У астатніх была спецыялізацыя. Пэўна, таму Аркадзя пазней перавялі ў цырульню пры гарадской лазні нумар адзін, у той жа старой частцы горада. Там у адным крэсле сядзела, чакаючы, накручаная кліентка, а ў другім Аркадзь апрацоўваў мужчынскую галаву.

Канечне, Аркадзь, як і Зінка Мулькіна, – другі нумар пасля яго ў жаночай зале, не быў Відал Сасунам у жаночых прычосках. У гэтай цырульні ўкладвалі доўгія валасы, карыстаючыся бігудзямі, потым начос і шмат лаку. Навум, з мужчынскай залы, называў гэтыя прычоскі "старэчымі гнёздамі", хоць гэтыя "гнёзды" сядзелі на маладых галоўках.

Пэўна, кагосьці здзіўляе, што мужчынскіх майстроў было нашмат больш, чым дамскіх. Усё тлумачыцца проста: мужчын-кліентаў было больш. І яны, акрамя стрыжкі, яшчэ і галіліся. Тады было так прынята: як мінімум раз на тыдзень галіцца ў цырульні. З кампрэсам, масажам твару, а потым уціралі крэм. Улічваючы тое, што абслугоўванне ў мужчынскай зале каштавала капейкі і было непрацяглым, а ў дамскай зале – рублі і часам гадзіны, то штат цырульні так і склаўся. Увогуле, дамы ў тыя гады ў асноўным прыходзілі і запісываліся да свайго майстра на канец тыдня, перад вяселлямі, дзе яны былі нявестамі і гасцямі, перад днём народзінаў, перад паходам у рэстаран. А так, у паўсядзённым жыцці, дамы ў асноўным займаліся прычоскамі дома. Накручваліся нанач і прыгажунямі ішлі раніцай на працу ў канторы, кабінеты, магазіны. Астатняя "працоўная людзіна", па выразе Раі, гардэробшчыцы, – заводы, будоўлі і іншая фізічная работа, – абыходзілася

неяк без прычосак, проста расчэсваліся. Бывала, што дамскія майстры праседжвалі палову змены, і нават змену – “не ішоў кліент”, у сэнсе, кліентка.

У мужчынскіх майстроў праца была. Але ўзімку і ў іх на ўсіх не хапала. І тады пачынаўся сезон адпачынкаў. Неахвотна – не тое надвор'е за акном, па два-тры майстры сыходзілі на “гулянку”. Так называла гэты момант Рыта, манікюрша.

Майстрам мужчынскае залы было за пяцьдзясят. Некаторыя падбіраліся да пенсіі. Толькі брыгадзіру Аліку было сорак чатыры. І, у адрозненне ад калегаў, у яго на галаве яшчэ быў сад. Астатнія блішчэлі лысінамі. Наогул, паляна на галаве – часты яўрэйскі спадарожнік. “Вумны волас пакідае і галаву цырульніка”, – так казаў Навум. Калісьці ён стрыг яшчэ ў польскім Беластоку. Інтэлігентнейшы чалавек з “традыцыйнымі заходнімі замашкамі”. Так казаў пра яго Буслаў, калега, і таксама лысы, але, у адрозненне ад Навума, на ўсю галаву, якая паходзіла на більярдны шар.

Навум адзіны, хто апранаў на працу гальштук. І не доўгі белы халат, як усе цырульнікі, а падоўжаны белы пінжак, перашыты з халата.

У кожнага майстра сваё кола пастаянных кліентаў. Але калі заходзіць чалавек не з “кола”, яго запрашае той, чыя чарга працаваць: нумары крэслаў, напісаныя на фанерных квадраціках, выстаўлены адзін за адным на падваконніку. Майстар запрашае кліента і ставіць свой нумар у канец чаргі.

Канадка, бокс і паўбокс, нулёўка – гэта калі машынкай састрыгалі ўсю расліннасць – галоўныя прычоскі.

Дарэчы, пра нулёўку. Калі пачынаўся прызыў у армію і сотні п'яных прызыўнікоў запаўнялі начны двор ваенкамата, асветленага пражэктарамі, іх па адным выклікалі ў адзін з пакояў, дзе Алік машынкай рабіў усім аднолькавыя прычоскі – стрыг налыса. Выйшаўшы з памяшкання і прыткнуўшыся да плота са шчылінамі, за якім стаялі родныя, некаторы час хлопец з голай галавой заставаўся непазнаным.

Алік працаваў хутка. Дзесьці а чацвёртай раніцы з'яўляліся аўтобусы, і хлопцы пад слёзы, смех і гармонік, ад'язджалі выконваць грамадзянскі абавязак. Ён набягаў вялікі: тры гады, а ў марачкоў – усе чатыры.

Хаўтура ваенкамацкая была выгаднай. Таму Алік нікога да яе не падпускаў. Калі-небудзь браў на дапамогу жонку. Тая хутка навучылася стрыгчы налыса. Уласна, не вялікая мудрасць.

Яшчэ пра Аліка. Ён валодаў нейкім асаблівым прыцягненнем. Яго ўменне прычараваць да сябе было такім моцным, што праз некалькі хвілінаў кожны, хто садзіўся ў ягонае крэсла, адчуваў сябе лепшым сябрам і заводзіў шчырую размову. З гэтых сяброў зрабілася кола людзей, патрэбных для існавання ў звычайным жыцці: шафёры, маляры, слесары і сталяры, мяснікі, загадчыкі рознымі складамі, у тым ліку гартопа – у Аліка была свая хата з паравым катлом, а добры вугаль заўсёды дэфіцыт. Новыя знаёмыя рабілі жыццё лягчэйшым. Вырашалі шматлікія праблемы.

Уласна кажучы, і ў іншых цырульнікаў сярод пастаяннай кліентуры былі патрэбныя людзі. Але такой шырыні і размаху, як у Аліка, не было ні ў кога.

Алік “вісеў” на “Дошцы перадавікоў” як у самой цырульні, так і на агульнай камбіната бытавога абслугоўвання, сярод шаўцоў, краўцоў і фатографаў.

Паступова яўрэі сыходзілі. Хто на канчатковую пенсію – “сілаў больш няма тупаць дзень вакол крэсла” – гэта тыя, хто ўжо некалькі гадоў лічыўся

пенсіянерам і атрымліваў да пенсіі падпрацоўку, звычайную зарплату. Іншыя сыходзілі, як кажуць, "у сілу натуральных прычынаў". Карацей кажучы, пачалася змена пакаленняў. У гэтай змене яўрэяў ужо не было. Дзеці цырульнікаў станавіліся інжынерамі і дактарамі, і змяніць бацькоў, як гэта было некалі зазвычай, цяпер не было каму. З чыста яўрэйскай, разам з шаўцамі і краўцамі, якія таксама традыцыйна былі яўрэйскімі, прафесіі цырульніка ўжо вучылі ў спецыяльных школах, а не, як гэта было раней, на рабочым месцы.

А вось жонка Аліка, Галя, калі дзеці пайшлі ў школу, авалодала майстэрствам за гадзіну. І хутка ў яе з'явілася свая кліентура. Нават жаночая. Галіны стрыжкі станавіліся папулярнымі. Тады з'явіліся мініспадніцы і, вядома ж, розныя "бабеты" і "гнёзды" не пасавалі да доўгіх ног. Жаночыя прычоскі, што рабіла Галя, працуючы ў мужчынскай зале, не патрабавалі ўкладачных сродкаў. Нажніцы, расчоска, фен рабілі прычоскі Галі простымі і элегантнымі. Валасы аднолькава добра ляжалі як праз дзень, так і праз некалькі тыдняў. Як кажуць, "салонная памяць".

Алік дзівіўся той хуткасці, з якой Галя за некалькі хвілінаў магла апрацаваць галаву кліента. Таму "канкурэнтку" ён паставіў працаваць у іншую змену.

Так яны і кружылі вакол аднаго крэсла, злева ад увахода ў залу, у розныя змены. Але ў кожнага быў свой інструмент, да якога прывыклі рукі.

Так, у Галі справа пайшла добра. Хоць да замужжа яна працавала ў гандлі, у мэблевай краме. Але гэта было даўно.

У абноўленым калектыве, акрамя Галі, з'явіліся тры дзяўчыны. Сімпатычныя, прывабныя, як і большасць цырульніц-выпускніц спецыяльнай вучэльні. О, яны маглі не толькі "абалваньваць" галовы звонку, але і ў сярэдзіне гэтых галоў нарабіць шоргату. У дзяўчатак з'явіліся хлопчыкі. Часцей за ўсё з прыстойных сем'яў, у тым ліку і яўрэйскіх. Быў такі талент у гэтых чараўніц-цырульніц – знаходзіць добрых хлопцаў. І тады часцяком пачыналіся скандалы. "Ты адукаваны і разумны, а яна нейкая цырульніца, якая ўвесь дзень круціцца вакол мужчынаў..." Карацей кажучы, чарговая "Сільва".

Наташа працавала за суседнім крэслам. Ёй было ўжо дваццаць пяць, і яна яшчэ ні разу не хадзіла замуж. Хоць вонкавыя дадзеныя – закачаешся. І спаднічка заўсёды крыху вышэй за калені, і халацік-пінжачок прасвечваецца і прыцягвае погляд да верхніх выпукласцяў, западзіна паміж якімі бачная досыць глыбока. Людзі казалі, што яна патурала любому капрызу свайго пругкага моцнага цела...

Алік прыглядаўся. Месяц. А потым захацеў аслабіць вузел вернасці. Часам нечакана вельмі хочацца аслабіць яго. Табе здаецца, што сустрэў тую, што вельмі хоча паказаць, і менавіта табе, сваю шыкоўную бялізну, і тое, на чым гэтая бялізна трымаецца, і наогул, увесь таварны выгляд.

Алік прыкрываў вочы і ўяўляў незнаёмыя пальчыкі з кіпцікамі колеру бардо, якія толькі што хавалі чорныя калготкі. А потым, падняўшы абедзве рукі, яна выслізгвае са сваёй сукенкі, якая кладзецца на падлогу вакол яе ног. Вочы і цела яе запрашаюць цябе...

Адкрыўшы шырока вочы, ён тузануўся целам, нібыта атросся. І хочацца, і колецца.

Наташа, як жанчына вопытная, улавіла думкі і жаданні свайго брыгадзіра. Калі разглядаць яго проста, як мужчыну, то яму было трохі за сорак, ён высокі, правільныя рысы твару, прамы нос, энергічны вялікі рот.

Шырокі лоб, чорныя валасы, зачасаныя назад. Вялікія цёмна-шэрыя вочы былі добрымі. Карацей кажучы, калі б паступіла прапанова, яна была б згодна. А пакуль уключыла рэжым чакання. Намёкі поглядамі, "выпадковае" трэнне ў час кружэння між крэсламі, на якіх сядзяць кліенты...

У вячэрнюю змену, калі амаль не было работы і цырульнікі бавілі час, седзячы ў сваіх крэслах, Алік падышоў да вакна. Там, на вуліцы, была восень. Лістота клёнаў ляжала на тратуары, часам пад ветрыкам злёгку прыўздымалася. Рэдкія мінакі, пазіраючы на ярка асветленыя вокны цырульні, праходзілі міма, хто хутка, хто няспешна.

Навум, чыё крэсла было побач з акном, нібы спецыяльна напяваў спачатку па-польску, а потым у сваім перакладзе, песеньку: "Калі ты наткнуўся на нешта добрае, трэба хапаць, пакуль не надыдзе час адпусціць..."

У Навума быў добры настрой. Два тыдні таму ён перамог на абласным конкурсе цырульнікаў, пасля ранейшай перамогі на гарадскім. Не маладыя, а ён, у свае пяцьдзесят восем гадоў. Раней ён ніколі не ўдзельнічаў у такіх, як казаў калега Кагановіч, "сходках". Але тут быў матэрыяльны фактар: пераможца атрымліваў штомесячны дадатак да заробку ў дваццаць рублёў і званне "майстар-мадэльер". Перад сыходам на пенсію, каб павялічыць яе, гэта было вельмі важна.

Яго мадэль, высокі сімпатычны хлопец з шыкоўнымі валасамі на галаве, які, дарэчы, ужо некалькі гадоў быў пастаянным кліентам, за месяц да конкурсу прыходзіў да Навума ў цырульню раз на два тыдні на "рэпетыцыі". Пасля стрыжкі аглядальнікі і асабліва аглядальніцы прызнавалі, што "галава проста шык".

Партрэт хлопца пасля перамогі Навума "ездзіў" на вітрыне машыны КБА – камбіната бытавога абслугоўвання – амаль год, пакуль бацька хлопца не выкупіў яго ў шафёра за бутэльку гарэлкі.

Алік адышоў ад акна да свайго крэсла і сказаў Наташы:

– Затрымайся.

– Добра, – адказала тая.

У той вечар і пачаўся службовы раман.

Гэта былі радасці прыхапкам. Праўда, калі яны днём сустракаліся ў Наташынай кватэры, усё было вельмі бурна, без стрымлівання жаданняў, у адрозненне ад цырульні.

Усё таемнае рана ці позна становіцца відавочным. Праз два месяцы прыхаваных адносінаў манікюрша Рыта – у жанчын абвостраны нюх на чужое незаконнае шчасце – заўважыла ў паводзінах Наташы змены: прапала нахабства і... нявыспанасць. І размовы пра шумныя кампаніі, калі віно ліецца ўнутр ручаём.

– У цябе, мілая, з'явіўся палюбоўнік?

– З чаго гэта ты ўзяла, Рытка? А калі і так, то што?

– Так, цікава.

– Што цікава?

– Хто ж той шчаслівчык, чыім стала гэтае шыкоўнае цела?

– Яшчэ ніхто. Пакуль толькі аднаразовыя мужчыны, для здароўя. Але я, як ты ведаеш, адкрытая для сур'ёзных прапаноў.

– Мне б твае дадзеныя! – зайздросліва вымавіла незамужняя трыццацігадовая Рытка. Адзін раз яна ўсё ж схадзіла замуж, дзевяць гадоў таму. Ад той "хады" сямігадовы сын.

– Гляджу, – працягвала Рыта, – і я ўпэўнена, што рэдкі мужчына,

гледзячы на цябе, не марыць, каб займець усё тое, чым ты багатая знешне. А жанаты марыць стаць халасцяком.

– Глупства ўсё гэта. Але кошт сабе я ведаю.

– Ёсць у мяне адна кліентка, – працягвала Рытка, – калісьці гэта была прыгожая жанчына. Прыгажосць сваю выкарыстоўвала не безразважна, без распушчанасці. Пра гэта кажа яе яшчэ малады погляд. Больш, чым быць палюбоўніцай, ёй падабалася шыкоўна апранацца і бавіцца прагнымі паглядамі мужчынаў. Яна поўнілася ў такія моманты шчасцем квітнеючай яблыні. Яна і зараз баба што трэба. На яе ўсё гэтак жа заглядаюцца мужыкі, асабліва калі нага на нагу пакладзе і пахітае ёю. У яе проста шыкоўныя ножкі!

– Гэта ўсё ты да чаго?

– Ды так, чамусьці ўспомнілася.

– І што гэта за намёкі? Мне проста не шанцуе. Пакуль не шанцуе.

– Пашанцуе, – сказала Рытка, манікюрша, адышла і пачала ўважлівей кожны дзень назіраць за Наташай.

Жыццё праходзіць не без наступстваў. Адносіны ўсё глыбей зацягвалі ў сябе Аліка і Наташу. Часам яны гублялі пільнасць, і ўважлівы назіральнік мог заўважыць то далікатны погляд, то "выпадковае" пагладжванне, то занадта ўжо шчыльнае трэнне, калі, абслугоўваючы кліента, яны сутыкаліся на адным баку. Паўгадзіны пасля вячэрняй змены яны любіліся ў складзіку, не дурылі галаву службай ды іржавымі абломкамі думак. Ім трэба было спяшацца, каб Алік зачыніў на ключ цырульню і ў час прыйшоў дадому.

Наташа ўсё часцей думала пра тое, што вось гэтага мужчыну яна б выбрала сабе ў мужы. Але ён ніколі не пойдзе ад Галі. Таму Наташа будзе мець яго колькі ўжо дадзена. А там...

А Алік глядзеў на Наташу, на яе прыгожыя каленні. Прыгожыя – гэта тыя, на якія хочацца глядзець і цішком, і адкрыта.

Рытка "засекла". Але нікому нічога не казала. Акрамя Галі. Тая не паверыла.

– А ты прааналізуй яго паводзіны апошнім часам. Сёе-тое заловіш.

Галя прыйшла ў цырульню ў дзесяць пятнаццаць. Адчыніла дзверы запасным ключом, які заўсёды захоўваўся ў іх дома. Прыйшла своечасова. На лбе ў Аліка стаялі кроплі поту, а Наташа яшчэ перарывіста дыхала. Прычоска ў яе была, як пасля выбуху на макаронавай фабрыцы. Усе трое маўчалі. Потым Галя ўляпіла Наташы пару аплявух са словамі: "Гэта маё! Чужое не чапай!" А Аліка яна вытнула ў жывот, таму што вышэй проста не даставала.

– З заўтрашняга дня яна працуе са мной у адну змену. Чуеш, муж?

Цэлы месяц Галя сустракала Аліка пасля другой змены ці Алік сустракаў Галю таксама пасля другой. Таксама месяц ён спаў на старой канапе і не разумеў, чаму раней не згаджаўся з Галяй, што гэта скрыпучае барахло са спружынамі, якія выскачылі ў двух месцах, даўно трэба было выкінуць і купіць новую канапу. Што і зрабіў, калі зноў быў дапушчаны да Галінага цела.

Самае дзіўнае ў гэтай гісторыі было тое, што Галя і Наташа... пасябравалі. Маладая сяброўка пачала давяраць старэйшай свае таямніцы. Так Галя даведалася пра маладога чалавека, з кім у Наташы завязаліся блізкія адносіны. З падрабязнасцяў высветлілася, што гэта Галін... пляменнік. Не прызнаўшы ўслых сваяцтва, але падумаўшы "вось сука, так паспяхова

чапляе маіх родных", яна расказала ўсё сястры. І калі сынок пад раніцу вярнуўся дадому, мама сказала: "Ты не знайшоў пашы лепей?" І пачала расказваць падрабязнасці яго сустрэч з Наташай. Сынок глядзеў на маму здзіўлена-захопленымі вачыма, і ўпэўненасць, што гэта была іх з Наташай апошняя ноч, насоўвалася няўхільна.

– Мама, я ўсё зразумеў. Пашукаю кармленне на іншым полі.

А Наташа плакала. Скардзілася Галі на лёс і што вось такі добры хлопчык адвярнуўся ад яе і, галоўнае, не гаворыць чаму.

У кожнага свае праблемы. І ў кожнага свае надзеі. Наташа хацела замуж. Але не складалася. І яна пачала сваю нескладуху заядаць. Нарасціла два памеры і стала... брыгадзірам у сваёй жа цырульні. Цяпер гэта была поўная жанчына, памерам як калісьці працаваўшая Кагановічыха, але інкруставаная дыяментамі. Да яе прывязаўся адзін каўказец, якога яна часам дапускала да сябе, вымыўшы яму ў цырульні галаву, пагаліўшы і наадэкалоніўшы. Ён гандляваў на рынку месяцаў сем у годзе. Потым з'язджаў і зноў вяртаўся. Але калі нечакана абломваўся хтосьці з наборам якасцяў, якія яна прызнала для сябе шмат гадоў таму, Наташа адхіляла ад сябе чарговага прыхільніка і перамыкалася ўсёй сваёй істотай на новага мужчыну.

Але як сказана: "Усё праходзіць!" Будучыня шчасця адсоўвалася з кожным годам. Каб зняць напружанне, яна налегла на шампанскае. Гэты вядомы жаночы прыём ніколі яе не падводзіў.

Калі Наташа была прызначаная брыгадзірам, у цырульні не засталося ўжо ніводнага яўрэя, ні ў мужчынскай, ні ў жаночай залие. Алік перадаў ёй справы і з'ехаў у Амерыку, да сына. Ён быў апошнім з той эпохі, калі галенне і стрыжка лічыліся яўрэйскай прафесіяй.

Наташа глядзела на яго з сумнай, збянтэжанай усмешкай. З вачэй цяклі слёзы. Іх прамінулы час быў адным з лепшых у яе жыцці.

На змену нечаму аднаму заўсёды прыходзіць нешта іншае. Нейкая гісторыя толькі для таго і заканчваецца, каб магла пачацца новая.

*28.01.2023 г.*

Яна Будовіч



...Поўня глядзела ў палонку срэбрам.
Гэтак і Ён –
у бяздонне душы –
любоўю, пяшчотай, даверам...

# Заплюшчыш вочы – і пабачыш больш...

* * *

*мінуламу*

Поўніла
прорву пад лёдам
поўня...
Чаму, чаму не сышлі мы
ў срэбранае бяздонне?..

...Дна не было, і ламаўся дол пад рукамі.
Нявінныя, як анёлы, анёламі сталі б самі...

Ужо не станем –
так накасячылі, хоць адбаўляй:
сплыло
срэбранае святло,
і наш – цяпер непатрэбны – рай...

Ведаць бы толькі, якую
праходзім з місій,
хто
і нашто
выцягнуў нас тады
з той ледзяной бяды,
цягне й цяпер,
пульсуючы ў думках адным:
“Не спыніся!
Не марна нішто. Вер!!!”

Зрабіўшы такую ласку,
ізноў Ён схаваўся ў казку –
гляне раз-пораз адтуль, лагодны,
на свет, што хвілінку – цёплы,
ды век – халодны...

...Ты існуеш ад стрэчы да стрэчы –
як справаздача – празрыстыя вершы...
Быццам у Бога вымольваеш тое,
чаго не было і не будзе ніколі...

Я – ад жыцця спрабую схавацца,
са сценкаю зліцца, зашыцца ў працу...

Вавёркай па пеклавым коле –
рэальнасці дотык вянчаны з болем...

...Слухай, а раптам праўда:
раз Ён ратуе,
значыць, бязмежна добры
і ўсё даруе...
Поўня глядзела ў палонку срэбрам.
Гэтак і Ён –
у бяздонне душы –
любоўю, пяшчотай, даверам...

* * *

Заплюшчыш вочы – і пабачыш больш.
Сусвет у сэрцы птушанём заціх.
Святло пульсуе, і пульсуе боль.
Няма мяжы між імі і для іх...

* * *

Мне дастаткова *Do* –
То і няхай гучыць!
Там, дзе Аідам уласны дом,
*Dominus*, не маўчы!

Хай цішыню разрэжа
*Dominus, Do* ўразлёт.
Смерць – як мяжа, а жыццё – бязмежжа, –
Так ці наадварот?

Той, хто ўяўляе доўга
Бездань як шчэрыць рот, –
Робіцца невымоўным
Для ўсіх жыцця даброт.

*Dominus, Do*, гучы!
Кліч у сапраўдны дом!
Толькі ў Цябе ключы...
Шлях, які ёсць жыццём.

* * *

Паразмаўляй са мной,
Анёле мой,
калі народ
у ноч на Новы год
на вулку высыпаў у пошуках прыгод,
а мне – нясцерпная самота.

Сябры – за кратамі ці за мяжой,
і толькі ты заўжды
за спінаю маёй
ад ліха ыратоўваеш употай.

А лепш пакінь мяне, Анёле мой,
адна пабуду рэшту ночы.
Ляці і перадай “люблю” таму,
каму
пра гэта не скажу сама.
Хай стане хоць на міг цяплей яму.
Згадае хай: палярная зіма
скончаецца аднойчы...

...Салюты. Весялосць. Гірлянд агні.
Як вернешся, Анёле, адпачні.
Я абяцаю берагчы сябе
ад рознага вар'яцтва,
Таго, каго люблю,
чакаць і дачакацца...

* * *

Пакіне лета на рачным пяску
той сум, што ператвораны ў муку.

Ён быў – і больш няма: ураз вада
змывае, паглынае без сляда.

Навошта сум рацэ, цікава мне.
Я плыні ў думках выкажу сумнеў:

– Цяпер замест мяне журыцца ёй?
– Узорам сыдзе з пенаю рачной.

З нябёсамі зліецца ў люстры дзён,
а ўночы зор малюнкам стане ён.

– А мне – пустэча – лепей ад яго?
Кранае вецер пер'е трыснягоў:

– Ляці, душа, ты ведаеш сама:
Манетка мае рэшку і арла...

* * *

Сум па нябёсах пераплавіўшы ў святло,
Анёл, якога кінулі ў жыццё без крылаў,
мяне пашкадаваў і атуліў цяплом.
Каб тое, *як было ля Бога*, не забыла...

* * *

Аблокі з-пад акоў туману выступаюць –
ты ўжо нібы не тут – абрысы гор
для позіркаў сустрэчных адкрываюць
свой спаконвечны снежны ўбор.

І непрыступныя ўзвышаюцца аблiччы,
як вартавыя часу ў прывідным жыцці.

Пакінуць звыклы свет маўкліва клічуць
і да нябёсаў узысці.

### ***ЗАЦКАВАНАСЦЬ***

Апатыя
з'ядае рэшткі эмоцый,
жывіцца ценямі страхаў...
Выходзіць за межы цела,
запаўняе ландшафт,
шырыцца да далягляду...
Людзі – як бутафорыі.
Дэкарацыі
ў пустыні са штучным святлом.
І ты сярод іх –
мішэнню...

* * *

Цыкады думак, лабірынт бяссоння.
Размоў мінулых анфілады...
Хімеры, страхі, як з бяздоння,
вылазяць з памяці шуфлядаў...

* * *

Нябачны ля пляча майго – анёл.
Святлом нябесным моўчкі атуліў,
сагрэў, нібы ў далонях птушанё.
Пяшчоты Боскай з'ява на зямлі...

Бязвер'я, недаверу краты, што
былі мацнейшымі за лёс і кон,
у невараць знікаюць без слядоў.
Яснее позірк Бога. Побач Ён...

* * *

*Уладзіміру Караткевічу*

Згасае свечка...
Дзень датлее.
І жыццё.
Ды цьмянае святло паміж магіл
вандроўніку адкрыецца наноў:

глядзі: у кроку – небыццё.
Утульна, цёпла ў ім –
хадзі, хадзі дамоў!..

Душа бадзяжная рванецца
вышэй крыжоў
і стомленага сэрца:
я ўдома ўжо!
Мой дом – паўсюль –
любоў...

* * *

Трывог ланцуг і невымерны суму цяжар –
увесь набытак дзённы надвячоркам ляжа
ў нататнік вершамі ў недасканалай форме.
...Анёл пабачыць з-за пляча. Крылом агорне...

* * *

*Яне Цэгле*

ты перасоўвала дні
ў календары маім –
без тваіх рук
час разарваўся –
стаў калатушай
на бездарожжы
між “тут” і “цяпер”

словы твае
вярталі жыццё
кветкам засохлым –
цяпер
сочацца ў шчыліны казематаў
і ажыўляюць камні
ў турэмным двары

ды што да таго
вясне
якая
не мае ў каго вучыцца
і памірае
ў пятлі разлукі
тут...

## *СПЯКОТА*

Дзень вахту здаў: расслаблены, прылёг
на коўдры траў паміж вяргінь ля дома.
...Акно ахоўваў мёртвы матылёк,
не мог спыніць – насоўвалася ўтома.

Запаланіла ўсё: пакой, спакой,
і мроі, і ўспаміны, вечар зыбкі...
І далячынь з няўцямнаю тугой
злівалася ў адно: гучала скрыпка...

Галіна Самойла



...дзве падобныя душы
пазналі адна адну...

# Снег

***Апавяданне***

Слёзы капалі на снег, і ён ператвараў іх у малюсенькія лядзяшыкі. Сонца рассыпала па снезе мільярды іскрыстых усмешак. Мая душа ўсміхалася ім у адказ, таму што я плакала не ад гора і не ад крыўды. Ад таго расчулілася, што мне паспачувалі.

Ішла да прыпынку на ўскрайку вялікай вёскі ў прыгарадзе Гродна. Прыехала сюды па аб’яве пра магчымае працаўладкаванне ў невялікую прыватную мэблевую фірму. Дырэктар прадпрыемства ацаніў мае магчымасці так: “Па вас відаць, што вы будзеце старацца, але ў вас не будзе атрымлівацца. Вам лепш займацца разумовай працай”. Я прамаўчала пра тое, што настаўнічаць я больш не магу і не хачу, што ні ў якую мясцовую рэдакцыю карэктарам мяне не ўзялі, што ў бібліятэцы для мяне замалая зарплата, бо ад былога мужа на выхаванне двух сыноў-школьнікаў не атрымліваю нічога, што не ведаю, якая яшчэ разумовая праца можа быць у філолага.

Наважылася сказаць “да пабачэння” і рушыць да дзвярэй. Але пранікнёнасць дырэктара на першым назіранні не закончылася. Ён прамовіў:

– У вас, напэўна, ёсць дзеці.

– Ёсць, два сыны.

– А вы, прабачце, адна іх выхоўваеце?

– Адна.

– Даруйце, што я нічым не магу вам дапамагчы. Але мы можам узяць на працу вашага сына. Няхай прыходзіць пасля школы, і мы тут вызначым, ці здольны ён да нашай вытворчасці.

Мне было адмоўлена так па-чалавечы... А на чалавечнасць у мяне аўтаматычная рэакцыя – слёзы. Яны пачалі імкліва паднімацца з душы да вачэй, і я хуценька падзякавала за сына і развіталася, каб не расплакацца перад дырэктарам.

У цэх падсобнай гаспадаркі на прадпрыемстве “Гродна-Азот” мяне не хацелі браць па той жа прычыне: “Не справіцеся, вялікія фізічныя нагрузкі”. Я меркавала, што на некалькі гадоў мяне хопіць: я ж з вёскі і пра ўсё, што мне давядзецца рабіць у гэтым цэху, добра ведаю. Таму настойліва хадзіла то да начальніка падсобнага цэха, куды мяне пасылаў загадчык аддзела кадраў, то да загадчыка аддзела кадраў, куды мяне пасылаў начальнік падсобнага цэха. Нарэшце загадчык аддзела кадраў здаўся: “Добра, афармлю вас, раз вы ўсё ходзіце і ходзіце. Але Здановіч (начальнік цэха) вас выгане, калі вы не справіцеся”. На грубасць, абразлівасць у мяне аўтаматычная рэакцыя – упартасць, таму з гэтага моманту я ўжо дакладна ведала, што або спраўлюся, або памру на працоўным месцы. Так атрымала я чарговы запіс у працоўную кніжку аб новай для сябе пасадзе з прыгожай назвай – “рабочая зялёнага будаўніцтва”.

А зіма разлютавалася так, нібы мой Лёс спецыяльна перанёс яе з майго вясковага заснежанага дзяцінства ў маю гарадскую, амаль бясснежную дарослаць, каб мяне выпрабаваць. Снегу намятала мне па грудзі, і мы, брыгада з 6 жанчын, павінны былі вызваляць ад яго дарожкі на прыазотаўскай тэрыторыі, у так званай санітарнай зоне. Нам на дапамогу далі мужчын-касцоў, якія летам сачылі за ўзроўнем травы на газонах, а зімой накіроўваліся на “розныя работы”. Працаваць з намі касцам не падабалася, і яны агучылі, чаму: “Гэтыя бабы ачышчаюць дарожак менш за нас, а грошы атрымліваюць такія ж самыя”. Каб падагнаць працу да грошай, яны вызначылі для сябе “нормы” і перыядычна паседжвалі ў бытоўцы.

А мароз усё кусаецца і кусаецца. А снег усё падае і падае.

***

Вера снег шугуе. Яна з-пад Дзятлава.

Пачынае шугаваць снег, пакуль яшчэ гэтаму працэсу не замінаюць людзі, у гадзін 6 ці нават 5, хоць працоўны дзень – з 7-мі. Для Веры гэта не складана, таму што жыве яна недалёка ад месца працы, на азотаўскім лецішчы. Верына лецішча знаходзіцца ў забароненым месцы, “пад трубамі”. Яно набытае танна, таму што папярэднім гаспадаром не магло быць афіцыйна афармленым. На сапраўднае лецішча ў Веры не было грошай. І не было ўжо сілаў пасля разводу жыць у адной кватэры з былым мужам ды паціху тыя грошы збіраць. Сэрца патрабавала неадкладна хоць куды-небудзь, хоць на цёплы час з’язджаць, і Вера яго патрабаванне задаволіла такім вось чынам.

Дзеці не былі супраць, яны ўжо дарослыя, з бацькам ладзяць, і на лецішча да мамы ім спадабалася наведвацца. Дачка ўжо некалькі гадоў як працуе. А сына, калі закончыў ПТВ, Вера ўладкавала трактарыстам на “Азот”.

На суседнім, таксама падпольным дачным участку апынуўся Паша, такі ж уцякач ад сумеснага пражывання ў гарадской кватэры з былой жонкай пасля разводу. На Пашавым участку стаяў толькі вагончык, і мужчына пачаў часта гасцяваць у Верыным доміку, знайшоўшы там больш утульнасці і прыемнасці, чым у сваім жытле. З цягам часу Вера з Пашам перайшлі ад статусу суседзяў да статусу сямейнікаў. Уцяплілі цяпер ужо іх агульны домік, паставілі шклопакеты, нарыхтавалі на зіму дроваў і купілі генератар, бо электрычнасці на нелегальных лецішчах не было. Уключалі яго зімовымі вечарамі на гадзіны дзве – тры: памыюць адзенне ў пральнай машыне, паглядзяць трохі тэлевізар і кладуцца спаць. Устануць раненька, і першай з усіх нас Вера ўжо шугуе снег на сваім участку: спачатку на прыпынку аўтобуса, потым пераходзіць на дарожкі.

У Веры баляць калені і хрыбетнік. Яна носіць з сабою на працу лекі, якія абяцаюць іх абязбольваць і аднаўляць. Але пакуль што зусім мала дапамагаюць. А на працы, як заўсёды, несастыкоўкі. Пасля таго, як Вера раненька-рана вышугуе ад снегу свой прыпынак, выязджаюць машыны, якія счышчаюць снег з шашы і нагортваюць яго валам ізноў на прыпынак. Даводзіцца шугаваць паўторна.

Вера марыць пра справядлівасць, і таму яна шмат разоў выказвала кіраўніцтву прэтэнзіі з гэтай нагоды і з іншых нагодаў, і не толькі за сябе, але і за ўсіх нас. Але ніякіх зменаў не адбылося, а толькі стварыліся праблемы ў яе адносінах з вышэйстаячымі. Таму Вера павесіла абразок Ефрасінні Полацкай у сваёй шафцы ў бытоўцы, і кожны раз, калі адкрывае дзверцы шафкі, звяртаецца да Святой абаронцы жанчын беларускіх – просіць у яе даць сілаў перажыць усялякую несправядлівасць і гэтую зіму ды не стаць інвалідам.

***

Ірынка снег вашуе. Яна з-пад Іўя.

У яе самы адказны ўчастак – насупраць офіса прадпрыемства. Ірынка ходзіць так імкліва і лёгка, што здаецца, нібы ляціць над самай паверхняй зямлі. Гаворыць таксама хутка і з пералівамі тонаў. За ўсё гэта яе называюць Птушачкай. Муж Ірынкі памёр, пакінуўшы яе з дзвюма дачушкамі. Кватэру пабудаваць паспелі разам, але абсталяваць – не. І цяпер удава бярэ бясконцыя крэдыты, каб набыць мэблю то ў залу, то ў спальню, то на кухню. Дзеля выплатаў па іх ходзіць у цёплы перыяд яшчэ і на дадатковую працу: у прыватныя цяпліцы, дзе вырошчваюць ружы. Дочак шкадуе і фізічнай працай не абцяжарвае. Яны ў яе разумныя, вучацца ў гродзенскім універсітэце на розных факультэтах. Асабліва здольная старэйшая, якая вывучае ядзерную фізіку, на што здатныя амаль што адны хлопцы. Да таго ж ужо ў дзяцінстве старэйшая дачка зацікавілася кітайскай мовай і ва ўніверсітэце пачала наведваць гурток, які вядзе дзяўчына-кітаянка. Кітаянку тую дачка запрашала ў госці, і, як сказала Ірынка, гаварылі яны кожная па-свойму, але добра адна адну разумелі. Гэта не дзіўна, таму што Ірынка знешне вельмі нагадвае кітаянку, цалкам верагодна, што жывуць у ёй кітайскія гены далёкіх продкаў, і дачцэ перадаліся.

З цягам часу старэйшую дачушку за добрае засваенне кітайскай мовы вырашылі накіраваць у Кітай на цэлы год, каб там удасканальвалася. І Ірынцы давялося ўзяць яшчэ адзін крэдыт на зборы дачкі ў дарогу. У дзяржаўным банку ўжо не далі, дык мусіла браць у прыватным – з вялікімі адсоткамі. Атрымае зарплату, аддасць штомесячныя сумы па крэдытах, заплаціць за кватэру і паслугі, а рэшту расцягвае на месяц. Але добра, што і на выплаты хапае, і рэшта застаецца. Яшчэ добра, што маці з вёскі гароднінай дапамагае.

У Ірынкі баляць рукі. Яна абмотвае іх эластычнымі бінтамі. А ў час абеду аж па локці кладзе на стол са словамі: "Рукі баляць". Ірынка нашмароўвае рукі рознымі мазямі, на масаж ды праграванне хадзіла ў азотаўскую паліклініку. Але рукі баляць і баляць... І ўжо посуд пачалі дрэнна ўтрымліваць. Прыходзіць Ірынка на працу і адзін раз кажа: "Сёння кубак з рук выпаў ды разбіўся", а другі раз: "Талерка выпала, разляцелася на кавалачкі". Але лапата з яе рук не выпадае.

Ірынка марыць пра дапамогу. Яна ўяўляе яе ў выглядзе новага мужа, які прыкладзе грошы, каб даабсталяваць кватэру, і прыкладзе рукі, каб дарабіць у ёй розныя дробязі. Ірынка прыгожая, і мужчыны ў яе з'яўляюцца, і ў кватэру яна іх бярэ. Але не хочуць яны ў яе кватэры нічога да ладу даводзіць, і на грошы нейкія няшчодрыя. Таму Ірынка з імі развітваецца. Усё ж надзею не губляе і мне кажа: "Вер, Галечка, вер. Трэба верыць".

***

Воля снег ламасае. Яна з Гродна.

У гэтым горадзе сустрэліся яе бацькі: мама прыехала з Гродзеншчыны, а тата ажно з Гомельшчыны. Воля па спецыяльнасці выхавацелька дзіцячага садка. І адпрацавала там некалькі гадоў да замужжа. А калі нарадзіла сыночка, то і зразумела, што зарплата яе вельмі малая, каб займець неабходны для нармальнага сямейнага жыцця стандартны набор: дачу, машыну і кватэру. А зразумеўшы, садок пакінула і занялася продажам карцін свайго мужа-мастака. І ў цэнтры Гродна з імі стаяла, і ў польскі Сопат вазіла, прыхапіўшы з сабою ў Польшчу яшчэ сёе-тое на продаж, і ў Маскву з імі ездзіла. Сам сябе яе муж заўсёды лічыў не мастаком, а рамеснікам, бо майстэрству пісаць карціны нідзе не вучыўся. Навучаўся гэтаму яго дзед, а яму прырода проста так узяла і перадала набытае дзедам за жыццё. Карціны Волінага мужа былі запатрабаваныя: іх і заказвалі ў яго, і куплялі. Машынай і лецішчам іх сям'я даволі хутка абзавялася, а кватэра шмат гадоў была ўсё ў праекце ды ў праекце. Зразумеўшы, што, па ўсім відаць, яна там і застанецца, не так даўно Воля пачала рабіць рамонт у кватэры свякрухі і свёкра, дзе ўжо амаль выгадавала сыноў.

З цягам часу муж стаў меней маляваць, у Польшчу Воля ездзіць перастала, у сваім горадзе для людзей карціны зрабіліся задарагімі, а ў Маскву прыстасаваліся перапраўляць іх з праваднікОм цягніка. І Воля ўладкавалася на "Азот". На працу яна дабіраецца на ўласнай машыне, бо даўно ўжо здала на правы. Праца яе не напружвае, таму што яна такая ж, як на лецішчы, а шчыраваць на сваім участку і аздабляць яго рознымі цікавымі раслінамі Воля вельмі любіць. Пра асабістае жыццё яна гаворыць без падрабязнасцей. Ніхто, з кім працуе ўжо некалькі гадоў, не ведае нават пра тое, што два яе сыны – ад розных мужоў, то бок што мастак – гэта яе другі муж, а з першым яна праз год пасля вяселля рашуча рассталася, бо выявіла, што ён нена-

дзейны сябар, і непатрэбны ёй такі на ўсё жыццё. За сумесь прывабнасці і малакантактнасці Волю называюць Дзікай Ружай.

У Волі баліць душа. Працаваць у калектыве яна не мае ні звычкі, ні, што самае важнае, схільнасці, бо ёй вельмі падабалася працаваць менавіта на сябе і ў адзіноце. Нітачкі і вяровачкі, якімі звязаная яна з астатнімі людзьмі ў брыгадзе, для яе непрыкметныя, а за іх тузаюць. А яна рэагуе не так, як прынята. І таму нейкая "не свая". Яна і знешне "не свая". Калі ламасала снег на тралейбусным прыпынку, то падышоў да яе мужчына і спытаў: "А за што і на які тэрмін вас сюды асудзілі?" Расказваючы пра гэта, Воля смяялася. Але наўрад ці было ёй смешна на самой справе, бо мужчына агучыў тое патаемнае, што носіць яна ў глыбінях душы: "За што я сябе сюды асудзіла?", "За што мяне жыццё сюды асудзіла?"

Воля марыць пра спакой і звязвае яго з такой яшчэ далёкай для яе пенсіяй, бо неспакоем напаўняе яе жыццё шматлюднасць. Яна ўжо цяпер ведае, што на пенсіі працаваць не будзе ні ў якім разе. Азмрочвае мару думка, якая з'яўляецца ў яе час ад часу: ці застануцца на пенсіі сілы заняцца чым-небудзь цікавым, ці не занадта старой будзе яна тады для свайго ўласнага свабоднага жыцця?

***

Люся снег прыбірае. Яна з-пад Ваўкавыска.

Вырасла ў дзіцячым доме разам з сястрой-блізнючкай. У яе бацькоў-калгаснікаў было чацвёра дзяцей і малыя даходы. Савецкая дзяржава такім сем'ям дапамагала, прымаючы частку іх дзяцей у дзіцячыя дамы, дзе іх кармілі і апраналі за дзяржаўны кошт. Да 9 ці 10 гадоў сёстры нават і не здагадваліся, што ў іх ёсць бацькі. А прыкладна ў гэтым узросце пасля заканчэння навучальнага года, напачатку чарговага лета, ім абвясцілі, што да іх прыехала мама. Падвялі да жанчыны "ў хустачцы", і тая сказала, што яны яе дочкі і што яна забярэ іх на лета дадому. Тое лета ў памяці Люсі адкрышталізавалася дзвюма падзеямі: яны бясконца палолі буракі на калгасных палетках і вельмі часта елі "белы суп" – локшыны або зацірку з малаком. З гэтага часу "лета на вёсцы ў мамы" пачало паўтарацца кожны год.

Пасля заканчэння школы сёстры паступілі ў хіміка-тэхналагічны тэхнікум і сталі хімікамі. Люсю накіравалі ў цэх водазабеспячэння, і яна добрасумленна шчыравала там шмат гадоў, але набыць увесь працоўны стаж на адным месцы ў яе не атрымалася. Пачало балець сэрца, і яе перавялі на "лягчэйшую працу" на вуліцу. Пайшоў ужо другі год, як Люся прыбірае зімою снег з дарожак.

Сэрца ў Люсі вялікае і добрае. Яно змагло зразумець маму з татам і дараваць ім дзіцячы дом. Яно з самага маленства ўзяло пад апеку сястру-блізнючку, бо тая заўсёды была малая і худая, а Люся высокая і мажная. І гэтае апякунства над сястрою не спынілася пасля таго, як выявілася, што мама Люсю прыкметна недалюблівае, а сястру відавочна любіць. У Люсіным сэрцы не пасялілася ад гэтага зайздрасць, і па сёння ўсе праблемы сястры – гэта Люсіны праблемы. Замуж Люся выйшла за міліцыянера, жылі яны дружна, выгадавалі двух сыноў. Прычакалі трох унучак, якія нарадзіліся ў старэйшага сына. Люсіна сэрца найбольш прыхіляецца да сярэдняй унучачкі, з яе найбольш цешыцца і замілавана за ёй сочыць. Але Люся бярэ да сябе заўсёды ўсіх трох і ўсё паміж імі дзеліць аднолькава. Толькі нам прызналася

ў сваёй незвычайнай любові да сярэдняй дзяўчынкі і найбольш пра яе нам з захапленнем расказвае.

Люсін муж ужо шмат гадоў назад кінуў працу ў міліцыі і паехаў на заробкі ў Расію. Працаваў у Маскве будаўніком. Прыязджаў дадому на пабыўку. Люся радавалася яго прыездам, чакала яго, і нічога дрэннага яе сэрца не адчувала. Але аднойчы патэлефанавала яму нейкая Галінка з Масквы, а Люся ўзяла трубку і неспадзявана даведалася, што муж мае другую жанчыну. Можа, з гэтага моманту і надарвалася Люсіна сэрца так, што цэх водазабеспячэння стаў для яго непасільным. Люся рассталася з мужам раз і назаўсёды. Ён паехаў у Маскву да Галінкі і застаўся там. А калі ўсё ж надумаў вярнуцца на радзіму, то пасяліўся не ў іх агульным з Люсяй доме, а ў сям'і старэйшага сына, дзе быў вельмі патрэбны, бо тры ж унучкі патрабавалі прыгляду. Але нешта і з яго сэрцам зрабілася нядобрае: нядоўга ён у сям'і сына пажыў, памёр раптоўна ад інфаркту, не дачакаўшыся ўнука, які нарадзіўся нядаўна ў сям'і малодшага іх з Люсяй сына.

Люся марыць пра добры свет вакол сябе і ажыццяўляе сваю мару, ствараючы яго: у яе добрыя сыны, нявесткі, унукі, сваты, сёстры і брат, бацькі, кіраўнікі, паплечнікі па працы. І муж быў добрым. Магчыма, і Галінка ягоная добрая была, ва ўсякім разе Люся не жадала ім нічога злога.

***

Іна снег варочае. Яна з-пад Мастоў.

Начальнік падсобнага цэха – яе зямляк. Ён ахвотна прыняў яе на работу і доўгі час па-зямляцку закрываў вочы на Ініну слабасць да спіртнога. Яна расказала мне пра гэтую слабасць у першыя ж дні маёй працы на "Азоце", калі нас удзвюх паслалі пагрузіць на машыну кустоўе, спілаванае мужчынамі каля возера. Спачатку Іна моўчкі вывучала, як я працую: колькі бяру галля ў ахапак, з якой хуткасцю нашу да машыны і вяртаюся назад. Сама дэманстравала вельмі высокую працавітасць, і я па магчымасці старалася не адставаць. Раптам Іна спынілася і сказала: "Я піла, Галя". І тут тэмп нашай працы значна запаволіўся і ў зімовы парк ды ў мае вушы паліўся Інін расповед пра тое, як яна з-за п'янак ледзь не страціла кватэру. Муж з ёю развёўся, у двухпакаёвай кватэры ім падзялілі па пакоі. Дачку, якая засталася з Інай, ён "не пашкадаваў" і свой пакой вырашыў прадаць. Іна не мела грошай, каб той пакой выкупіць, таму пакупніком стаў "чалавек з вуліцы". Новы гаспадар пакоя сам у ім не пасяліўся, а пачаў здаваць кватарантам. Колькі іх там перавярнулася, ужо і палічыць цяжка. І ў асноўным трапляліся ўсе з такой жа слабасцю, як у Іны. То яны яе частавалі, то яна іх, а дачка неяк непрыкметна падрастала, галодная і босая не была. Але ўрэшце дайшло да фінансавага крызісу, бо на спіртное Іне патрабавалася ўжо столькі грошай, што яна перастала плаціць за свой пакой. ЖЭС падаў у суд пазоў на продаж пакоя з высяленнем Іны ў якую-небудзь вёску.

І вось тады яе душа схамянулася, прасвятлілася і павяла Іну да касцёла. Пасярод яго Іна ўкленчыла, малілася, галавой да падлогі схілялася і так прасіла, так прасіла: "Божачка, дапамажы... Божачка, дапамажы..." Бог яе пачуў. Ён уклаў у яе галаву думку закадзіравацца на ўсё астатняе жыццё, што Іна і зрабіла. Ужо некалькі гадоў, як яна зусім не п'е, паставіла сабе прыгожыя зубы, купіла моднае адзенне, пачала рэгулярна наведвацца ў цырульню, а найперш зліквідавала даўгі па квартплаце. І самае галоўнае:

дзякуючы яе немаленькай азотаўскай зарплаце, банк даў ёй крэдыт, і яна выкупіла назад страчаны пакой у кватэры – для дачкі. Апошнім у тым пакоі жыў мужчына, хворы на туберкулёз, якога перад смерцю паспелі забраць у шпіталь, а то і памёр бы за сценкай. Мабыць, гэтая акалічнасць неяк дапамагла Іне дамовіцца з саўладальнікам кватэры пра вяртанне прададзенага мужам пакоя да яе, бо “толькі цудам гэты кватарант не заразіў Іну і яе дачку”.

Я сказала Іне, што яна здзейсніла подзвіг, таму што пазбавіцца ад прыцягнення да алкаголю мала хто можа. Асабіста я, акрамя яе, ведаю яшчэ толькі аднаго такога чалавека. І цяпер Іна час ад часу падыходзіць да мяне, каб згадаць пра сваю былую праблему і пачуць, што яна гераіня. Іна марыць пра тое, каб яе ўсе прызналі значнай, а не абы кім; каб яе хвалілі і падбадзёрвалі. З гэтай нагоды і снег яна варочае з вялікім імпэтам. І іншых падганяе прыгаворкамі: “Не катай вату!” або “Бог не цяля, пазнае круцяля!”

Іна выглядае маладой і спартыўнай. Яна была галоўнай у нашай камандзе з трох чалавек (яшчэ я і Воля), якая ўзяла ўдзел у спартыўных спаборніцтвах паміж цэхамі “Азота”. Іна тады прабегла 100 метраў ажно тры разы: сама, а потым з кожнай з нас, каб мы за ёю “гналіся”. У выніку наша каманда заняла прызавое месца. У Іны часам баліць паясніца, але яна падлечвае яе ў дактароў. Яшчэ яе непакоіць схільнасць да залішняй вагі, і, каб не набраць яе, яна практыкуе разгрузачныя дні, у якія п’е толькі зялёную гарбату без цукру. А так у яе ўсё цяпер добра.

***

Я снег чышчу. Лапату са снегам я трымаю справа налева, і асноўная вага прыпадае на левую руку. Рука нічога сабе, трымаецца, а пачало балець недзе між рэбрамі злева. Туга абмотваюся вялікай хусткай і працягваю чысціць снег. Жанчыны кажуць, што за мяккі пушысты снег я яшчэ падзякую цяперашняй зіме. А вось калі здарыцца адліга і ён набрыняе ды закамянее, – вось тады сапраўды лапату з ім як падняць.

Чысціць снег мне дапамагаюць двое мужчын – Пеця і Ваня. Пецю трохі за трыццаць. Калі ён прыйшоў з касцамі на дапамогу да нас, то ўсё пазіраў на мяне неяк змрочна. Я не пацікавілася ў Пеці пра прычыну ягоных позіркаў. І тады ён загаварыў сам:

– Вы мяне не памятаеце, не пазнаеце...

– А чаму я павінна вас пазнаць, малады чалавек? – здзівілася я.

– Вы былі маёй выхавацелькай у дзіцячым садзе. Я вас адразу пазнаў.

– Гэта прыемна, значыць, я яшчэ не вельмі змянілася, – засмяялася я. – А цябе пазнаць немагчыма, бо ты вельмі змяніўся. Хто ты?

– Нашто вам? Вы ж не памятаеце...

– Я ўсіх вас памятаю, але толькі такімі, якімі вы былі ў дзіцячым садзе. У мяне і фотаздымак нашай групы ёсць. Я люблю яго разглядаць. Дык хто ты?

– Пеця Васільеў.

– А-а-а... Пеця! Вельмі добра цябе памятаю таго, маленькага...

– Вы білі мяне шапкай па галаве ў раздзявалцы за тое, што я марудна апранаўся, – тужліва сказаў Пеця.

– І ты да гэтага часу крыўдзішся... Прабач мне, Пеця, калі ласка. Я тады многага яшчэ не разумела.

Пеця мне прабачыў, і кожны дзень цяпер дзяўбе лёд і чысціць снег на

маім участку. Робіць усё гэта ён па-ранейшаму вельмі марудна. Але я ўжо не падганяю яго, а толькі дзякую яму ўсмешкамі і словамі.

Ваню недзе за сорак. З першага ж дня нашай агульнай працы яго не напружыў той факт, што я адкідваю снегу меней, чым ён. У бытоўку з іншымі мужчынамі ён не пайшоў, а застаўся чысціць ад снегу разам са мною “мае” дарожкі. Трохі пагутарыўшы падчас перадыху, мы выявілі, што абодва наведвалі школу крыя-ёгі “Мастацтва жыцця”, што Ванева жонка таксама педагог, дэфектолаг, і яе вучні – цяжкія дзеткі, але ж “нехта і з такімі дзеткамі павінен займацца”. Да нас прыйшла аднолькавая думка, і мы агучылі яе адно другому: што гэта Бог зрабіў так, каб дзве падобныя душы пазналі адна адну. Я была толькі на базавым курсе “Мастацтва жыцця”, а Ваня наведваў і падоўжаныя, таму менавіта яго душа першай пазнала маю і пачала мне дапамагаць.

Я мару, каб мне хапіла здароўя хаця б на гадоў пяць даглядаць азотаўскую санзону, бо за гэта мне будуць налічваць нядрэнную зарплату і я забяспечу ўсім неабходным сябе і сваіх сыноў. А там, глядзіш, і яны пачнуць працаваць. А яшчэ я мару пра тое, каб хто-небудзь добры і мудры ўсё праясніў мне пра мяне і мой лёс, бо і ў сабе, і ў лёсе сваім я заблыталася: ніяк не магу зразумець, чаму я сваім жыццём зусім не кірую, а яно кіруе мною, не ўлічваючы маіх жаданняў і мараў.

***

Ура! У красавіку зіма закончылася. Апошні снег паслаўся на зямлю лёгкім покрывам і растаў, магчыма, да кастрычніка, магчыма, да лістапада ці нават снежня.

У нашай брыгадзе ўсе жывыя і адносна здаровыя. Садзім кветкі і падграбаем траву на газонах. Пабялілі дрэвы на ўсіх нашых участках. Людзі ходзяць і любуюцца: некаторыя моўчкі, а некаторыя падыходзяць і гавораць: “Якія вы малайцы. Такую прыгажосць ствараеце”. Нам радасна, мы таксама любуемся створанай намі прыгажосцю.

І вось ужо сканчаецца май. “Азот” рыхтуецца святкаваць Дзень хіміка. Усім дадуць прэміі, і нас не абмінуць. Прэміі мы абагулім і адзначым Дзень хіміка на Верыным лецішчы. У нашай брыгадзе ёсць сапраўдны хімік Люся, ды і астатнія мы не дзе-небудзь, а ля падножжа хімпрадпрыемства атабарыліся. У нас абавязкова будуць шашлыкі, бульбачка, салаты, садавіна, шмат яшчэ таго-сяго, і многа-многа дарагога віна. Мы вырашылі, што ўсе, акрамя Іны, нап’ёмся. А Іна будзе нас кантраляваць і нікому не дасць зваліцца на падлогу – усіх расцягне на ложкі і канапы.

*P.S.* Мы не напіліся. Іна не змагла выканаць сваю вялікую місію і ў нас расчаравалася.

Зміцер Захарэвіч



...Чым змрок гусцейшы,
Тым хутчэй на ўсходзе,
Уваскрашаючы свет,
Золак заблішчыць...

# Перамена сезона

## *СВІТАНКАВЫМ ДАЖДЖОМ*

Дажджом світанкавым бязладны сон
Прапаласканы і дарэшты змыты
У апраметную, у твань нябыту,
Нібы́ напіўся слёз асмяглы стогн.

Без следу сонмішчы трывог маіх,
Якія ўночы сэрца праціналі,
Пад жыватворчаю вадой расталі,
І крык злавеснага крука аціх.

Цяжар няўцешных словаў і разваг
На друз патрушчыла струменяў срэбра,
А скрозь грымоты ўчуты голас неба
Паклікаў звонка выпраўляцца ў шлях.

Ізноў – за ручаямі наўздагон –
За далягляд з гарэзным ветрам поплеч
Я, ротам ловячы ў паветры кроплі,
Лячу між хмар світанкавым дажджом.

## КА́ЗАНЬ

Ноч-чарадзейка шчыравала на дварэ,
Калі скрозь шыбу ў рабацінні зорных кропель,
На поўню хмараю накінуўшы берэт,
У твар мне хітра пасміхнуўся Мефістофель.

Гарэлі ў цемрадзі вугольчыкі вачэй
Ягоных дзёрзкасцю прадоннага спазнання,
А ў вуснах стуленых, маўклівых для людзей
Застыў адказ на пазачасныя пытанні.

Што Дойлід існага, нас творачы, наўмеў,
Ці толькі прыхамаць рукой вадзіла Пана?
Чаму пакутліва не можам зразумець,
Якой дарогаю існці наканавана?

Калі нарэшце знойдуць цела і душа
Паразуменне між сабою і ў сусвеце?..
Ды раптам голас перуновы прагучаў:
«Пакінь дашуквацца разгадак, чалавеча!

Задуму Ӯладцы ўсведамляць табе нашто?
Наноў законы спаконвечныя не зложыш.
З тла колісь выйшаўшы, назад вярнешся ў тло,
А мудрасць множачы, адно адчай памножыш.

Ад ведаў кніжных голаў цяжкую ўзнімі
І ўбачыш, як за пакаленнем пакаленне
Жывуць без каліва сумневу на зямлі,
Месій крыжуючы, святых б'ючы каменнем.

Таму адпраў пыл фаліянтаў на агонь,
Пакуль што кат не на цябе віе вяроўку,
Хаця ты сутнасці не ўгледзеў за радком –
Спакой і ўпэўненасць заўжды сярод натоўпу...»

Ён скончыў казань, цепнуў крыламі плашча,
Хітнуў на розвіт чорным кордам эспаньёлкі,
Бо першы певень у мястэчку закрычаў,
Дабраславіўшы ўсход задумлівы і золкі.

### *У НАВАЛЬНІЦУ*

*(пра любоW)*

Дзве кроплі дажджавой вады
На вусны смаглыя зляцелі,
Каб нам пазбыцца прагі цалаў
Так, як належыць маладым.

Грымоты залпамі гулі,
Нябёсы рвала навальніца,
А мы, не хочучы спыніцца,
Залеву ўсмак нагбом пілі.

Губляў лістоту стары вяз
І вецер на рацэ сваволіў,
Струмені срэбнае патолі
Заўзята абдымалі нас.

Калі ж захмарны грамабой
Зямное вымачыў да зёлкі,
Заззяў квяцісты німб вясёлкі
Па-над тваёю галавой.

### *ДА N...*

Не ў Ваш альбом – ва ўласны дзённік,
Прытулак непачутых слоў,
Няўвагі вязень і віноўнік
Пад свечак дрогкае святло
Пішу пра сонечную восень,
Бурштын прысадаў над ракой.
Што ў іх па сцюжах засталося? –
Лісця й пачуццяў перагной.

Але ўспаміны аб нядаўнім
Завітваюць яшчэ ў мой дом,
Тады здаюцца ночы траўня
Бясконцымі, а за вакном
Бяскроўны твар самотнай поўні
Застыў між зорак і часоў,
Як колісь пахнуць яе промні
Капою Вашых валасоў.

Няўзнак бяссонне зноў народзіць
Адчаем хрышчаных хімер,
Ваш кожны жэст, Ваш кожны позірк
Жывуць нязбытныя ўва мне.

Усё, пра што сказаць Вам маю,
Старанна выведзе пяро,
Пакутна каламар палае –
Замест атраманту ў ім кроў.

### ДАРОГАЙ ДАДОМУ

Як смешна і пакутліва вяртацца
Туды, адкуль з надзеяй ад’язджаў,
Што жмут праблем сам здольны развязацца,
Да ўсіх, каго не выйдзе дачакацца
І хто чакаць цябе не абяцаў.

Сцвярджаць начы – не ад мяне залежыць
Ці цэлыя масты, што не спаліў,
І чуць прагноз няўцешны на памежжы:
Нябёсы на Каляды не заснежаць
Абшар іржавы голае зямлі.

Відаць, не ўсцераглася ад разлому
Прырода-маці ў самаце сваёй...
Я еду ў край, да хваіны знаёмы,
Але далей раблюся пакрыёма,
Падаўшыся за новаю страфой.

### ЗАМАК НА ПЯСКУ

Будаваў на беразе палацык
На сямі няўрымслівых вятрох.
Кожны з іх мне валасы кудлаціў,
Пакідаў сквар шнары на плячох.
Я ж, аддаўшыся з імпэтам працы,
Не зважаў і сілаў не бярог.

Час, аднак, заўжды няўважным плаціць,
Таму днямі-дробкамі пясок
Незваротна сыпаўся скрозь пальцы,
І не гожы паўставаў дамок,
А – каб пільнасць іншы хто не страціў –
Па натхнёным дойлідзе грудок.

### УВАСКРАШЭННЕ

За крумкача чарнейшы
Позірк ночы.

Духмянай квецені
У садзе не відаць.

Я прэч з цянётаў сну
У заўтра крочыў,

Каб першым раніцы прышэсце
Прывітаць.

Хай нібы ўсё змярцвела
У прыродзе,

Аднак, пакуль яшчэ
Струменем час бяжыць,

Чым змрок гусцейшы,
Тым хутчэй на ўсходзе,

Уваскрашаючы свет,
Золак заблішчыць.

## НА РАЗВІТАННЕ
## З СЕРЖАМ МІНСКЕВІЧАМ

Паабсы́паўшы з яблыняў квецень,
Свет чакае крамяных пладоў,
А з блакіту бясхмарнага вецер
Па душу майго сябра сышоў.

Абыякава лопае крыллем,
Задзьмуваючы свечак агні.
Пачакай! – Мы не дагаварылі,
Патануўшы ў вірах мітусні.

Незаўважна дабрыў я да веку,
Калі страчваеш значна часцей,
Чым страчаеш. Крыжоў шыхт, як вехі,
За спіной з кожным крокам расце.

Не хачу чуць слоў пра непазбежнасць –
Праз іх меней ані не баліць.
Адляцеў разам з ветрам у Вечнасць
Сябра мой скрозь бясхмарны блакіт...

## *ПЕРАМЕНА СЕЗОНА*

На прыску захаду
Адценні верасня даспелі,

Світанку колеры
Не вернуцца назад,

У скверах цягам дня
Каштаны болей парудзелі,

Блукае ўражаны
Між шатамі пагляд.

Нічога на зямлі
Не адбываецца імгненна,

І мы да новага
Звыкаем пакрысе,

Таму не дзіва, што ў душы
Адчуўшы перамены,

Раз-поразу
Не пазна*е*м саміх сябе.

## *У ЖЫЛАХ ХМАРЫ…*

У жылах хмары чарадой
Плывуць няспешна,
А алавяны супакой
Спавіў дарэшты,
Ператварыўшы кроў у дым,
Знярушыў цела
З надзеяю, што залатым
Лістком мігцела
На ветры і на скразняках
Турбот будзённых –
Бясследна згас нявроўны бляск
Пад сном сутоння.

Але ні болю, ні слязы,
Ні шкадавання.
Бадай, лягчэй, таму што збыў
Цяжар ваганняў:
Ці будзе годным новы чын,

Страфа – змястоўнай? –
Трывожыцца няма прычын,
Бо ўжо ўсё роўна,
Які эпітэт дададуць,
Наўздзіў згадаўшы,
У рэчцы часу каламуць
Са дна падняўшы.

І колькі б ні займеў правін
Праз паняверку,
Ступень іх вызначу адзін
Уласнай меркай.
Хай шэрым вэлюмам ляжыць
Смуга на твары,
Я ведаю – не назаўжды
Вядуць рэй хмары,
Мінуць гнятлівыя дажджы,
Золь адпануе,
А ў рэчышчах настылых жыл
Кроў завіруе.

## *УЦЁКІ*

Уцёкі немаведама куды –
Зноў у дарозе менестрэль самотны,
Між раніцаў і вечароў рудых
Неўтаймаваны, а таму свабодны.

Ізноў з імпэтам грамадзе спяваць,
Якая ані каліва не цяміць,
Сто грам узяўшы для натхнення, рваць
Шаблоны, струны і душу з канцамі.

Заўчасна апусціць заслону шоў,
Насычанага гневам ды маленнем,
Знясіліўшыся, бы абрад прайшоў
Пакутлівага самаачышчэння.

А потым пасміхацца спакваля,
Выслухваючы ўдзячныя прамовы,
Дзе ні паўслова, што пакінуў я
На ласку лёсу ўсе свае любові.

Але навошта шкадаваць аб тым? –
Не вернеш анічога, анікога:
Было – сплыло, растала, рыхтык дым,
Што засталося? – Вершы і дарога.

Між захадаў і ўсходаў, праз гады
Наўпрост шыбую – менестрэль самотны.
Уцёкі мімавольныя туды,
Адкуль не выправіцца ў шлях зваротны.

### *СУСТРЭЧА НА РОСТАНІ*

Дзе спаткаю цябе,
на якіх бальшакоў скрыжаванні?
Час не выгаіў,
толькі
бінтамі бяспамяцтва сцяў.
Зоры кроплямі з шыбы
сплылі ў валавянае ранне,
Калі сонца за хмарамі
золкі світанак узняў.

Абляцелае лісце –
мазаіка словаў,
прыдатных
Для кароткай размовы
пункцірамі ўрывістых фраз,
Каб узрушаным нервам
галасы не здрадзілі раптам
І няўмыснасць сустрэчы
не ператварылася ў фарс.

Непатрэбныя будуць
бліцы ветлівыя
паўусмешак,
Уваччу не ўваскрэсне
гурма рамантычных відзеж.
Я пакінуў мінулае
ў чарках і колішніх вершах.
Ну а ты?
Ты дасёння
надзеяй на прышласць жывеш.

Дык няхай застаецца
нябачным
маё выгаранне
Праз чысцец паняверкі
ў астылым камíнку грудзей,
Таму гасіць імжа
цыгарэту,
нібыта пытанні –
На якіх растанцáх
і нашто
я спаткаю цябе?

### *КАЛЯ КРЫЖА (НЕ ЗГАДВАЙ…)*

Мяне не згадвай у малітвах –
Спагадаю не абражай
Міжволі голасам паніклым,
Укленчыўшы каля крыжа.

Пакінь зварушлівыя словы
Для просьб за зможаных, бо я
Аднолькава прыняць гатовы
І суд, і бездань забыцця.

Даўно без следу збыў надзею,
Таму што марна спрабаваць
Давесці нешта фарысеям,
У чымсьць натоўп пераканаць.

Для іх збор прымхаў даражэйшы –
Я ўцяміў з посмешкай крывой,
А ў неба процьма спраў важнейшых
За апякунства нада мной.

Сам свой цяжар, напяўшы жылы,
Нясу пад сонцам і ў імгле
Датуль, як камень надмагільны
Хрыбет не пераломіць мне.

Калі труной навек спавіты
Сыду ў крывіцкія пяскі,
Спакой мой не турбуй малітвай,
Каля крыжа не галасі.

### *СКРОЗЬ СМУГУ*

Скрозь рошчыну смугі
　　І сонца не прагляне,
　　　　Нібыта адцвіло.
Згубіўшы берагі,
　　Наўслеп плыву ў тумане,
　　　　Сціскаючы вясло.

Абапал паўстаюць
　　Няпэўныя абрысы
　　　　Званіц, млыноў, муроў
Іх ледзьве пазнаю,
　　А пасмы вербаў ніцых
　　　　Чапляюцца за борт...

Ні слова не пачуць –
Імгненна голас гасне
У згушчаным нішто,
Свабодна не ўздыхнуць,
Бо затхлае бясчассе
У лёгкія ўвайшло.

На роўнядзі ракі
Ні водбліскаў, ні ценяў,
Аднак пакуль жыву
Скрозь рошчыну смугі
І поцемкі сумненняў,
У ясны дзень плыву.

### *БУДЗЬМА!*

Будзьма ў радасці й горы
Кладкай, якая ляжыць
Паміж часоў «заўтра» і «ўчора»
Альбо лучыць рукі сцяжын.

Будзьма лініяй сэрца
Струджанае далані,
Ці песняй, што ўрэшце праб’ецца
Праз немай глушэчы граніт.

Будзьма ўзвораным полем,
Вольнымі будзьма людзьмі,
Якім немагчыма дазволіць,
Бо нельга ім забараніць.

Будзьма ўночы цяпельцам,
Каб адзінец не зблукаў
У роспачы змроку пякельным,
Убачыў каб і завітаў.

Будзьма верным жаўнерам,
Што Вечнасць ма́е ў ствале,
Куды на злосць ворагаў хеўры
Адыдзе камрадам услед.

Будзьма сонцам вясняным
Ці прамянём, што працяў
Нязгасным святлом закаханых.
Жыццём будзьма дзеля жыцця!

Дар'я Значонак



…"тут" у нас не фронт,

а паскудны тыл…

# З Новым годам, Ліда!

***Апавяданне***

Прыдумаць навагодняе жаданне... Здавалася б, што тут складанага, калі свята заспела цябе падчас вайны? Жаданне – тое самае, агульнае для ўсіх – месяц за месяцам не сыходзіць з вуснаў, і менавіта з ім узнімаюцца ўсе келіхі, шклянкі і конаўкі. Але... не загадваць жа тое самае другі год запар?

Наваспечаны лётчык-знішчальнік Ліда Жук загадала, каб вайна не паспела скончыцца без яе.

Ішлі першыя гадзіны новага, тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года. Вучэбна-трэніровачны авіяцыйны полк сустракаў яго ў пашарпанай сталоўцы, цеснай для ўсіх насельнікаў тылавога аэрадрома. Удзень на самалётных стаянках не сустрэнеш адно чорта лысага: і нервовыя "жаўтароцікі", збітыя ў трэцім вылеце, і пілоты грузных транспартнікаў падчас перападрыхтоўкі на баявыя машыны, і мацёрыя ваўкі пасля чарговага ранення, вядомыя па газетных фотаздымках часу паветраных парадаў і рэкордаў...

Полк стракацеў людзьмі розных родаў авіяцыі, розных франтоў і лёсаў, і дзяўчына ў лётнай форме была тут з'явай, можа быць, рэдкай, але не экзатычнай. Больш экзотыкі, бадай, у тым, што ў форме Ліда прыйшла адзначаць Новы год

Ну, як у форме... Давялося змірыцца з фактам: пакуль малодшы лейтэнант Жук амбітна выгрызала сабе шлях у франтавое неба, яна ўшчэнт абнасілася. Абмундзіраванне, атрыманае ў лётнай школе яшчэ восенню сорак першага, цяпер магло сысці хіба для мыцця падлогі. "І то знявага вайсковаму інтэрнату!" – саркастычна ўкручвала Ліда. А выбіць тут новае было не лягчэй, чым дапрасіцца пераводу ў часць. Эфемерных сукенак-блузак-спаднічак у ейным спартанскім чамаданчыку тым больш не мелася, затое быў старэнькі, але прыстойны шарсцяны швэдар, які яна паддзявала пад гімнасцёрку для цяпла. Гранітна-шэры з белымі ўзорамі і з пяцелькамі выцягнутых з часам нітак, вязаны яшчэ на падлетка, ён і стаў ключавым элементам навагодняга ўбору. Заставалася мімаходзь прыгладзіць заліхвацкі чорны чуб – хлапечая, найзручнейшая стрыжка, – і канцы важдаініне.

Такім чынам, верхняя палова Ліды выглядала па-цывільнаму, а ніжняя – па-вайсковаму.

Калі ж яна, малая і дзелавітая, пераступіла парог сталовай, запусціўшы рукі ў кішэні галіфэ, ёй захацелася аблаяць сябе: адкуль думка шукаць кампраміс?! У атачэнні летуноў і тэхнароў рознага калібру, перацягнутых рамянямі, з медалямі і без, у зухавата насунутых галаўных уборах, у люстрана адпаліраваных кірзавых ботах у гармонік – у атачэнні ўсіх гэтых бадзёрых вайскоўцаў яна рабіла ўражанне выпадковай лыжніцы, якая зазірнула адагрэцца перад далейшым шляхам. Прычым фарсіў мужчынскі пол не столькі формай, таксама далёка не параднай, колькі гуморам і гумарам. А іх у Ліды якраз не назіралася. Бо кожная аэрадромная цытра з сувязістак, прыбарыстак, метэаролагаў і чорт ведае каго яшчэ надыбала больш-менш урачыстую сукенку, а дзве траціны ўсіх – туфлі. І дзе яны ўзялі час, каб накруціць валасы на паперкі і арганізаваць фрызуру?

У выніку знешне Ліда не была падобнай ні да адных, ні да другіх.

"Ну й каціцеся! Не хапала дагаджаць густам кожнай хеўры, у якую трапіш! – фыркала яна цяпер, занадта ўколатая, каб перашалець за пару гадзін. Прыстукваючы наском кірзача ў такт патэфоннай "Рыа-Рыце", яна без захаплення сачыла за фінтамі танцавальных пар. Сякая-такая самадзейнасць і па сумяшчэнні вячэра скончылася, сталы рассунулі, і давялося эвакуіравацца ў зацішак ля сцяны – пад абарону навагодняй яліны. "Прыхарошваюцца яны, скакаць заявіліся цэлым табуном... Ваюем ці балюем?"

Ліда і сама не магла разабрацца, чаму ў ёй атрутна свярбіць прыкрасць. Можа, ні пры чым былі скокі і ўборы, проста яна несвядома чакала ад вечара чагосьці гэткага, незразумела чаго, і злавала, што яно не спраўдзілася. Можа, гэтыя ялінавыя лапкі, абсыпаныя камячкамі прывабнай, як салодкай, ваты і падвешаныя на нітках сушкі ды цукеркі і чырвоная пяціканцовая зорка пад столлю выцягвалі на святло ўспаміны з ранейшага жыцця, якія зручна было замыкаць у глыбіні і цемры. Можа, сам ваенны ўхіл свята мусіў застацца ў сорак першым годзе. А можа, кусалі думкі, што за год Ліда абавязана была зрабіць больш.

Скрозь музыку адусюль даляталі то смех, то воплескі, то ўрыўкі дыялогаў, якія з думкамі гэтымі спалучаліся рэдка.

– Авохці, які фасон! Мне жалезна трэба такую выкрайку: на восьмага сакавіка ну нічога. А гэтая сукенка распаўзаецца, я падпахай дзірачку зашыла... Толькі цс-с-с!

– Так, рашучая жанчына вымагае *безумоўнага* рашучага падыходу. У гэтым, Яша, я з вамі выключна згодны! Чаму нас вучыць знішчальная авіяцыя? Вядзем бой ініцыятыўна і напорыста, любы манеўр пераводзім у атаку... А залог поспеху – у чым? У эфекце нечаканасці!

– Таварышы, прашу ўвагі! Чыя фуражка на жырандолі?

– Я? Я пасля сканчэння ўсёй гэтай катавасіі ў Ваенную акадэмію махну! Школа лётная, фронт – гэта, братачкі, сур'ёзна, але не грунтоўна. У навучанні сістэма патрэбная! Эх, адно што ў дыктоўках я ні вуха ні рыла. Тыя шмуфіксы выпарыліся з канцамі...

– Верыш – колераў хочацца. Ко-ле-раў.

– І ўсё-ткі згадзіцеся: ёсць пэўны алагізм у выразе "піць за перамогу". Я яшчэ разумею "біць"...

– О, і ў вас коўзанку залівалі? Дачушка пасля школы, бывала, схопіць калодачкі з лёзамі – і на двор. Назад – у сіняках, мокрая як мыш... Жадала ганяць з першых крокаў. Потым я наконт сапраўдных канькоў расстараўся... Што? Не, яны яшчэ той зімой выехалі! Дзякуй богу. Як Ладага замерзла...

Насупраць Лідзінага твару калыхаўся пад галінай самалёцік, скручаны з дроту. Падобныя хаваліся па ўсёй яліне ў розных варыяцыях – абыходзь і знаходзь. Ёсць жа тут людзі рукастыя... "Ла-5", – пазнала Ліда і, затаіўшы дыханне, паднесла палец, каб фігурка перастала падрыгваць. Гэты прытуплены нос і шырокія акруглыя плоскасці яна штодзень выглядвала ў прамерзлым небе над аэрадромам, пакуль чакала сваёй чаргі. А калі засынала штоноч, пад павекамі ўсплывала прыборная дошка, вызубраная да найменшай стрэлачкі. І не, Ліда не стамлялася ўсюды насіць у думках вобраз машыны. Дапусцім, кропельку... Але ці не раскоша стамляцца ад сваёй будучыні, якую нарэшце можна памацаць? Новай будучыні – новая тэхніка! Гучыць?

Дабіўшыся ад самалёціка нерухомасці, Ліда падміргнула яму, а пасля сваволна пстрыкнула па стабілізатары. І, пакінуўшы фігурку гайдацца, намеціла сабе цукерку галінай вышэй. Будзе чым уціхамірыць страўнік, калі ён па звычцы затужыць сярод ночы, толькі падражнены вячэрай...

– Ч-чорт! Ах ты ж зараза!

Ліда зашыпела ад болю, замахала рукою. Ізноў забыла, што трэснуў вялікі палец! Яны, пальцы, трэскаліся пастаянна: ранкі рабілі выгляд, што зацягваюцца, а самі вычэквалі зручны момант. Напрыклад, калі памкнешся ўзяць відэлец са сталоўскага абруса, ці выняць іголку са шпулькі нітак, ці перагарнуць старонку дапаможніка, пакінуўшы на ёй плямку крыві. А перад Новым годам заўпарціліся гузікі гімнасцёркі. "Ой, дарма я пруся на вечар", – зморшчылася тады Ліда, сузіраючы пунсовую і на выгляд смачную, як малінавае сочыва, кроплю (ад нядаўняга часу свядомасць жыла вобразамі не толькі авіяцыйнымі, але і гастранамічнымі).

Так, з-за сабачага холаду на лётным полі і стыласці інтэрнацкіх калідораў скура на кончыках пальцаў трэскалася да крыві, а на костачках сохла і лушчылася. Паспрабуй заныкай цукерку, калі ў цябе з дзесяці пальцаў тры непрацоўныя. Вялікі з сярэднім на правай руцэ, указальны на левай – вечна блытаеш, якімі нельга хапацца. У кабіне лягчэй, усё ж тумблеры пераключаеш у таўшчэзных пальчатках...

А яліна быццам знарок натапырыла ігліцу, каб не аддаць. “Дудкі, і не такіх абломвалі!” – настырная Ліда пацягнула пятлю на сябе...

За гэтым заняткам яе і заспелі.

– А-ёй, таварыш Лідзія! Як не сорамна абіраць сімвал свята?

Плюнуўшы на акуратнасць, Ліда рыўком падсекла нітку. Пятля знялася, і трафей апынуўся ў кулаку.

– А-ёй, таварыш Хваленя! Як не сорамна шкадаваць для мяне цукеркі? – яна з насмешкай утаропілася ў вастраносага палкавога інструктара ў капітанскім званні, які аклікнуў яе з групы лётчыкаў. – А не шкадуйце, на “гаручку” ж я не прэтэндую! – яна рухам галавы паказала на жалезную конаўку ў руцэ капітана.

Адказам ёй паслужыў прыязны рогат яго супольнікаў, якія ацанілі контратаку. Ці то паднаглядныя, ці то калегі – не разбярэш.

Хваленя не пакрыўдзіўся.

– Так-такі не прэтэндуеце? – падкалупнуў ён.

Не трэба, не ідзі!.. Позна: ён аддзяліўся ад групы і з вёрткасцю тхара праслізнуў між танцорамі да Ліды. Ну, хоць ветліва пакінуў пару крокаў вольнай прасторы! Ёй заставалася незадаволена выдыхнуць паветра і ўмяшацца ў гутарку.

– Вам жа болей. Што, дрэнна? Знарок сачу, каб пасля першага тосту не падлівалі. А яліну хлопцы ўсё адно да апоўдня падчысцяць!

– Займальна... Чаму яны?

– Ці ж дурні – ад дармовых цукерак адмаўляцца? Дый пасій сваіх трэба залагоджваць, – Ліда нядбайна павяла плячом у бок публікі, якая танцавала. – Ну, а вы нічога не бачылі. Праўда ж? – яна правакацыйна пашамацела ў кішэні фанцікам.

Можа, пацвельваць Хваленю было неабачліва, але разняволены тон ён прымаў і пераймаў, а часцей задаваў – усё нязмушана, не развязваючы субардынацыйныя спрэчкі. І справа была не ў дабрыні душэўнай, а ў занадта яўных намерах. Калі б нешта ў лесе здохла, Ліда з нацяжкай запісала б яго ў ніштаватыя, вось толькі быў ён задужа ліпучым (пры тым, што нават не быў ейным інструктарам), а яшчэ зачэсваў назад невыразна-русыя валасы, маскіруючы, што на макаўцы іх ужо дэфіцыт. Меў ён гадоў дваццаць восем, можна лічыць – нямала: усё-ткі асобныя дваццацігадовыя вадзілі ў бой эскадрыллі і рыхтавалі дзірачку ў гімнасцёрцы пад Залатую Зорку. На нос Хвалені Зорка не перапала, затое перапала пры невысокім росце моцная і сухая, бы юнацкая, падцягнутасць, якую падкрэсліваў тугі рэмень. Калі паспрыяе род заняткаў, гэтая выгадная рыса захаваецца назусім.

– Падаецца мне, роля пасіі вас не натхняе? – спытаў Хваленя з усё той жа няпэўнай усмешачкай.

Ліду не натхніў і гэты выгін размовы, пададзены ў свецкіх інтанацыях. Прыхарошаную няшчырасць яна адчувала нутром і на дух не пераносіла. Што не выказаць простымі словамі, у таго мэта запудрыць мазгі.

– Дзіўна вы пытанне ставіце, таварыш капітан! Калі б мецілa я ў пасіі... Э, дзеля гэтага можна не асвойваць знішчальнік. Сыдзе й пасада машыністкі – тую ж Любаню ўзяць!

Ліда кінула паблажлівы позірк паўзверх яго пляча: згаданая машыністка, скрыжаваўшы на грудзях зграбныя паўнаватыя рукі, мулялася ля супрацьлеглай сцяны і відавочна мерзла ў паркалёвай сукенцы з кароткімі

рукавамі. Чырвонай у белы гарошак – як памідорынка ў пырсках смятаны. Мусіць, машыністка мела адносна капітана свой інтарэс, бо, сустрэўшыся вачыма з Лідай, гнеўна адвярнула бландзіністую фрызуру. Ліда ў сваім цёплым практычным швэдры толькі злаўцешна чмыхнула.

Хваленя бегла азірнуўся, але кудзеркі Любы, высветленыя перакісам да колеру а-ля ейная цёзка Любоў Арлова, не адцягнулі яго ўвагу. На жаль. Тым не менш і мёртвую зону вакол Ліды ён не парушаў, хаця мінакі ў цеснаце чаплялі яго локцямі.

– Па-вашаму, ролі знішчальніка і... скажам так, сімпатыі не сумясціць? – ён з прыхільным скепсісам пабарабаніў пальцамі па конаўцы.

– Па-мойму, вайскоўцам наогул карысна засяродзіцца на працы. Вайскоўцам абодвух палоў, – удакладніла Ліда, – але жаночага – найперш. Не хапала, каб службе настаў гамон з-за якой дурной нечаканкі.

– Напрыклад?

– З-за дзіцяці, каго яшчэ! – яна паціснула плячыма з дзёрзкім азартам рызыканткі, якой няма чаго саромецца старшага па званні.

– То бок служба для вас – нешта вышэйшае за чалавечыя зносіны? – Хваленя пасмейваўся, нячутна ў святочнай гамане. Краем вока ён пільнаваў новыя штуршкі, але позірк яго вяртаўся і зноў прымагнічваўся да Ліды. – А што, калі я выкажу адну думку... Небяспечную! Фармальна дзяўчыне не заганна абмежавацца зносінамі, а да службы, фронту не мець дачынення. Падыдзем рацыянальна, як вы любіце: тут “до смерти четыре шага”. А дзяўчына, можа, хацела б аднавіць у краіне жыцці, якія вайна адымае. Не стане яе – не стане жыццяў. Ці не так?

Цяпер пацвельваў ён, прычым тапорна, і Ліда гэта ведала. Але “клюнула”. Не проста так прагучала цытата з песні! Хоць і была Ліда аматаркай бравых маршаў, а “Зямлянка” Лідзіі Русланавай (і тут цёзка) незаўважна прапіхнулася ў выключэнні. Толькі гэты матыў з усёй навагодняй самадзейнасці змусіў яе адарвацца ад бляшанкі бясцэннай тушонкі і асцярожна, каб не бразнуць лыжкай, адставіць на стол. Павольна, ціхутка разжоўвала Ліда мясныя валокны, ад смаку якіх цякла сліна і соладка сціскаўся страўнік, і ў пераліваx гармоніка ёй чулася, як трашчаць-страляюць у буржуйцы дровы, бачылася, як гайдаецца цьмянае жоўтае святло газнічкі, адчувала, як у рукавы забіраюцца зябкія мурашкі. А сэрца саграваласся ад удзячнасці: ні радка, ні слова няма аб тым, што адрасатка бессаромна адседжваецца ў бяспецы. Магчыма, песня напаткае яе ў такой жа сырой зямлянцы ці на прадзьмутым вятрамі аэрадроме, у нехлямяжай ватоўцы, з парэпанымі пальцамі...

У пытанні жаноцкасці часоў вайны Ліда была катэгарычнай: дбаеш адно аб знешнасці і камфорце – курыца. Іншы назваў бы такі падыход празмерным, але яна адстойвала яго зубамі і кіпцюрамі. Спусціць Хваленю кпіны было нельга.

– Па-першае, таварыш капітан, “тут” у нас не фронт, а паскудны тыл. З якога яшчэ выкараскайся, – адсекла яна з металам у голасе. – Па-другое, мужчынскі пол вайна выкошвае мацней, чым жаночы, і для краіны гэта не навіна. Калі сумленне тыповай дамашняй Кацюшы дазваляе ёй ліць слёзы замілавання над салдацкімі трохкутнікамі... і выціраць шчокі сіняй хустачкай...

– Мушу зазначыць: у перапынку між заводскімі зменамі ды палявымі работамі, – неназойліва паправіў Хваленя, якому не дазвалялі вольнасцей партыйныя кайданы.

– А хоць бы і так! Не цярплю, калі выдаюць з сябе паненак слабага полу, у ручках якіх самая грозная зброя – кухонныя прылады. Не цярплю і сама не раблю таго. Ну, а па-трэцяе – мэты паміраць у мяне няма! – пераканана падсумавала Ліда.

На апошніх словах патэфон захрыпеў і з камічнай трыумфальнасцю завёў танга. Хваленя вагаўся ад сілы дзве секунды, пасля чаго апусціў конаўку на стол і па-джэнтльменску працягнуў руку Лідзе.

Схіліўшы галаву, яна паглядзела на яго праз адтуліну ялінавай сушкі, як праз прыцэл. Крытычна і не без стомы. Але аргументаў на карысць службы ў яе было яшчэ поўна, а абражаныя пачуцці шкрабаліся ў грудзях, як хрушчы ў слоіку, і гнеўна гулі.

Паглядзела. Узвяла вочы да растрэсканай столі ў гірляндах чырвоных, сініх, жоўтых сцяжкоў. І нехаця падала руку.

Што стала першай яе памылкай за ноч.

– Толькі я не па гэтай часці, – адразу адхрысцілася яна, ледзьве другая яе рука нязручна легла на плячо Хвалені, а ягоная – упэўнена – ёй на стан. – Тым больш пад "Стомленае сонца". Нудзяціна!

– Не любіце танцаваць? – спытаў ён дзеля парадку. Яны тым часам уліліся ў разбіты на пары натоўп, такі непрывабны для Ліды.

– Ні ў якую! Выглядае жудасна ганебна, калі казаць пра войска. Ён, значыць, гэткі паважны, пры ордэнах, сёе-тое... А ёй належыць выпраменьваць прыгажосць і вытанчанасць. Убор як далікатней, абцасы! Манернае лыпанне вейкамі! Фіфа-шалахвостка, а не баец. Гэта прыніжае, гэта... робіць слабай. Залежнай! Хаця насамрэч у яе, можа, і званне што трэба, і прафесійнасць, і...

Ліда ўражана асэнсавала, што ад нядоўгай гарачай тырады паспела запыхацца, і была вымушана з увагай вымяраць крокі. Залішняя блізкасць узнервавала яе, сказы пасыпаліся спешна і дробна, быццам ад таго сітуацыя магла перастаць бянтэжыць. Будзь Хваленя вышэйшы, ну хоць татавага росту, яны б не апынуліся так бязглузда твар у твар! Ажно дыханне змешвалася. Прытым кавалер сапраўды паскудна франціў выпраўкай, капітанскімі пятліцамі, двума ордэнамі (цю, бачылі і салідней), а Ліда ў сваім кампрамісным швэдры і без рамяня пачувалася аголенай.

– Карацей, быць вядзёнай я згодная ў палёце, але не ў танцы! – гыркнула яна, сярдуючы на сябе і на Хваленю заадно. Варожа падцягнулася, наструніла спіну, каб ён адчуваў пад рукой яе ўласную строгую выпраўку.

– Бязлітасная вы, таварыш Лідзія! Маўляў, калі не баец, то і дзяўчынай звацца забаронена, – паўшчуваў ён. Было непрыкметна, каб змена раскладу аказалася яму ў цяжар. Наадварот, у найлепшых традыцыях сваёй патрабавальнай прафесіі ён паспяваў і весці дыялог, і пазбягаць сутыкнення з іншымі парамі, і захоўваць на фізіяноміі памяркоўны піжонскі выраз. – То бок залежаць ад кагосьці вам не даспадобы... Між тым пакора і танцавальнага партнёра, і вядзёнага вынікаюць з адной і той жа патрэбы. У еднасці. Дзеля сумеснага плёну.

– Не памятаю, каб давала згоду яднацца.

– Я ўсяго аб тым, што адно і другое – залежнасць. Раз пад вядучага непрыемна падладжвацца на паркеце, наўрад ці выйдзе інакш у небе... усюды. У блізкіх стасунках таксама.

"Чыстая праўда!" – помсліва падумала Ліда.

– А чаму ж, вы думаеце, я абрала знішчальнік, а не бамбардзіроўшчык? Каб не дзяліць кабіну ні з кім!

– Абралі вы? Ці вам *дазволілі* абраць? І тузаюць, тузаюць за нітачкі ў залежнасці ад настрою. У полк баявы? У полк вучэбны? У супрацьпаветраную абарону?.. – ён засмяяўся, калі Ліда парывіста сашчапіла пальцы і вылаялася скрозь зубы, бо патрывожыла ранкі ўсе да адной. І, нягледзячы на квяцістыя фразы Хвалені, па якіх можна было палічыць яго бяскрыўдным фарсуном, ля рота праступілі і зніклі жорсткія складкі. – Абкружылі ўсе, га? У клешчы заціснулі? Гэта і мне знаёма, самога ў сорак першым паматляла. Полк быў знішчальны, часта перафарміроўваўся: то людзі скончацца, то тэхніка. Людзей новых нахапаць з вучылішчаў, ламачча памяняць на штосьці цэлае, але гэткае ж састарэлае... Не надта прадукцыйна, між намі (хаця б з пункту гледжання матчасткі), ды мусіш лётаць на тым, што даюць. Цяпер прастора для манеўру ёсць, дзякуй авіяканструктарам, але заўважце: можна паставіць сябе па-вашаму і дабівацца свайго атакай лоб у лоб. А можна... так бы мовіць, падысці гнутка. Наладзіць сувязі. Займець чыюсьці падтрымку. Гэта ж, падаецца, якраз жаночая тактыка?

Ах ты тхарына, вось адкуль падкрадваешся!

– Не ведаю, не ведаю... Пакуль што ўсе імкнуцца наладзіць сувязь са мной! – Ліда нецярпліва хітнула галавой, змахваючы ліслівае павуцінне.

За яліну яна зашылася не ад недахопу мужчынскай увагі, а ад перабору. Мёдам ля яе намазана, ці што? Хіба мала партнёрак, упакаваных у святочнае? Вунь Люба агрэсіўна заправіла за вуха кудзерку, у паставе ці то агіда, ці то фанабэрыя: “На танцы – у штанах?! Дзікунка!” Але тое, што не ўкладвалася ў межы прыстойнасці Любы, чамусьці не адштурхвала хахаляў. Пасля добрага паўтузіна запрашэнняў Ліда перастала забіваць сабе галаву тым, як адмовіцца культурна, і далей дэманстратыўна адварочвалася. Які там гнуткі падыход! Надта прадказальна круцяцца шасцярэнькі ў гэтых галовах. Асобных кадраў, абцяжараных пачэснымі вырабамі з металу, яна і так абыходзіла па шырокай траекторыі. У навагоднюю ноч з яе напоямі тым больш.

Вось калі б танцаваць паклікаў хто з чацвёркі душэўных хлопцаў з палка начных бамбардзіроўшчыкаў, Ліда была б не супраць. Яны пазнаёміліся ў цягніку па дарозе ў трэніровачны полк і сышліся на тым, што перавучвацца на знішчальнік Ла-5 і штурмавік Іл-2 аднолькава прэстыжна. Трымаць сябе з імі можна было з таварыскай лёгкасцю, ведаючы, што не прыйдзецца ні адстрэльваць на падлёце хцівыя заляцанкі, ні накрываць далонню конаўку перад рыльцам бутэлькі. Што праўда, з прычыны душэўнасці расхопліваюць такіх хлопцаў хутка. Ліда вылавіла сям-там знаёмыя чупрыны, паланёныя кудзеркамі, і хмурна адзначыла: ёй свеціць толькі кампанія Хвалені.

Рука ж на стане няўзнак пачала ціснуць настойлівей, для першага танца аж занадта. Ліда здушыла гырканне і загадала сабе выдыхнуць. Халера, ну хоць сёння не кідайся на чалавека. Падумаеш, дала прыабняць раз на год у Новы год. Гэты фрукт яшчэ не горшы варыянт!

– А швэдар у вас прыгожы. Звычай адзін каўнер відаць... І не колецца – амаль.

Выбітная змена тэмы.

– Мдэ?

– Так, так! Калі ў ім зручней, арганічней... то няма чаго і знемагаць у вобразе, гм, шалахвосткі.

– І на тым дзякуй. Што дазволілі. Яму, дарэчы, сёлета... хвілінку... роўна дзевяць гадоў стукне.

– Ды кінься!

– Баба Наста вязала. Усім аднолькавы ўзор – тату, мне, маме... І пару шкарпэтак кожнаму.

– Ці не да Новага года, часам?

– Блізка, але не. Дата была – пятнаццаць гадоў з вяселля... Бацькоўскага, ясна. У студзені, – неахвотна патлумачыла Ліда, хаваючыся ў кароткіх каструбаватых сказах.

Абмяркоўваць сямейныя справы з Хваленем было гэтак жа не да месца, як распісваць нелюбімай настаўніцы англійскай свае поспехі ў асаавіяхімаўскай стральбе. З другога боку, разважыла яна, гэтаму штучнаму абмену фразамі любы кірунак пасаваў больш, чым бачныя з-пад жаночай гімнасцёркі дэталі гардэроба.

– Мой швэдар спярша ляжаў: я хацела барвовы. Бо ў шэрым задужа ціхмяная і пушыстая. Ды і баба Наста абачлівая была: парупілася, каб на выраст...

Па шчырасці, Ліда прытамілася пікіравацца. Павольны танец і цягамотная скрыгатлівая песня (ці не паставіў хто пласцінку нанова?) укалыхалі яе – павекі пацяжэлі, мышцы занылі напамінам, што за спінай страшна доўгі трэніровачны дзень, а заўтра... ужо сёння чакаецца наступны. Млявы позірк не ўспрымаў сталовую цалкам, выхопліваў драбніцы: форменны рукаў паўзверх персікавай сукенкі ў завітушкі, палатно святломаскіроўкі з папяровымі ялінкамі і белымі мядзведзямі, лысаватая герань, пустая шклянка на абвязанай кручком сурвэтцы, сляпучы водбліск у вянку каштанавых кос, растрапаных ад руху...

Ліда прыплюшчыла вочы і ўбачыла прыборную дошку, а над ёй – пераплёт кабіны, а за ім – чароўную сінь, распаленую жніўнем. І стомленае сонца, што развітваецца з морам... морам аблокаў, сярод якіх чарнее сілуэт "хейнкеля". Яго можна зрэзаць раней, чым бомбы пачнуць сеяцца на наземны аб'ект. Трэба выбраць удалы ракурс, прычакаць дыстанцыі – і...

– Ірынка-а, агу! За наш стол хадзі!

– Ну што, ну як? Не прыставаў? Тушаваўся ці жартамі сыпаў?

– Уф, дайце аддыхацца... Стамілася – страх.

– Як не стаміцца: пяты танец запар! Я лічыла. Усё, галубка, прапаў старлей! Вяжы цёпленькім!

– Цьфу на вас, нічога яно не значыць. А можа, і закахаюся... Зрэшты, ён курыць. Усё-ткі гэта неяк...

– Ды хто цяпер не курыць? Смешная!

– Ой, дзевачкі, а я чула – тады цалавацца горка.

– Ну-у-у, я вам скажу так: пакуль не заслалі чалавека на кудыкіну гару...

– Яшчэ і лепш – пацалункі лістамі адпраўляць!

Выбух смеху канчаткова перакрэсліў авіяцыйную мроюю, і Ліда прымусіла сябе вярнуцца, адчуць хваравітымі падушачкамі пальцаў сукно чужой гімнасцёркі і чужую далонь. Звычайную, у прынцыпе, далонь. Нічога такога, чаго б нельга было патрываць.

– Да д'ябла святы... Да д'ябла. У самалёт – і дзяўбаць фрыцаў! – прамармытала яна ў прастору.

– Што вы сказалі?

– Што хачу драпануць адсюль як хутчэй. У сэнсе, з палка. На фронт.

– А, вось аб чым вашы мары адносна сорак трэцяга?

Позірк Ліды слізгануў па твары Хвалені – без цікавасці, з доляй недаўмення. Бітую гадзіну гнеш сваё, губляеш энергію на непатрэбныя стасункі, а назола хоць і падлашчваецца як мага, ды не цяміць. Рашуча нічога.

Хваленя чуйна ўнюхаў перамену і збіўся з музычнага такту – упершыню. Уражвальнае, мабыць, відовішча – Ліда, якая не злуецца і не жартуе.

– А гэта досыць... радыкальна. Адмяняць і жаноцкасць, і святы... – ён няўклюдна перавёў размову ў іншую плоскасць. – Я чуў, прыяцелі вашы чакаюць адпраўкі з дня на дзень. Сваю праграму адлёталі. Чым жа кепска адсунуць пакуль франтавое і... і пажыць ноч звычайнымі інтарэсамі, перад тым як...

– Гэй-гэй, там!..

Ён не быў гатовы і ўрэзаўся ў кагосьці плячом – ледзь не атрымаў ілбом Ліды па вострым носе. Яна аказалася спрытнейшай і нават не адтаптала яму нагу (шкада, прафукала магчымасць!).

– Цішэй, Яш, не разганяйся, – пачуўся гулкі глыбокі голас, і рослы падпалкоўнік Паўлаў, начальнік штаба, прытрымаў Хваленю за локаць. Узмахам паказаў, што не пацярпеў, і абвёў вачыма залу: – Аэрадром у нас зайздросны, няма нараканняў. А вось у сталовай асабовы склад мітусіцца, як у мурашніку...

– Так точна, павярнуцца няма дзе – адно ля аднаго тромся! Колькі можна? – бойка пагадзілася Ліда, якая скарыстала замінку і стрэсла руку Хвалені, перш чым выцягнуцца перад начальствам.

– А, *малодшы* лейтэнант Жук! – Паўлаў узвышаўся над Лідай, як дзядзька Сцёпа, нават з улікам пругкіх завіткоў яе чупрыны, і не абышоў памяркоўную мянушку. – Святкуеце? Прыемна бачыць у вашым лётным графіку адпачынак. Значыцца, справа ідзе. Дык, кажаце... калі? Калі вы адбываеце ў полк? – спытаў ён як пра штосьці вырашанае, задумліва паціраючы падбародак.

Ліда разумела, аб чым песенька. Але скасіла вочы на Хваленю, які надта неўраўнаважаным жэстам зачасаў валасы назад, і прыкінулася валёнкам.

– Злітуйцеся, таварыш падпалкоўнік! Мяне бяруць? Праўда? А звечара было глуха, я дастаткова цвярозая, каб памятаць!

Паўлаў пагразіў ёй пальцам – статны, фактурны, з няспешнымі рухамі і намечанымі залысінамі на скронях. Калі Хваленя наводзіў на думку аб перацягнутай у поясе літары Х, то ў Паўлаве бачыўся інстытуцкі выкладчык, што падчас размеранага чытання лекцыі рассеяна сочыць за паветранымі практыкаваннямі стрыжоў. Ён падабаўся Лідзе куды больш, чым каламутны Хваленя, хоць было не вельмі ясна, за яе ён ці супраць. Ледзь не пры кожнай сустрэчы ў іх вялася адна і тая ж гульня: Паўлаў двухсэнсоўна цікавіўся яе планамі на будучыню, а яна ўдавала, што ў намёках не кеміць.

Калі б іх планы былі аднолькавыя, кінула б чортавы інтрыгі даўным-даўно.

– Крыўдзіце, Ліда! Хто ж выпраўляе малодшых лейтэнантаў у белы свет? – Паўлаў адмераў вышыню яе макаўкі, пасля чаго развярнуў вялікую далонь да цэнтра сталовай: – А вунь колькі малойчыкаў дарасло!

– Ізноў жа, Ла-5 паступае нядаўна, – уклініўся Хваленя, – палкоў перавучана – з камарыную дзюбу... Так, Георгіч?

“Забі зяпу, я начштаба мігам забалбачу!”

– А я не з фарфору, мне полк рыцараў не трэба. Сыдзе звычайны! – ветліва агрызнулася Ліда. – Мяркую, літры і літры бензіну... якія ўзнікаюць аднекуль для маіх вучэбных вылетаў... прызначаны для таго, каб дадаць мне шанцаў.

Хваленя ўзняў бровы:

– Каб так і не дайшло да бензіну франтавога?

– Каб ніводны птах, ці высокага, ці нізкага палёту, – націснула яна небяспечным тонам, – не параўноўваў мяне ні з кім!

– Што ж вы гарачыцеся? – прымірэнча прагудзеў Паўлаў. – Як на маё, гэта неацэнна – калі кіраўніцтва праяўляе клопат, здаровую асцярогу...

Нешта спагадліва кранулася яе левай рукі ніжэй пляча – яна ўздрыгнула ўсім целам, як ад успышкі болю. І тут жа перавяла дух, і абмякла, і зазлавала на памятлівыя мышцы, якія выдалі спазм у адказ на дотык.

– Я вас папрашу не чапаць тут! – дрогкім ад раздражнення голасам адчаканіла яна, гледзячы міма Паўлава. І хоць ёй да жудасці хацелася пераплесці рукі на грудзях, як для абароны, пры старшых па званні яна мусіла ўтрымацца.

Падпалкоўнік, якога Ліда перабіла, адсачыў гэтыя целарухі з запозненым разуменнем. Прыбраўшы руку, ён дыпламатычна працягнуў:

– Канечне ж, за адведзены час можна выхаваць толькі натхнёную мішэнь, не лётчыка. І яшчэ ўлічым ваш... не скажу “пол”, скажу “выпадак”. Таму – калі ласка, асвойвайце тэхніку. Мы знойдзем для вас гаручае, гадзіны... Усё-ткі нават па цяперашнім часе крок неардынарны. Вы ж падумайце: дзяўчына – і каб мужчынская часць, знішчальная авіяцыя! Нонсэнс?

– А ні кропелькі! Запрашаю на поле – падлічыць, колькі разоў самалёт выкаціцца з паласы ў моцнай паловы. Мяне ж вучылі сядаць адзін у адзін, на дыбачках... А сярод нашых Ла-5, між іншым, ніводнай двухмеснай мадэлі – вунь, таварыш капітан ведае. Але, калі маеш імпэт, інструктар пад бокам без патрэбы!

Паўлаў слухаў з няяснай усмешкай, падціснуўшы вусны, і ўбок ківаў кожнаму, хто вітаўся ці віншаваў. Ліда ж упівалася пазногцямі ў рукавы швэдра і намагалася ўгадаць магчымыя віражы размовы.

Прысутны інструктар выразна адкашляўся:

– Калі будзе дазволена... Фронт – гэта трошкі больш, чым тэхніка пілатавання!

– Менавіта, – схіліў галаву Паўлаў. – І з гэтай нагоды – узважце, Ліда. У вас ёсць адтэрміноўка, пакуль тая вучоба. А далейшых шляхоў нямала – нават для дзяўчыны, – і, можа быць, пад канец трэніровак...

“Давай, скажы гэта! Без туману скажы!”

– ...вы прымеце рашэнне, у якім больш рацыі і менш рызыкі. Ці абяцаеце падумаць?

– Ёсць падумаць! – адрапартавала Ліда і з той жа інтанацыяй выпаліла супрацьлеглае: – Але ў жаночы полк я не вярнуся!

Прамая фраза ўпала між імі, і ўпала ў цішыні: якраз мянялі пласцінку. Хто ведае, што было б далей, калі б Ліду не адцясніла крутым сцягном “памідорка” Люба.

– З Новым годам вас, таварышы камандзіры, з новым шчасцейкам! – прашчабятала яна трапяткім перарывістым голасам, які бывае, калі непакоішся, або палаеш нянавісцю, або ніяк не сунімеш дрыжыкі ад холаду. Разам з ёю прыляцеў водар “Чырвонай Масквы”. – Якаў Фаміч, вы танцуеце? – з ненатуральным ажыўленнем пацікавілася яна, хаця бачыла, што танцуе. Позірк яе матлянуўся між плячом Паўлава, ордэнскім камплектам Хвалені і чамусьці Лідзіным тварам.

Хваленя не выявіў ніякай ахвоты, але нацягнута ўсміхнуўся і дазволіў Любе ўхапіць сябе за локаць. У іншых абставінах нахабная аэрадромная абслуга атрымала б ад Ліды па мазгах, цяпер жа заставалася хмыкнуць: “Ды на здароўе. Патрэбны ён мне як ластаўцы плаўнік!”

І вось яе збавіцелька буксіруе кавалера прэч і прыязна сакоча, папраўляючы каўнерык, абвязаны карункамі. Усе да адной сталоўскія сурвэткі абвязала яна – з пчаліным энтузіязмам, глуха незразумелым для Ліды.

– Доўга загойвалася?

Ліда не адразу разабрала, што пытаюцца ў яе. Паўлаў злавіў яе няўцямны позірк і паказаў вачыма на руку.

– Ну... – яна няпэўна ўзняла плечы, спрабуючы выказаць рухамі тое, што не выказвалася словамі. Здалася: – Ну, доўга.

– Складанае раненне?

– Я не задумвалася. Ды не, здаецца... Асколачнае. Рука не хацела назад у полк, і ўсё!

– Няўжо... дагэтуль? А згодна з вашай асабовай справай...

– Не, прайшло! Даўно прайшло. А гэта – так, кшталту нерваў. Тузаюся без дай прычыны... Лухта, таварыш падпалкоўнік!

– А што ж полк? Жаночы. Знішчальны. Чаму рука туды не хацела?

– Таму што полк не мой. Не пад мяне, – Ліда з выклікам задрала падбародак да Паўлава. – Калі б не падвярнулася раненне, я б адтуль збегла.

– Смелая заява пры начальніку штаба! – зазначыў ён, пасмейваючыся. – І што вы плануеце знайсці ў мужчынскім палку, чаго не было ў жаночым?

– Я... Сябе. Які яшчэ адказ? – прабурчэла яна. – Вы зірніце вакол, Пётр Георгіч! Ну дзе тут я? Дзе мне месца сярод краляў? Ды я ў жыцці з дзяўчатамі не сябравала!

– Краляў? А мне, прызнацца, уяўляўся гэткі полк валькірый. Вашага гатунку. Згадаем беспасадачны пералёт першых нашых гераінь на Далёкі Усход... Слаўную пілатажную пяцёрку на парадах у Тушыне... – важка пералічваў Паўлаў, не хаваючы ўсмешкі. Пры яго асаблівым тэмбры гучала гэта як бясспрэчнае прызнанне ўсёй жаночай авіяцыі.

Калі ён збіраўся пацешыць Лідзіна самалюбства, то выйшла наадварот.

– Ды ёсць там лётчыцы з пяцёркі! І заснаваць прыдумала Гераіня... Але што з таго, калі яны жанчыны ўсё роўна? – Ліда не стрымалася і адпіхнула кірзачом табурэт. Той небяспечна гайдануўся на дзвюх ножках і грукнуўся назад на чатыры. – Бо чалавек жа... ён хоць у форме, хоць без – аднолькавы. Калі надзець на мяне шаўковую сукенку ў падлогу, ува мне не прачнуцца манеры князёўны. А ў знішчальным палку да халеры жаноцкасці – хаця фарміравалі, здавалася б, з паплечніц!

– Але ж вы туды пайшлі? Пайшлі самі?

– Таварыш падпалкоўнік, давайце шчыра: каму я патрэбна ў звычайных часцях? Мяне там ні ў якую не чакаюць... зрэшты, і пасля перавучвання чакаць не будуць. А жаночы полк... Гэта была адзіная шчылінка! І ўсведамляеце вы, які адбор трэ было прайсці?

– Выглядае, што невыпадковы, – мякка вымавіў Паўлаў.

У Ліды сярдзіта ўздрыгнулі ноздры, скура на пераноссі зморшчылася, як у кошкі, гатовай зашыпець.

– Я ведаю, аб чым вы думаеце! Прадказальнасць, цягавітасць, ніякай лішняй адказнасці – колькі выгодаў, калі на службе адны хлопцы! – яна

ўсклікнула гэта занадта гучна, і сям-там у іх бок павярнуліся пазабаўленыя галовы. – Бачце – глядзяць! Я і іх думкі ведаю: заманулася дзеўцы пагуляць у Чкалава – уперад і з песняй, а мы пасочым. Але я не гуляю, ясна? Мне ў гэтым жыць. Я прабілася ўсяго туды, куды здолела, і толькі ў шпіталі зразумела, чаму мне было так... невыносна!

Паўлаў у роздуме пазіраў на яе зверху ўніз, быццам чакаў працягу. А яна, узрушаная, заблукала ў эмоцыях і згубіла сэнс размовы.

– Дапусцім... Але вы і цяпер у мужчынскім палку, Ліда. Ці не так?

Яна моўчкі збянтэжана торгнула бровамі.

– Вы ўжо трапілі ў полк з мужчынскім лётным саставам. За дробнымі выключэннямі сярод інструктараў. Ці падабаецца вам... тое, што вы адчуваеце?

"Адчуваю што?" – хацелася крыкнуць ёй, аднак вельмі ж ціснулі ў грудзях абурэнне, крыўда, скрэблася зняважа ад нядаўняй нежаданай рукі вакол стану...

Ды ўсё слушна сказаў Хваленя! У іх безліч будняў, афарбаваных у хакі, – аднымі святамі і расквеціш. Праблема ў Лідзе. І яна не знайшла б ні слоў, ні падстаў, каб яму растлумачыць, якой чужой, *іншай* адчувае сябе ў гэтай супольнасці. А іншасць скажае любое свята і гоніць туды, дзе станеш сваёй.

Але аб гэтым Паўлаў ведаць не будзе.

– Нават малодшы лейтэнант можа вырашыць сам, – суха адсекла Ліда, перамахнуўшы цераз некалькі гіпатэтычных пустых рэплік. – А вы, Пётр Георгіч, на сваёй пасадзе цалкам можаце пайсці супраць. Калі атрымаецца!

– Воля ваша, – Паўлаў нязмушана заклаў рукі за спіну і расправіў плечы, дадаўшы дзядзька-Сцёпаваму росту сантыметр-другі. Што адчувае ён, расшыфраваць было немагчыма, і ад таго арэол літаратурнага героя безнадзейна блякнуў. – Усё, усё, досыць баталій! Не будзем псаваць ноч. На вальс не запрашаю, бо збяжыце... дый ад папярэдняга партнёра вас толькі вызвалілі. А трымацца абранага курсу ён... умее.

Паўлаў кіўнуў на развітанне і нетаропка рушыў узбоч танцавальнай пляцоўкі, прамы і прыкметны ў натоўпе, як вартавы.

Апошнюю фразу Ліда палічыла нагодай знікнуць з вачэй. Да таго ж у зале было душна, а ёй пасля цьмяных утомных размоў хацелася на паветра.

Прабраўшыся да дзвярэй, Ліда штурхнула створку рабром далоні, дзе ранак не было... і аслупянела: убачыла сябе. Малую, ладна складзеную, пахлапечы пастрыжаную на патыліцы і баявіта-чубатую.

Секунда спатрэбілася ёй, каб усвядоміць атрамантавы, неасветлены інтэрнацкі калідор, а насупраць – шыбу з адлюстраваннем сталовай, заклееную палосамі паперы крыж-накрыж. Сцены залы, госці, яліна – усё злівалася ў гнілавата-жоўты фон, а на першым плане шарэла постаць Ліды.

І тут яна ўлавіла з раптоўнай мастацкай яснасцю, не характэрнай для яе, але часам уласцівай чалавеку зморанаму (калі няма энергіі хлусіць сабе): на вечары агіднай была колеравая гама.

"Лепш не барвовы швэдар. Пунсовы. Яркі макава-пунсовы!" – безапеляцыйна вырашыла Ліда.

Са знешнасцю ёй пашчасціла. І з манерамі. Была б яна краляй – ні ў якой там мужчынскай супольнасці не відаць ёй ні свецкіх дыспутаў, ні "вы".

Яна пераступіла парог і выспяткам зачыніла жаўцізну ў сталовай.

У тую хвіліну калідорная цемра здалася суцэльнай, насамрэч жа праз

вялікія вокны сеялася дастаткова зімовай белаты (паверх быў першы). Але і да таго, як прывыклі вочы, нос падказаў, што паветра свежае толькі фармальна: тут дымілі. Ля аднаго з падаконняў прыладзілася троіца смяшлівых, прыемных нечым хлопцаў; Ліда на слых прымерыла ім лейтэнанцкія званні. Адзін шырока, зухавата жэстыкуляваў, імітуючы атакі самалётаў пад неймавернымі вугламі, другія паміралі ад рогату – чорныя сілуэты на фоне акна. Зоркамі ўспыхвалі і тухслі агеньчыкі папярос.

– ...Джгаю ад яго ва ўсе лапаткі, матор "ястрабка" надрываецца – карціна! "Худы" як дасць чаргу... Гэтак вось прайшла, цюцелька ў цюцельку!

– Ну?!

– Так! Я аж змакрэў. Калі б не ўціснуў педаль...

– Дык а маёр што?

– Маёр глотку рве: "Куды цябе чэрці нясуць?! Пад нашы кулямёты яго падводзь!" – "Не магу, – апраўдваюся, – муха ў кабіне. Мітусіцца, як шалёная, – свету белага не бачу!" Ён – у лаянку...

– Сказаў мо ліхтар адкрыць?

– Не, ты слухай! "Адставіць неўроз, – крычыць, – унутраныя ворагі – не мая епархія! Пры мне каб знешніх лупцаваў!"

– Ха-ха-ха!..

Ліда, незаўважаная, слухала і адольвала імпульс напрасіцца чацвёртай. А будучыя штурмавікі штурмуюць, насупілася яна – сталовая прыглушана гаманіла з-за дзвярэй. Ну, так, што яшчэ ім рабіць, калі звыклі да начной працы?

Хваляй накаціла знясіленасць, распасцерла па сцяне. Зашмат Ліда сёння злавалася. Цягам апошняга месяца энергія ў яе заканчвалася хутка, і яна не хавала, што на навагодні вечар прыйшла паесці. З кармленнем у тылавым палку было адчайна туга: нават святочны пачастунак складаўся з паўпустога супу, нязменнай прасяной кашы і гарэлкі. Абед падалі замест вячэры, хаця пераменаю месцаў складаемых арганізм не падманеш (усяго радасці, што плюс кісель). Забеспячэнцы разводзілі рукамі: хочаце франтавую норму – кіруйце на фронт! Нядзіўна, што пры такім харчаванні ў Ліды трэскаліся пальцы.

Па шчасці, прадпрымальныя штурмавікі дасталі колькі бляшанак тушонкі, каб дапоўніць "паляну" і заадно адзначыць ад'езд. Яўна не абышлося без віншавальнай пасылкі, якую ім уручылі разам з ордэнамі. Яны цямнілі і аджартоўваліся – можа, каб не дзяліцца з усімі, – хаця разжыліся тытунём і дакладна займелі па насоўцы.

Не тое, каб Лідзе было зайздросна... Але мама пад свята магла б даслаць хоць што-небудзь. Замест катэгарычнага ліста з натацыямі наконт ранення!

Ліда хмурна падняла да вачэй наручны гадзіннік – нелагічна ў змроку. На цыферблаце фосфарна свяціліся стрэлкі. Ліха ведае што: ці то завальвайся ў ложак, выкрадваючы рэшту начных гадзін, ці то з тлумнай галавой чакай світання.

– А што, калі паспеем усё ж? Перафарміруемся...

– Найноўшыя машыны атрымаем...

– Не-е, братачкі, у Сталінград не паспець! Хлопцы гансаў раскатаюць. А калі не, тыя самі памерзнуць. Шчыра – не шкада. Сам бы ўсыпаў па акопах за ўсё добрае...

– І я. Нам ізноў дабіраць дзве эскадрыллі.

– Уліплі ж мы ў гэтае перавучванне...

– Без панікі, мон амі! Бадай, не апошняя заварушка. Чуе маё сэрца: нешта ды будзе, можа нават вясной-летам. І я збіраюся быць у абойме!

Кулак з рашучым стукам упёрся ў раму, і ў цішыні стала чуваць з-за павароту на лесвіцу здушанае хіхіканне і гукі пацалункаў.

Ліда, якая затаіла была дыханне, з прыкрасцю засапла. Вяртацца ў сталовую расхацелася.

“А можа, на бакавую?” – спытала яна сябе. І пазяхнула.

Трашчаў пад ботамі рассохлы паркет, аб сукно кішэні лёгка шамацеў фанцік. Плямы аконнага святла чаргаваліся з палосамі змроку. Інтэрнат лётнага саставу займаў будынак школы, і цяпер Ліда плялася, мінаючы дзверы класаў, у бок сіметрычнай, “сваёй” лесвіцы, па якой трэ было дапаўзці да чацвёртага паверха. З тыдзень таму яе перасмыкнула б ад думкі, што яна можа ісці так марудна і няцвёрда, але на звычайную хаду, па-страявому бравую, якой Ліда так ганарылася, больш не ставала сіл. Дагэтуль арганізм трываў па звычцы, ашчадна падбіраючы крыхі моцы, як хлебам падбіраюць з талеркі ежу – рэдкую радасць. Аднак на сёння з Ліды было досыць, ногі згаджаліся данесці яе не далей чым да халоднай каморкі з наветранага боку інтэрната. А там яна, не распранаючыся, калодай паваліцца на ложак, неслухмянымі рукамі закруціцца ў коўдру з шынялём паўзверх... і мёртва адключыцца да світання.

“Мала табе, ненажэра? А як жа тушонка? – напусцілася на сябе Ліда. – А ў кабіне ты мне што ўтворыш?”

Зрэшты... Пакуль ніхто не бачыць, ёй можна не быць моцнай.

Яна млява дазволіла сабе брысці як брыдзецца, расслабіла спіну і зябка схавалася да носа ў каўнер, а рукавы нацягнула да палушчаных костачак. У калідорах было ніколечкі не цяплей, чым у каморцы, але швэдар выручаў, хоць за гады аблез і стаў у плячах цеснаваты. Ён памятаў шмат. Як Ліда, пасварыўшыся з мамай, адмовілася святкаваць з ёй Новы год і ганяла з хлопцамі на лыжах пад Мінскам. Як у чыталцы МАІ ўмінала над канспектамі пернікі бабы Насты (маміна мама мудра нагатоўвала іх гарамі, усцешаная, што наравістая ўнучка не супраць яе кампаніі). Як год таму на занятках па аэрадынаміцы суседнія парты ўсчалі азартнае абмеркаванне схем і формул: прычоскі пад хлопчыка, у нагрудных кішэнях аднолькавыя чырвонаармейскія кніжкі з запісам “пілот”, але ўсе да адной – дзяўчаты, дзяўчаты... Форма мусіла ўраўняць іх з Лідай, ды толькі падкрэсліла розніцу.

Ясна адно: назад у дзявочае атачэнне яна не сунецца і за пернікі. А тыя сышлі разам з летам сорак першага і бабай Настай, сэрца якой не дачакалася Ліду з падмаскоўных акопаў.

Асцярога, заклапочанасць... Годзе! Колькі гадоў трэба мужыкам, каб зразумець: правільней змагацца сумесна, без падзелу на моцных і слабых!

Цьфу, “Стомленае сонца” заела. Ну, магла ж сысці на “Рыа-Рыце”! Спрабуючы перабіць, Ліда настойліва замурлыкала матыў “Зямлянкі” – хаця, па ўласнай заяве, у плане музыкі не мела ні голасу, ні слыху, ні нюху. Хіба не была супраць падцягваць без слоў. Ну, а матыў ёй гэтым вечарам нагадалі!

З “Зямлянкай” наогул выйшаў казус: пакуль рассаджваліся гледачы, неспадзявана выявілі адсутнасць выканаўцы. Ранкам ён тэрмінова адбыў на месца службы з палком “пешак”, а спевака на замену не знайшлося, як і пласцінкі (яе ліквідавалі яшчэ летам, бо ў тэксце былі падлічаны пра-

славутыя крокі да смерці). Застаўся, уласна, уладальнік гармоніка – здаравенны дзяцюк-механік, якога Ліда памятала па галасе... а дакладней, па крэпкіх слоўцах, што разносіліся над стаянкамі часцей за цэнзурныя. Яго і выпхнулі з інструментам у цэнтральны праход – хаця б сыграць, ратуючы нумар.Ператварэнне з акампаніятара ў саліста ўвагнала яго ў такую збянтэжанасць, што ён фальшывіў, не трапляючы па кнопках, а схілены да гармоні твар наліваўся бураковай чырванню. І ўсё ж атрымалася пачуццёва: на першым жа бясслоўным куплеце смяшкі ўлегліся, стук прыбораў сціх, а неўзабаве столік дзяўчат супольна зашмыгаў носам і пусціў слязу (Ліда, якая ў свяшчэнным бязмоўі дажоўвала тушонку, раздражнёна клацнула зубамі).

Тым часам адшукалася багата тых, хто ведаў тэкст. У розных кутках залы пакрысе нарадзілася сама песня – уразлад, зусім нягучна, але чым далей, тым больш важка і шчымліва. Моц яе была ў іншым. У розніцы між імі ўсімі. У тым, як шмат розных ставарае адно, плюнуўшы на забабоны партработнікаў. У тым, што без аніякай змовы галасы былі мужчынскія – а мужчынскай была і песня. Здалося істотным і правільным, што спевака няма (мо і не па збегу абставін?), а яны з'яднаны ёю, пакуль не надышоў новы дзень і не паразносіў іх сняжынкамі ва ўсе бакі. Ліда і замерла ў тонкім усведамленні гэтай істотнасці, каб не спудзіць яе, не вярнуць будзённае-пошлае, у чым не знаходзіла сябе.

А ў яднанні – знаходзіла. Яно не выключала яе з усіх. Яно дазваляла ўспомніць, як гэта – калі ў гурце хлопцаў ты *свая*.

Калідор здаваўся ў цемры бясконцым, ды ўрэшце выступіла лесвіца, коса лёг на сцяну частакол-цень парэнчаў. Наваліўшыся на іх з палёгкай ("толькі ноччу, толькі дзеля бяспекі!"), Ліда пачала пакутны шлях наверх. Шчыра кажучы, менавіта ад унутранай пустэчы ёй прыходзілася цяжэй за ўсё. Размеркаваўшы асабовы склад у залежнасці ад полу, кіраўніцтва лёгкім рухам зрабіла яе белай варонай сярод чырвоных сокалаў. І халера ведае, як змяніць пер'е.

Аднак з песняй, што так накладвалася на яе пачуцці, было звязана і тое галоўнае, глыбіннае, у чым Ліда не прызналася нават сабе. Калі б умела яна складваць словы ў вершы, то адзін-адзінюткі мужчынскі радок перапісала б. І ператварыла песню ў жаночую.

Калі ж змоўклі апошнія гукі гармоніка, яднанне сталовай пратрымалася ўсяго некалькі секунд цішыні – да першых воплескаў...

– Чакайце, таварыш Лідзія!

Яна ачомалася ад разваг на другім паверсе, калі намацала нагой прыступку чарговага лесвічнага марша.

– Ды ладна! – яна хмурна вызірнула ў пралёт.

Так, яе даганяў чорны, але пазнавальны сілуэт капітана Хвалені, які на хаду насоўваў фуражку. І якога ёй менш за ўсё хацелася бачыць ізноў.

– Чым абавязана? Туфлік я не губляла, і поўнач даўно мінула... – Ліда занадта стамілася, каб гуляць у прыязнасць.

Шаснуць бы ў цёмны кут, але на гэта яна не назапасіла высілкаў. Прыйдзецца вастрыць язык. Ну, чаму нават чортаў асколак, злоўлены рукою, не навучыў яе захоўваць баяздольнасць і на падлёце да бяспекі?

– Даруйце, не стану затрымліваць! – сціпла запэўніў Хваленя, узбягаючы на пляцоўку, спрытны і падцягнуты, як заўжды. Амаль не зад*ы*хаўся, паскуднік. – Размова наша перарвалася... Хацеў давесці да лагічнага закан-

чэння. Ёсць у мяне пара грунтоўных думак, якія няблага развіць сёння ж, па гарачых слядах. Ці згадзіцеся выслухаць?

І так неяк падступна будаваў ён фразы, што асаблівай назойлівасці ў іх не было, але адмову яны не прадугледжвалі. Хіба метадамі сілавымі ці адкрыта нахабнымі.

– Валяйце, – кісла дазволіла Ліда, са шкадаваннем прыбіраючы нагу з прыступкі.

І памылілася ў другі раз за ноч.

Супярэчачы свайму ж абяцанню не затрымліваць, Хваленя закурыў. Агеньчык ускінуўся, асвятліў яго твар, злавесна паглыбляючы цені, і перасеў на кончык папяросы.

– Не курыце, так? Я запомніў.

– Як можна! За мной яшчэ... як там? Пачэснае аднаўленне калькасці савецкіх грамадзян?

Яна абыякава пацягнула носам дым. Курыва яе сапраўды так і не завабіла, нягледзячы на хлапечыя замашкі. Ну й да лепшага: давялося б выкалупліваць з карабка запалку, з пачка – папяросу... Бр-р-р! Хворыя кончыкі пальцаў загадзя запульсавалі болем.

Хваленя хмыкнуў.

– За што цаню нашы з вамі размовы, дык гэта за непрадказальнасць. З двух варыянтаў адказу вы абіраеце трэці. Таму я рады прапанаваць трэці варыянт вашай будучыні ў прыдачу да супярэчлівых наяўных. А ён існуе!

– Анягож. Але вось што: у інстытуце я аднаўлюся не раней, чым апошнія фрыцаўскія часці выпруцца за нашы межы. А да таго часу...

– Эге! Добра ж вы пра мяне думаеце! Каб інструктар – і справадзіў амаль перавучанага лётчыка як далей ад самалётаў. Наадварот, уяўляецца мэтазгодным...

"Маміна слова", – машынальна адзначыла Ліда.

– ...каб ведамі карысталіся з найбольшым эфектам. – Ён карцінна развёў рукамі: – То бок перадавалі іншым.

Ліда зразумела – і чмыхнула, забаўленая абсурднай версіяй сябе. Яна імпульсіўна завярнула ў калідор другога паверха і падступіла да акна, за якім разлеглася ўтрамбаванае заснежанае лётнае поле. Капітан, прыставучы, як дзядоўнік, упершыню за ноч шчыра яе развесяліў.

– Не, вы ўдумайцеся! – ён, натхнёны рэакцыяй, дзелавіта прытупаў следам. – Забудзем нават пра такі плюс, як бяспечнасць. Інструктарская праца – з'ява для дзяўчат натуральная, а значыць, і зразумелая як род заняткаў. У выніку маем той жа мужчынскі полк, тыя самыя знішчальнікі... Але – увага! – нікому з мужчын і ў галаву не прыходзіць, што малодшы лейтэнант жаночага полу... а з часам лейтэнант, несумненна... можа быць тут не да месца.

Ліда, пырснуўшы, круціла галавой:

– Не, ну я... Ха, я, канечне, гадок пастроіла аэраклубаўскіх зялёных пацаноў, як сама спасцігла сёе-тое... Інакш па гадзінах налёту мне б не пакратаць знішчальнік і за плоскасць. А ўсё-ткі – інструктарка з мяне!..

– Згаджа-а-айцеся, па ўсім жа відаць, што вас цягне быць вядучай. У шырокім сэнсе. Не-не, я цалкам сур'ёзна! Адкуль тады ўвесь ваш выключны, не пабаюся гэтага слова, індывідуалізм? – агеньчык папяросы, што мігцеў у заклеенай шыбе, знічкай пераляцеў з вышэйшага сектара ў

ніжэйшы, калі Хваленя, зацягнуўшыся, апусціў руку. – І потым, ці здолееце вы месяцамі хадзіць хвастом за якім-небудзь напышлівым асам і страляць хіба што вачыма? А меней чым да аса не прыставяць: ніякіх гарантый выжывання. Атрымліваем поўную адсутнасць прасторы для ініцыятывы і змарнаваны час. Калі ж застацца гаспадыняй самой сабе, раздзяліць веды з маладым пакаленнем...

А фізічную абалонку – з чыёй персонай?

– Дык я больш не маладое пакаленне? Пясок сыплецца? – без інтарэсу пацікавілася Ліда, каб пацягнуць хвілінку і замацаваць вобраз непрадказальнай суразмоўцы.

– Ні ў якім разе! Гэта ж у вас нядаўна быў дзень народзінаў? Дваццатага?

– Ат, усё вы ведаеце...

– Дваццатага снежня дваццатага года. Проста! – ён нязмушана абапёрся аб сцяну ля вакна. На яго абмундзіраванні, што зліваласся са змрокам, у рассеяным вонкавым святле адбліскавала эмаль ромбаў на пятліцах і ордэнаў, латунь гузікаў і раменнай спражкі. Паўсонную Ліду гульня блікаў патроху закалыхвала. – Што ж, я ў вашым веку разрываўся між працай і аэраклубам. Дадому хіба начаваць прыходзіў. А ў вас – бачце: і навык ужо, і званне, і некаторы вопыт баявы, хай у супрацьпаветранай абароне. Чым не інструктар?

Ліда безуважным позіркам натрапіла на шальмавата-пільны, дапытлівы позірк Хваленi з-пад казырка фуражкі. І сумелася ад нечага ў ім. І, нездаволеная сабою, парывіста ўскудлаціла чупрыну.

– Ды ну, лухта! Не бачу я сябе пры кагале разнашэрсных франтавікоў. Хто звышвопытны, хто ўганараваны, хто знаёмствы водзіць... Той жа каленкор, толькі наадварот. Нікому, верабейка, слова не скажы: заловяць – вылеціш!

Яна адштурхнулася ад падаконня, і Хваленя зрабіў крок следам, пасміхаючыся:

– Няўжо ж нікому? Са мной вы не выбіраеце выразы.

Ліда зморшчылася.

– Каб кожны дзень па добрай ахвоце пікіравацца, патрэбны *асаблівы* сэнс, – прабурчала яна.

І вось неяк само атрымалася: яны паволі ідуць па калідоры разам, толькі цяпер Ліда не мае ўяўлення куды. Прынамсі, далей ад лесвіцы, што выводзіць акурат да дзвярэй яе пакоя, – вавёрка гэтаксама адводзіць куніцу ад гнязда з ваверчанятамі. Лесвіцу Ліда выбрала знарок, адужала такі доўгі абнадзейлівы шлях... а цяпер была змушана аддаляцца з унутраным стогнам. Адвязацца ад Хваленi было не прасцей, чым ад няпрошанай мелодыі.

Што за дурасць яна ўтварыла! Насуперак усім прынцыпам тактыкі прыняла бой, навязаны мацнейшым праціўнікам!

Ну, хаця б на хаду можна глядзець пад ногі, а не ў вочы.

Хваленя ўлавіў, што яе настрой амплітудна скокнуў уніз, і выраўняў тон.

– Зразумела, не будзе лёгка ні там, ні тут... Я ўсяго перабіраю варыянты. Трэніровачны полк аптымальны, калі браць крытэрый рэалізаванасці. Тут вам свяціць больш, чым на любых франтах, вось і ўсё. Яшчэ і развівацца ёсць у чым – хоць любы бамбардзіроўшчык асядлаць, хоць штурмавік... Нават штурмавік! Што ўнікальна само па сабе. Хіба не ўласцівая вам цяга да пераадолення?

– Гэтак і служба ў папярэднім маім палку падасца няпыльнай... Ай, зарр-раза! – Ліда спатыкнулася на ўчастку, дзе паркеціна была выбітая, і ледзь

не ўляцела ў падваконне. Ногі яна перастаўляла больш па інерцыі. – А што, многія марацьь: і ціха, і на забеспячэнні, і ў газетах напішуць – бо часць, бачце, нетыповая! Толькі якая ў гэтым сапраўднасць – калі ты абраны матылёк, агорнуты клопатам? І калі не можаш выдаць свой максімум, бо яго не было ў задуме, – яна пагардліва перасмыкнулм плячом. – А я ненавіджу ўсё дзяжурна-прытворнае, ненавіджу, калі мяркуюць, што гэтага досыць для жыцця. Ды нават бульба ў мундзіры! У палявым, не ў парадным. А я не заслугоўваю?

– Гэта як – заслужыць месца на перадавой? – Хваленя ўхмыльнуўся, і Лідзе дзіка захацелася стукнуць яго між лапатак, каб аж фуражка зляцела. – Прасцей туды трапіць, чым прарвацца назад. І добра, калі трапіш навучаны!

Ізноў падлога азывалася сухім гучным трэскам на кожны крок, ізноў клаліся на сцяну насупраць вокнаў святлейшыя прастакутнікі. Засталіся ззаду дзверы з аблупленай таблічкай “7 Б”, за якімі нехта прыглушана хроп. У пустыннай чарнаце дзіўна было ўяўляць, што якія-небудзь два гады таму – Ліда думала аб гэтым неўразумела-адчужана – шыбы гэтага калідора падрыгвалі ад гаманы і віскату. І што належаў калідор камусьці, хто цікавіўся тысячамі нюансаў: узростам, з якога дазваляюць скакаць з парашутам, сямейным становішчам маладога настаўніка, колькасцю плітачак у шакаладцы штурмана Марыны Расковай, з якой яна ішла праз глухі лес, дыпламатычнымі прыёмамі суседніх краін, пародай агромністага сабакі, якога выгульвала кнопка-дачка школьнай прыбіральшчыцы, працэнтнымі суадносінамі выдатнікаў, харашыстаў і адстаючых у паралельным класе, авантурай змайстрачыць на ёлку карнавальны касцюм мушкецёра, а не сняжынкі... І ўсё гэта замест пытання, як трапіць на фронт.

– А самаўпэўненасць пры нашай прафесіі... Гэта, калі дазволіце, неразумна! – пераконваў Хваленя не без паблажлівасці, не забываючы жэстыкуляваць. – Я сам баявы лётчык, Лідзія, і вось што скажу: аднаго ведання матчасткі – мала. Недастаткова перавучыцца з “яка” на “лавачкін”, каб увайсці ў строй. Так, гэта база, але і толькі! Трэба яшчэ адпрацаваць узаемадзеянне ў складзе звяна і эскадрыллі, навучыцца прымяняць зброю, манеўраваць пад стрэламі, весці тактычна граматны бой... Гэта далёка не патруляванне ў пустым небе ля горада! А значыць... значыць, у палку заняткі працягнуцца.

Ліда падазрона звузіла вочы: словы Хвалені выглядалі падобнымі да праўды. Урэшце, яна не магла адмаўляць ні яго досвед знішчальніка, ні лётнае майстэрства, як бы ні пагарджала асобай. За год, праведзены тут, ён педантычна асвоіў усе тыпы самалётаў у распараджэнні трэніровачнага палка і, па водгуках падапечных, выпускаў з прыстойнымі ўменнямі. А Лідзе, вычапленай колькі разоў на аэрадроме і ў сталовай, прыйшлося выслухаць не адзін яго аповед з практыкі, і з большым задавальненнем, чым адцягненыя філасофскія развагі. Як лётчыка яна сяк-так паравала яго. У тым ліку цяпер, калі падчас годнай франтавой размовы цемра вывела на першы план не выраз твару і рухі, а голас.

“Ёсць кантакт!” – мог бы падумаць Хваленя.

Аднак ад стомы Лідзе пачало падціскаць патыліцу, і на сур'ёзных рэчах яна вырашыла не закліньвацца.

Ведаць бы, як ён успрымае іх начны праменад. Як спатканне?

Яна злавіла сябе на гэтай бязглуздай думцы і прыслухалася да адчуванняў. Не, нідзе нішто не варушылася: у гэтую хвіліну яна хацела толькі спаць. Наогул, калі ў страўніку штодзень боўтаюцца адно суп ды каша, утрэскаецца толькі невылечны рамантык... або назола зацыклены.

Усім ты ўдаўся, Яша: і паставай, і мазгамі. А да героя ейнай песні табе ўсё роўна лёту як да Месяца на У-2. Хаця гледзячы якой песні...

Не, Хваленя не хваляваў – ні калі выхваляўся, ні калі нахвальваў.

Пасмакаваўшы нечаканую сентэнцыю, Ліда насмешліва спытала:

– Вердыкт баявога лётчыка – не варта і брацца?

– Спроба не хвароба, як кажуць. Ды слушна тут навыварат: хвароба – ад спробы, – павучальна вывеў ён. – Вы ж акурат мелі раненне?

– Мела...

– І я меў. МіГ-3 – знішчальнік вышынны. Ніжэй за пяць тысяч метраў прас прасам, ды яшчэ матор глухне з зайздросным пастаянствам. Мой і заглух раз за лініяй фронту, калі штурмавікоў суправаджалі. Пры пусцяковым пападанні, ды і не дужа тыя зеніткі палілі! Або ў лес падай разам з ім, або выкідвайся. Абраў разумнейшае, як водзіцца... Ды дзе ты што ўгадаеш! На парашуце знесла да чорта на рогі, нагу зламаў... Словам, пераплёт! І канец лістапада на дварэ! – Хваленя прыкра выдыхнуў дым, яўна больш нервова, чым чакаў. Сказы ў яго цяпер абсякаліся, інтанацыя саслізнула ў штосьці нетрывала-саркастычнае. – А ўчастак той, прашу заўважыць, пераходзіў з рук у рукі – галаву не высунуць. Зрэшты, снегу па калена было... А высоўвацца ўсё адно няма як. Адлежвайся, саколік, пакуль тэрыторыю не адаб'юць свае!

Ён нядбайным рухам затушыў папяросу ў выпадковай бляшанцы на акне і схаваў рукі ў кішэні.

Ну-с, ідучы плячом да пляча, у чым толькі не прызнаешся. Ёсць такое насланнё. І ўсё-ткі...

– А фарбы не згушчаеце? – бухнула Ліда, не падумаўшы. – Ну, ведаеце, жыццё збольшага – адна нудота, а так гісторыі займальней выходзяць.

– Рызыкуеце! А я папярэдзіць спрабую! – Хваленя зірнуў на яе хутка і ўчэпіста, і на гэты раз яна пашкадавала, што рысаў не разгледзець. – Выбірайце развязку на свой густ: абмарозіцца, скалечыцца... трапіць па той бок калючага дроту... калі з кірункам ветру пашчасціць яшчэ меней за маё. А дзёрзкасць не сыдзе там за зброю! Дый у кіраўніцтва любога палка ў пашане воінская дысцыпліна, а не вальнадумства. Кропка!

– Пытальнік! Чаму развязкі адны паршывыя? – аспрэчыла Ліда. Патрэба ў сне заціскала ёй галаву ўсё пакутлівей, і ў яе зрывала разьбу, глушачы адчуванне межаў. – Я, здаецца, сказала, што намеры ў мяне самыя сур'ёзныя. Гэта значыць: лётаць, а не разбівацца! Дайце дарогу – і мне не трэба будзе парушаць правілы... Шчыра, я стамілася ўсім тлумачыць! Ці не ўсё роўна, што са мной стане?

Яна адсачыла ў сябе пару з рота і ў немалым здзіўленні ўсвядоміла, што падымаецца па прыступках выстуджанай скразняком лесвіцы, ізноў налягаючы на парэнчы. Лесвіцы, якая была бліжэйшай да сталовай. Калі яны павярнулі? Ці прыкмеціў ён бессэнсоўнасць шляху з аднаго канца калідора ў другі? Прытармазіць бы, а то...

– Кіраўнікі для таго, каб кіраваць. А не выпытваць у падначаленых, што ім даспадобы! – рэзкавата заявіў Хваленя, ігнаруючы першую палову яе тырады. – Яны ўпаўнаважаныя вырашыць ваш лёс без вас. І так, як прасцей ім. Таму добра будзе закінуць прапанову, пакуль яны не нарадзілі сваю... Карацей! Я гатовы пасадзейнічаць, каб вас пакінулі тут, – рашуча адсек ён, падводзячы рысу.

Ліда, якая ступіла за ім на пляцоўку трэцяга паверха, пры гэтых сло-

вах спынілася. Парэнчы не выпусціла: далей ні кроку. У думках маячылі нарыхтоўкі пытанняў, адкуль шчодрасць і што каму выгадна, але яна іх не задала. Увагу забіраў гулкі стук сэрца – няўцямны, трывожны. Інстынкт самазахавання шаптаў: ненатуральна, што за ўвесь час бадзяння па інтэрнаце, поўным людзей, яна не пачула амаль ніякіх чалавечых гукаў. Быццам жыццё было паланёнае сталовай далёка ўнізе.

Акрамя таго, пакінуўшы гімнасцёрку і рэмень у сваёй каморцы, Ліда засталася без кабуры з ТТ.

Іх раздзялялі два крокі. Хваленя чакаў. І яна, пазіраючы ва ўпор на асветленую частку яго твару, зрабіла ход.

– А Пётр Георгіч мяне возьме сам. Без пратэкцыі. Ледзь толькі папрашу. На што я здатная, ён ведае... Адной маёй згоды чакае ды ўсё наразае колы. Але згоды не будзе! І гэта ён прыме таксама. Адсюль дадатковыя гадзіны, адсюль бензін... Мой бензін. Хай не камандзір палка, але начштаба за мяне. Таму што бачыць ува мне знішчальніка – не дзяўчыну!

Так, яна інтуітыўна блефавала, скарыстаўшыся фактам размовы з Паўлавым, якой Хваленя не мусіў чуць. І не чуў – калі меркаваць па яго дзіўнай нерухомасці пры халаднаватым бляску вачэй. Ён так і не выцягнуў рукі з кішэняў, закрыўся, і гэта не вязалася з вобразам. Нібы падсвяцілася нешта незнаёмае, сапраўднае, што жыло ў ценях – і ў ценях жа атрымлівала волю.

Ён і загаварыў інакш. Скорагаворкай. Напаўголасу. Ці то з выклікам, ці то з прыхаванай звераватасцю.

– Ты разумееш, што цябе саб'юць? Не ў першым вылеце, дык у пятым, сёмым. Знішчальнік! Немцы табе хлопчыкі, ці што? Малалетнія абармоты з суседняга двара? Асаў, асаў ловяць на дробязях, а тут!.. дзіцячы сад на прагулянцы! З ідэяй, што бессмяротны. Прыхамаць, рысоўка!

Цяпер тон быў непадроблены. Была б у ім хоць кропля занепакоенасці, рэпліка гучала б станоўча, але выветрылася нават колішняя паблажлівая спагада. Затое мацнела просталінейная жорсткая нотка.

– Бачу, да смерці не гатовая. А да жыцця? Жыццё толькі часткова там, – Хваленя парывіста хітнуў галавой угару. Верагодна, да неба, а фактычна да столі, дзе на пабелцы чарнелі вычварныя плямы ад запалак эксперыментатараў-школьнікаў. – Ведаеш, якая штука: астатні час прынята хадзіць па зямлі і ўжывацца з тымі, хто вакол. Або не ўжывацца – і зарабляць праблемы. А яшчэ – парадокс – гэтае вось жыццё больш важнае за першае! Таму яно і не заканчваецца разам з мірным часам. Вайна, не вайна... Зносіны ёсць! Ці скажаш: адключыла дзеля службы?

“Ну ёсць і ёсць! Не прычына ўвязвацца ў непатрэбныя!” – хацела агрызнуцца Ліда. Паўз галаўны боль яна з прамаруджаннем супастаўляла, што пра выбар сяброў-хлопчыкаў гаварыла не з ім... І не ўлавіла, што новы голас нясе небяспеку.

Гэта стала трэцяй і апошняй памылкай, выпраўляць якую было позна.

Штосьці быццам шарганула на ніжніх паверхах, і Ліда міжволі кінула напружаны позірк за парэнчы. Для лётчыка страчаная секунда – замнога: яе груба прыцягнулі да сябе і ўпіліся ў вусны прагным доўгім пацалункам. Яна задыхнулася, мыкнула ўражана і гнеўна, не адразу здолела ўспомніць, што акрамя вуснаў у яе ёсць рукі, – а тады моцна штурхнула ў грудзі, раздзіраючы абдымкі.

– М-мярзотнік! Прэч!..

Вольная, яна хіснулася назад, але не паспела ні рукі адсунуць, ні глынуць паветра: яе перахапілі за правае запясце і ўмомант уціснулі ў шурпатую сцяну патыліцай, лапаткамі, а ў рабрыну ўціснулася спражка рэменя. Блізка, распусна блізка!

– Я ж цябе зламлю, ваярка, – выдых над вухам. – Ціха, не тузайся дарма...

Яна рванулася, памкнулася адштурхнуць яго свабоднай рукой – упіраючыся наўздагад, ранячы хворыя пальцы аб металічныя гузікі, спрабуючы ўхіліцца ад уладарных настырных вуснаў. Не, не ліслівец, якому можна адвешваць знявагі, – чужародная безназоўная пачвара, па-мужчынску мацнейшая. А ў целе няма сіл адапхнуць...

Клятае паўгалоднае існаванне! Як яна пасмела саслабець!..

Сэрца калацілася ў горле, падступала паніка, ад бессістэмнага змагання хутка сыходзілі рэшткі сілаў. Яе рука – вядучая рука! – торгалася як у цісках, не вызваліш. Другая ж не магла напоўніцу ні біць, ні штурхаць, пацярпеўшы ад асколка, і раз за разам прайгравала бесцырымоннай варожай руцэ. “Вораг? Свой? Вораг, што свой, ды чужы...” – усплыла блытаная думка і размазалася ў вобразах: драцяны самалёцік з яліны – у нізкім хмарным небе, і яму ў бок усаджвае кулямётную чаргу сусед па строю.

Ёй не ставала дыхання, прасторы, свядомасці, пачало размывацца асэнсаванне, што ўсё па праўдзе. Яна яшчэ намагалася матляць галавой, і губы траплялі ў падбародак, скулу, шыю...

І што ж – так?

Цвярозае пытанне змусіла яе апрытомнець, і праз швэдар яна адчула руку на грудзях.

Хрэсь!

Ліда так і не разабрала, што асаблівае зрабіла: ярка плёснула злосць, і далей дзейнічаў інстынкт, а не розум. Хруснуў нос, па якім яна шалёна гвазданула лбом, невытлумачальна адваяваўшы месца на размах. Цяпер у вока – з правай! Рэзка і трапна, як у дзяцінстве, калі лупіла па выстаўленых татавых далонях. Дзякуй тату, дзякуй інстынкту, дзякуй прэсу, трэніраванаму авіяперагрузкамі...

І гэта было галоўнае, што Ліда зрабіла несумненна правільна.

– Пайшоў прэч ад мяне! – прахрыпела яна з адлегласці, ледзь аддыхваючыся ад дзікай лютасці і прыніжэння; у халодным паветры клубілася пара з рота. – Давай, чашы рыссю да Любані, там хоць патрымацца ёсць за што!

– Нарвешся, Жучка! – гыркнуў Хваленя. Ад апошняга ўдару ён сышоў адной нагой на дзве прыступкі і, прыгорблены, таксама пераводзіў дых. Без галаўнога ўбору, з рукой ля твару і куды меней фасоністы – нават з улікам цемры.

– Развітайся, мора, з сонейкам, надта яно высока! – выгукнула Ліда. – І на “мігу” не дастанеш!

Ён з пагрозай выпрастаўся, ды яна сама небяспечна падалася насустрач, зашыпеўшы:

– Яшчэ толькі рух... адзін рух! Апошняя карэспандэнцкая навалач будзе ведаць!..

На лесвіцы ніжэй за Хваленю хтосьці раптам выразна прачысціў горла.

– Яша, – з намёкам паклікаў ён.

Хваленя імкліва азірнуўся туды і адразу назад, падціраючы, відавочна, цурок з носа. Рукі яго ад шалу сціснуліся ў кулакі. А на фоне вакна прастакутнікам вымалёўваўся сілуэт Паўлава.

– Яш, ты нічога не запамятаваў? – начальнік штаба, спакойны і вытрыманы, узняўся на некалькі прыступак і спыніўся поруч са збітай фуражкай.

Спадылба гледзячы ў сцяну, Хваленя працадзіў:

– Я думаў, у начальства дастаткова абавязкаў, каб яшчэ лезці ў асабістае!

– Усяго іду да сябе. Дазволіш? – суха запытаўся Паўлаў. Яго значны голас гулка абляцеў усю прастору, і тэмпература паветра, здаецца, апусцілася яшчэ на колькі градусаў.

Хваленя нехаця падабраў фуражку, сяк-так абтрос. Надзеўшы, казырнуў, здзекліва пазіраючы ў бок Ліды, і подбегам скіраваўся па прыступках уніз.

Не саромеючыся Паўлава, Ліда падскочыла да парэнчаў, перавесілася:

– Цябе збілі, а мяне не саб'юць! Усёк?!

Сярдзіты крык рэхам раскаціўся па лесвіцы. Сціхалі спрытныя крокі.

– Вы... хм... як? – Паўлаў узышоў яшчэ вышэй, і яго твар апынуўся прыблізна на ўзроўні Лідзінага. Дзівацкае адчуванне.

– Швэдар падраў... крэцін... – яна цяжка дыхала ад нянавісці. Петлі пачалі распускацца дарожкай уніз ад ключыцы, месцамі неахайна тырчалі ніткі – мусіць, у барацьбе зачапіліся за ордэны... Яна дрыготкімі, неслухмянымі пальцамі паспрабавала замацаваць верхнюю пяцельку, але тая саскочыла і вызваліла яшчэ некалькі.

– Разумею вашы пачуцці. Што ж, ён... мужык неблагі. І для інструктарскай працы кадр удалы. Але тут бывае цеснавата, калі хто з баёў...

Ліда не шкадавала, што Паўлаў бачыў, нават наадварот, але двухсэнсоўнасць яго маўлення раздражняла як ніколі. Вы за ахвяру ці за крыўдзіцеля? А, падпалкоўнік?!

– А яшчэ – боязна яму, няшчаснаму! Збівалі яго! – з агідай выкрыкнула яна. – Аж клопат праявіў, сабака, – паклікаў у калегі. Ды ён бесіцца, што я не баюся фронту, і ўсё!

Яе штарміла, не было куды падзець лютасць, і тая дзявятым валам пераплюхвала цераз край, незнарок перападаючы Паўлаву. А той, мабыць, бачыў, што ў такім расхрыстаным стане праблемны малодшы лейтэнант можа нагаварыць і страшнейшыя рэчы. Таму тактоўна заплюшчваў вочы на гарачнасць.

– Але ж у тым ёсць слушнае зерне, – заўважыў ён. – Застацца ў нашым палку, вучыць... Гэта стабільней, чым што заўгодна.

– Застацца? Як гэты?.. Ну як жа ніхто з вас не разумее! – усклікнула Ліда з адчайнай жарсцю. – Я хачу рабіць шмат, хачу быць патрэбнай і важнай! Хачу, каб ад мяне штосьці залежала, а не я залежала ад усіх!

Перш чым адказаць, Паўлаў паволі ўзняўся на пляцоўку, ад чаго столь падалася ніжэйшай, і без асаблівай мэты абвёў позіркам месца змагання. Урэшце нягучна і проста прагаварыў:

– Дык вы мяркуеце, што на пярэднім краі... полу не існуе?

Ліда бездапаможна адчула, што губляе апору пад нагамі, і выпаліла, учапіўшыся за сваю пераканананасць:

– Там няма калі! Там справа! Ніхто не ўтворыць несусветнае глупства, калі сам не ведае, хто дажыве да заўтра!

Ён глядзеў ды маўчаў, як сумны ветлівы прафесар, што слухае памылковы адказ студэнткі і не наважваецца перарваць. Ліда нават запозненым непрыкметным рухам праверыла, ці ўсюды адзенне сядзіць прыстойна.

– Я ж бачу, усё бачу! – парывіста гнула яна. – Колькі пашкуматаных

палкоў прылятае сюды па людзей! І хто цьфу – пустышка, а каму пакінь лусту хлеба – ні крошачкі не адшчыпне галодны. Апошніх працьма! І нічога вы мне не дакажаце!

– У баявых часцях шмат залежыць ад камандзіраў, – сказаў Паўлаў рассеяна – быццам і ёй, і не ёй. – Шмат. А можа быць, усё...

Пасля гэтых слоў ён, здаецца, асэнсаваў, што сам на каманднай пасадзе. Ніякавата тузануў каўнер, адвярнуўся ў цень.

– Ну ды не сённяшняя гэта размова... Адпачывайце. У парадку выключэння ўсім спаць да абеду, а пасля пачынаем. Што да вашага няпростага пытання, то на самы крайні выпадак... так, можна *паспрабаваць* падабраць полк. Але пакуль што загад – вучыцца. Астатняе абмазгуем ізноў, гэта магу абяцаць... Ну, дабранач, Ліда. З Новым годам!

Паўлаў прыўзняў руку, нібы каб крануць яе, натапыраную, за плячо, але згадаў той раз і не стаў. А пасля знік у дзвярным праёме трэцяга паверха, дзе камандаванне сапраўды займала пакоі. Знік так ціха, што было чутно: у яго кішэні, як і ў Лідзінай, легкадумна шамаціць фанцік.

Ліда не ўзрадавалася ні фанціку, ні таму, што ўгадала пазіцыю Паўлава наконт сябе, – так яе трэсла і такой ліхаманкавай гарачынёй палалі шчокі. Яна знялася з месца і на адрэналіне ўзбегла цераз прыступку на адзін лесвічны марш – на пляцоўку між трэцім і чацвёртым паверхамі. Вось адкуль дзьмула: двайныя рамы прыадчыненага акна злёгку гайдаліся ад руху паветра. Ліда рванула іх на сябе, заграбла з бляшанага адліву снег і, не адчуваючы холаду, расцерла па твары. Сутаргава заглынула – ільдзінкі хрупнулі на зубах. Сківіцы часта пастуквалі, падушачкі пальцаў гідка пульсавалі, а па ўсіх костачках правай кісці разліваўся новы цягучы боль. Так і ёсць: палушчаная скура трэснула на згінах – мусіць, яшчэ калі яна сціснула кулак – і ўсюды блішчалі пацеркі крыві, чорныя ў месячным святле і сямтам размытыя талым снегам.

Ліда тупа пазірала на кроў, і ў грудзях калаціўся бяссільны гнеў, а вочы па-здрадніцку вільгатнелі. Гэты боль, хоць і параўнальна пусцяковы, але такі несправядлівы, дабіў яе. Што за сэнс прыкідвацца моцнай, калі падводзяць рукі, нават рукі?! А кісць яшчэ дзіўна знямела, і яўна не з-за снегу – Ліда, шморгаючы носам, таропка сагнула і разагнула пальцы, пачала расціраць. Не хапала, каб дачапіліся ваенныя медыкі... А ўсё ад шквалаў жаху, злосці, замкнутых у целе!

Яна ў імгненне раз'ятрылася, як тыгрыца, і лупанула кулаком па падаконні – р-раз! другі! трэці!..

Брыдота! Падлюка! Навагоднюю ноч спаскудзіў, сволач тылавая!..

І ў жудаснай знямозе ўперлася аберуч, дробна скаланаючыся ад плачу. З твару крапала, рэдкія сняжынкі мітусіліся вакол, асядалі на валасах і ацалелых вязаных узорах.

Чаму прытупілася пільнасць? Ну як можна было не зрэагаваць на яўныя званочкі? А яна ж знарок амаль не піла! Яна ведала, што немагчыма адшукаць стратэгію абароны ад кожнага паасобку, даводзіцца агулам... Напагатове кулак, замест спадніц-сукенак – галіфэ, а ў каморцы – кручок і пятля, надзейна ўбітыя ў дзверы.

Смяротная крыўда, нязмыўная ганьба – усё жыццё быць пацанкай, а зрабіцца мішэнню. Варта было зняць адзін слой адзежы, як з яе сабраліся здзерці астатнія!

Безумоўны рашучы падыход... Яна так і не ўспомніла, дзе і ад каго гэта пачула. Ну й да халеры... А Хваленю – да д'ябла, у дупу яго парады профі. Знайшла каго слухаць! Ліда, натура цэльная, больш не жадала раздзяляць бакі асобы. Яе хіба грэла мсцівая думка, што пад вокам гэтага вылюдка сёння ж з'явіцца фірменны ліхтар – усім на пацеху.

Трэ было ляснуць у сталовай, пры ўсіх. Не чапаў бы!

Важна, важна ад'есціся, калі сабралася яшчэ і ваяваць. Здавалася б, зусім нядаўна яна адным локцем засвяціла каму належыць у сонечнае спляценне і зменшыла пыл. А цяпер...

Ліда прыслухалася і нервова засмяялася: аднекуль даносіўся бадзёры, ледзь не жыццесцвярджальны матыў "Зямлянкі". Мусіць, у сталовай таксама прыадчынілі акно. І адлавілі-такі гарманіста, павесялелага пад уплывам "гаручкі"...

Можа, са швэдрам не так усё кепска? А раптам атрымаецца вярнуць на месца петлі? Што горш, трэба кланяцца Любе з яе ведамі ў вязанні...

Невядома, што было вырашальным: швэдар, слёзы, музыка? – аднак Ліда ўрэшце адчула, як скуру пячэ мароз, а плечы зводзіць ад дрыжыкаў. Паяснелымі вачыма глядзела яна скрозь такое ж яснае паветра нованароджанага студзеня. На белы-белы аэрадром, на шэрагі зачахлёных самалётаў, якія драмалі, адкідваючы сінія цені, і на тоненькі ветах, што ў разрыве аблокаў мнагазначна выстаўляў вострыя рожкі.

Месяц старэе, хутка з'явіцца новы і патанчэе таксама – трываць нядоўга! Новы месяц, новая тэхніка, новы полк. І год будзе не такі, які мінуў.

"Між іншым, я пачала год з таго, што перамагла, – скеміла Ліда і выцерла шчокі рукавом. – Гэй, чуеш, год? Ты мусіш стаць для мяне страшна важным!"

## Ганна Шакель



…паэзія – котка:
ліжа ранкі
шурпата…

# мой твар будзе пахнуць зямлёй

* * *

у хвойным лесе стаіць дом
там яшчэ нікога няма
там ёсць шчасце
шчасце жыве
пакуль яго не напаткаюць

там ёсць гліняны посуд
ходнічкі сатканыя з парэзаных
кашуль нашых дзядоў
і сырыя дровы
але печы няма
шчасцю цёпла

там ёсць старая шафа
з лістамі і фотаздымкамі

у размаляваных шуфлядах
якую выратуюць з-пад праваленага даху
калі там ужо нікога не будзе

у хвойным лесе стаіць дом
твае вочы ўсміхаюцца
яловымі лапкамі

* * *

твой твар у маёй памяці засветлены,
як на нашых агульных фотаздымках.

што душу табе грэла?
нашу старэйшы за сябе швэдар.
земляны пах і Lancфme:
памяць – рахманы парфумер.

твой твар засветлены,
нібы на ім бог паказвае,
якое белае шчасце ў царстве яго.

калі бог праявіць сваё царства
на маіх фотаздымках,
мой твар будзе пахнуць зямлёй.

дух мой,
хадзем куццю есці.

* * *

увяжу табе ў шапку
свае валасы,
і яны пасівеюць
на тваёй галаве

* * *

пакутнікі
вы покутнікі
вы чырванакутнікі
ў нашай белай хаце

* * *

лётаем па коле
чапляемся плячыма
за сценкі дзяжы
месім нагамі снег
каб з гэтага цеста
атрымаўся хлеб
накарміць эга

* * *

у нашых вачах адбылося пабоішча
пачырванелі замёрзлыя рэкі

вострыя словы
прабілі барвовыя крыніцы
зрабіўшы балюча
толькі ў месцы вытокаў
у краі ж, куды яны прыйшлі,
заканчвалася адліга
жыхары назвалі воды тых крыніц
святымі
і ахрысціліся ў іх
на новае жыццё

выпаў апошні снег

думкі азіраліся на скрып сваіх жа крокаў

* * *

я нацягваю чаравікі
мой цень – хадулі

цень зрывае з дрэваў грушы
гладзіць падарожных па прыгожых патыліцах
паверхамі слізгае
на секунду скрадае святло з чыіхсьці спальняў
наш хуліганскі хаўрус хаваючы

круціцца стрэлкай цень
стрымліваючы сузалежнасць
бегу майго і часу

дома
мы з ценем ходзім босыя
трымаючыся
за ногі

* * *

паэзія – котка:
ліжа ранкі
шурпата

* * *

горад уздымаецца ў авацыі
пляскае ў ладкі галубінымі крыламі
кланяюся
каб апладысменты не сталі аплявухамі

Андрэй Кулеш



...калі ўсё боль,
то прыгожыя месцы –
таблеткі...

# Сцяжынкі на ўскрайку свету

***Апавяданні***

### «ПусЦела»

– О, а я глядзеў фільм са «шкілетамі» і не спужаўся.
– А я баявік. Шмат крывішчы, і бацькі дазволілі.
– Пфф, а я ноччу глядзеў фільм пра вампіраў. І нічога.
– Брэшаш! – зрэагавалі ўсе. Няхай бы звычайны фільм, а то жахалку ды яшчэ пасля 23-х гадзін.

Увогуле, не ведаю як цяпер, але тады лічылася крутым пахваліцца, што паглядзеў нейкія фільмы вышэй за 6+. Нават калі толькі схапіў мімаходзь урывак у тры хвіліны, а пасля прагналі спаць, цябе ўсё роўна разрывае ад датычнасці да забароненага. І замест праўды пра 90 секунд заліваеш пра ўсе 90 хвілін.

Мне таксама шмат забаранялася. Я псіхаваў, крыўдаваў, маўчаў, калі ўсе абмяркоўвалі нейкі мульт. Праз гадоў гэтак дванаццаць вырашыў паглядзець усё тое, што мне забаранялася. Спіс заняў А4 з абодвух бакоў. І ведаеце што? Я ад гэтых забаронаў нічога не страціў, але змарнаваў шмат часу, калі закрываў для сябе гэты пункцік.

– Праўда, глядзеў! – з крыўдай і абурэннем, што яму не верацЬ. І з перакананнем, што ў больш ваяўнічы час ён адказаў бы на крыўду шабляй.

– У праграме за выходныя нічога не было пра вампіраў. Так што не трындзі, додзік.

Гэта былі яшчэ тыя часы, калі праграму чыталі, а гадзіннікі пераводзілі ўручную.

– Касета! Па відаку глядзелі!

– Ага-ага!

– Ды я вынесу і пакажу!

– Ты тое самае пра фільм, дзе голыя цалуюцца, казаў. І дзе?

– Яны перахавалі!

– До-о-о! Як заўсёды, – брахуну пасля выкрыцця толькі і засталося, што паўтарыць сцэну Коліна Фарэла з «Сапраўднага дэтэктыва». Там, дзе «Ну да, ну да пошел я...».

Можа, ён і не брахаў, тым больш, што бацькі гэтага хлопца ў сваіх падыходах былі далёка не пурытанамі. Але зайздрасць за тое, што нехта, а не ты, дакрануўся да забароненага, прымушала бязлітасна абясцэньваць ягоны досвед. Транзакцыя ачкоў не прайшла, балы не залічаныя, карацей.

І так па коле: хтосьці чымсьці пантаваўся, астатнія, як гіены, чакалі, калі гэтую птушку ў палёце фантазіі можна будзе схапіць за хвост. Пры адсутнасці жорсткага, шакуючага досведу фільмы былі сама тым, з дапамогай чаго можна было ўліцца ў размовы, а не стаяць лохам і калупаць нешта палкай (як я).

Так было і з мацернымі перакладамі. Усе гаварылі пра іх, вывучылі некалькі фільмаў, але сюжэт і тым больш цытаты выдаць ніхто не мог. Быў хлопец, які паглядзеў іх шмат, але ж ён быў значна старэйшы і меў кампутар. Што дазваляла яму курчыць з сябе захавальніка таямніц чалавецтва і на ўсе намаганні брахуна адказваць: «Такога там не было...» Але заўсёды знаходзіліся тыя, каго складана пасадзіць на зямлю.

– Мы вось бачылі ў лесе павешанага, некалькі дзён таму.

Свядома ці не, але хлопец рабіў голас інтымным і ціхім да такой ступені, што хоцькі-няхоцькі бліжэй падсунешся.

– Да ну на...

– Адказваю! Як сліва – фіялетавы і ўвесь у чарвяках. Мы як дунулі...

– Сказалі каму? – перакрыжаваны допыт кароткімі рэплікамі. Нават і не зразумець, хто пытаўся. – І дзе ён?

– Не... а каму? Хто з мянтамі хоча звязвацца? І ён яўна не сам...

– Дык дзе?

– Каля Урбанаў.

– Ха, 10 кэмэ беглі і практычна каля мяжы? – і грымнуў рогат.

– Хадзем, – не чакаючы згасання смеху, запуліў хлопчык. Гэты быў не з тых хуліганістых адлётаў, што *па прыколе* або спрабуючы *ўзяць на понт,* робяць такія выклікі і ўчынкі. Звычайна такія гарэзы хутка *зліваюцца* і пераводзяць усё на гы-гы, маўляў «ах-ха-ха, я прыкалоўся». Але гэты быў настроены рашуча. Калі б мы ведалі тады слова «постіронія», было б значна лягчэй выкручвацца. Крыкнуў гэтае ратавальнае слова, парагатаў і ўсё.

Але гэта быў хлапчук такі ўвесь чысты, каменя не возьме, ды ўвогуле не мацюкнецца ні пры дарослых, ні пры сваіх. Але не ведаеш, што там у гэтай пад Гогаля стрыжанай галаве.

– А давай!

Усе неяк хутка пагадзіліся. Тым больш, што было досыць светла і ваду ў бутэльцы з дому можна было ўзяць без рызыкі напароцца на санкцыі.

Ішлі шумным натоўпам. Гэта нагадвала сюжэт фільма «Застанься са мной» па аповесці Стывена Кінга «The Body». Там, між іншым, ролю выконваў Рывер Фенікс. Які лічыўся больш перспектыўным, чым яго брат Хаакім. Але ж здарыўся перадоз... Зрэшты, у нас у тыя часы ў двух аматараў клею хапала. Пра іх ніхто не згадае, і фонд іх імя ніколі не будзе створаны.

Сем чалавек, ад якіх праз метраў пяцьсот за горадам ад страху невядомых лакацый і шуму фур адпачкавалася двое. Яны сыходзілі шпарка. Мабыць, каб не пачуць здзек і рогат у спіну або каб не забыць шлях дадому. Але асноўны склад пакрочыў далей, не зважаючы ні на якія страты.

Ісці доўга, таму, канечне ж, нечым забаўляліся. То абмяркоўвалі штосьці, то спрачаліся, нехта праспяваў “прыпеўку” пра тое, як зімой у халады мішка выпаў з акна і далей па тэксце. Але ж не забываліся і на галоўную мэту.

– Як мяркуеш, чаму ён там?

– Не ведаю. Можа, алкашык або наркошык.

– А можа, кантрабандысты з цыгаркамі?

– Можа, і яны.

Кожны ішоў па нешта сваё. Адных вабіла простая, як вяроўка, цікаўнасць. Нехта хацеў праверыць хлопца, каб загнаць яго ў пастку ўласнай фантазіі. Некаму не было чым заняцца (як мне), а некаму ўсё адразу. Але навошта гэта патрэбна было самому “правадыру”? Мяне гэта непакоіла больш і больш.

Гэта – і больш нічога. Тады можна было без усялякага клопату знікнуць на дзень. І добра: быў баланс і нічога не перакульвалася, і ніякай Іванаўне «АтчОт па кукурузе» не быў патрэбен.

Прайшлі каля будоўлі катэджаў. Звычайныя цагляныя скрыні, але было модным называць так любое жылое гумно. З гэтым у нас была звязана гісторыя. Адзін з сяброў надурыў нас, што яго сям'я будуе вялікі дом. Мы не паверылі: калі яны такія забяспечаныя, то чаму ён краў гумкі і чупа-чупсы ў краме? Але ён прыкладна так, як і гэты хлапчук, вырашыў зладзіць экскурсію дзеля доказу сваіх слоў. Завёў на будоўлю, на якой не было плота, і пачалі мы там гуляць. Потым нас заўважылі суседзі, і ён, а пасля і мы з ім разам, кінуліся даказваць дзецям суседзяў, што гэта яго пляцоўка. Дарослыя не ўмешваліся і толькі моўчкі здзекліва назіралі. Ну, а потым прыехалі гаспадары – і мы ўсё зразумелі...

Пасля маршу па мясцовай *Долине нищих* адкалолася яшчэ двое. Маўляў, знаёмыя бацькоў іх заўважылі, і таму яны вяртаюцца. Засталіся самы фанабэрысты з хлапцоў, які ўсіх дапытваў і падлоўліваў, я і “правадыр”. І чамусьці, нягледзячы на чысціню паветра і хараство даляглядаў, я загаворваю з ім пра тое.

– Высока?

– Не... во на столькі ад зямлі, – і паказаў, развёўшы рукамі, сантыметраў сорак.

– І які ён?

– Здаравенны дзядзька, увесь у чорным... і чамусьці мокры. Мабыць, з галавы цякло, а можа, дождж... Здавалася, адарвецца і пабяжыць.

– А можа, павесілі пасля таго, як утапілі?

– Можа. Там па коле камяні ляжалі.

– А-а-а-а-а! Сатанюгі! – паварочваюся да нашага задавакі і гляджу. – А можа, і вантробы вынялі? – пытаюся ў хлопчыка з ідэальнай прычоскай і адварочваюся. Кліент цёпленькі – трэба афармляць.

– Мо і вас хто бачыў?

– Падобна... – і замоўклі. Я ведаў, што пасля такога цяжка трымаць паўзу.

– Слухайце, гэта... – Мы абодва павярнуліся на таго хлопца. Ён ужо не зусім апраўдваў мянушку, якую я яму даў. Тузала яго нешта. Так і хацелася сказаць: «Плюнь – цьху! І кажы!». – Я гэта... можа... у вёску: людзей, мянтоў мо паклікаць...

– А гэта ідэя! Не заблукаеш?

– Не-не-не, я ж усё тут ведаю.

– Ідзі, – і той адразу пачаў аддаляцца, толькі што не пабег.

– Шчасліва табе! – гукнуў хлопчык.

– Крычы, калі што! – дадаў я. Але ён вельмі хутка знік.

Прайшлі крыху далей уздоўж клёнаў, і я пытаюся:

– Сашка!

– Та-а-ак!

– Ніякага ж трупа няма.

Хлопец пачаў ціха рагатаць, нібы злы геній над чанам з нейкім магічным варывам.

– Каму як.

– Накалоў?

– Га...доны і накалоліся.

– Ого, нечакана ад цябе. – Гэта сапраўды ўразіла. Ціхі-ціхі, але як выдаў, дык і дарослы не адразу б сцяміў.

– А, гэта ад мужыкоў, якія помнікі робяць. У гаражах там шмат усяго і пра мерцвякоў пачуў.

Я таксама любіў там гуляць і слухаць рознае.

– І навошта табе гэта ўсё было прыдумляць?

– Як? А яны ўсе добра робяць?

Сашка ў акулярах з тоўстым шклом выглядаў пераканаўча: яны рабілі яго старэйшым. Хлапчукі, несумненна, пацяшаліся з яго. Відавочна, што злосць накоплівалася. За ўсё... І тут у мяне адпалі ўсе пытанні. Тым больш, што я на нейкім тэлепатычным узроўні пачаў яму дапамагаць.

– Думаеш, пойдзе па дапамогу? – спытаў ён.

– Ды не. Мо ўжо бяжыць дадому, і сцякае па нагах – будзе маўчаць.

– Тады зараз у лес сходзім і дадому.

– Дакладна там нічога няма? – жартаўліва пытаюся і чакаю, што ўсё зноў можа перавярнуцца.

– Я ж кажу, што не. А для іх павінна быць. Цяпер ім можна нагадваць пра іх баязлівасць.

– Ну то і добра, – гэтая наша на дваіх таямніца яднала больш, чым датычнасць да вобшуку бухіх заснулых алкашоў разам з тымі «ўцекачамі».

Незаўважна апынуліся ў глыбокім лесе. Хоць Сашка і запэўніў, што нічога такога няма, але ж усё роўна чакаеш, што зверху нешта зваліцца,

знізу пацягне або ззаду пабяжыць. Неяк адразу стала халодна, хоць гэты чэрвень быў незвычайна спякотным. Кожны трэск галінкі адгукаўся токам у хрыбетніку, нібы праверка сігналаў «на старт».

Хутчэй я больш змеяў баяўся, чым чагосьці такога. З гэтым у мяне былі цалкам зразумелыя адносіны. Тут хочацца працытаваць Міхаіла Елізарава:

*У гісторыях пра кіношнага гуру кунг-фу Бруса Лі часта ўсплывала тэма, што шааліньскі манах-кілер прыкончваў актора таемным ударам, які забівае не адразу, а запускае ў арганізме механізм смерці, расцягнуты на доўгія месяцы...*

*«Смяротны ўдар» мы атрымліваем адразу з нашым нараджэннем, і пытанне толькі ў тым, хто або што нам на гэты факт пакажа. Байку гэтую я прыводжу выключна як метафару сталення – ўсведамленне «асабістай смерці».*

Паказаў мне гэта мой няшчасны кот за некалькі гадоў перад тым. Тады мы збіраліся ў адпачынак: набралі яму шмат ежы, каб суседзі яго кармілі і ўсякае такое. І праз некалькі дзён яго збівае машына. Шмат хто ведаў нашага ката – ён ганяў калі не па ўсім гарадку, то па добрай частцы дакладна. Дзеці сказалі маці. Яна пайшла і пахавала яго ці то ў лесе, ці то за цеплатрасай.

Не ведаю, што цяжэй: саскрабаць рыдлёўкай з асфальту ў пакет сябра і чальца сям'і ці патлумачыць дзіцяці, чаму яны ўжо ніколі не заснуць разам. Хадзіў і ўвесь дзень плакаў, а з мяне здзекваліся і паказвалі мокрае месца на дарозе. Але маці было цяжэй...

Прыняў я не адразу, адмаўляў, ладзіў гандаль з пустатой і космасам. Глядзеў пасля дакументалку пра Чарльза Ліндбэрга – амерыканскага лётчыка, які стаў першым, хто пераляцеў Атлантычны акіян адзін.

У 1932 годзе ў яго сям'і выкралі сына. У бацькоў запатрабавалі выкуп, але дзіця праз дзесяць тыдняў было знойдзена мёртвым. Гісторыя з выкраданнем дзіцяці Ліндбэрга ў злёгку змененым выглядзе стала асновай рамана Агаты Крысці «Забойства ва Усходнім экспрэсе».

Закадравы голас паведаміў, што трагедыя так паўплывала на Чарльза, што ён пачаў актыўна ўдзельнічаць у распрацоўцы штучнага сэрца.

Разам з піянерам ў галіне сасудзістай хірургіі, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Алексісам Карэлем, ён рабіў эксперыменты па ўжыванні першай прымітыўнай прылады аксігенацыі крыві і, такім чынам, удзельнічаў у распрацоўцы апарата штучнага кровазвароту.

Ёсць сведчанні, што ён раней пачаў цікавіцца гэтым, але факт у тым, што актывізаваў сваю цікаўнасць ён пасля смерці сына, і гэта ў яго цягнулася ажно да самага пераезду ў Еўропу ў 1935 годзе.

Што гэта было? Спроба знішчыць гора новым выклікам? Перамагчы прыроду? Тады я не надта разумеў, як і цяпер, але мяне тады цюкнула. Я пачаў рабіць макет робатызаванага ката з кардону, зламанага парасона і нечага яшчэ. Тады было шмат гульняў а-ля *Quake* ці *DOOM*, і я разлічваў зрабіць некалі біяробата. І я ж ведаў, дзе ён ляжыць за трубамі...

Але потым ці адпусціла, ці я ўсё зразумеў. Была, канечне, спроба ажывіць мамчыну Азалію, якая засохла, але вынік той жа – зміры́ўся.

– Чуеш? – запытаў Саша і спыніў мяне далонню.

– Так, – падавіўшы неяк хвалі нязвыклай актыўнасці сэрца, я пачуў музыку.

– Хадзем, – і ён пацягнуў мяне ў тым кірунку. Адразу крыху спужаўся, тым больш тады шмат чутак пра сектантаў было. Але не думаю, што сатанюгі слухаюць днём “Агату Крысці” і рагочуць.

Некалькі хвілінаў – і мы прадзерліся на палянку. Там каля машыны весела снедалі *зялёнкі*, калі казаць тэрміналогіяй Пясецкага. Нас хутка заўважылі:

– Прывет! – нехта з іх крыкнуў.

– Здароўце! – мы адразу зразумелі, што трэба наблізіцца да іх.

– А што вы тут забылі?

– Гулялі і заблукалі! – адказаў Сашка.

– А ты ж, здаецца, Воваў малы. Так? – звярнуўся адзін да мяне. Відаць, служыць разам з бацькам.

– Так.

– Добра. Сядайце ў машыну.

Мы адразу ўскочылі ў прапахлы бензінам “УАЗік” і чакалі. Нам прапанавалі цукерак. Узялі некалькі, але нам загадалі забраць усе. Як мы маглі не падпарадкавацца загаду чалавека з зорачкамі на плячах? Канечне ж, мы ўсё забралі. Пасля я такіх загадаў болей не сустракаў і не чуў.

Нас падкінулі практычна да ганку. Людзі ў форме памежнікаў ды на службовай машыне, што яшчэ больш працавала на тое, што мы былі недзе ў незвычайным месцы і бачылі нешта “такое”. Усе ведаюць, што “зялёнкі” проста так не катаюць.

Практычна ўсе спадарожнікі былі тут, і ўсе маўчалі. Або здагадваліся, што іх накалолі, а доказаў няма, або перажывалі цяжкі сорам. Дакладна не ведаю. Пасля таго яны сталі меней ахвотныя да спрэчак і не рваліся, каб ім нешта даказвалі. Зрэшты, яны і ў той дзень не надта імкнуліся да ісціны, як і заўсёды.

## “Том”

*Мне раптоўна стала зразумела,*
*што я нікога не павінен вучыць таму,*
*што зразумеў сам.*

**Джэк Керуак. «Валацугі Дхармы»**

Набокаўскае лета нейкае: сена і сухое лісце ўвесь жнівень. Ці не вельмі маляўніча? Зусім не. Ад абзацаў з апісаннем транспарту, усялякіх дубоў, кусцікаў, сабораў абяцаю вас пазбавіць. Я заўважыў, што аўтобусаў усюды ў мяне хапае. Так што няхай апісанне поту ды іншае застаецца класікам.

Ды і ці варта многа казаць, калі вырашыў зрабіць чарговую паўзу ў словах? Кажуць, што кожны раз, калі ты кудысьці зазбіраўся і забіраеш шампунь і шчотку з шафкі, ты павінен разумець, што вернешся зусім іншым. Крыху іншы чалавек верне ўсе гэтыя рэчы на свае месцы: з новым светам, іншымі каштоўнасцямі і гэтак далей па спісе. Так звычайна гавораць.

Калісьці гэта было сапраўды так. Цяпер? Без паняцця. У мяне ёсць 9 кэмэ пешшу, леташні “Беламор”, адносна свежыя альбомы “Зямы” і 20 кэгэ грузу на плячах для развагаў.

У гэтыя дні, пяць гадоў таму, мой сябар трапіў у свет ценяў і ўспамінаў. З цыдулак мы ведаем, што ён любіў нас па-свойму. Жорстка, ашчадна, не ўзаемна, але шчыра.

Свет не дараваў яму яго жаданняў, нягод, слёз і пакутлівага адчаю. Памыліўся, але на рэстарт моцы не хапіла. Ён аднойчы сказаў, што калі немагчыма жыць, то памерці нават цікава. Думаў, што ён, як заўжды, угарае. І аказалася, што ён згарэў.

Я ўжо недзе пісаў, што галоўнай трагедыяй майго дзяцінства была гібель Жаслена Бамона. Штораз спадзяваўся, што ён паспее ў верталёт і паляціць.

Цяпер я спадзяюся, што іншыя паляцелі ад нас і недзе схаваліся. Сядзяць і, хіхікаючы, назіраюць, як нам дрэнна. Гэтак, як марыў Том Соер. Хацелася б, каб так яно і было.

Незадоўга да ён узяў пачытаць перавыданне Быкава “Мёртвым не баліць”. Часам назвы выпадковых твораў вельмі добра адлюстроўваюць бягучы момант. Гэта безадносна зместу самога тэксту. А можа, гэта проста нацягванне савы на вядомы прадмет. У любым выпадку, гэта ўжо нічога не змяняе.

Мёртвым не баліць? Не ведаю. Магу сказаць толькі за жывых. Нешта душыць, і гэта не заплечнік.

Думаецца, што ва ўсеагульным хаосе і засмучэнні яму было б больш камфортна. У таго страчанага пакалення з мінулага стагоддзя быў хаця б кальвадос. Відаць, што ў нас і сівухі не будзе.

І што я?.. “Ни ещё, ни до сих пор”. Хармс завяшчаў узбройвацца вершамі і біць шкло. Мусіць, толькі гэта і застаецца. Бо так цяжка і няўтульна.

А кніга знікла. Шукаць не буду: хто ўзяў, хай той і вяртае... Чамусьці сам сябе падмануў у тым плане, што пешшу будзе лёгка і весела. Люблю сам сябе надурыць. Весела, ды не лёгка.

Калі казаць шчыра, то я не ўлічыў велізарныя перапады вышыняў – прывык да раўнінаў. На спуску заплечнік цягне ўніз, а на пад’ёме – ты яго ўверх. Шыльда кірунку “Ляхі Славене” павесяліла. А далей папёр міма разбітых ферм, адкуль даўно выкапалі ўсё жалеза.

Што ж мяне так прымушае пакутаваць? Неяк ужо адказваў, але кожны новы раз – унікальны. А значыць, патрэбна праверка матываў.

Кажуць, калі зыходзіць з таго, што людзі па большай частцы з аднолькавымі інстынктамі і запатрабаваннямі, і такім чынам з прыкладна аднолькавым задавальненнем гэтых запатрабаванняў. У тым ліку ў нейкім вольным часе.

І калі вы не навуковец і не эстэт, будзьце сумленныя хоць бы перад сабой і скажыце, што падарожнічаць дзеля культурнай спадчыны важна вам для пантоў і адзнак у нябачным табелі ды іншых так званых сімулякраў. Ну, каб *не як лох* перад пацыкамі быць.

Помнікі ў дадзены момант мала цікавяць, ды і амаль няма іх тут. Скрэбсці з грузам узгоркі, ад якіх нават моцныя дзьмутыя машыны ледзь не захлынаюцца, варта толькі дзеля нечага большага, асабістага.

Кандзінскі сцвярджаў, што прыгожа тое, што ўзнікае з унутранай душэўнай неабходнасці. Прыўкрасна тое, што цудоўна ўнутрана.

Спішам усё на ўнутраную неабходнасць. А што там унутры – хто ведае? На гэтым і працягнем.

І выдумляць нешта не хочацца, каб нікога не спалохаць, як гэта зрабілі

са мной у дзяцінстве. Калі разабрацца, то нічога страшнага не адбылося, усяго толькі адрасаваны нам спіч настаўніцы.

– Дзеці! Вы павінны ганарыцца. Бо ў нашым горадзе пахаваны сын Марыны Цвятаевай!

Карысная інфармацыя для другога класа. Але халера з ім: псіхіку мне зламалі яшчэ раней. Гэта адбылося ў першым класе. Я, як нармальныя дзеці, не пайшоў першага верасня ў школу. Толькі трэцяга. Мяне ў тыя дні моцна ванітавала – такое адрыньванне. Але на першую фізру патрапіў. І там адбыўся акт гвалту. Мне проста сказалі, што я мальчЫк баскетбалічЭскаВа ростУ.

Як тут Даўлатава не ўспомніць: «– Ты, мусіць, у баскетбол гуляеш? – А ты, – кажу, – мусіць, у кеглі?»

Мне не зламаў псіхіку нават той момант, калі мы назіралі ў акно за тым, як мясцовы алкашык ананіраваў за смеццевым бакам. Стоп! Гэты інцыдэнт быў у чацвёртым класе.

Добра, праехалі, і не толькі фура і мікрааўтобус, ды і пайшлі далей прыдумляць усякія неіснуючыя сэнсы да малаважных рэчаў. Гэта ж так весела! Роўна як і жартаваць у сябе ў галаве і рагатаць на шматлюднай вуліцы. Вакол ні душы, і зусім не рагаталася, толькі думалася, месцамі кароткачасова плакалася, хаця чакалася без ападкаў. Спалохаўся, азірнуўся. Маці біла па пысе за найменшую спробу выць...

А яшчэ яна жагнала мяне кожны раз перад сном у дзяцінстве. Пасля сам, шчыра. Потым рэфлекторна. Нават не заўважаючы. Так і не звярнуў дакладна ўвагі, калі перастаў гэта рабіць.

Увечары 24-га я гэта зрабіў зноў, шчыра.

Ёсць яшчэ заскок, таксама рэфлекторны. Я абавязкова павінен паслухаць перад сном нейкую песню, якая стрэльне на працягу дня. Апошнія месяцы да мяне прыходзіць тая самая калыханка Бураўкіна.

Так па цемры і зайшоў. Азёрная строма. А на ёй – зацвердзілася сіняя пляма. Пад дубам і хвоямі. Будзем палохацца груку жалудоў і параварочвацца на шышках пад парывы тэнта ад свісту азёрнага рвача. Як некалі казаў вышэй згаданы сябра, калі ўсё боль, то прыгожыя месцы – таблеткі.

Павінна ж быць навуковае вызначэнне з'яве, калі табе пакутліва дрэнна, але і адначасова добра, нават дзесьці шчаслівa? Гэта як пры траўміруючым досведзе людзі пачынаюць смяяцца дзеля дозы эндарфінчыку. Не ведаю, як з тэрмінамі, але сёе-тое стала ясна. Агучваць не буду.

*"Том, найди себе дом, найди себя в нём, обмоем потом"*. Спяваць не ўмею і нават саромеюся спрабаваць, а ў сябе ў галаве – запраста, асабліва калі паддаць. І пару струн на гнілой палцы заціснуць, так.

*"Найди себе друга, желательно с юга, поедем к нему"*. Сеў на гладкае. Камень памятае ўсё, камень ведае ўсіх. Так што будзем знаёмыя, сябар. Цяпер мы ўсе ў зборы...

## Сцяжынкі на ўскрайку сусвету

Трэба сказаць, што гэта мы вырашылі своечасова: калі амаль увесь свет закрыўся, мы збягаем з заапарку і ладзім суботнік духу. Ды і трэба ж ударыць па кіламетрах, пакуль яшчэ цэлыя. Можна, канечне, і дома сядзець у абдымку з коткай і паціху шызець, але гэта як пры гульні ў выбівалы стаяць пасярод пляцоўкі і чакаць мяч у спіну – трохі бязглузда.

Між іншым, самы круты пах – гэта пах поўсці коткі пасля таго, як яна з’ела рыбу. Гэта ўжо не проста котка, а суперкотка. І што з таго?

Па-першае, мы яшчэ адчуваем пахі. Па-другое, вось што! У нас два пакункі «Каровак», тры пліткі «Алёнак» і яшчэ куча ўсяго салодкага, бляшанка кавы, аптэчка з усім, што патрэбна і не вельмі, некаторыя запчасткі, палатка, горы нейкага «хабару» і адна сігнальная ракета. Не тое каб гэта ўсё было так неабходна ў паездцы, але калі вам дужа карціць зладзіць шпацыр для насычэння гармонамі, якія адказваюць за настрой, то ў гэтым запале трэба ісці да канца. Адзінае, што мяне турбавала, – ракета. У свеце няма нічога больш прывабнага, чым пасярод ночы пасля розных забаваў «жахнуць» у неба недатыкальным зарадам. І я ведаў, што справа дойдзе-такі і да гэтага маленькага тубуса. Не тое каб я тут нешта спісаў у амерыканскага класіка, проста верхнюю кішэню заплечніка я збіраў у такім парадку. У ёй заўсёды ўсё самае цікавае.

Куды мы едзем і навошта? Выматаліся і эмацыйна выгарэлі за тры апошнія месяцы – вось і даем лататы. Можна падбіраць шмат слоў, але праўда ў тым, што мы, ды і многія іншыя, недзе ўнутры зламаліся, і гэта без каментарыяў.

Абшары дрыгавічоў бачылі і чулі не такое. Тут білі татараў, тут брат часам ішоў на брата, тут сабе знаходзілі магілу і вечны праклён чырвоныя і карычневыя. А мы – беларусы, нашыя песні і словы тут усё роўна жывуць. Шпацыруем-катаемся ў сябе дома – палявыя мышы вялікіх абшараў уздоўж Прыпяцкага прагіну. Ці непасрэдна ўжо ў ім? А якая розніца? Ён нас не заўважыць.

Затое мы многае хочам заўважаць. Нават раніцай праз глухі непраходны туман цьмяна праступаюць лініі дотаў. Тых, што калісьці, у мінулым, вывяргалі з сябе ўраганы агню і сталі. Цяпер іх пакрываюць імхі, лішайнікі ды апалае лісце. Іх эпоха сышла, назаўсёды і незваротна. Яшчэ тады, калі яму (ДАКаў) зрабілі «Ромашку». Не, гэта не як у Зямфіры – «Привет, ромашки», – а раскурочаная ад падрыву сапёрамі скрынка, уся вывернутая да стану дзікай кветкі. Толькі вятры ды дажджы парушаюць спакой жалезабетонных волатаў. Пакуль, *рамашкі*, а мы далей.

Выдатны выбар – дарогамі мясцовага значэння, далей ад трасаў значэння рэспубліканскага. У гэтых вашых машынах дрэнна пахне і цягне ванітаваць. Ці, скажам так, укалыхвае ад рэчаіснасці. А вось у нашай рэальнасці дыхаецца...

На пяску трохі заносіць, сыпкая гарчычная рака ўпадае ў возера маладых бурачкоў. Зялёнае. Мазок сцяжынкі рэжа палатно поплава. Сухім пастэльным мелам колеру кавы, разлітай на белы абрус, сцежка мільгала пад коламі. Шоргаючы, яны ўздымалі далікатны пыл. Быццам ты адкрыў кавамолку, і цёплае рэзкае воблака выбіла рэцэптары ў носе. Так і травень кружыць галаву.

Гудзенне струменяў ветру, трапятанне ліста, які патрапіў у спіцу, удары вусеняў у шлем і іншыя светлыя рытмы музыкі натхнёнага падарожжа, ва ўсім і паўсюль. Так аддаеш вільгаць з энергіяй ветру, ад рук і да спіны, і на выхад праз фібры адзення ў самую атмасферу. Гарачыя, як нябесныя свяцілы, і мошкі з казюлькамі фармуюць вакол цябе сваю сонечную сістэму, баражуючы, нібы спадарожнікі, вакол «зорак» у шлемах. Праехаўшы далей і адарваўшыся, мы забілі гэты маленькі сусвет.

– Далёка яшчэ? Звяраўся з маршрутам? – удакладняе Васіль.

– Не-а, пакуль не надакучыць, а там само выведзе.

Нашы дарогі вядуць куды трэба, а не ў Рым. Зрэшты, і гэты варыянт нядрэнны.

*Па беларускіх дарогах столькі крочыла ног. Чаравікаў, ботаў, нагавіцаў, панчох.* І яшчэ колаў усіх гатункаў.

– Што гэта, як мяркуеш? – пытаюся.

– Дакладна Фольксваген, – хутка і без сумненняў.

– Так, але нейкі ўжо занадта старажытны.

– Менавіта.

Нейкі зялёны «Пасат» без вокнаў і дзвярэй стаіць на пнях, але надта маленькі кузаў, нібы мала ў дзяцінстве палiва еў.

– Дэрбі!

– Манчэстарскае ці Лонданскае?

– Ды не пра гэта! Мадэль машыны – Фольксваген «Дэрбі», успомніў. Дзесьці 75–79-ы гады.

– Упершыню бачу.

Затое ўяўляю сабе стыльную рэкламу, якая была ўласцівая машынам таго часу. Па якіх-небудзь брукаваных вулачках невялікага мястэчка ў Германіі едзе які-небудзь вусаты хіпан за рулём гэтага цуда.

Якіх толькі скарбаў няма ў нас па вёсках. Артэфактаў хопіць яшчэ не на аднаго Івана ці Антона Луцкевічаў.

– А гэта як называецца? – паказваючы на вяршыню слупа. – Салдат буслянё не пакрыўдзіць?

– Ха, і праўда!

На верхавіне слупа ляжыць плазам пралёт салдацкага двух'яруснага ложка. Зверху плеценым матрацам ляжыць гняздо буслоў – вышэй за ўсіх. Я не аматар канонаў, але тут не мог абысці тэму белых крылаў.

А далей тое, што прымушае спыніцца: паўсюль павінна быць свая культурная дамінанта. Прыпынак не без суму, вядома, з позіркам у чорныя вочы без зрэнак. Убіраем, як рана соль, карціны дэканструкцыі асязальнай абалонкі нашай памяці. Перыяд паўраспаду даўно пройдзены, астатні час раскладання на пясок і гліну возьмем за Х. Ураўненне са страшным невядомым і жудаснымі велічынямі. Або хімія – раскладанне высокакультурнай каштоўнасці на мноства простых рэчаў.

«Дзірка» – гучыць шматзначна: пралом метр на тры, пралом у свядомасці і гэтак далей – розныя іпастасі адной сутнасці. Каму даспадобы праца муляра, а каму: «О, цэгла добрая – самае яно для лазні!» І бяруць, і даломваюць.

– Ва ўсім свеце так. Вунь колькі па Францыі і Англіі руін, яшчэ больш старажытных.

– А што мне яны? У нас свае, родныя камяні ёсць...

Час ужо і збіраць іх.

І ўсё роўна: быццам мёртвае, а выклікае глыбокае цёплае адчуванне жывой душы. Калі дакранаешся да гэтай праўды ў камені, адчуваеш сувязь з людзьмі той далёкай эпохі праз іх творы – дарунак нам. Хоць яны далёкія і мы з большага розныя, але гэта нейкія агульначалавечыя токі, з якімі людзі вераць у нешта і пакутуюць за сваё «галоўнае» ва ўсе часы.

І не варта шукаць крайнасці і прызначаць вінаватых. Ідыятызм, глупства, грубасць і жорсткасць не маюць расы.

Праехалі па роднай вёсцы майго дзеда. Я яго ніколі не бачыў, але ягоны брат, з якім я часта сустракаўся ў дзяцінстве, у нечым мне яго замяніў. Аднак лёс забраў яго ў мяне.

Ён сышоў смела і ціха. Раніцай выйшаў са стрэльбай на сваё апошняе паляванне – і ўсё, забіў звера, які з'ядаў яго жыўцом знутры, і загінуў разам з ім...

Так, смела і моцна. І што б ні гаварыла духавенства пра грэх і ўсё такое, пра барацьбу з усіх сілаў, тут мне бачыцца здаровы эгаізм. Гучыць дзіўна, але калі пачаць абмяркоўваць, карціна вымалюецца правільная...

З таго часу я тут рэдка, транзітам праскокваю. Імкнуся хутка і не гледзячы, але ўсё роўна спыняюся, гляджу і не магу пераключыць свядомасць. Мне кажуць, што нельга глядзець у калыску і ўвесь час бачыць магілы. А тут і напраўду – калыска і шмат магілаў. Нельга засяроджвацца на тым, якая страшная рэч нашае існаванне, – канец гульні можа надысці ў любы момант.

– Паехалі адсюль.

Больш палохае не скон, а тое, што ўсё, магчыма, бессэнсоўна.

Толькі ад'ехалі, як зашыпела камера: што за кола без праколу?

– Едзь, я даганю.

Скіл рамонту такога вось *** ў мяне добры. З вачэй пацякло. Пот з-пад шлема праліўся ці нешта іншае, таксама салёнае. У апошнім наўрад ці прызнаешся нават сабе. А калі і так, то спішаш на вецер.

– Вецер, брат. Я табе ўсё раскажу. Разнясі, але маўчы... – Нейкія свае малітвы з шрубамі ў роце. Балючыя, ледзь чутныя.

Здаганяю. Ірвач-дзьмухач шэпча ў вушах зніклым сігналам радыё. Ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш, т-р-т-р-т, пырскаючы хвалямі то свежым водарам скошанай травы, то моцнымі пабочнымі рэчывамі кароўніка. Мяцежнік ён, і дух яго такі. І ён вольны.

– Хутка ты, аднак. Ніколі не думаў стаць шынамантажнікам?

Сябар чакаў каля крамы і працягваў пачак марожанага. Пламбір у жоўтай абгортцы з партрэтам зусім не небяспечнага дыназаўра. Ведаў, што мне трэба проста цяпер, кемлівы.

– Як варыянт.

– Так, а цяпер куды?

– Цяпер на Семежава, а там уверх праз Быстрыцу. Калі будзем разумнікамі, то паспеем у Грозава і ўздоўж Р91 усё аблазім.

– На ноч можна і ў лясах якіх ўладкавацца, а заўтра там побач пакруціцца і рушыць на Наднёман.

– Так.

І ўсё нейкімі казінымі ды заечымі сцежкамі. Маладыя лісы, убачыўшы нас, хутка і нязграбна падаліся назад і зніклі ў непраглядным зарасніку. Шкада, вядома, а так хацелася пазнаёміцца.

Ён хадзіў па цэнтры паселішча ўзад і ўперад, нібы маршыруючы:

– А ты чаго? Давай!

Збоку гэтая рэканструкцыя семежаўскага параду глядзелася дзіўна. Але яму заўсёды трэба было ўжыцца па самыя вушы. У мяне ж карцінкі ў галаве малююцца лёгка – без усялякіх рухаў цела. Стаяць шыхтамі тыя,

хто не спалохаўся выйсці Давідам на Галіяфа. Фінал быў іншы і трагічны, але гэта іх не хвалявала. Як камікадзэ – амаль боскасць, пазбаўлены зямных жаданняў і страхаў, дзеля чагосьці вышэйшага і амаль немагчымага. Нават прайграўшы, ён – пераможца.

І я такі паддаўся:

– Добра. Давай я прыму гэты парад! – стаў пасярод аднаго боку квадрата пляца і памахаў рукой.

– Вось! Правільна. Нельга ж увесь час зацыклівацца і замыкацца на трагізме. Гэта не затушаваныя краявіды – светлыя! – зноў ён мяне падкалоў кнігай, якую ўзяў у мяне. І потым з выклікам дадаў: – Будзем адвыкаць, браток!

Ад чаго менавіта? У глыбіні душы я здагадваўся, але сам перад сабой уключыў дурня.

Да Грозава, трэба сказаць, мы не дабраліся – страцілі яшчэ больш часу ў Цімкавічах, Капылі і іншых цікавых і важных месцах. Наладзілі прывал у лесе ў кіламетрах сямі да мястэчка: няма чаго там, у цемры, глядзець. Дакладней, якраз-такі ёсць за што вокам зачапіцца, але для гэтага патрэбна святло.

Дровы патрэбныя – ночы яшчэ халодныя. З нейкім незразумелым, нават нягледзячы на стомленыя цягліцы, уздымам пакрочыў кудысьці туды, куды рашуча цябе штурханула невядомая сіла. Малады вецер перабіраў кожную іголку ды ліст. Нібы рабіў перападлік. Ціхая радасць за тое, што даўно наважваўся, але толькі цяпер атрымалася зрабіць. Такі вялікі шлях. Успрымалася дзіўна, але адначасова проста. Так і апынуўся ўнутры травянога кола, падобна артысту, якога суправаджае белы дыск прамяня пражэктара, – востраў, заціснуты паміж хваляў нізкіх дрэўцаў.

Шукаеш. Сухія, поўнае бярэмя, трымаеш падбародкам, і бягуць па табе прэч ад паленаў жучкі. Чуюць, што пахне смажаным.

Але свежая лясная шчотка прываблівае – прылёг. Звод чэрапа прыемна халадзее, чапляешся за космы вільготнай паляны, прарастаеце адно ў адно. Нешта не так, і яно шэпча... Убачыў бэз. Але ж ён расце толькі там, дзе людзі, ці застаецца пасля іх. Стоп...

Толькі не пачынай дадумваць, бо гэта, магчыма, толькі здаецца. Так, мы з’яўляемся на свет па магільных плітах, але... Хопіць, хопіць, падобна грыбніцы, з маніякальнай бесперапыннасцю размотваць ніткі сваіх фобій глыбока ў зямлю. Мы жывем, мы паміраем, мы кормім сваімі рэшткамі нашых нашчадкаў – усё ў парадку.

Не скавычы! Кажуць, што пасля смерці не чакае нічога, як нічога не было і да нараджэння. Часткова так, але не зусім.

Было і будзе амаль як у песні, але не на цвіль і ліпавы мёд, а на бактэрыі і хімічныя элементы. І аднойчы падымешся, і станеш травой. Такой, як і гэтая, а можа і лепшай. Або дрэвам, таксама як у песні, – баабабам. Тваё дарункі спазнаюць птушкі, і ты разам з імі ўбачыш свет, і пляваць на санітарныя кардоны. Ты скрозь і ўсюды... А яшчэ вакол цябе можна вадзіць карагоды і гукаць вясну. А яшчэ можна стаць бервяном у хаце: дзеці налепяць на цябе свае малюнкі, а ўначы будзеш пужаць іх сваім рыпеннем. Што можа быць лепш?

Нічога ж страшнага, праўда? А баяўся памерці, бо думаў, што смерць адбярэ ў нас самае важнае, самае дарагое – абстрактнае Я. Як ты жыў

першую частку кругазвароту рэчываў без гэтага? Так што забі – наступнага цыклу не пазбегнуць. Ён усяго толькі працяг, а не канец.

А цяпер падняўся, жыва сабраў дровы і аднёс у лагер. Бо ўсяму, між іншым, трэба харчаванне і цяпло. А то памраце ад знясілення, і ў звера-нятак і жучкоў будзе нішчымны абед. І не кідай дровы! Продкі вучылі, што трэба класці ціхенька, каб не стукала. Гэта каб громам не біла. А вам дажджу не трэба – нацячэ ў амартызатары і ўсё – карачун твайму «Сантуру», пакуль да гаража даедзеце.

З ганарлівым выглядам здабытчыка складаю дровы на зямлю. Дзе там тыя запалкі? Домік я ніколі не складаю. У дзяцінстве на маіх вачах гарэў дом суседа – кашмар. А пасля, калі малыя распальвалі вогнішча (хаткай), нехта за спінай гумарнуў:

– О, як Сашкава хата гарыць.

І ўсё – як заўгодна, але не «хатка».

Кава з «Алёнкаю» з камаром, які вырашыў утапіцца ў кубку, – добра заходзіць. І размовы пра ўсялякае. З чаго мы пачалі і чым скончылі?

– Бачу, у сябе прыйшоў, а то ўсё нейкі разгублены, – заўважыў сябар.

– Хм, з боку лепш відаць.

– Атрымліваецца, што знайшоўся.

А далей размаўлялі пра рознае. То ціха і ўважліва адзін аднаго слуха-ючы, то – гучна смеючыся, чакаючы моманту, калі можна падхапіць, але ўсё адно іншы раз, ды перапыніш. І так да самых позніх гадзін.

Цёмна, нават вельмі. У пошуку ліхтара і магчымых забавак палез у сумку. Так-так-так: адзенне, батарэйкі, пакет, яшчэ штосьці... О!

– Слухай!

– А!

– Давай ракету жахнем!

– Думаеш?

– А што? Мы не ў тайзе – спаліць нешта складана, ды і лясы тут такія, што згубіцца тут проста сорамна. Тут гэта лішняя вага і нагода пацешыцца.

– Бахнем!

– На поплаў хадзем.

Ідзем на бугор паблізу. Ён бярэ ракету, падымае руку ўверх, адводзіць вочы, цаляе некуды, хоць куды там цаляць і міма чаго можна прамазаць? Выцягвае шнур. Гучны шоргат і выбух! Кідае тубус, адыходзіць ад дыму і глядзіць уверх.

– Глядзі!

– Бачу!

Чырвоны шар імгненна ўскінуўся над лесам і павольна апускаўся ўніз – крыва па траекторыі серпантына. Фарбуе ўсё пад сабой у ко-леры каркадэ, кінутага ў гарачую ваду. Ужо амаль дагарае, апусціўся на зямлю і сплюснуўся агеньчык, выпусціўшы белы кучаравы дух. Патухла. І вось мы бачым бясконцы космас. Галактыкі нараджаюцца і паміраюць, сутыкаюцца і танцуюць, а імглістасці ззяюць у цемры, як вочы чагосьці ўсёвідушчага. Пранізлівае кантральта, якому акампануюць сярэднявечныя гімны вар'яцкага харacтва. Лупаты, дзіравы, як пемза, месяц з маўклівым пафасам дырыжыраваў усім.

– Добра, ды мала!

І асабліва не заганяешся над тым, што ўсялякія цікавосткі прафукалі за першы дзень. Але гэта нас ужо не турбавала.

– Ага, добра. Спаць трэба.

– Сапраўды.

Спаць, каб зранку працягваць, але ўжо днём. І галоўнае – не ўпусціць следам у сіні шацёр аматараў выпіць «красненькага» – камароў.

– Васіль! – крычу са свайго намёта.

– А?! – імгненны адказ.

– Заўтра ты прымаеш.

– А то ж.

У тых гушчарах мне пачало здавацца, што мы ўвогуле ніколі не паміралі. І не памром. Але і будучыня мне нават не сніцца, а гандаль пустэчай – доля фарысеяў. Трэба жыць сучаснасцю і рабіць толькі тое, што любіш.

Толькі і хацелася як хучэй заснуць, каб хутчэй настаў новы дзень – так шмат трэба паспець...

Васіль Бондар



...колькі людзей яе ў руках трымала

і колькі ўсяго яна перасекла...

# Жарсці з сякераю

***Апавяданне***

*Барысу Пятровічу (Сачанку) прысвячаю*

**1.**

Эсэмэску прыслаў мне Алег, калі я заканчваў першы раздзел аповесці “Талярів багато”: чакайце праз гадзіну на шашлыкі, падрыхтуйце сякеру і дроўцаў. Я крыху раззлаваўся, бо не люблю, калі ўмешваюцца ў мой творчы працэс, асабліва калі пішу, а тое здараецца не так і часта. Але адразу ж супакоіўся. Мелася адбыцца развітальная вячэра з дарагімі маімі пляменнікамі-блізнятамі, перадусім – з Васількам: ён чатыры дні гасцяваў у бацькоў са сваёй каханай Кацярынаю, якую адмыслова прывёз паказаць радзіне, а заўтра мусіў вяртацца на месца сталага жыхарства ў Беларусь (Віцебшчына). Я дапісаў фразу і кінуўся аглядаць хутар, які Мікола Краўчук некалі назваў “домам творчасці імя Алёшы Загародняга”. Па сутнасці, гэта сядзіба былога цяцеўскага базаркама

*Пераклад з украінскай Анатоля ІВАШЧАНКІ.*

Алексія Васільевіча, перарobленая з хаты нябожчыкаў бабы Тэклі і дзеда Васіля Рашатухаў, у якую я вось ужо чацвёртае лета прыязджаю на некалькі тыдняў – падыхаць паветрам роднага мне кутка.

І чаго толькі ў гэтай хаце няма: каса, граблі, рыдлёўка, серп, гэблік, малаток, вяроўка, нож, вядро, барана, электрапліта і да т. п. Няма толькі сякеры. Я пайшоў да суседзяў. Іх засталося ўжо нягуста, хоць за часамі маёй маладосці амаль у кожнай хаце гадавалася па трое-чацвёра дзяцей. Найперш – да дзядзькі Васіля Дацюка. Бавячы лета ў Тэліжынцах, я абавязкова сустракаюся з ім: сядзім, гамонім, па чарцы кульнём... Потым на гармоніках-баянах граем: мая юначая слабасць, а ў яго – жарсць усяго жыцця. Увогуле, пра яго можна было б напісаць асобную аповесць ці раман (з бандэраўскага краю, завербаваны ў 40-я на шахты Данбаса, дзе сустрэў нашую прыгажуню Стасю Разючку, з якою і вярнуўся ў Тэліжынцы; а музыка – з губным гармонікам ажно ў Кіеў на вялікую сцэну ездзіў, а вынаходнік-рацыяналізатар, а бабнік!), аднак абмяжуюся тым, што ён дастаў з дрывотні старую масіўную сякеру і добранька завастрыў яе бруском.

Я пайшоў ад дзядзькі ў прыгнечаным настроі, бо падчас нашай размовы на ягоны голас з дрывотні абазваўся крыкам, што працінаў душу, ягоны кот па мянушцы Коця. Ранкам дзядзька знайшоў ката пад брамкай з трыма перабітымі лапамі. Ці то патрапіў дзе ў пастку, ці то нехта наўмысна пакалечыў, але кот не мог ступіць і кроку. І цяпер ён ляжаў у кутку за горкаю паленцаў і так енчыў, што і самому хацелася заплакаць. “Коцю! Коцю мой!..” – браў яго асцярожна пад жывот дзядзька Васіль, дзябёлага, магутнага (беларусы кажуць: вялізны каціра), прыўздымаў, і я бачыў, як млява варушацца кончыкі яго лапаў, і чамусьці падумалася, што з такімі траўмамі жывёліна не выжыве. “Яму столькі гадоў, як мы з Ганяю пабраліся – васямнаццаць”, – сказаў дзядзька Васіль. “Хіба каты жывуць так доўга?” – “А вось мне й цікава было дазнацца, колькі ён пражыве”.

Па дарозе я разгледзеў сякеру і выявіў па ледзь прыкметным, забітым пылам часу ды ржою кляйме на абуху, што зроблена яна ў 1929 годзе. Нішто сабе! – выходзіць, амаль стогадовае даўніны прылада. Колькі людзей яе ў руках трымала і колькі ўсяго яна перасекла ды абчасала!

Першымі прыйшлі, пераадолеўшы водную перашкоду паміж Бугаёўкаю ды Тэліжынцамі, Васілька з Кацярынай, худзенькай і светлавалосай беларускай (дзявочае прозвішча Апяцёнак), якая збольшага маўчала й замілавана паглядала праз акуляры з тонкаю залатою аправаю на майго пляменніка, ад чаго і ў мяне соладка шчымела дзесьці там, з левага боку. Дроўцаў я не насек, бо не мог цягнуць хмызняк ні ў гаспадара, ні ў суседзяў, не хацелася таксама раскладаць вогнішча пад хатай, як задумвалі браты-блізняты... Пойдзем на ўскраек сяла, да ліпы дзеда Тараса, а там лесапаласа й таго хмызняку – бяры не хачу.

Сонца ўжо зайшло за якімаўскія пагоркі, калі мы ўтрох пачалі шукаць у пасадцы, зарослай глухой крапівою, галлё, пераважна акацыевае ды з крыху вільготнай бузіны (дзе тая вішня-чарэшня пасохла?), ламаць і секчы тое галлё на палачкі-паленцы, складаць камяні накшталт жароўні... А тут акурат і Алег з Юляй паказаліся з боку Замчыска. З мясам для шашлыкоў – курынымі бройлернымі сцёгнамі – яны пераплылі з Вінніцкай вобласці ў Кіеўскую на тым жа, што і беларуская сямейная пара, доўгім і хісткім чаўне і, як сапраўдныя кантрабандысты, схавалі яго

ў лапухах, каб мець сабе пэўнасць на зваротны шлях у цямрэчы. Бо ноч насоўвалася імкліва, ужо й Роську ледзьве было відаць пад захмараным небам, з якога пачынала накрапваць.

"Памолімся за добрую справу, – прапанаваў Алег. – Ці вы ўжо маліліся?" Мы стаім колам каля будучага вогнішча, заплюшчваем вочы, складаем рукі на грудзях, і Алег прамаўляе малітву.

Мае пляменнікі – вернікі царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Больш за дзесяць гадоў. Маладзенькімі, у дваццаць год, яны пабраліся ў адзін дзень са стрыечнымі сёстрамі, адзін паехаў з яе сям'ёю ў Полацк (цесць-украінец служыў звыштэрмінова ў Беларусі і з прыходам незалежнасці атрымаў грамадзянства), а другі пашукаў шчасця ў Кіеве ды Белай, але, не знайшоўшы яго там, вярнуўся да бацькоў. Хлопцы панараджалі дзяцей (па адным), але й дзеці не змаглі іх утрымаць з прычыны вядомай – жонкі не прынялі той веры, да якой хлопцаў паклікаў бацька (не пры іх будзе сказана, а пры іх – Ісус паклікаў), сем'і распаліся. Алег хутка знайшоў сабе пару, хаця гады з тры чакаў паўналецця Юлі, а Васілька адпакутаваў-нацярпеўся, гадамі жывучы ў адной кватэры з азвярэлаю да "сектанта" жанчынай, аж пакуль Гоепад не паслаў яму "сястру па веры яго", якая стала жонкаю. І дзякуй Богу.

Хлопцы не з першага разу распалілі вогнішча леташнімі "Лісаветградскімі ведамасцямі", а потым прылеглі шчокамі да травы ды ў тры раты (я з імі) задзьмулі, бы мяхі ў кавальскім горне, на тлелую паперу, і з кожным дружным супольным дзьмуханнем агонь згасаў, а жар набіраўся, і адразу ж купка дроў займалася залатою кветкаю, якую відно было, думаю, аж да цяціеўскага рогу – і гэтак дзьмухалі мы датуль, пакуль не навярнуліся ў нас слёзы на вачах, а вогнішча не разгарэлася незваротна, хоць яго ўжо патроху акрапляў няпрошаны да нашай святочна-развітальнай дзеі дождж.

Дзяўчатам пад ліпаю было ўтульна. Нейкія мясцовыя ці прыезджыя дабрадзеі зладзілі пад ліпаю столік з лаўкамі, і зусім нядаўна, бо летась тут яшчэ такога сэрвісу не было. Яны заняліся мыццём ды нарэзкай агуркоў-памідораў, рэзаннем хлеба-цыбулі ды іншымі неабходнымі складнікамі шашлычнага застолля.

"Дык што ж гэта за ліпа такая знакамітая?" – запытала Васількова Кацярынка. Праўда, запытала па-расейску (яшчэ й гамонку я з ёю меў пра нацыянальны гонар беларусаў), але няхай гэтае пытанне гучыць тут так, як бы мелася гучаць. "О-о, гэтая ліпа напраўду знакамітая!" – такі быў адказ з нашых абпаленых вогнішчам вуснаў. А потым мы доўга распавядалі адно аднаму факты ды міфы, якія чулі пра адзінае ў сваім родзе дрэва ў ваколіцах Гумані, Бярдычава і Белай Царквы. Ніхто не ведае, колькі гадоў ліпе і хто яе пасадзіў. Найстарэйшыя кажуць: можа, і дзед Тарас не ведаў. Ніхто ўжо ў яго не спытае. Я памятаю дзеда Тараса Шоху ў сваім дзяцінстве. Магутны, вусаты, сур'ёзны – якім і належыць быць сапраўднаму дзеду. Ён быў першым рыбаком у вёсцы, з чаго, уласна, і жыў, прадаючы рыбу або абменьваючы яе на харчы. Ён сам рабіў чаўны і плёў розныя снасці. Човен уздоўж Роські адным вяслом, напаўстоячы, ён вёў так роўна, нібы па струнцы. І шчупакі ў нашай рэчцы мне прыгадваюцца таксама ў сувязі з ім: такія доўгія шчупакі – на ўсе драўляныя ночвы. У яго хаце ўсё было драўлянае: ад кадушкі з халоднай вадой, якая стаяла ў сенцах за дзвярыма і з якой прычашчаўся кожны падарожны, хто плыў з Вінніцы на Кіеўшчыну ці наадварот; ад жэрдкі

над падлогай каля прычала да лыжкі з міскай ці вясла ў чоўне. Дзедава хата стаяла над шырокім гасцінцам бугаёўскім, трохі далей за ліпаю, пад гарой. Дзед меў дзяцей шмат, але я заспеў толькі дзвюх дачок: адна была замужам за нашым кутчанскім пастарам і жыла ў Бугаёўцы, а другая, калека Мар'яся, тулілася пры дзеду (спявала гучна, на картах раскідвала, знала ўсё пра ўсіх ва ўсёй вёсцы, не толькі пра людзей, але і ў каго якога дня і колькі ягнятак акацілася ды якой яны масці), пасля смерці дзеда цётка Марыя засталася адна, аж пакуль яе не забралі ў Сквыру ў дом састарэлых, дзе і завершыўся яе зямны шлях. Хлопцаў дзедавых я не заспеў: адзін, кажуць, застудзіўся на лыжах яшчэ юнаком і памёр, другі загінуў на вайне. Смерць таго другога, Сямёна, бацька прадбачыў загадзя. Здаравеннага, пад два метры ростам, не навучанага ні страляць, ні хавацца ад куляў, дзед Тарас, праводзячы неабмундзіраваным на тую, гэтак званую Айчынную мясарубку ў 1944 годзе, сказаў: "Ідзі, сынку: добраю мішэнню будзеш для немцаў". І не памыліўся.

Даглядаў дзяцей дзед Тарас, можна сказаць, сам, бо жонка яго памерла маладою, амаль такою, якою была яна на павялічанай фотакартцы, змешчанай пад шклом у рамцы, што вісела пад столлю на покуці, і ведаю я пра яе хіба з маміных расповедаў. Родам яна была з Чаўновіцы, а звалі яе экзатычна – Фіёня. Тады мне тое падавалася, як нібы яна прынцэса з Канады ці Эфіопіі. А Чаўновіца, невялічкае сяло, назву якога пазычыў для шматлікіх сваіх апавяданняў Яўген Гуцала, знаходзілася за нейкія тры-чатыры вярсты ад паўночна-заходняга павароту ад Тэліжынцаў па дарозе да Скамарошак.

Распавядаю я пра гэтую слаўную і няшчасную ўкраінскую сям'ю не проста дзеля цікаўнасці, а як прыклад гаротнага сялянства ў страшным XX стагоддзі. Справа ў тым, што дзед Тарас Шоха і ў 60-70-я не належаў да мясцовага калгасу (імя Шаўчэнкі, імя XIV партз'езду, імя Пархоменкі), бо лічыў, што тое калектыўнае гаспадаранне ад д'ябла. Ён быў адзіны чалавек у вёсцы, хто не быў у калгасе. Вядома ж, не атрымліваў пенсіі, зямлю ў яго адабралі, пазбавіўшы пры хаце лапіка рудога грунту на пагорку. Нават калі ў вёсцы з'явілася электрычнасць і ва ўсе канцы працягнулі драты, для дзеда пашкадавалі трох-чатырох слупоў: хата яго стаяла крыху ўбаку ад кутчанскіх, яшчэ тады не было тае лесапаласы, а вілася сцежачка напрасткі з падлеснага кутка на Бугаёўку, якою хадзіў на працу бацька Івана Драча Фёдар Мяфодзьевіч. Багата хто хадзіў.

Ды што там "стаяла" – вось перад намі падворак яе, зарослы кустамі алівы, ляшчыннікам, клёнам-бузіной, а самой хаты – і следу няма. Адзіная ліпа непарушная. Ствол у некалькі абхопаў на вышыні чалавечага росту раздзяляецца надвое, а тыя таксама разгаліноўваюцца ўгары вострымі, нібы заточанымі, галінамі, якія самі маглі б быць дрэвамі, і галлё тое амаль сіметрычна цягне свае рукі да нябёсаў, апускаючы голле-падол радыусам крокаў на сем вакол ствала па-над чалавечымі галовамі, а дзе і ніжэй. Храм – не дрэва. У народзе перадаюць з пакалення ў пакаленне, што па яе прышчэп калісьці нават з Кіева прыязджалі, каб здабыць у дзеда, і тое не куды-небудзь, а на Хрэшчацік такую красу нерукатворную збіраліся ўкараніць, але дзед не даваў ні за якую плату.

"Кажуць, што гэтая ліпа ніколі не прамакае – ні пад якімі злівамі", – кажа Васілька, нанізваючы чырвоныя тугія сцёгны на шампур. "А мы сёння і праверым", – сумняецца Алег. Дождж напраўду прыпусціў

не на жарт, але ліпа наш мангал, хоць ён знаходзіцца па-за кронаю, збольшага ахоўвае.

Мы фатаграфуемся крутымі замежнымі фотаапаратамі, якія выдатна працуюць і ў цемры. Хаця тут не суцэльная ноч: жар ад вогнішча, два кішэнныя ліхтарыкі на стале, адзін з якіх можна насіць і за вухам, як цыгарку, – век прагрэсу! Юля здымае на памяць хлопцаў, якія не проста пазіруюць, а паказваюць вар'яцкія мізансцэны.

"Хацелася б пачуць, Катруся, як вы знайшлі адно аднаго", – прапаноўваю я, не ведаючы, што гэтая тэма стане сур'ёзнай і цікавай дыскусіяй пра нараджэнне шчаслівай сямейнай пары. "Можа, варта з вас пачаць – вы ж ты тут самы сталы і даседчаны", – спрабавала ўхіліцца ад расповеду наваспечаная нявестка. За гэтыя некалькі дзён яна ўжо пераняла нашую даўнюю традыцыю звяртацца да старэйшых (бацькоў, сваякоў, знаёмых і незнаёмых) на "вы", што мне катэгарычна імпанавала. "Добра", – пагадзіўся я, але не стаў распавядаць пра свой шлюб (першы і, спадзяюся, адзіны, хаця невядома, што нас чакае заўтра). Я распавёў пра тое, як закахаўся ў першы раз. Закохваўся я шмат разоў у жыцці, часцей – без узаемнасці, ад чаго пакутаваў неймаверна, адчайна думаючы, што лепш памерці, чым жыць "без яе" (кожнага разу, вядома, аб'ект маёй жарсці меў іншае імя). Дарэчы, тая, у якую я закахаўся ўпершыню, мела такое ж імя, як і цяперашняя мая жонка – Святлана. Была яна дачкой настаўніцы і з'явілася ў нашай старэнькай і нізенькай хаце пад слівамі ды ясенямі як аднакласніца маёй сястры Галі, старэйшай за мяне на адзінаццаць гадоў. Былі то пяцідзясятыя гады, задоўга да тэлевізара і дыскатэк, калі моладзь адзначала Змітра, Кацярыну, Васіля й Маланку, Івана Купалу (а не святога Валянціна ці Хэлоўін, як цяпер)... Асабліва папулярным было свята Андрэя, у сярэдзіне снежня, калі каржа-каліту пякуць, падвешваюць яго да бэлькі, потым сядаюць на качаргу, як на каня, і пад'язджаюць адкусіць ад падвешанага шматок, а як не, то атрымаеш венікам па твары... Вось акурат у той дзень мне спадабалася слаўная каравокая й ружовашчокая сямікласніца, выпускніца няпоўнай сярэдняй школы Святланка, і тое зразумелі ўсе й пачалі абсыпаць мяне жартамі адусюль, рыхтык як узаранай зямлёю на Новы год абсыпаюць усе хатнія куты. Але ж, як ні дзіўна, я ад гэтага не пакутаваў, а наадварот: мне падабаліся тыя жарты і я ўспрымаў іх усур'ёз. Перапоўнены каханнем, я заснуў пасярод дзявоча-хлапечай весялосці, а калі назаўтра прачнуўся, у хаце было ціха, на драўляным палку спала мая старэйшая сястрыца, на печы каля мяне пасопваў, бы парсючок, меншы брат Міколка, ляжанка й ложак былі засланыя (бацькі падаліся ці на працу, ці таўкліся ўжо ў хляве каля быдла), і толькі за вакном прырода выяўляла жывы рух – на зямлю валіў белы снег. Пра ўчарашняе мне нагадаў абрывак вяроўкі, што звісаў са столі, вядома, без каржа-каліты. І так у мяне зашчаміла сэрца, так мне захацелася зараз жа пабачыць Святлану-Святлананьку, што я быў гатовы ўскочыць у боты і па свежым снезе бегчы на Бартаўку ды выпытваць, дзе тут жыве настаўніца пачатковых класаў Кацярына Мікітаўна... Але тут прыйшла маці, пачала распальваць у печы, каб гатаваць прасяную кашу, і я шчыра і ахвотна прызнаўся ёй у тым салодкім пачуцці. Мама пагладзіла мяне па галаве, прытуліла да грудзей і сказала ці то з радасцю, ці то з сумам: "Такі ўлюблівы, відаць, удаўся, як і я". І ўздыхнула. Часта я згадваў пазней той уздых, калі больш даведаўся пра

яе сірочую долю... І калі зашыпелі ды затрашчалі дровы ў печы, а потым забулькала пшано ў місцы, мама заспявала чыстым і роўным голасам песню-вяснянку, якую я й дагэтуль люблю спяваць, а таму і жонка яе палюбіла, бо яна пра нас:

*Плыве човен вады повен*
*Ды ўсё хлюп-хлюп-хлюп-хлюп (3 разы).*
*Ідзе казак да дзяўчыны*
*Ды ўсё туп-туп-туп-туп (3 разы).*

Мама праспявала другі куплет, памаўчала хвіліну, любуючыся мной, яшчэ сонным ды асалавелым, і ўзгадала сваю маладосць (“казак да дзяўчыны”), і заспявала той куплет яшчэ раз, у новай варыяцыі ды весялей:

*Йдзе Васілік да Святланкі*
*Ды ўсё туп-туп-туп-туп, ды ўсё туп-туп-туп-туп-туп, ды ўсё туп, ту-уп, ту-уп, ту-у-у-уп.*

Маміна песня мне, чатырохгадоваму, так прыйшлася да душы, што потым я не раз яе прасіў, можа, і надакучаючы просьбамі, не ведаю: “Мама, а заспявайце “Плыве човен...”

Кампанія залілася смехам, на які адрэагавалі нават нашыя шашлыкі: адзін шампур скаціўся з каменя на распаленыя галавешкі. “Цяпер твая чарга, – сказаў я Кацярыне”. “Але я не буду такой паэтычнай”, – папярэдзіла яна. І выліла мне за каўнер вядро крынічнай вады (ды і ўсіх, думаю, апрача, можа, мужа свайго Васілька): – Не па каханні выходзіла замуж. – Беларуска пазірала на нас дапытлівым сексуальным позіркам праз шкельцы акуляраў, спыніўшы яго на тым, з кім у сакавіку, чатыры месяцы таму, стаяла пад вянцом: – Мы бачыліся з ім раз ці два цягам апошніх гадоў на розных моладзевых сходках, але ён не прыцягнуў маёй увагі. Рэч у тым, што я ўжо адназначна закрыла для сябе гэтую тэму – тэму стварэння сям’і, бо з дзяцінства выхоўвалася ў баптысцкай царкве, я даўно вырашыла, што за няверуючага, не тое што атэіста, а нават за лаяльнага да рэлігіі ці прадстаўніка іншай канфесіі, я замуж не пайду. А ў нашым правінцыйным мястэчку на поўначы Беларусі ў царкву хадзілі браты ў Хрысце, што былі або на дзесяць год старэйшыя за мяне, або на столькі ж маладзейшыя. Розніцу ва ўзросце я дапускала ў пяць-шэсць год... Так склалася. Я паабяцала Госпаду, што не стану пераязджаць у іншую мясцовасць у пошуках жаніха, і старанна трымалася гэтага абяцання. Таму калі мне пастар у канцы зімы сказаў, што адзін з братоў хацеў бы мець са мной гутарку на прадмет стварэння сям’і, мяне гэта ні кранула, ні расчуліла, тым больш, калі я даведалася, хто гэта... У мяне няма жадання з ім сустракацца – адказала я пастару”.

“Ай!” – ускрыкнуў Васілька і схапіўся за вялікі палец на назе. “Што?!” – усхваляваліся мы ўсе. Ускочылі на ногі, прынеслі ліхтарык, але і пад святлом вогнішча было відаць буйную кроплю крыві, што выступіла на пальцы й павялічвалася, а потым сцякла долу. “Хусцінку! У каго ёсць насоўка?” “Заціснi рану, пакуль тое!.. Глыбака зайшла?” “Але, глыбакавата... А хто ж гэта тут яе паклаў? Сам, мабыць. Забярыце яе адсюль”, – Васілька прамакнуў рану папяровай сурвэткаю, якая ў момант налілася чырванню. “От дзе дарэчы было б пашкадаваць пра тое, што баптысты

не п'юць", – пажартаваў я: гарэлка напраўду добры дэзінтыфікатар. Кацярына выцягнула з-пад спадніцы падол белай ільняной майкі ды падставіла пад Алегаў нож: "Рэж давай!" Ніхто не аценіў яе ўчынак. Ці пра такое не кажуць услых?

"Вострая сякера", – сказаў Васілька, моцна забінтоўваючы палец з прыкладзеным знізу трыпутнікам. "Добра завастрыў гаспадар бруском, – сказаў я. – Дарэчы, сякера зроблена ў 1929 годзе". "Ого! Гэта злавесны год, калгасы стваралі", – прамовіў Алег. "І дзеда Тараса раскулачылі", – дадаў я. "Так, зноўку вы са сваёю палітыкай? – абурылася Юля. – Ці вам тое цікавей за Катрусіну споведзь?" "Отнюдь, як сказалі б маскалі". "А хто такія маскалі?" – акругліла вочы Кацярына. "А гэта такія даўгія мурашы з чырвонымі крылцамі. Іх колісь багата па прызбе поўзала, асабліва вясною, як прыбяруць ад сценаў хаты сухое бульбяное бацвінне ды прыгрэе сонейка..." – крыўляўся я, каб хоць крыху разбавіць наш прыпсаваны настрой. "Слухаеце далей?" – спытала дазволу Кацярына. "Слухаем, вядома! – перавярнуў Алег шампуры, пырснуўшы вадою на кветачку агню, што дзе-нідзе выбівалася з-пад жару. – На чым ты спынілася?" "...На тым, што пастар настаяў на сустрэчы з братам Васількам, так?" – падказала Юля. "Так. І першая нашая сустрэча мяне расчаравала... Мы былі нейкія скаваныя, напружаныя, не ведалі, што казаць, баяліся неасцярожна чымсьці абразіць адно аднаго..."

"Баяліся?! – перапыніў швагерку Алег. – Дык тое ж першая прыкмета закаханасці. Увага, браты й сёстры ў Хрысце, і Вы, наш дзядзечка, – шашлыкі гатовыя!" "Не, вы не разумееце, то не закаханасць, то найхутчэй увага да чалавека і, як бы тое сказаць, боязь незнарок адвярнуць чалавека, з якім табе, ну, цікава..." "Вось жа, ты нават пры той першай сустрэчы падсвядома адчула, што табе хочацца з ім бачыцца?" "Можа, і так. А да другой, вырашальнай, сустрэчы..." "Другая і ўжо вырашальная?" "Ну, не перапыняйце. Вядома, я рыхтавалася старанна і грунтоўна. Паводле прыкладу адной баптысцкай сям'і я напісала больш за паўсотню пытанняў, на якія пры сустрэчы мелася атрымаць вычарпальныя адказы, завучвала іх некалькі дзён. Бо не будзеш жа з паперкі чытаць: пытанне дваццаць сёмае – скажыце, якія хваробы былі ў вашых бацькоў?" "Што – і пра гэта запытвала?" Пра ўсё. І без абразаў. Мы наперад дамовіліся. Так, любы? Мы прагаманілі з ім за кубкам кавы з восьмай гадзіны да адзінаццатай. Я адчула, што на шмат якія важныя для мяне рэчы ў нас агульныя погляды, часам было ўражанне, што ён гаворыць за мяне, разумееце? А потым мы раз'ехаліся і па мабільным тэлефоне прагаманілі да ранку... Мне не хацелася спаць, я адчула, што нешта добрае й светлае пачалося ў маім жыцці і ў той жа дзень я паведаміла пастару, што гатовая злучыць сваё жыццё з братам, да сустрэч з якім ён так упарта мяне схіляў..."

Кацярына скончыла расповед і ўся нібы заззяла ад шчасця. "А кажаш: не па каханні", – Алег, забраўшы з камянёў шампуры й накідаўшы ў жар бульбы, раскладаў іх на засланым леташнімі "Лізаветградскімі ведамасцямі" стале, і ад стала запахла смажаным мясам, перцам, цыбуляю, відаць, аж на той бок нябачнай пад цёмнымі нябёсамі Роські. "Гатовая паклясціся: не па каханні", – катэгарычна пацвердзіла Кацярына. – Я атрымала больш: светабачанне! Зразумеў, не? Бо гэтак званае каханне, жарсць – штука хуткаплынная, а вось калі няма..."

“Ой, мамачкі! Я парэзалася! Ссс...” – засіпела Юля, і ўсе павярнуліся тварамі да камля ліпы, каля якога Юля прымасцілася на лаўцы за сталом. Алег выхапіў ліхтарык між нарэзаных памідораў ды гуркоў і пасвяціў на ліпу: “Дайце вады, хутчэй! Глядзіце, з лыткі свішча, як з кабана. Вунь вядро, каля вогнішча... Не чапай рукамі, рукі ж брудныя”. “Ды я мыла толькі што, – плачучы казала Юля. – Гэта зноў сякера, каб яе...” “Хто яе паставіў пад ногі?” – спытаў Алег. “Я ставіў. Але я ставіў за ліпай, – сказаў Васілька й застыў з раскрытым ротам. – Слухайце, праўду кажу, за ліпаю ставіў. Можа, хто перанёс?” Усе маўчалі. Мне здалося, пачынаецца нейкая гульня, але справа была сур’ёзнаю: быццам як пошук вінаватага ў раненні. Таму я сказаў: “Я не пераносіў”. “Ды няхай, што вы...” – Алег перавязваў рану разарванай напалову Кацярынінай футболкаю, і аж крактаў. На стале патух маленькі ліхтарык – той, што як палец. “Вазьмі яго пакруці – дзесьці кантакт адышоў, – сказаў Алег брату. – Я сёння батарэйкі зараджаў – не маглі яны вось так хутка сесці”. Але колькі Васілька не закручваў-пракручваў – ліхтарык і не міргнуў.

Юля даядала свой шашлык без ахвоты. Я гэта бачыў і спачуваў, але чым дапаможаш? Настрой прапаў не толькі ў яе. “Трэба было нам заставацца каля хаты, як мы і задумвалі, – пацвердзіў маю здагадку Васілька. – Гэта нейкае зачараванае месца”. “Сапраўды, і дыскусію пра вытокі і асновы кахання мы не завершылі”, – падключыўся я да гульні. “Не, я сур’ёзна. Глядзіце: тыя два раненні, нейкія дзіўныя; ліхтарык зламаўся... Дарэчы, сякеру дзе паклалі? Ці браў хто яе?” “Вось яна, там, дзе я паранілася”, – нявесела сказала Юля. “Падай яе сюды, толькі асцярожна! Алег, светані на ліпу”. Алег узяў са стала вялікі ліхтар і асвятліў камель ліпы за Юлінай спінаю: сякеры там не было. Ён бліснуў праменем то ў адзін бок, то ў другі – няма, потым асвятліў абсяг аж да ледзьве тлеючых галавешак, затым пад сталом, па-за сталом... Рука ў яго задрыжэла, я тое заўважыў. “Сякера 1929 года. Уяўляеце, колькі яна перасекла!” – зрабіў я апакаліптычную выснову. Алег блазнавата падхапіў ноту: “Гэта яна помсціць нашаму кволаму пакаленню і за дзеда Тараса, і за ягоных хлопцаў, і за сотні й тысячы бязвінна...” Я ўзяў у яго ліхтарык і пачаў сам шукаць сякеру. За ліпаю. У бур’яне наўкола. Нават угары па камлі агледзеў. “Хлопцы, не жартуйце: мне ж заўтра зранння трэба будзе сякеру дзядзьку Дацюку аддаць”, – гэтая гульня ўжо напраўду, здаецца, перайшла мяжу. Мне было няёмка: я так доўга яе ў яго выпрошваў... “Вы што, думаеце, мы яе прыхавалі?” – у адзін голас, як у адрэпетаваным спектаклі гаркнулі на мяне пляменнікі-блізняты. І тут патух другі ліхтарык. У мяне ў руках, хаця я ніводнага руху не зрабіў. Мы сядзелі ў поўнай цемры і маўчалі гадзін з дзесяць – так, прынамсі, мне падалося. Потым ва ўсіх адразу паадключаліся мабільныя тэлефоны. Можа, яны адключыліся і раней, але калі хтосьці першы згадаў пра тэлефон і ўсе пачалі корпацца ў кішэнях, то выявілася, што ўсе яны нежывыя.

Мы сядзелі ці стаялі кожны на сваім месцы й чакалі, хто першым прамовіць слова. Мы нават не заўважылі, што перастаў ісці дождж. “Так, пара па хатах ужо – каторая там гадзіна? – не вытрымаў я. – Я ранкам яе знайду. Д’ябальшчына нейкая”. Мы пачалі абдымацца, цалавацца навобмацак, жадаць шчаслівай дарогі, удачы і ўсяго падобнага іншага.

“Яна тут!” – пачулі мы за спінамі. “Хто?” – спытаў дрыжачым голасам Васілька. “Менавіта тая сякера! На стале! Я хацела забраць апошні

шампур, дык адчыкрыжыла мезенец! Вунь яна лётае ў мяне над галавой!” – Кацярына казала па-беларуску і мы чулі яе не вушамі, а сэрцам. “Не чапай нічога на стале! – строга сказаў Васілька. – І адыдзі ад стала, Катруся! Усё, мы развіталіся. Сыходзім”. У тым раптоўна распачатым гвалце я чуў, як гартанна ўзвыў Алег, атрымаўшы зарубку недзе на плячы ці на рабры, але ён такі, што не прызнаецца.

Мы сыходзілі. Мне падалося, што пляменнікі-блізняты ды іх суджаныя распаўзліся ад ліпы ва ўсе бакі, як павукі. Прынамсі мне самому хацелася ўпасці на калені ды паўзці ў кірунку вёскі, каб ні за што не зачапіцца, ні на што не напароцца ў густой цемры, і галоўнае, каб тая лятаючая сякера не адсекла мне галаву. Я прашкандыбаў, прыгнуўшыся і чакаючы смяротнага ўдару (аднаго мяне яна яшчэ не зачапіла!), не менш як кіламетраў пяць, калі намацаў падэшвамі сляды нейкіх гіганцкіх танкавых гусеніцаў: горбік-ямка, горбік-ямка... “Такой дарогай я за год да сваёй хаты не дайду”, – падумаў я і пачуў, як у маёй кішэні заценькаў мабільны тэлефон: цінь-цілі-лі-лі, цінь-цілі-лі-лі... Хвала Усявышняму! Я выцягнуў яго з кішэні і пасвяціў пад ногі: сляды аказаліся сцежкаю, якую пракладае штодня вясковы статак з пашы й на пашу. Гэтая бязрэйкавая вузкакалейка з землянымі шпаламі ляжала за дваццаць крокаў ад ліпы дзеда Тараса. Але туды, назад, я перадумаў свяціць. Мне было радасна на душы, што маю праваднік, маю залатую мабілачку, якая хоць і згасала раз-пораз, але з ёю было куды больш надзейна. Я так асмялеў, што нават азірнуўся на Замчыска, на той бугаёўскі гасцінец, які застаўся ў нашых успамінах, а цяпер там роўны зялёны поплаў ад вёскі да вёскі, з Кіеўшчыны ў Вінніччыну. На тым поплаве паміж лесапалосамі замігцелі агеньчыкі (і ў пляменнікаў мабілкі ажылі!), у бок якіх я закрычаў з радасці ад вызвалення з-пад сякеры: “Ого-го-го-го-ооо!” І пачуў у адказ: “Ого-го!” І яшчэ мне закарцела заспяваць ціхенька, для самога сябе: “Плыывее човен ваадыы поовен ды ўсё хлюп-хлюп-хлюп-хлюп...”

## 2.

Ужо на досвітку я рачкаваў пад ліпаю. Але сякеры не знайшоў. І на стале было чыста, прыбрана. Толькі бульба ў патухлым прыску ляжала ці то ўшчэнт сгарэлая, ці то зусім сырая. Я сабраў яе ўсю ў разварот згубленых учора, вільготных ды халодных ад ранішняй расы ”Лізаветградскіх ведамасцяў” і, апусціўшы галаву, пацягнуўся дадому. Што ж я скажу дзядзьку Васілю Дацюку? Скажу, як ёсць. А потым пайду ў Цяцееў і куплю сякеру асобна, а тапарышча асобна. А як жа інакш! А сабраць... Хай выбачае, неяк сам збярэ, ён спец...

Калі я выбачыўся, дзядзька Васіль Дацюк нейк здзіўлена паглядзеў на мяне. “Я вам куплю ў Цяцееве, чэснае слова. Такую самую, а не стогадовай даўніны”, – спрабаваў я апраўдацца. “Слухай, я не супраць, – пагадзіўся дзядзька Васіль Дацюк, – але ж ты ў мяне не пазычаў ніякой сякеры”. “Як не пазычаў? – крык мімаволі вырваўся з маіх грудзей. – А ўчора, на шашлыкі!..” “А-а, на шашлыкі”, – дзядзька ўсміхнуўся і тое мяне яшчэ больш раззлавала. “Скажыце, а Коця ваш як?” Дзядзька Васіль сумна схіліў галаву: “Няма, памёр Коця... Не вытрымаў пакутаў”. “О, бачыце: ён у пастку патрапіў, так? Вы яшчэ яго падхапілі яго пад жывот, а лапы гэтак млява варушыліся... – Я шукаў, за што б зачапіцца,

каб ён паверыў. – Дык вось тады я і ўзяў у вас сякеру, зробленую ў 1929 годзе, вы яе яшчэ й бруском завастрылі...” Дзядзька моўчкі пайшоў у дрывотню і вынес сякеру. “Гэтая?” – спытаў. Я пакруціў сякеру ў руках: дакладна гэтая. Нават на кончыку вось трохі крыві запеклася. Прыгледзеўся да штампу: 1979. “Не, перапрашаю пана, не тая. На той быў іншы год выпуску – 1929-ы. Гэта як калектывізацыя ў нас пачалася, калі раскулачвалі... Дзеда Тараса Шоху...”

Дзядзька Васіль забраў у мяне з рук сякеру, занёс яе ў дрывотню, а калі вярнуўся, спытаў: “Дык кажаш, згубілася сякера?” “Згубілася”, – стаяў я на сваім. “Дакладна згубілася, маеш рацыю”. Ён апусціў галаву і так сціснуў кулакі, што мне здалося: яны зараз у яго затрашчаць. А потым падняў вочы і агарнуў мяне пяшчотным позіркам: “Прыходзь заўтра. Пасядзім. Мне аж з Нямеччыны новенькі губны гармонік даслалі, *Weltmeister*”.

У “доме творчасці імя Алёшы Загародняга” я так і не перастаў камплексаваць і ўжо сур’ёзна пачаў абдумваць, як бы гэтак агледзець Юліну лытку, толькі не заўважна, каб Алег чаго не падумаў.

А яшчэ загадкаю застаецца: чаму сякера аднаго *мяне* не зачапіла? Хаця цяпер, калі гляджуся ў люстэрка й бачу шнар на пераноссі, “падараваны” мне ў дзяцінстве меншым братам Міколкам, то ў гэты момант быццам нехта шэпча мне на вуха: і ты ў адказе за бальшавіцкую калектывізацыю вёскі.

*23-25 ліпеня 2009 г., в. Тэліжынцы*

мастацтва

Адам Глобус



...Міця Сурскі з паплечнікамі
стварыў самы модны творчы саюз у Беларусі...

# Сурскі

***Словы пра дызайнера Міцю Сурскага***

## Джынсы

Сярод культавых рэчаў, што я бачыў на сваіх сцежках і дарогах, сустракаліся самыя розныя каштоўнасці: і парасоны, і ровары, і гадзіннікі, і матацыклы, і пярсцёнкі, і акуляры, і плашчы... Лічы не пералічыш, бо цэлая індустрыя моды працуе на тое, каб культавыя рэчы змяняліся штосезонна. На маім вяку сярод культавых рэчаў даўжэй за ўсе астатнія цацкі з бацацыркамі пратрымаліся джынсы. Іх куплялі за вялікія грошы, даставалі, шылі ў падпольных цэхах, выменьвалі, пакідалі ў спадчыну... нават узнагароджвалі імі юнакоў за паступленне ў інстытут. Я ведаў хлопца, які змог закахацца ў дзяўчыну толькі таму, што на яе дупе сядзелі фірмовыя джынсы. Сустракаў я і дзяўчыну, якая пайшла любошчыцца з хлопцам таму, што на ім спраўна сядзеў джынсавы касцюм. Джынсы і хаер – сімвалы маладосці майго пакалення. Таму і машыну, якую стварыў Міця Сурскі, мы ўсе палюбілі з першага погляду. Міця зрабіў джынсавую машыну. Ён апрануў яе ў джынсавы касцюм. Джынсавая машына Сурскага – шэдэўр, створаны дызайнерам з

нашага тэатральна-мастацкага інстытута. Ёсць чым ганарыцца, бо гэта сапраўдны мастакоўскі ўнёсак у сусветную джынсавую культуру.



*Міця СУРСКІ з Генадзем ХАЦКЕВІЧАМ каля "Джынсавай машыны".*

## Ключык

Пабла Пікаса адно са сваіх найвялікшых адкрыццяў зрабіў не ў сваёй майстэрні, а ў майстэрні паплечніка і сябрука – Жоржа Брака. Пікаса і Брак дамовіліся, што будуць маляваць люльку і ліст тытуню. Захопленыя кубістычнымі нацюрмортамі, яны і выяўлялі лісты тытуню і люлькі. Калі Пабла завітаў да Жоржа, ён убачыў на мальберце сябрука палатно з вавёркай, а не палатно з люлькай. "Ты намаляваў вавёрку?" – спытаў Пікаса. "Не! Я ўсё рабіў, як і дамаўляліся... Вось тут – люлька, а тут – ліст тытунёвы..." – адказаў Брак. Пікаса ўбачыў, што адно палатно можа ўвадначас паказваць дзве выявы, можна пабачыць на ім ліст тытуню, а можна і хвост вавёркі. Пазней Пабла Пікаса пачне свядома выкарыстоўваць гэты прыём, і з сядла ды руля ровара ён зробіць рагатую галаву быка. Я заўсёды згадваю пра гэтае адкрыццё, калі завітваю ў мастакоўскія майстэрні. У майстэрні Міці Сурскага я быў толькі аднойчы, але яна мне запомнілася, бо я ў ёй зрабіў маленькае адкрыццё. Сваю майстэрню Сурскі абсталяваў у прыватным аднапавярховым дамку, які стаяў непадалёк ад кінатэатра "Вымпел". Цяпер гэтае месца ведаюць як раён універсама "Рыга". Тады мы прайшлі ў майстэрню Сурскага з бутэлькай віна. Мы выпівалі, і Міця паказваў свае скарбы. Я ніколі ў жыцці не бачыў столькі розных рэчаў у адной майстэрні. Бог мой, чаго там толькі не было: старыя прасы, швейныя машынкі, ключы і замкі самых розных памераў і форм, плакаты і паштоўкі, інструменты і фарбы, бутэлькі і крэслы. Магу сказаць, што Міця Сурскі сапраўдны матэрыяліст, прыродны і натуральны. Ягонае захапленне металічнымі ключамі, мяне – праўнука каваля – парадавала так, што, вярнуўшыся ў сваю майстэрню, я напісаў партрэт хлопчыка з ключыкам на шыі. Я напісаў хлопчыка, у якім можна было ўбачыць Пінокія з залатым ключыкам на вяроўцы, а можна ўбачыць і апостала Пятра з ключом ад райскай брамы... Хлопчык з ключыкам спадабаўся майму настаўніку Гаўрылу Вашчанку. Ён нават хацеў, каб гэты вобраз я паўтарыў у дыпломным праекце, і я спрабаваў, ды не атрымалася. Мая карціна з хлопчыкам і ключыкам даўно прапала. У карцін ёсць і такая якасць – прападаць. Таму я некалькі разоў збіраўся яе аднавіць... Мусіць, дзеля гэта варта схадзіць яшчэ адзін раз у майстэрню да Міці Сурскага.

## Плакат

У кожнага паспяховага мастака ёсць дзень, калі ён прачынаецца знакамітым. Мастак жыве і працуе, ён назапашвае творчы капітал, ён робіць тое, што становіцца запатрабаваным, і нарэшце ён атрымлівае свой кавалак доўгачаканай вядомасці... Міця Сурскі заслужыў і вядомасць, і славу, бо своечасова ўвайшоў у шэрагі тых, хто зрабіў плакат адным з самых актуальных відаў мастацтва. Напрыканцы 80-х, у эпоху так званай перабудовы, менавіта плакатысты стварылі шмат знакавых і запа-

мінальных твораў. Менавіта ў перабудовачны час плакат Міці Сурскага і патрапіў на вокладку прагрэсіўнага, усімі любімага, і самага чытанага ў СССР, а можа і ў свеце, часопіса “Огонёк”. Пасля такога поспеху можна было адпачываць на лаўрах, бо тваё прозвішча мастацтвазнаўцы ўпісалі ў гісторыю. Але Міця не збіраўся спыняцца і адпачываць, бо цудоўна разумеў, што ён не самотны, што ён адзін з многіх, каго варта залічыць да паспяховай школы беларускага плаката. Згадайма найлепшых: Войчанка, Анемпадыстаў, Кальмаева, Крукоўскі, Цэслер, Саркісаў, Тарэеў... Сурскі працягнуў работу, бо час надыктоўваў усё новыя і новыя тэмы, якія патрабавалі новых рашэнняў менавіта ў форме плаката.

## Саюз

Тэатральна-мастацкі інстытут дзяліўся на тры часткі: мастацкі факультэт, мастацка-прамысловы факультэт і тэатральны факультэт. Тэатральны і мастацкі мелі яшчэ і свае творчыя саюзы: саюз мастакоў і саюз тэатральных дзеячаў. Дызайнеры, прамграфікі, інтэр’ершчыкі свайго саюза не мелі, а таму не залічваліся ў эліту інстытута, што было несправядліва, але ж было. Дарэчы, несправядлівым было і тое, што краіна Беларусь не мела акадэміі мастацтваў. Таму ўсім нам давялося выпраўляць недахопы. Тэатральна-мастацкі інстытут ператварыўся ў акадэмію, а дызайнеры заснавалі творчы саюз. Зразумела, што зрабіць акадэмію было значна лягчэй, чым утварыць цалкам новы саюз. Інстытут проста пераназвалі, установе надалі новае ганаровае званне. А каб арганізаваць саюз, мелася быць асоба, вакол якой можна было згуртаваць вельмі стракаты натоўп рознамаштабных творцаў. Такой асобай стаў Міця Сурскі. Яго цанілі як мастака-плакатыста і як дызайнера, яго паважалі як адказнага работніка, яму давяралі, яго і абралі на пасаду старшыні. Дарэчы, саюзу дызайнераў моцна пашанцавала (ці, як казалі ў часы маладосці Міці Сурскага, падфарціла) яшчэ і з тым, што прафесія дызайнера зрабілася адной з самых модных і самых запатрабаваных у час паўсюднай кампутарызацыі. Таму можна сказаць, што Міця Сурскі з паплечнікамі стварыў самы модны творчы саюз у Беларусі. Пасля чаго ў нашай акадэміі мастацтваў усе факультэты аднолькава прэстыжныя і элітарныя.

## Выставы

Прыдумаць выставу складана. Не буду тут згадваць выставы, зладжаныя дзеля засвойвання бюджэтных ды грантаўскіх сродкаў. Не стану казаць і пра выставы, што цешаць самалюбства таго, хто паказвае ўласны наробак. Згадаю тры выставы, якія натхнялі мастакоў, і ў тым ліку мяне, на працу. Мне падабалася ідэя Сашы Грышкевіча – зрабіць выставу, прысвечаную хлебу. Смачная ідэя, жыццесцвярджальная, але вынік мела пасрэдны, бо мала хто з запрошаных мастакоў на яе адгукнуўся. Шмат мастакоў адгукнулася на ідэю Сяргея Крыштаповіча намаляваць ката. І ката, і хлеб сам я маляваў з захапленнем, як маляваў і крэсла на выставу, прыдуманую Міцем Сурскім. Ідэя паспаборнічаць з непераможным крэслам Ван Гога мяне заўжды вабіла. Хто з нас, малявальшчыкаў, у дзяцінстве не думаў, што абавязкова раскажа пра сваё крэсла, як пра сваё расказаў сонечны Ван Гог. Пачуўшы пра выставу дызайнераў, прысвечаную крэслу, я кінуўся маляваць. Найболей удала выйшла чырвонае крэсла з ружовай драпіроўкаю, карціна называлася “Дзень, калі мая натуршчыца Тамара зламала нагу”. Я нават акантоўку для карціны зрабіў, ды на выставу не панёс: засаромеўся, падумаў, што трэба яшчэ папрацаваць, павялічыць фармат, узмацніць колеры. Так атрымалася, што мае каты, мой хлеб і маё крэсла не патрапілі на выставы, але я ўдзячны тым, хто прыдумляе выставы, якія натхняюць на бескарыслівую і самаахвярную творчасць.

## Нажніцы

Міця Сурскі – чалавек, якому хочацца падараваць нажніцы. Ён іх любіць, ён іх збірае, ён іх праектаваў. У праектах з нажніцамі Сурскі дасягнуў вялікіх поспехаў. Каб я здымаў фільм "Рукі-нажніцы", дык абавязкова запрасіў бы Міцю на здымкі, калі не на галоўную ролю, дык на ролю галоўнага кансультанта ці галоўнага спецыяліста. Міця ведае пра нажніцы ўсё чыста. Ён ведае, якія нажніцы патрэбны ў цырульні, а якія спатрэбяцца рэстараннаму кухару, якія бярэ кравец, а якія – шавец, якія патрэбны для манікюру, а якія для стрыжкі барана. Мой дзед Ладзімір трымаў бараноў з авечкамі, я дапамагаў яму іх стрыгчы. Без спрыту, вопыту і вялікіх нажніц барана не абстрыжэш. Шкада, што не захаваў я дзедавы нажніцы, якімі стрыглі бараноў, бо зараз аддаў бы іх у калекцыю Міці Сурскага, які марыць зрабіць у Мінску цэлы музей нажніц. Яму на падарунак ёсць у мяне просценькія нажніцы японскай фірмы MUJI. Іх і падарую Сурскаму, прынагодна; такія нажніцы ў майстэрні дызайнера лішнімі не будуць.

## Рэчы

У часы нашай з Сурскім маладосці добрую рэч называлі фірмовай. Слоўца "фірма" (з націскам на "а") пазначала высокую якасць рэчы. "Знак якасці", які ставілі на айчынную прадукцыю, мусіў супрацьстаяць "фірме", ды моцна прайграваў у гэткім двубоі. Народу хацелася чапляць на нос "фірмовыя" акуляры, зробленыя ў Італіі ці Нямеччыне, а на плечы накідваць фінскі пінжак. Здавалася, што наш "самапал" ніколі не зможа канкураваць з "фірмой". Але знаходзіліся энтузіясты, якія самі шылі джынсы з фарбаванага ў сіні брызенту, самі кляпалі модныя тады жоўтыя сабо, самі вязалі арыгінальныя сукенкі і швэдры. У шэрагах гэткіх энтузіястаў хадзіў і Міця Сурскі. Дзякучы такім, як ён, майстрам на ўсе рукі, замест словазлучэння "фірмовая рэч" тутэйшыя людзі пачалі казаць "дызайнерская рэч", а прафесія дызайнера зрабілася запатрабаванай і моднай. Хваля захаплення дызайнам вынесла Міцю Сурскага на вяршыню папулярнасці. Для мастака, зрэшты, як і для кожнага з нас, важна адчуваць сябе патрэбным. Добра, калі твае схільнасці і твой талент карыстаюцца попытам, а попыт гэты яшчэ і вялікі. Таму Міцю можна назваць шчаслівым дызайнерам, які нарадзіўся і жыве менавіта ў сваім, а не чужым, творчым часе між дызайнерскіх рэчаў.

## "Pro-дизайн"

Пішу парадны партрэт станоўчага героя і забываю пра кантраст. Усё робіцца ў светлых танах. Кожны наступны фрагмент святлейшы за папярэдні, так можна дайсці да таго, што ўся выява зробіцца анемічнай. Каб гэтак не здарылася, каб вярнуць партрэту паўнакроўнасць, апішу няўдалы праект Міці Сурскага. Сам ён гэтым праектам ганарыцца і запісвае ў набыткі. Яно і зразумела, бо на стварэнне альманаха "Pro-дизайн" пайшло шмат сілаў, шмат часу і шмат сродкаў. Міця нават кажа, што ніводны творчы саюз не зрабіў такога якаснага перыядычнага выдання, як малады саюз дызайнераў. Вядома, гэта памылка, бо некаторым нашым перыядычным літаратурна-мастацкім выданням ужо больш за сто гадоў, а гэта, як ні глянь, вялікае дасягненне. Таму з усхваленнем "Pro-дизайн"-а я магу пагадзіцца толькі часткова, бо ілюстратыўны матэрыял і сапраўды збіраўся якасны, а вось тэксты ў альманаху ў лепшым варыянце выконвалі ролю подпісаў да малюнкаў і фотаздымкаў. Замест альманаха Міця выдаваў ілюстраваны каталог рэчаў, зробленых тутэйшымі майстрамі. Памылка была ў тым, што Міця Сурскі даверыў працу над тэкстамі халтуршчыкам, якія не мелі звышідэі, якія не ведалі гісторыі дызайну і

не бачылі перспектыў ягонага развіцця. Справа ў тым, што часопісы, альманахі і кнігі – гэта не зусім рэчы, як і абразы не зусім карціны. Калі альманах робіцца як утылітарная рэч, дзеля продажу і справаздачы, яму наканавана кароткае, хай сабе і яркае, жыццё. Адным словам, “Pro-дизайн” меў кароткі век і сышоў у нябыт, саступіўшы сваё месца сайту дызайнераў, што лагічна. Тут варта дадаць, што Міця яшчэ спадзяецца ўваскрасіць свой “Pro-дизайн”, што добра, і я спадзяюся – усе папярэднія памылкі супрацы з халтуршчыкамі павыпраўляюцца.

## Госці

Згадваючы дзяцінства, Міця Сурскі кажа: “У нас заўсёды было многа гасцей. Бацькі сябравалі з Навумам Кіслікам, Валянцінам Тарасам, Алесем Адамовічам, Мікалаем Крукоўскім, Аляксандрам Дракахрустам, Барысам Заборавым, Маем Данцыгам... І заўсёды было што паесці і пра што пагутарыць. Досыць галодныя гады, і шашлыкі, вядома, здараліся не часта, але ж у паграбе заўжды была бульба, кіслая капуста, салёныя памідоры. Дастаткова было насмажыць шкварак да бульбы, нарэзаць селядца, дастаць усёй гэтай смакаты з пограба – і паляна накрытая. Гаварылі пра мастацтва, літаратуру, тэатр і, вядома ж, пра палітыку. Гэта была тыповая кампанія дысідэнтаў-шасцідзясятнікаў. І да нас у дом прыязджаў нават апальны Галіч і на імправізаваным канцэрце-кватэрніку спяваў з пранікнёнасцю і грасіраваннем свае тэксты...” Галіч у кватэру маіх бацькоў не завітваў. Праўда, мая маці хадзіла на паўсакрэтны канцэрт Акуджавы, і таму Булат Акуджава меў у нашай сям’і большую папулярнасць за Галіча ў тыя, як кажа Міця, досыць галодныя гады. Але і мая маці любіла запрашаць гасцей, і да нас завітваў паэт Навум Кіслік, які перакладаў татаву прозу для маскоўскага часопіса “Новый мир”, якім кіраваў смелы і мужны Аляксандр Твардоўскі. Гэта быў залаты час “Нового мира”. Заходзіў да нас на вячэру і графік Барыс Забораў. Гэта ён пераканаў тату, каб той дазволіў мне паступіць у мастацкую вучэльню. Пісьменнік Валянцін Тарас перакладаў татавы творы для часопісаў “Нёман” і “Всемирная литература”, і тыя пераклады абмяркоўваліся за сталом, што стаяў у садзе на нашым лецішчы. Так выйшла, што я і Міця Сурскі раслі і сталелі ў адным асяродку вольналюбівых шасцідзясятнікаў, і ў нашы дамы прыходзілі адны і тыя ж вясёлыя, таленавітыя і незабыўныя госці.

## Бадзёрасць

У характары дызайнера Міці Сурскага ёсць адна выразная рыса – аптымістычная бадзёрасць. Звычайна ў чалавека гэтыя дзве дэталі існуюць у паводзінах асобна: ёсць аптымісты, а ёсць бадзёрыя людзі. У Міці гэтыя дэталі замацаваны ў адзін працоўны вузел. І не важна, што Сурскі робіць: ці ён плавае ў красавіцкай вадзе Мінскага мора, ці малюе эскіз актуальнага плаката, ці сплаўляецца на байдзе па хуткаплыннай рацэ, ці ляціць на ровары праз начны Мінск, ці праводзіць з’езд сяброў у саюзе дызайнераў, – Міця Сурскі заўжды аптымістычна бадзёры. Таму з ім лёгка працуецца, лёгка жартуецца, лёгка вырашаюцца самыя складаныя задачы. Міця шмат жартуе і шмат усміхаецца, бо так пазітыўна і павінен выглядаць твар паспяховага, бадзёрага і аптымістычнага дызайнера.

Людміла Хейдарава



…Не, людзі!
Прырода непераможная:
пахне чабор!..

# Залаты корань

***Жыццёвыя згадкі***

*– Сур'ёзнае стаўленне да чаго б там ні было на гэтым свеце з'яўляецца фатальнай памылкай.*
*– А жыццё – гэта сур'ёзна?*
*– О так, жыццё – гэта сур'ёзна! Але не вельмі...*

**Льюіс Кэрал. "Аліса ў краіне цудаў"**

## ШТЫКЕТНІКІ ДЗЯЦІНСТВА

У дзяцінстве я лічылася непрыгожай дзяўчынкай, і мая мама нават перажывала праз гэта. Усе яе родзічы былі прыгожыя, а тут – на табе! А мне праз гэта былі адны выгоды. Непрыгожая дык непрыгожая, затое, заміж таго, каб чапурыцца неяк ды клапаціцца пра коскі-банцікі-спаднічкі, можна было траціць час на сапраўдныя рэчы.

Вы чулі, каб прыгожая дзяўчынка, якая павісла на цвіку ад гнілой штыкеціны, гарлала на ўсю вуліцу? Так, яна б ціхусенька там усхліпвала, пакуль хто пачуе ды зніме яе з таго цвіка. А непрыгожым няма калі вісець на цвіках – вунь колькі справаў яшчэ да канца дня чакае!

Ды што там штыкетнікі, калі за калючым дротам перад дамбай, якая вядзе на мост праз Бярэзіну, расцвілі жоўтыя касачы! Ну і што, што ахоўная тэрыторыя. Ну і што, што ў мінулым годзе з такой жа нагоды стралялі! У неба стралялі, хто ж па людзях страляць будзе! Ды і аўчаркі іхнія, што ажно заходзяцца на дамбе ад злоснага брэху, на ланцугах удзень. Ну, раздзерла тады мая сястрычка сукенку праз усю спіну аб той дрот. Давялося прыкрываць сабой яе тылы, пакуль ішлі дахаты.

А што з таго, што мы прыцемкам яе, загорнутую ў белую прасціну, паставілі на рагу завулка на слуп? Пакуль нашая вулічная каманда бавіла час на суседняй вуліцы, мы і забыліся думаць пра яе. Схамянуліся, калі нехта апантана закрычаў у завулку. Падумалася, што, мабыць, сабака на каго напаў. Беглі ратаваць, а як убачылі белую постаць над сваімі галовамі, ад страху самі закрычалі так, што мужчына, які лямантаваў там да нас, кінуўся з мацюкамі наўцёкі, а мы ўспомнілі пра маю дарагую сястру. Яе ўжо нават калаціла ад начнога холаду. А можа, і ад страху. Канечне, я б столькі часу не ўстояла на тым слупку. Але што там страшнага?! Не страшней, як у дактароў гулялі. Зразумела, што сястра была за хворую. Але пра гэта лепш не трэба. Добра, што мама хутка вярнулася.

У мамы назаўтра быў дзень нараджэння. 16 красавіка. Вядома, што мы з сястрой вырашылі адзначыць гэта адкрыццём купальнага сезону. Дыхалаўку ад ледзяной плыні Бярэзіны перахапіла так, што не ведалі, ці адпусціць. Адпусціла імгненна, як толькі пачуўся знаёмы гук татавага матаролера. Мы не думалі пра тое, як ён даведаўся, што мы на рэчцы. Мы думалі, што нам будзе за нашае самавольства.

Тата, які прайшоў вайну, ведаў цану часу, таму апусціў першую частку вымовы за нашае няўдалае купанне, але ўсё-ткі лаканічна выказаў, што пра нас можна думаць, калі дома раптам пачалі раіцца пчолы. І хоць мы былі ўпэўненыя, што не бунтавалі пчол, хуценька пабеглі ўслед за матаролерам.

Дзень быў сонечны. Але ад пчолаў, што са звонкім раздражняльным гудам кружыліся ў паветры, на падворку панавалі прыцемкі. Мама бегала з венікам і вядром вады, страсаючы ваду з веніка на пчол. Мы імгненна далучыліся да яе. Мы так стараліся, што давялі бацькоў да смеху сваёй мітуснёй, але з таго дня мама, выпускаючы нас пагуляць, прымушала адзначацца ў яе кожныя пятнаццаць хвілінаў, інакш другім разам будзем сядзець дома.

Адзначаліся. Або па чарзе, або... бедная мая сястра! Але ж да нашага вакзала і прысадаў, куды патрэбна было колькі разоў на дзень збегаць, каб пакарміць шчанюкоў, закапаных кімсьці ў лесе і выкапаных намі падчас паходу ў грыбы, было не так і далёка. Тут ужо сястра карміла, а я бегла дакладаць, што мы гуляем на суседняй вуліцы ў выбіўнога.

Ды і да бліндажоў з дакамі, што захаваліся з часоў вайны, пра якую нагадвала брацкая магіла каля вакзала, было не так далёка. Залітыя вадой, закіданыя ламаччам агнявыя кропкі мінулага вабілі нас. Вядома, што не расчысціць іх было б не па нашаму. На гэта мы патрацілі амаль цэлае лета і, дзякуючы ім, нават выйгралі “вайнушку” ў хлапчуковай каманды, за што гэтыя злыдні зноў закідалі ламаччам нашыя “агнявыя” кропкі.

Мы перайшлі на шалашы. Але гэта ўжо было не цікава. Тым болей, што паспелі вішні і можна было, тоячыся ў галлі, падпільнаваць тых хлапчукоў, каб пульнуць у каго з іх слізкай костачкай. Ды і на дубах, маіх аднагодках на падыходзе да Бярэзіны, ужо добра азначыліся зялёныя жалуды. І рагаткі ўжо таксама добра прystраляныя. Ну, распарола я нагу, калі падала з дрэва. Сукенку сястры давялося выкінуць, а нага – нічога, зашылі. Мама бегала пад акном аперацыйнай, галосячы ў фортку, што купіць мне плісіраваную спадніцу, на што хірург, якая яшчэ ў вайну зашывала параненых, кожны раз адпрэчвала ў тую ж фортку, што мне плісіраванага пасака патрэбна, а не спадніцу.

Як вы зразумелі, непрыгожай дзяўчынцы за дзень можна шмат працы знайсці

сабе і іншым, каб увечары залезці на гарышча, перарobленае нам з сястрой пад летні прытулак, у які патрапіць можна было толькі знадворку па драбінах, з якіх мы даўно ўжо страцілі жаданне скакаць з парасонамі. Гарышча было княскім падарункам нам з сястрой! Цяпер я разумею глыбокі сэнс гэтага падарунка. Мама мела неасцярожнасць падараваць мне гітару.

Калі вы думаеце, што мы рабілі зімой, дык адразу кажу – і не думайце. Пра нашыя зімовыя прыгоды распавядаць не буду, ва ўсіх нас без таго хапае хвалявання. Добра, што жывымі засталіся.

А калі раптам вы забыліся, дык я нагадаю, што мне падабалася быць непрыгожай і нават болей – непрыкметнай. У непрыкметнасці я натрэніравалася так, што ў клубе пыталіся ў сястры, якая падавала кантралёрцы два квіткі ў кіно, на каго ў яе другі квіток. А я моўчкі стаяла побач, пазіраючы ці то ўбок, ці то ў столь...

Карацей, усё было б добра. Але раптоўная мода на паштоўкі з фоткамі акцёраў ушчэнт разбурыла маё задавальненне ад жыцця. Неяк, разглядаючы адну з паштовак, сястра перавяла свой позірк на мяне. Нешта ў гэтым позірку было не так. Думаю, што мае зялёныя вочы адразу ўспыхнулі шалёнай нязгодай. Але сястра не магла ўжо спыніцца і таропка сказанула сакраментальнае:

– А ты прыгожая...

У тую ноч я не заснула.

Ранкам трэба было ісці ў школу. У першы клас.

У той жа дзень я роспачна пагадзілася на першае спатканне, якое прызначыў мне сусед па парце. А што яшчэ рабіць, калі ты раптам прыгожая?

З таго часу і пакутую.

## ДОБРА, ШТО НЕ ПЕРАДУМАЛА

Мая старэйшая сястра Жэня ад другога бацькі, але тым не меней сталася мне ўвасобленым зямным Анёлам, які неаднойчы ратаваў маё жыццё. Неяк сястра разам з аднакласніцай вучылі да ночы ўрокі і, калі сяброўка, ідучы да дзвярэй, самлела, здолела пабудзіць тату, перш чым сама страціла прытомнасць. Мама, Жэня з сяброўкай, малодшая сястра Тамара і я апрытомнелі на снезе, куды нас павыцягваў тата. Потым тата патлумачыў нам, што мы папросту ўчадзелі.

Было яшчэ – пусцілі бацькі падарожных людзей пераначаваць. Ноччу, калі незнаёмцы рыхтаваліся напасці на бацькоў, Жэня прачнулася, пачула тое і заплакала, паклікала тату...

Калі тата памёр – Царства яму Нябеснае! – глыбокай ноччу ўсе мы, і тыя, хто сядзеў каля труны, раптоўна заснулі, свечка ў руках таты ўпала, і загарэліся гардзіны. Жэня не спала і паспела патушыць агонь.

Былі і яшчэ дзівосныя выпадкі, звязаныя з жыццём і смерцю, калі заступніцтва Жэні ратавала мяне. Нават у сталым узросце я часта пачувала сябе дзіцём побач з ёй і ў глыбіні душы лічыла яе другой маці. Анёл – што тут казаць!

Але самае дзівоснае выратаванне адбылося, калі я была яшчэ крыклівым немаўляткам, а Жэні толькі споўнілася пяць гадкоў. У той дзень мама спяшалася ў амбулаторыю і рана заклала ў печ дровы, каб падсохлі. Калі дровы загарэліся і хата пачала напаўняцца дымам, Жэня загарнула ў коўдру самае дарагое на яе думку і вынесла з хаты. Гэтым самым дарагім тады яны палічыла мяне. Добра, калі і цяпер так лічыць!

## ПАНІР

Неяк наш былы сусед па дачы пазычыў у мужа грошы. Аддаць пазыку яму ўсё не выпадала. Па часе сусед прыдумаў сплаціць тое малаком. Напэўна, мой

гаспадар палічыў, што лепш гэта, чым ніяк, і адной раніцай урачыста ўручыў мне цёплы двухлітровы слоік з сырадоем.

Ну, я магу шклянку выпіць, калі на тое пайшло. Сабака адмовіўся. Наадрэз. Муж і не паспытаў нават. А малако ішло ды ішло ў дом. Кожную раніцу. Два літры. Сяброўка пашкадавала, малочны грыб дала, каб хоць нехта малако тое спажываў. Грыб, як убачыў колькасць малака, пачаў бязлітасна размнажацца. Хутка знаёмыя, да якіх я старалася ўладкаваць дзяцей майго грыба, пачалі, калі не выпадала схавацца, дык проста ўцякаць ад мяне. Шкадуючы жывое, я спрабавала ўладкаваць грыбных дзетак нават незнаёмым. Але, здавалася, уся нашая сталіца была заселеная малочным грыбам. Валасы на галаве, якую я мыла прадуктам жыццядзейнасці таго грыба, таксама раслі нястрымна. Даводзілася стрыгчыся кожныя два тыдні.

На той час ішоў сёмы год, як я вегетарыяніла па ведычнай кухні. Мне прыгадаўся панір – сыр, выраблены па ведычным рэцэпце. Прадукт шаноўны – і сам па сабе, і ў салату якую, і ў супы, і тушыць з гароднінай, і ў пірагі, а ўжо вымачаны ў ружовым варэнні... смакацішча! Спрабавала ў адным індыйскім ашраме!

З суседам я старалася не кантактаваць, бо да любога нармальнага слова ў яго неяк натуральна клеіліся два-тры з ненарматыўнай лексікі. Пасля адной гаворкі з ім выявілася, што яны здольныя клеіцца і да думак у маёй галаве. Нават ноччу. Магло пацярпець прыгожае пісьменства. Як мінімум, маё. Таму зносіны з суседам падтрымліваў муж.

Аднойчы яны размінуліся з маім чалавекам, і сусед завітаў проста на маю кухню. Вядома, я пачаставала яго панірам. Звычайныя людзі часам мацюкаюцца ад узрушэння. Сусед на гэты раз маўчаў і хутка выправіўся дахаты, дзе пачаў штодня дапякаць сваю грамадзянскую жонку, маўляў, з двух літраў можа быць і смятана, і сыр, і шампунь грыбны, а ў яе два вядры – і анічога. І жонка не вытрымала: “Ах, так! Ну, дык я і паеду адсюль!” Сусед сказаў: “Едзь!” – і выкінуў ейную падушку ў акно. Падушка напаролася на нешта. Даляры, якія жонка хавала ў ёй, тут жа выкарысталі нечаканую магчымасць падвучыцца лётаць.

Ноч жанчына шукала тых летуноў, але яе гнеў быў мацнейшым за даляры. Не чакаючы світання, сядзібу пакінула чырвонае аўто, у якім, дзякуючы забытаму святлу ў салоне, можна было ўбачыць не меней чырвоны, утрапёны жаночы твар. Праз колькі дзён падворак суседа пакінула і прададзеная ім карова...

Вось вам і панір.

## ТРЫМАЦЬ ТРЫ КУТЫ

На зборы хмелю, куды па савецкім часе былі накіраваныя мы, супрацоўнікі аднаго з навукова-даследчых інстытутаў, я пазнаёмілася з сям’ёй сыравара. Сыры свае ён варыў яшчэ на тую пару, калі гэтая частка Беларусі была за Польшчай. Сыры ягоныя экспартаваліся ажно ў Францыю.

У чорным пінжаку паверх шэрай кашулі, высокіх, адпаліраваных да бляску хромавых ботах, у якія былі ахайна запраўленыя шэрыя штаны, абапіраючыся плячом на дзвярны вушак, мужчына трымаў руку ў кішэні, выставіўшы адну нагу перад другой. Высокі, падцягнуты, з правільнымі строгімі рысамі твару, на якім акрамя вялікіх блакітных вачэй вылучаўся чуйны, з ледзь прыкметнай гарбінкай нос, ён выглядаў імпазантна, нібыта сышоў з польскай паштоўкі пачатку мінулага веку.

Ягоная жонка знешне была поўнай процілегласцю свайму чалавеку. Гэта была жанчына маленькага росту, амаль што круглая, з добрым, хлапечым, расплывістым тварам і разумнымі, забіяцкімі, нейкімі рудаватымі вачамі, якія бесперастанку смяяліся.

За размовай мужчына расказаў мне, што яна не хацела ісці за яго – як жа! У яе зямля свая. А зямлі той было ў яе – толькі што ейнай спадніцай і накрыць. Ён за свае сыры такія грошы зарабляў, што мог бы такой зямлі накупляць сабе ого-го-го! Вядома, калі б хацеў селянінічаць. Карацей, ледзьве ўгаварыў яе.

Праз некалькі гадоў пасля нашай першай сустрэчы яны святкавалі залатое вяселле. Я прыехала з тэлевізійнай брыгадай рабіць тэленарыс пра іх каханне, вернасць, дом, вялікую дружную сям'ю. Тады і пачула ад сыравара: "У дома чатыры куты, адзін з іх трымае мужчына, а тры – жанчына, тады дом стаіць моцна". На пытанне пра вернасць сваёй жонцы мужчына так сказаў: "Вернасць ёй захоўваў усё жыццё, – паглядзеў на лагодную жанчыну і дадаў, – не таму, што яна такая распрыўкрасная, а каб перад сабой быць чыстым".

У ягонай маленькай жонкі, калі яна слухала гэта, па-ранейшаму смяяліся вочы, яна ганарліва перабірала круглымі плячыма пад квяцістай хустай.

Было чым ганарыцца. Трымаць тры куты – не жартачкі.

## КАПЕЦ

У аднаго нашага вядомага чыноўніка падчас візіту ў Францыю запыталіся пра беларускія рэкі. Чалавек згадаў Нёман, Дзвіну, Дняпро, Бярэзіну... На апошнім слове ў французаў надарыўся ступар.

Чыноўнік не мог нічога зразумець, пакуль перакладчык не давёў яму, што французы не ведаюць ракі Бярэзіны. Слова "бярэзіна" для іх па-простаму азначае "зусім блага, капец".

## ПРЫРОДА НЕПЕРАМОЖНАЯ!

Праз тэрміновую працу тыдзень не магла наведаць свой сад. На другім тыдні думаю сабе – што не пасохла, дык звялося. Спусцілася з ганку, падняла вочы... А ў садзе – што цвіце, што расце, што спеліцца, што гадуецца... Прырода – непераможная!

Міжволі прыгалада, як аднойчы перад Вялікаднем ледзь не кульнулася я ў маім садзе на камяні. Трымалася, пакуль не выглядзела, куды лаўчэй прызямліцца, каб не галавой. Паднялася, а пятка не паднімаецца.

Павёз мяне муж у бальніцу. Там аўтарытэтна паведамілі, што я парвала сабе сухажылле.

– Спартсменка? – пытаюцца.

– Збольшага, – кажу.

– Ну вось... нармальныя людзі сабе сухажылле не рвуць.

– Як гэта?

– А так. Спартсмен трымаецца з усяе моцы, каб не грымнуцца, сухажылле і не вытрымлівае такога характару.

– А нармальныя?

– Нармальныя адразу падаюць.

– Дык што? Трэба было на камень падаць?

– Нармальныя так і падаюць... – смяецца траўматолаг. – Трэба сшываць сухажылле. Калі зараз, дык давядзецца ўсю нагу знізу даверху раскроіць. Калі пачакаеце да панядзелка, выйдзе на працу хірург, які праз дзіркі падцягне і сшые без разрэзу.

Вядома, што я вырашыла чакаць. У Велікодны вечар я заўважыла, што нага пачала падхопліваць пятку. Не зусім яшчэ, але...

– Прырода – непераможная! Папярэдзе дактароў рупіцца, – зазначыў хірург. – Але лепш усё-ткі сшыць. Бо пятка можа так і застацца – падлыпваць...

Нармальна так сшыў. Цяпер амаль што і не знайсці... сярод іншых шнараў.

...Так і я... вырашыла ўсё ж такі дагледзець сад...

Забылася сказаць. Зрэзала я садовы чабор, каб зімой гарбаты папіць з ім. Думала, што позна ўжо, мабыць, што пах свой страціў. Нюхнула. Не, людзі! Прырода непераможная: пахне чабор!

## ВЯСЁЛЫЯ АКУЛЯРЫ

Заходжу ў краму – народу не ўбіцца. Крама невялічкая. Касы дзве. Зразумела, што працуе адна.

Па-нармальнаму, яшчэ на парозе тае крамы варта было тармазнуць. Але ж мае лясныя каты – Ёжка і ейны сын Людвік – хлеба не ядуць. Не расце, не плавае, не лётае – хіба ж гэта спажыва? Ды і ёрк Сёма яшчэ той сабака! Што ні дасі – чакае, пакуль мы паядзім, каты паядуць, калі ніхто не пападаў дагары нагамі-лапамі, тады і ён спажывае. З асцярогай. Усё-ткі азіраючыся на катоў і на мяне з мужам. Карацей, ніхто з маёй хатняй жыўнасці не ацаніў бы маіх тармазоў у краме.

Прабілася неяк да сухога корму. Кацінага. Нічога, каты пераб'юцца. Яны падазраюць мяне ў большых сімпатыях да Сёмы, таму выбіраюць ягоную міску з сабачым кормам. Сёма, зразумела, больш давярае таму, што я насыпаю ў каціныя місачкі. Азірнулася на чаргу, а яна ўжо, як удаў, кольцамі звярнулася, не выпрастацца ёй у краме. Касірка сядзець не можа. Стаіць напаўсагнутая, нешта там штукарыць з касай.

Думаю. Інтэлігентнай жанчыне прасіцца без чаргі няёмка. Усе стомленыя пасля працоўнага дня. Ды і куды спяшацца? Што тычыцца сабакі, дык Сёма заўсёды будзе рады, хоць пад раніцу прыйду. А вось каты... каты паважаць перастануць. Яны недзе там з астралу сочаць за мной. Я не паспела недадумаць, бо здаравенны мужчына ў чарзе вырашыў развярнуцца. Мае акуляры імгненна зачапіліся за нешта і зляцелі. Зразумела, што некуды пад ногі. Не разабраць чые. Усіхныя! Крычу: "Людзі, ні з месца! Акуляры пад нагамі!" Знайшлі. Каля саменькай касы. Там і паклалі. Цётка з поўным возікам прадуктаў падштурхнула мяне ў напрамку касы: "Ідзі ўжо, як выпаў шанец такі!"

Касірка стомленымі зрэнкамі падазрона скасюрылася на мяне і выхапіла з маіх рук пакунак з кормам. Хутка шчаслівая, што так спрытна ўсё атрымалася, я з чэкам і пакункам апынулася каля машыны. І тут... Акуляры! Ёжкін кот! Гэта ж трэба!

Праз хвіліну я зноў стаяла каля касы. Акуляраў не было. "Акуляры! – выдыхнула я. – Сінія такія! З вялікімі шкельцамі! Казалі, што вам перадалі..." Здзіўленню касіркі не было мяжы. Напэўна, ад стомы ці гэтага недарэчнага здзіўлення, у яе перахапіла дыхаўку, яна яшчэ апошнім намаганнем паказала на мяне пальцам і ўпала грудзьмі на лаву, б'ючы адной нагой у сценку за ейнай спінай. Я не ведала, як дапамагаць чалавеку ў такіх абставінах і азірнулася на перапоўненую гандлёвую залу...

Хто ўсміхаўся, хто хаваў усмешку, хто наадварот з цікавасцю глядзеў у мой бок. Так. Усё было зразумела. Праваруч ад мяне, стараючыся стрымаць нейкі ўдушлівы прыступ, стаяў малады чалавек, нема хапаючы сябе за нос. Я такое бачыла ўпершыню! Глядзець на гэта было страшнавата і чамусьці смешна. Майму здзіўленню, як і касірчынаму, не было мяжы. Мне таксама хацелася ўпасці грудзьмі на прылавак і біць нагой у сценку. Але я дама выхаваная, ды і прыступ у маладога чалавека памякчэў, ён нават змог, няхай і з цяжкасцю, прамовіць адно слова, сакраментальнае: "Акуляры..." Касірка, якая таксама апрытомнела за гэты час, няўцямна пазіраючы на мяне, дадала: "На вашым носе", – і пальцам тыцнула ў сваю пераносіцу. Я машынальна паўтарыла гэты рух на сабе і... намацала акуляры, якія ўтульна месціліся на маім носе.

Збянтэжаная, я асцярожна агледзелася і тут жа рассмяялася, сустракаючыся позіркам з людзьмі.

Мяне праводзілі хіба што не апладысментамі. Але столькі вясёлых позіркаў, далікатных смяшкоў, спагады, разумення і нечага падобнага да ўдзячнасці я не атрымлівала яшчэ ў гандлёвых залах. Ды хіба гэта я?

## І ТОЛЬКІ ХРЫСТОС МАЎЧАЎ…

Напэўна, хмары, што паўзлі ў цясніне Бой-Тор, падраліся аб нашыя галовы, і тады на горы Цянь-Шаню абрынуўся несканчоны ледзяны дождж.

У гарах, што надвор'е, што цалкам пара года, змяняецца імклівa. Уся апратка на нас, як і тая, што ляжала ў палатках знятая, была наскрозь мокрая.

Мы нешта ўмудраліся гатаваць на спіртоўцы, але разумелі, што доўга не пратрымаемся. Спускацца з гор у такое надвор'е, калі зямля разам з каменнем едзе не толькі з-пад ног, але і разам з нагамі... ніхто не будзе, пакуль не скончыцца дождж, харчы або розум.

Харчы гатовыя былі здацца першымі.

Розум быў таксама не супраць. Але пасля дажджу.

Насуперак усім нашым прагнозам першай здалася мая застуджаная нырка.

Следам за ёй нечакана ўзняўся наш камандны экстрасэнс, які да гэтага стараўся не вылучацца сярод сяброў, хоць і навучаўся на экстрасэнса недзе ў Амерыцы. Ён прывязаў да маёй спіны залаты корань, здабыты на бліжэйшым паўднёвым схіле, і запрасіў чальцоў нашай экспедыцыі стаць вакол мяне і ўзяцца за рукі. Усім належала пажадаць здароўя маёй нырцы.

Не ведаю, што тады падзейнічала, сяброўскае кола ці корань, але з ночы, калі я з крыкам ад нясцерпнага болю выбегла з палаткі пад дождж, сябры ўпершыню ўбачылі маю ўсмешку, няхай і не дужа смелую. Эколагаў адразу супакою. Залаты корань не толькі не пацярпеў ад маёй спіны, але, мабыць, яшчэ і набраўся моцы, бо, закінуты на буфет маёй гарадской кватэры, раптоўна пусціў парасткі. Я пасадзіла цянь-шаньскага горца на балконе, дзе ў належны час ён пачэсна закончыў свой неверагодны век жыцця.

А тады, у гарах, наш экстрасэнс, натхнёны поспехам кораня, між іншым зазначыў, што калі кола людское, няхай нават у тры чалавекі, возьмецца за рукі і пажадае, каб хмары над галавой рызышліся, дык здзейсніцца і тое.

Зразумела, што я імгненна далучылася да кола. Мы заплюшчылі вочы і загадалі хмарам у імя...

Калі над нашымі галовамі разарвалася хмарная аблога і нават выбліснуў нейкі нясмелы, накшталт маёй усмешкі, прамень, радасці не было, зрабілася не тое каб страшна, але ж ніякавата ад таго, што мы натварылі ў прыродзе.

Некалькі мужчынаў апаматаліся першымі і, не дужа давяраючы спакою маёй агаломшанай падзеямі нырцы, хуценька сабраліся спусціцца да бліжэйшай юрты, каб дамовіцца там наконт каня для мяне – адзінага сродку перамяшчэння ў аслізлых гарах. Праз некалькі гадзін, пакуль мы пакавалі рэчы, складвалі палаткі, яны, радасныя, прывялі на стаянку ладнага каня ад сям'і кіргізаў, якія на пад'ёме ў горы частавалі нас кумысам.

Пазіраючы на стомленых мокрых сяброў, я рашуча адмовілася ад каня на карысць рукзакоў, палатак і іншай паклажы. Нырка прамаўчала.

Пад канец нашага спуску дождж наверсе апамятаўся і не толькі здагнаў нас, але прыхапіў з сабой шалёны вецер са снегам.

На бездаражы ногі ў цяжкіх, поўных вады чаравіках саслізгвалі з камення па калена ў гразь. Заўзятыя сталічныя жыхары некалькіх краін, не зважаючы на

падобныя акалічнасці, куляй ляцелі ўніз. З рознымі прыгодамі, мокрыя, змерзлыя, змарнелыя, мы на змярканні дабраліся да берага Ісык-Куля.

На той час з намі застаўся толькі памянёны вецер, які не даваў ставіць палаткі, вырываючы іх з нашых рук, хочучы зваліць з ног. Не маючы моцы падняць нас у паветра, ён падымаў пясок, заляпляючы ім нашыя вочы. За доктара ў камандзе была я, але ў мяне не было пігулак ні ад шалёнага ветру, ні ад магутнай стомы. Чапляючыся за кручаныя, што вяроўка, ствалы берагавых дрэваў, мужчыны сабраліся ў гурт, каб перамовіцца. Вынікам таму быў іхні загад дзяўчатам падрыхтаваць патрэбнае для начоўкі, пакуль яны вернуцца.

Хутка сцямнела. За полагам палатак выў, свістаў, гудзеў вецер, часам прабіраючыся ў палаткі, каб патушыць запаленыя для абагрэву свечкі. Ішлі гадзіны.

Не перадаць стану трывогі дзяўчат, пакінутых на пустэльным беразе, як і той шчырай хвалы Госпаду, калі мы пачулі знаёмыя галасы.

Мы не разумелі нічога, калі мужчыны адкаркавалі нейкія цёмныя бутэлькі і прымусілі нас глытаць незразумелае салодкае пойла са смакам не тое засохлай, не тое крыху сапсаванай садавіны. Пойла нагадвала жахлівае віно. Трэба сказаць, што гэтага не магло быць, бо першым законам экспедыцыі быў сухі закон. У Кіргізіі таксама быў на тую пару абвешчаны сухі закон. І ўсё-ткі гэта было віно.

Выявілася, што мужчыны хадзілі за некалькі кіламетраў па спіртное, бо зразумелі, што празмерная стома, мокрае адзенне і холад могуць блага скончыцца для ўсіх нас, асабліва для дзяўчат. Яны паставілі насельніцтва на ногі, але не тое што цывілізаванага напою з градусам, але і звычайнай самагонкі ў пасёлку не было. Калі б нашыя мужчыны паверылі ў гэта, дык у любым выпадку гэта былі б не нашыя мужчыны...

Не буду выдаваць таямніцу краіны, жыхары якой некалькі разоў ратавалі нас. Мы так і заснулі, трымаючы рыльцы бутэлек у роце. Мне снілася, што я малая, пад цёплым бокам маёй матулі...

Ранкам вецер крыху суняўся, і нам нават уяўляць не хацелася пра тое, што было б, калі б мы засталіся наверсе.

Экстрасэнс, несумненна, меў поўнае права аднесці наш шчаслівы спуск на свой рахунак, бо гэта з ягонай падачы мы на пэўны час спынілі дождж.

Праўда, мая нырка некалькі разоў парывалася сказаць, што калі б не яна...

Адзін з сяброў прызнаўся, што адолеў той шлях, дзякуючы мне, бо ведаў, што, калі я іду з такой ныркай, дык ён проста павінен ісці.

Каму не прыемна ўсведамляць свой добры ўплыў?

Неўзабаве ўсе мы, перакрываючы пошум хваляў Ісык-Куля, радасна гаманілі, шчаслівыя, што выйшлі, няхай і не сухімі, з вады, але ўсё ж такі ўшчэнт жывымі.

...І толькі Хрыстос маўчаў. Ён сказаў усё значна раней...

*...Дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх...*

Генрых Далідовіч



...такі лёс таго,
хто савецкай эпохай быў вылучаны,
а новай адлучаны...

# Вылучаны і адлучаны...

## *Штрыхі да грамадзянскай біяграфіі творцы і дзяржаўнага дзеяча ў эпоху савецкай улады і пачатковага постсаветызму*

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (123).*

Турботна было “КГБ” з тэлекінасправай. У яго веданні знаходзіўся “Тэлефільм” як галоўная рэдакцыя (з 1964-га). Быў і “Тэлефільм” як вытворча-творчае аб’яднанне тэлефільмаў кінастудыі “Беларусьфільм” (яна да пераезду ў 1960-м у Мінск тулілася пры розных кінастудыях СССР; “Тэлефільм” пры ёй задзейнічаў з 1968-га). Клопаты сыходзілі яшчэ і ад таго, што ў нас не было ВНУ для падрыхтоўкі кінасцэнарыстаў, рэжысёраў, аператараў, мастакоў і артыстаў. Кадры пастаўляў Усесаюзны інстытут кінематаграфіі, дзе, зразумела, навучаліся будучыя прафесіяналы з усяго СССР. Многія рускамоўныя з нацыянальных рэспублік, як яшчэ зазначаў Ленін, мякка кажучы, не хіліліся прымаць карэнную мову і культуру, то, адпаведна, і да нашага, таксама славянскага, не рабілі выключэнне. Больш – пацiскалі плячыма: хлопцы, што за ўпартасць? Вам жа так лёгка перайсці ў рускамоўны свет! Тыя, хто не патрапіў на прэстыжную кінастудыю Масквы і Ленінграда, а размеркаваў-

ся сюды, прыбылі не многа і не мала, а з амбітным “своим видением”, з марай здабыць лаўры калі не Феліні, то выбітных маскоўска-ленінградскіх кінадзеячаў. У розны час прыезджыя ўзялі ў свае рукі зацверджаны ў 1962-м на першым з’ездзе Саюз кінемаграфістаў, дзе за рэдкім выключэннем (Тураў, 1976 – 1981) мелі старшынёўства і вызначалі кіношную палітыку.

Беларусьфільмаўскі “Тэлефільм” працаваў па заказе (значыць, са згоды) Цэнтральнага тэлебачання. Адпаведна, каб таму спадабацца, пісаліся сцэнарыі па вядомых там творах (“Корцік”, “Прыгоды Бураціна”, “Пра чырвоную Шапачку”, тургенеўскія “Бацькі і дзеці”, пра непарушнасць савецкіх межаў шматсерыйны “Дзяржаўная граніца”) з удзелам маскоўскіх вядомых акцёраў. І ў чаканых фільмах на беларускім матэрыяле (“Руіны страляюць...”і інш.) артыстам нашых тэатраў дасталіся толькі эпізадычныя ролі. У карціне “Нас выбраў час”, як хваліўся адзін са сцэнарыстаў (дарэчы, зямляк), былі запрошаныя артысты ажно з... 20 тэатраў СССР! З такім падыходам экранізаваліся і нашыя нацыянальныя шэдэўры: “Паўлінка” Я. Купалы, “Палеская хроніка” І. Мележа, “Тартак” І. Пташнікава, “Чужая бацькаўшчына” В. Адамчыка. Слоў няма, гэтыя, як раней і іншыя кінапрацы (па творах В. Быкава, І. Шамякіна, А. Кудраўца, В. Казько) цікавыя, але сродкамі кіно не былі адухоўленыя іхнія мастацкія вартасці, featured рознахарактарныя вобразы розных герояў (сялян, кулакоў, партызан і паліцаяў, настаўнікаў). Скажам, глядзіш: просты чалавек, нібыта наш селянін (найчасцей няголены і неахайны), загаворыць – не, нейкі волжскі ці нават сібірскі акцэнт. Акцёры, асабліва ўраджэнцы розных сельскіх куткоў СССР, не маглі не перадаваць свой сялянскі светапогляд, свае моўныя інтанацыі, лічачы, што гэта падыдзе і нашаму селяніну. А гэта як і ў яркіх спевакоў: толькі падаў голас – адразу ўчуеш: сапраўднае, салаўінае ці не. Да ўсяго прыгнятала, што празмерна сцэн знята ў цемнаце, з паказам запусцення дамоў і гаспадарак, дзікаватых і недагледжаных сялян (ёсць розніца: беднасць і нядбайнасць), са звычаямі ды забабонамі сярэднявечча, з завыўнымі музыкай і песнямі.

У 2021 годзе на мінскім канале “Культура” адзін з кіназнаўцаў А., які вядзе шэраг перадач пра дзеячаў кіно і з пахвалою кожны раз расказвае пра сябе (нават пра тое, як з кіпай выдзеленых грошай завітваў у Маскву, падпойваў у рэстаранах не толькі вядомых, але, галоўнае, паспяховых, з высокімі сувязямі артыстаў, каб яны “соизволили за хорошие деньги” прыехаць у Мінск на здымкі). Яшчэ стары грэшнік паблажліва апраўдвае тагачасныя рэжысёрскія выбрыкі і многія шэрыя экранізацыі беларускіх твораў: маўляў, “местная власть принуждала” іх экранізаваць нашу... “анучную літаратуру”. Вось таму яны і “не усердствовали”. На табе! Выходзіць, вось найперш за што прысудзілі Мележу і Быкаву Ленінскую прэмію, памылкова палічыўшы іхнія глыбока сялянскія ці, лепш сказаць, народныя творы лепшымі ў СССР на пэўным этапе. Няўжо гэтак жа падманваўся і Нобелеўскі камітэт, калі адзначаў сваёй прэміяй “анучнае” ў рамане “Сяляне” польскага пісьменніка Рэйманта, у вяскова-казацкай эпапеі Шолахава “Ціхі Дон”? Там таксама не ўсе героі хадзілі ў бальных касцюмах, наэдакалоненыя і вялі вялікасвецкія размовы. Але хто цярпеў, а хто змагаўся за боскае права, як геніяльна вызначыў для беларусаў яго мысляр Янка Купала – найперш жыць і людзьмі звацца!

Цяжка ўявіць, калі б былі пазбаўленыя сваіх яркіх выканаўцаў роляў грузінскія фільмы “Бацька салдата”, “Дата Туташкія”, “Дарога да храма”. Або карціна В. Жалакявічуса “Ніхто не хацеў паміраць”, то ці дасягнулі б яны такой глыбіні і вышыні без беражлівага адлюстравання народнай самабытнасці, без паказу не заідэалагізаваных, а жыццёвых драматычных лёсаў людзей, калі кожны чалавек па-свойму асоба, пакутуе ад несправядлівасці і насілля, хоча выжыць і захаваць дзедаўскае, сваё і падбаць пра вольных, шчаслівых дзяцей і ўнукаў? Я, як і іншыя, глядзеў пералічаныя фільмы ў перакладзе на рускую мову, але быў перакана:

гэта – грузіны, літоўцы. Са сваімі турботамі, што маюць агульначалавечае значэнне. То тут да месца будзе напомніць з “Универсального энциклопедического словаря” (М., 2003), названыя там, здаецца, такія звычайныя складнікі незвычайнай сусветнай папулярнасці рэжысёра Феліні: яна, зазначана, на аснове роздуму пра гістарычны лёс Італіі, яе нацыянальны менталітэт, за стварэнне ўласнага кінематаграфічнага стылю...

Значна больш “КГБ” змог паўплываць на “Тэлефільм” непасрэдна пры тэлебачанні. Але не ў прыклад усесаюзнаму “Тэлефільму” (11 серый на год; 1985) на рэспубліканскі не шчадрыліся: на год толькі... 9 гадзін! Менш гадзіны на месяц! На мастацкія і дакументальныя (зразумела, кароткія) фільмы, на тэлеспектаклі ды, калі не памыляюся, і на тэлеканцэрты. Улічваючы, што проза і драматургія нашых старэйшых пісьменнікаў між здымкамі твораў аўтараў з іншых краёў час ад часу таксама экранізавалася, Бураўкін распарадзіўся, каб рэспубліканскі “Тэлефільм” свае кароткаметражкі здымаў па творах літаратараў сярэдняга і малодшага пакалення, што абуджала цікавасць гледачоў да новых майстроў мастацкага слова.

Нельга не далучыцца да іншых і не ўздыхнуць у сувязі з умоўным ладам у гісторыі: “калі б...”. На жаль, Бураўкін зведаў апякунства Машэрава ў зацвярдзелы час брэжнеўскага ладу зусім мала. Дык вось, калі б яны абодва былі побач у пачатую “рэвалюцыю зверху”, у перабудову, то, бясспрэчна, змены і перамены ў нас пайшлі б іначай, як і іншым чынам склаўся б наш нацыянальна-дзяржаўны лёс: наяўныя, але прыхаваныя ў тых умовах машэраўскія якасці цяпер маглі б развіцца шырэй і паўней. Адпаведна, і наяўныя чалавечыя, дзяржаўныя задаткі Бураўкіна маглі б быць падтрыманыя і скарыстаныя на больш высокім службовым узроўні, а яго асоба магла б сцвердзіцца яшчэ большай значнасцю. Кіраўніком новага тыпу.

Такое бачанне тагачаснай сітуацыі пацвярджае і былы сакратар Мінскага гаркама, а пазней міністр замежных спраў (значыць, у адзін час і начальнік Бураўкіна-дыпламата) П. Краўчанка ў кнізе “Беларусь на ростанях” (Мн., 2007), дзе прызнанне ў тым, што кіраўнікі ЦК КПБ не разгледзелі або не жадалі разгледзець, падтрымаць тое здаровае, што ў нас у час перабудовы пачало развівацца ў нацыянальным працэсе і чаго яны збаяліся як агню. “Можна было, – піша аўтар, – напрыклад, вылучыць сакратаром ЦК па ідэалогіі паэта і журналіста Генадзя Бураўкіна, а першаму сакратару ЦК Яфрэму Сакалову даручыць займацца сельскай гаспадаркай, у якой той сапраўды разбіраўся, а не партыйнай стратэгіяй, ад якой ён быў такі далёкі...”. У той сістэме і адна здольная, наватарская асоба, калі быў давер Першага і паслухмянага яму найбліжэйшага акружэння, калі дзейнічала партыйная дысцыпліна, магла павярнуць і намаганні іншых на абноўлены шлях. Бураўкін змог абнавіць дзейнасць дзяржтэлерадыё, яму было па сіле і скарэктаваць ідэалагічны накірунак. Зразумела, не без яшчэ большых высілкаў нават у асяроддзі падначаленых ідэолагаў розных рангаў: сярод іх было нямала як рэтраградаў, прыстасаванцаў-папугаяў, так і “асочнікаў”, якія маглі самі або па іхнім падбухторванні іншыя “засігналіць” у ЦК КПСС. А там дзяды не любілі разумных і яршыстых.

Бураўкіну магла быць дзейсная падпора з ліку маладзейшых. Гэты рэзерв не быў скарыстаны. Як паўтаралася многімі і пра многае, азначэнне “калі б” у жыцці, гісторыі застаецца няспраўджаным меркаваннем. Бураўкін меў толькі невялікі адрэзак часу таксама плённа падзейнічаць пры нядоўгім першынстве разумнага, гаспадарлівага, але абачлівага Кісялёва, які доўжыў тое, да чаго і ён пры Машэраве, амаль 20 гадоў узначальваючы Саўмін і маючы досвед стаўлення да рэспублікі цэнтра, прыкладаў розум і руку.

Кароткі час у спробе Андропава надаць новы імпульс сістэме насільнымі спо-

сабамі і ў аслабелай дрымоце Чарненкі толькі падоўжыў стагнацыю яе. Адпаведна, крамлёўскія верхаводы пасля адыходу па-сапраўднаму яркіх і самых аўтарытэтных у рэспубліцы Машэрава і Кісялёва падбіралі кіраўнікамі ў нас на свой погляд надзейных, а значыць, найперш паслухмяных. Спачатку ў машэраўска-кісялёўскае крэсла сеў тэхнакрат Сл., які раней вызначыўся як здольны кіраўнік трактарнага завода і які мог справіцца з патрабаваннямі да міністра машынабудавання, але лёс якога павярнуўся іншым чынам: пасля нечаканага пераводу на пасаду першага сакратара Мінскага гаркама партыі быў пакліканы ў Маскву ў Дзяржплан, дзе, як казалі, абкатваўся ў патрэбным цэнтру духу на месца старшыні Дзяржплана ў нас. Ды абставіны ўзвысілі яго на ролю рэспубліканскага Першага. А такое лідарства патрабавала не толькі высокай прафесійнасці ў пэўнай галіне, але і іншых якасцей, без якіх не бывае яркай асобы, значнага палітыка.

Беларусь лічылася адной з передавых рэспублік СССР, але і ў ёй, пры груваcткай сістэме, назбіралася нямала завалаў, што, як тады было прынята, асабліва не афішаваліся. У прамысловасці – шмат старых тэхналогій, абсталявання ды завялікая доля ручной працы, незацікаўленасць рабочых у колькасці і якасці сваёй прадукцыі (ведаю з вопыту работы брата-слесара найвышэйшага разраду: зробіш больш і лепш – павысяць план, і болей усё роўна не атрымаеш ды яшчэ выклічаш незадавальненне калег па заводскім цэху). Круты паварот у рэспубліцы да хімізацыі і яе гігантаў, як і ад адкідаў буйных жывёлагадоўчых комплексаў, пабольшыў забруджанне прыроды, а значыць, пагоршыў людское здароўе ўжо не толькі ў насычана прамысловым Мінску, але і ў дагэтуль менш прамыслова развітых Наваполацку, Магілёве, Гомелі, Гродне, Салігорску. Сельская гаспадарка з-за звыклага даўняга і слабога ўкаранення навуковых ведаў, з-за невялікага напаўнення найноўшай тэхнікай развівалася марудна, не ўсё як след збіралася, захоўвалася ці перапрацоўвалася. Ураджайнасць павышалася за кошт пабольшвання ўжытку мінеральных угнаенняў, а таксама шкодных пестыцыдаў. Давалі пра сябе знаць выдаткі паспешнай і не ўсюды неабходнай меліярацыі, а таксама АПК (аграрна-прамысловага комплексу). Па ўсесаюзных планах ён нешта вытвараў больш, чым тут патрабавалася, а штосьці вельмі патрэбнае не развівалася, завозілася, што неўзабаве пры абрыве сувязей у нядаўнім СССР прынесла вялікія турботы. Да гэтага дадалася загвоздка, як тады гаварылі, неперспектыўных вёсак (малалікасць і старэнне люду, закрыццё фермаў, школ, клубаў, крам, перабой з транспартам). Машэраўскі план ссялення паселішчаў у буйныя аграгарадкі з вялікімі шанцамі і выгодамі забуксаваў (а год за годам лік непрыкаяных розных Яновак і Янковічаў толькі павялічваўся). Ды ўвогуле ўзровень жыцця нашага вясковага люду значна адставаў ад гарадскога і ў СССР быў не самы высокі, а пра параўнанне з развітымі капіталістычнымі краінамі не было і гаворкі. Ды ўжо толькі ў постсавецкі час, у прыватнасці, у 1995-м, у “Нарысе гісторыі Беларусі” пра апошнія савецкія дзесяцігоддзі стануць публічныя вось такія яскравыя загалоўкі раздзелаў: “Палітычная адліга і адыход ад яе”, “Зрухі і распаўсюджанне застойных з’яў у гаспадарцы”, “Сацыяльнае становішча народа: планы і рэчаіснасць”, “Здабыткі і негатыўныя з’явы ў развіцці адукацыі, навукі і культуры”. Праўда, свядома падхвалены, а на самай справе прыніжаны беларускі менталітэт (фактычна пакорлівасць лёсу, спосаб выжыць у любых умовах) змушаў цярпець: “Дармо. Абы не было вайны”.

Карацей, немалыя турботы чакалі новага Першага. Як па матэрыяльным, так і па духоўным развіцці ўсёй рэспублікі. Было ўдосталь таго, куды, дзе і дзеля чаго прыкласці свае веды, здольнасці. Наколькі помніцца, ён асабліва не афішаваў сваіх поглядаў і планаў, толькі падкрэсліваў вострую патрэбу тэхнакратызацыі. Адчувалася: функцыянеры яго заасцерагаліся. Даходзіла: ён моцны ў тэхнічнай

справе, але абмежаваны як палітык, не разборлівы ў духоўна-культурнай сферы, якую лічыў “остаточной”, г. зн. другараднай. Высокія дырэктарская пасада трактарнага завода, першага сакратара Мінскага гаркама (магчымая стартавая пляцоўка ў верхнія эшалоны ўлады), дзяржпрэмія СССР, званне Героя сацпрацы, казалі, ускружылі яму галаву, і з падначаленымі ён паводзіўся не проста жорстка, а фанабэрліва, вельмі помсна. Яшчэ гаварылі, паслямашэраўскае кіраўніцтва рэспублікі менавіта з-за гэтых ягоных якасцей не жадала бачыць яго на пасадзе старшыні Дзяржплана. То цяпер, калі ён па волі абставін тут Першы, калі пры большай уладзе павялічваюцца і адмоўныя рысы, ды яшчэ пры патуранні цэнтра... Ад аднаго вядомага пісьменніка, які ведаў многія вышэйшыя сакрэты, я пачуў: той будзе “перагрясаць замацярэлыя машэраўскія кадры”. П. Краўчанка пацвярджае тое:ператрус пачаўся з тых, хто нядаўна падаў голас супраць яго. Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета адправілі на пенсію, па Канстытуцыі важную, у рэчаіснасці неўплывовую пасаду заняў знаёмы Першаму па былой партыйнай рабоце, а ў той час першы сакратар Мінскага гаркама, кандыдат тэхнічных навук Т., старшыню Саўміна (казалі, аднаго з машэраўскіх любімцаў) з узгадненнем з МЗС СССР перавялі паслом СССР у Польшу, другі сакратар ЦК КПБ, які, паводле П. Краўчанкі, мог стаць перспектыўным для рэспублікі Першым, апынуўся савецкім паслом ажно ў Паўночнай Карэі... Такім застрашвальным метадам даволі хутка былі ацішаныя ўсякае незадавальненне і закулісныя непрыязныя размовы і дасягнута поўнае адзінаўладства. Як некалі дасягалі такога многія рускія князі: праходзілі вывучку ў мангольскай стаўцы, здавалі іспыты на вернасць вышэйшаму хану, вярталіся і, спраўна плацячы яму ясак, верхаводзілі, не церпячы ніякага суперніцтва. Гэты князёк дзейнічаў як ханскі намеснік на даручаных землях і таму намагаўся найперш услугаваць свайму апекуну. Пры высокім аўтарытэце Машэраў мог штосьці адстаяць для рэспублікі, гэты – не. На жаль, у той час Бураўкіну на тэлерадыё прыйшлося прысуцішыць свой разбег, успомніць машэраўскае: “Действуй. Но осмотрительно”. Таму і паболела яе, асцярожнасці. У перадачах пра сучасную эканоміку адчувалася пэўная дазіраванасць, каб не дапусціць непажаданай уладатрымаўцу негатыўнасці, у духоўна-культурных праграмах паболела забаўляльнасці. Вышэйшая ўстаноўка здаўна вядомая: “Жыць стала лепш і весялей”.

З узвышэннем тэхнакратаў усё ж былі не абыдзены ўвагай і мы, лірыкі. Нас, узгодненую з ЦК групу літаратараў розных пакаленняў і літаратурных пасад, паклікалі ў ЦК на бюро (я патрапіў як намеснік сакратара партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў). Азначэнне “вопроса” бюро не магло не здзівіць: як партарганізацыя СП накіроўвае грамадзянскую і творчую дзейнасць арганізацыі. Што значыць такое накіроўванне ў творчай суполцы? Патрабаваць ад беспартыйных Быкава і Брыля або партыйнага, члена ЦК Шамякіна, скажам, пісаць больш і лепш пра рабочы клас, без якога нельга было абысціся, але які ўжо даўно быў уганараваны толькі на паперы і ў прамовах?

Уражанне ад таго пасяджэння самае кепскае. У новага кіраўніка, ужо не франтавіка ці партызана, здавалася, сфармаванага светапоглядам у духу ХХ з’езда КПСС, выявіўся павярхоўны, заскарузлы погляд на пісьменніцкую творчасць. Пачулася нуднае, чутае-перачутае патрабаванне: паколькі пісьменнікі пішуць па ўказцы сэрца, а яно належыць партыі, то неабходна больш шырока і ярка адлюстроўваць сучаснасць, накіравальную ролю партыі, працу перадавікоў прамысловай і сельскай гаспадаркі. Значыць, мы фактычна павінны былі выконваць ухвальныя журналісцкія функцыі, толькі больш яркімі фарбамі. Адпаведна, зноў абыходзіць асвятленне нашай сфальсіфікаванай гісторыі, спрэчнасці, беды рэчаіснасці. Як вядома, упадабаны Сталіным афарыстычны лозунг для вызначэння метаду сацрэалізму ў літаратуры падказаў Шолахаў. Але хітры казак свой выдатны “Ціхі Дон” пісаў найперш ад сэрца, што належала народу, роднаму казацтву,

што не ва ўсім было сугучнае з партыяй Леніна-Сталіна, з яе рэвалюцыйным ператрусам і тэрорам. І з-за гэтага, увасобленага вялікім талентам, ён займеў сусветнае прызнанне.

Ад імя пісьменнікаў слова было дадзена старшыні СП Максіму Танку. Ён, як заўсёды, бадзёра адрапартаваў пра нашы "намаганні і вынікі". Хтосьці з цэкоўскіх прапанаваў: каб натхніць пісьменнікаў пісаць не толькі пра франтавыя і партызанскія падзеі апошняй вайны, але і пра стваральны сённяшні дзень, трэба вылучыць спецыяльныя прэміі за лепшы твор пра рабочы клас і сялянства. Запомніліся рэакцыя, генеральскі "досціп" на гэты конт камандуючага БВА, члена бюро: "Что – давать одному писателю трактор, а другому корову?" Многім гэта спадабалася – выбухнуў адпаведнага ўзроўню рогат. Прапанова не прайшла. Нечакана ажно ўзвіўся яшчэ машэраўскі сакратар па ідэалогіі, былы ваенны авіятар, і ні з таго, ні з сяго затрос перад сабой часопісам "Маладосць": "Национализм не пройдет!" На гэта было глухое маўчанне. Але, як аказалася, і гэтая звышідэйная застрахоўка на нечых "касцях" не ўтрымала заслужанага франтавіка і спрытнага партыйнага хітравана. Яго, па ўзросце пенсіянера, таксама замянілі. Галоўным ідэолагам у нас пачаў лічыцца, калі не памыляюся, радыёфізік. Як хутка ўбачыцца, зусім недасведчаны як у ранейшай, так і цяперашняй творчасці пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, дзеячаў кіно, тэатраў і музеяў ды заадно павярхоўны як партыйны функцыянер. Пазней я аднойчы на прагулянцы ў парку запытаў у машэраўскага ідэолага: што ён тады меў на ўвазе менавіта пра наша маладзёжнае выданне. "Не помню. Сколько приходилось и молчать, и говорить то, с чем не разделял мнения". А тады Першы (чалавек важкі, хмурны, без вясёлай іскрынкі ўваччу), звыклы да тэхнічных і эканамічных тэрмінаў, у заключэнне натужліва, нібы варочаючы каменне, бубніў вельмі трафарэтнае, нібы зачытваў сухую газетную перадавіцу пра ролю і задачы пісьменніцкага саюза, які павінен быць на нейкім "вастрыі" задач сучаснасці, таксама ўдзельнічаць у "бітве за ўраджай" – ідэйна-мастацкі. Было вырашана: яшчэ сабрацца групе супрацоўнікаў ЦК і кіраўніцтва СП, каб выпрацаваць вызначальную пастанову. Збіраліся, выпрацоўвалі (пра змяненне становішча беларускай мовы ў лепшы бок не патрапіла і слова) і неўзабаве, калі ўзвысіўся Гарбачоў, пра ўсё тое дружна забылі. Як у той казцы, пры апусканні гарачага жалеза ў ваду выйшаў толькі пшык.

ЦК вёў сваё, мы чакалі перамен. Тэхнакрацтва таго Першага нічога не палепшыла ці не паспела на ўзроўні рэспублікі нават абазначыцца. Хоць не, ён усё ж вызначыўся. У звыклай партыйнай пазіцыі як набраў у рот вады пра чарнобыльскую трагедыю. Мо і з-за ўдзячнасці быў пераведзены ў Маскву на высокую, ды не зусім вырашальную, толькі ўкормную пасаду. Як член Палітбюро ЦК КПСС па-свойму патрапіў у маскоўскі перабудовачны анекдот: дыктар вядзе перадачу для глуханямых і пальцамі паказвае, хто з высокага кіраўніцтва прысутнічаў на пэўным пасяджэнні. Калі трэба назваць Гарбачова, пстрыкаў сабе па шыі і паказваў дулю (значыць, паводле "сухога закону" дудкі віп'еш), пры ўпамінанні Варатнікова браў сябе за каўнер, а з прозвішчам нашага земляка, моршчачыся, сплёўваў праз плячо... Жарсткавата. Але ў анекдот героі проста так не трапляюць...

Пасля тэхнакрата Першым у нас стаў абкамавец. Як гаварылі дасведчаныя, яго, хто ў свой час пасакратарнічаў і ў розных партыйных камітэтах за межамі рэспублікі, а ў нас буйнога спецыяліста па свінагадоўчых комплексах, агледзеў і падтрымаў другі сакратар ЦК КПСС Лігачоў. На ідэалагічным бязрыб'і (адказны сакратар ЦК КПБ не мог пераадолець некваліфікаванасці ў даручанай яму справе) ракам стаў, г. зн., ініцыятыву ідэолага перахапіў загадчык аддзела агітацыі і прапаганды, празваны ў журналісцкім абыходзе Саўкам. Казалі, ён стаў галоўным ідэалагічным дарадцам Першага, які аніяк не быў гатовы стаць ідэалагічным

валадаром рэспублікі ўзроўню Машэрава. Тым больш у завіхураных Гарбачовым ідэйна-палітычных, сацыяльна-эканамічных працэсах.

Цяпер ажно не верыцца: першыя гарбачоўскія спробы надаць сацыялізму “чалавечае аблічча” агучыліся... амаль 40 гадоў таму. Пра тое больш-менш выразна помніць пакаленне, каму сёння пад 55. Маладзейшыя толькі чулі тое-сёе пра тагачасныя гарачыя спрэчкі, што ўспыхвалі нават у сям’і. Яшчэ для болей маладых імёны, палітычныя справы Леніна, Троцкага, Сталіна, Бухарына, чэкісцкія ад Дзяржынскага да Берыі, дзеі Хрушчова і Брэжнева, ужо нават пагібельная для “развітога“ ці “з чалавечым тварам сацыялізму” тая “перабудова” – мінуласць і не зусім яснасць. Як і не вельмі яснае ўсведамленне, што сталася пасля саветызму-сацыялізму і ў што яно пералілося. А тады, як выразна бачылася намі, сталымі ўжо, не толькі радавымі камуністамі, але і кіраўнікамі розных партыйных рангаў па завядзёнцы сцэнарый гучна заяўленай перабудовы ў новым мысленні бачыўся прыкладна так: збярэцца чарговы “гістарычны” з’езд і пры цяперашнім прыхільным да новаўвядзенняў і галоснасці Генсеку пагамоніць, ухваліць вызначаныя зверху напрамкі, і... спакваля ўсё ацішэе, пойдзе далей сваім ладам, і навацыі пакрыху прызабудуцца, як многае раней новае прапанаванае (НТР, пабудова камунізму, Харчовая праграма або тэза “Эканоміка павінна быць эканомнай”) цішэла і чэзла ў штодзённай руціне. Ды Генсек звярнуўся не толькі да радавых, не зусім абцяжараных стэрэатыпамі калег па партыі, але і да ўсёй грамадскасці, у тым ліку і дагэтуль бурклівай ці асцярожнай, безыніцыятыўнай. Спачатку рэвалюцыя зверху і зашумела ў асноўным у вярхоўі, у Маскве і Ленінградзе. Але гарбачоўскія без паперкі палымяныя інтэлектуальныя прамовы і непасрэдны выхад у народ, які ўпершыню блізка сузіраў кіраўніка дзяржавы і яго элегантную жонку (“по стране гуляет тройка: Миша, Рая, перестройка”), адпраўка ў адстаўку састарэлай сталінска-брэжнеўскай наменклатуры і ўскладанне на яе віны за савецкі таталітарызм, дзёрзкае выкрывальніцтва яго ў некаторых выданнях заўзятарамі перабудовы ці прыстасаванымі да яе – гэта і іншае пачало спрыяць, каб усё ж шырэй “пайшоў працэс”. У Маскве яшчэ пры стрыманасці да асобы Леніна і ў асноўным утворанага Сталіным сацыялізму спакваля нарастае непрыхільнасць ужо да партыі і сацыялізму (адны бачаць яго рынычным, іншыя падкрэсліваюць ягоную хібнасць). Асабліва дзёрзкія выпады з’яўляюцца ў часопісах “Огонёк” і “Юность”, у такім жа духу падае голас новае і, галоўнае, вольнае выданне “Московские новости”, у Ленінградзе – нечуваная па хлёсткасці тэлеперадача “600 секунд”, у якой забуяніў Няўзораў, павёўшы бесцырымонны, жорсткі штурмавы агонь па абкаму ды выканкаму з іхнімі групаўшчынай і карупцыяй, па рыначнай мафіі ды іншай крымінальнасці, і пры гэтым вылучыўшы тэзіс вяртання “величия” Расіі, аднаўлення моцы праваслаўя і, “если хотите”, манархіі (з яго інтэрв’ю “Юности” у № 4 за 1990 год). Заяхіднічалі некаторыя эстраднікі-гумарысты (хто халодным душам над сістэмай, хто пошласцю), заагрэсіўнічалі супраць усяго і ўсіх асобныя спевакі (Цой, Талькоў). За Масквой і Ленінградам у Расіі, а ў нас асабліва нават ніякіх дыскусій, а то скрытнае непрыняцце “гарбачоўшчыны“, спадзяванне на астуджанасць грамадства да яе. Напрыклад, у некаторых артыкулах Мінск быў параўнаны з Вандэяй (французскі горад, дзе сабралася рэакцыя супраць мяцежнага Парыжа ў час французскай рэвалюцыі канца XVIII ст.). Рэспубліканскія партыйныя камітэты занялі кругавую абарону, абрывалі ўсякія “иные мнения”, прадаўжалі выпрабаваную лінію: пры кожным негатыўным выпадку тут жа вылучалі на першы план перамогу партыі і народа ў вайне з фашызмам, аднаўленне разбуранай гаспадаркі, прапаганду новых грандыёзных агра-прамысловых планаў і замоўчвалі застойнасць ды нават наступствы чарнобыльскай трагедыі, штодзённа языкачосілі пра прамысловыя і сельскагаспадарчыя поспехі, пра дружбу народаў, інтэрнацыяналізм. Спробы асобных грамадзян, найперш моладзі, стварыць свае клубы, гурткі для адраджэнскай

культурна-асветнай дзейнасці, скажам, па ўшанаванні даўніх народных свят і абрадаў, па ўпарадкаванні многіх запусцелых гістарычных помнікаў, а значыць, па захаванні нацыянальнай самабытнасці (мінская, гомельская і магілёўская "Талака", гродзенская "Паходня", віцебскае "Узгор'е", брэсцкі "Край", маладзечанская "Беларуская хатка" і інш.), – дык вось і такія, здавалася б, культурніцкія, бяспечныя для ўлады захады зусім не віталіся. Больш...

Ды паслухаем доктара гістарычных навук, аўтара даследавання "На ростанях айчыннай гісторыі" (Мн., 1999, с. 246): "Мы не маем права забываць (...) і злачынствы тых камуністычных паслугачоў, з лёгкай рукі якіх у другой палове 80-х гадоў вогнішчы на народнае свята Купалле заліваліся з пажарных аўтамабіляў МУС, а маладзёжнае свята Гуканне Вясны героі Афганістана разганялі веласіпеднымі ланцугамі ў Траецкім прадмесці Мінска. Мы павінны памятаць таксама аб міліцэйскім гвалце і дубінках на свята Дзяды ў 1988 г. супраць тых, хто прыйшоў аддаць даніну памяці продкам і курапацкім ахвярам – "ці не апошняй звярынай канвульсіі ўласнага здыхаючага фашызму, замаху супраць маладой дэмакратыі, якая толькі ўдыхнула першы глыток свабоды, і гэты глыток быў атручаны газам пад ідылёваю назвай «Чаромха» (В. Быкаў)".

Мы ў "Маладосці" хацелі змясціць абуральны матэрыял (з яскравымі фотаздымкамі нашага карэспандэнта В. Ждановіча) пра збіццё юнацтва пры Свіслачы, якое названыя паслугачы аб'явілі... "акцыяй нацыстаў, якія хацелі ўшанаваць памяць Гітлера". Ды той фотанарыс ад нас "изъяли" яшчэ да пасылкі ў друкарню. Пра дзеянні міліцыі на тыя Дзяды я адмоўна адгукнуўся ў штотыднёвіку "ЛіМ", што з лёгкай рукі А. Вярцінскага станавіўся самым праўдзівым і смелым нашым выданнем. Мяне нечакана запрасілі на "творчую" сустрэчу ў МУСаўскую газету "На страже Октября". Ды ніякай творчай размовы там не планавалася: перазапрасілі ў кабінет тагачаснага міністра МУС П. Той чакаў мяне з "ЛіМам" на стале, дзе мае слова было спрэс падкрэсленае, з заўвагамі на палях. П. з мяккім дакорам (напярэдадні свята Дзядоў выступаў па тэлебачанні як дэмакрат, прыхільнік літаратуры, у прыватнасці пісьменніка В. Распуціна) папікнуў: што ты, былы ваеннаслужачы ўнутраных войскаў МУС СССР, вытвараеш? Наша народная міліцыя супраць усякай несанкцыяніраванасці, цвёрда стаіць на ахове сацыялістычнай законнасці, а ты... Я: трэба, каб палітыка-культурны дыялог з захавальнікамі народнай памяці вёў ідэолаг, а не міліцэйскі капітан з дубінкай. А капітан павінен найперш абараняць канстытуцыйную законнасць. Мне: але ж сацыялізм, супраць якога ваш Пазняк, не адмяняюць. Яму ў адказ: ды сацыялізм, сказана самім генсекам, цяпер павінен быць з чалавечым тварам і з такім не папяровым, а сапраўдным паняццем, як дэмакратыя. Да ўсяго я змог напомніць некаторыя палажэнні з закрытых статута ды інструкцый МУС СССР, паколькі быў азнаёмлены з імі на вайсковай службе як камсамольскі сакратар батальёна. Адным словам, дыскусія генерала і ст. лейтэнанта запасу закончылася без надрыву голасу і запалохвання гаспадара кабінета, з чаем і аўсяным пячэннем, мне нават паказалі закрыты ведамасны музей, дзе я суправаджаючага падпалкоўніка папрасіў напомніць міністру некалькі экспанатаў. З 1920-х гадоў. Дзе прадпісанне, што савецкі міліцыянер павінен быць культурным чалавекам, ведаць на пэўным узроўні беларускую геаграфію, гісторыю і мову ды дзе экзэмпляр ведамаснага выдання з назвай "На варце Кастрычніка...". Было дасягнута вуснае пагадненне, што пра тую "личную беседу" я не напішу: маўляў, некаторыя нефармалы няправільна зразумеюць запрасіны мяне ў МУС. Пра тое расказаў Бураўкіну ўжо тады, калі той міністр перабраўся ў дэпутацкае крэсла і не пакінуў абараняць найперш сацыялістычную ідэалогію і законнасць...

Калі не хібіць памяць, афіцыйная цэнзура ў СССР адмянялася ў 1986-м, але ў нас яна працягвала мець кантроль. Нават у 1988-м сакратар ЦК КПБ

па ідэалогіі, як я пісаў ужо, патрабаваў ад А. Грачанікава і мяне не друкаваць у “Маладосці”, “как меня предупредили, националистическое” даследаванне “Старажытная Беларусь” М. Ермаловіча і пагражаў строгім партыйным пакараннем – “увольнением с должности с волчьим билетом”. Мы не казырнулі яму, хоць хваляваліся з-за рашэння ўсё яшчэ дзейснага цэнзурнага камітэта (галоўліта), які па-ранейшаму знаёміўся з карэктурай, мог даваць заўвагі, а то і забракаваць матэрыял. А туды мог быць званок з ЦК, каб названае “не пущать”. Спажываючы асабістае знаёмства з гісторыкам, супрацоўнікам Інстытута партыі пры ЦК КПБ М. Сташкевічам, я папрасіў у яго падпоры. “Наперад не выбегу, – адказаў той. – Але калі звернуцца з галоўліта па кансультацыю да нас, то пастараюся памагчы шматпакутнаму Міколу. Яго заносіць, але ён сумленны і нам вельмі патрэбны”. Як пасля даведаўся, такая кансультацыя названых двух арганізацый была. “Трэба забараняць такое, але мы візуем для публікацыі”, – не без прыемнага здзіўлення пачулі мы ў галоўліце. Той новы ідэолаг яшчэ па старой завядзёнцы аднойчы настойваў, што “надо унять воодушевителя нефармалов” В. Быкава, “вынести его вопрос на партбюро, а потом, возможно, и на партийное собрание”. Зразумела, сакратар і я, намеснік, адразу ж адфутболілі такі мяч: “Неразумна. Па-першае, Быкаў беспартыйны. Па-другое, хто-хто, а ён сваімі франтавымі пакутамі ў час вайны, а пасля як мужны, не раз жорстка цкаваны праўдзівец слова пра яе, як шырока прызнаны сучаснік заслужыў грамадзянскае права на свае погляды і на рэчаіснасць”. І перасцераглі ініцыятара грэбсці жар чужымі рукамі: калі ЦК і далей будзе так упарта не прымаць адраджэнскія ініцыятывы свядомых і сумленных людзей, то гэта больш рашуча пачне вылівацца ў палітычную канфрантацыю іх з агрэсіўна настроенымі партыйна-камсамольскімі камітэтамі ды з самім, як многія лічаць, аўтарытэтным ЦК. То і самі па-дзелавому дбайце пра справу, павагу да вас. На такую прапазіцыю было не разуменне, а халоднае непрыняцце. Наколькі ведаю, была размова таго ідэолага з Танкам і Шамякіным, але тыя таксама не маглі сабе дазволіць нешта адмоўнае да найвыдатнага, найбольш вядомага ў свеце беларускага пісьменніка.

Адзін з нашых пісьменніцкіх сходаў пастанаўляе: трэба суняць гардыню і папрасіцца на прыём да новага Першага, каб сур’ёзна пагаварыць не пра штосьці асабістае, а пра істотныя для ўсёй нацыі рэчы (значыць, ад імя свядомых беларусаў пайсці з “чалабітнай-слязніцаю” да свайго, але вылучанага цэнтрам пана). Вунь вакол у рэспубліках з усёй вастрынёй вылучаюць захавальнае нацыянальнае пытанне. Не з зацемненай свядомасцю, а з ясным розумам людзі больш не жадаюць хімерных эксперыментаў над сабою, хочуць быць натуральным народам, а не нейкімі агульнымі гома савецікусамі ды менавіта ў нацыянальным, у захаванні роднай мовы бачаць свой паратунак. І ўжо нават пры жорсткасці цэнтра на тое-сёе вярнулі сваё законнае права. Няўжо нас так і не зразумеюць: у Беларусі ўсё нацыянальнае асабліва загнанае і адсунутае для забыцця. Мы нават сабе баімся сказаць праўду, пра што адкрыта гавораць за мяжой: поўным ходам ідзе дэнацыялізацыя нашага народа як адной старажытнейшай славянскай супольнасці. Мы становімся безыменнай рачулкаю ў плыні рускамоўнага мора. Няўжо і цяпер не будзе ніякага зруху, каб паклапаціцца і пра хлеб, і пра душу, духоўнае здароўе, нашу будучыню сярод блізкіх суседзяў і далёкіх сузямельцаў?!

Першы не адмовіў, прыняў. Разам з вялікім зборам партработнікаў, супрацоўнікаў розных міністэрстваў, АН. Ва ўступным слове павёў сябе абачліва, але па інтанацыі можна было адчуць: дасведчаны пра наш сход і па ходзе прамовы ўжо многае, не памінаючы пра нашы тэзісы на сходзе, загадзя абвяргае. А пасля стала бачна: і ў яго, і ў многіх прысутных зусім не выклікалі энтузіязму даволі стрыманыя, але ўсё ж настойлівыя выступленні пісьменнікаў, якія падалі голас пра большыя клопаты наконт чарнобыльскай трагедыі, пра больш разумнае і

гаспадарлівае землекарыстанне, пра большую ўвагу да сялян маленькіх вёсак, пазбаўленых цывілізацыі, пра спыненне фальсіфікацыі нашай гісторыі, асабліва эпохі ВКЛ, а таксама перыяду БНР, пра палітычную рэабілітацыю асуджаных ў 1930-я як "нацдэмаў" (да слова, першага старшыню ўрада Савецкай Беларусі Цішку Гартнага (Зм. Жылуновіча) яшчэ ў 1950-я апраўдалі як пісьменніка, а як бальшавіка і дзяржаўнага дзеяча не рэабілітоўвалі). І, зразумела, з вялікім болем адстойвалі права на жыццё яе, нашай мовы-матухны. Пра выхад з СССР, сваю незалежнасць не абазваліся: тады яшчэ гэта была надзвычайная крамола. Антысаветчына і адшчапенства. Хоць, паўтаруся, падавалі голас за перагляд гістарычных ацэнак ВКЛ, БНР і асобных яе кіраўнікоў, што было пэўным намёкам. Але яго ў ЦК добра разумелі і ў гэтым ні на крок не саступалі.

Асабіста я сядзеў, слухаў, за ўсім назіраў і не мог адцурацца ад апанавалай цяжкой думкі: вось тут мы, амаль усе землякі, большасць з "дзярэўні", з сем'яў "калхознікаў" – як кажуць, з простага народа. Але мы, наменклатурнікі і творцы (быццам разам народная эліта), розныя. Нават чужыя па жыццёвым выбары заклапочанасці. Светапогляд наменклатурнікаў сфармаваны праз партшколы з асаблівым шкаленнем, праз тайныя субяседаванні ў высокіх кабінетах, яны сталі апорай партыі ды сістэмы. Не проста "таўкачы" або "тожабеларусы", а рэспубліканская партыйна-дзяржаўная каста. Як спявалася ў вядомай тады песні, яны "вышли из народа", адцяснілі ад сябе нацыянальную свядомасць, а свае думкі падпарадкавалі ўсталяваным канонам, нават закону тыпу "есть мнение", "положено" і "не положено". У сваёй дзейнасці яны сыходзілі найперш з агульнасаюзных задач; чым большае спаўненне іх – тым вышэйшае ўзыходжанне па пасадзе. А з узвышэннем і болей значныя прывілеі, узнагароды. Мы ж, як пісаў у адным з вершаў Пімен Панчанка, з народа не выходзілі і без прынукі, кар'ернага подкупу, свядома прысвяцілі дзейнасць народнай духоўнасці. То ў нас адрозныя арыенціры, нават агульная для ўсёй партыі лінія на перабудову нас не зближае. І не зблізіла. Не выходзіла і не выйшла ў многіх наменклатурнікаў новага, асабліва нацыянальнага мыслення. Гэта ў іх было быццам адсечана. П. Краўчанка (с. 111 яго кнігі), зведаўшы застойную партыйную завадзь ды здолеўшы яшчэ ў часы КПСС выплыць з яе на свежую плынь, з павагай называе некаторых дасведчаных і спрыяльных нацыянальнай справе партыйных службоўцаў, але падкрэслівае, што "большасць партчыноўнікаў нашай рэспублікі заўжды <...> дэманстратыўна пагарджала беларускай мовай і не любіла нацыянальную інтэлігенцыю, якая не хацела забываць свае карані і станавіцца ў стойла, зрыхтаванае імперскімі ідэолагамі для "новай гістарычнай супольнасці – савецкага народа". Там жа аўтар згадвае канкрэтны прыклад, як паслякісялёўскі Першы дэманстратыўна і груба абражаў нашу нацыянальную эліту, па некультурнасці не разумеючы, што найперш ён сам варты таго свайго хамавітага выслоўя...

Дык вось, яшчэ з надзеяй хоць на невялікія перамены і тая сустрэча ў справе нічога не змяніла. Хоць не зусім. Па пошапце дайшлі чуткі з ЦК: Першы грэбліва заявіў, што *пісьменнікі* нічога новага яму не адкрылі. Значыць, быў дасведчаны ў нашых клопатах, размовах, выступленнях на сходах, сустрэчах з чытачамі і пагарджаў гэтым. І не без гэтага пачала парушацца машэраўская пачцівасць да творцаў: ужо нават за выказаныя некаторымі свае погляды на рэчаіснасць пачалі з'яўляцца ў друку не толькі водпаведзі, але і абразы ды зняважгі. Як казалі, грахі і выкрыванне іх вызначаліся ў кабінеце ўпомненага Саўкі. Там падбіраліся і падпісанты гнеўных выпадаў, "людзі з народа" (аднаго такога рабочага я ведаў; яму за падпісанне падрыхтаванага абуральнага на пісьменнікаў ліста ў "Вечерний Минск" паабяцалі абысці многіх у чарзе і хутка атрымаць новую кватэру. То без ваганняў паставіў подпіс: "а мне напляваць на другіх, на вашы заботы, я пражыву і бяз іх. А вот в аднушке мне і маім тром дзецям цяжало"). Такая атмасфера

не магла не падштурхнуць і некаторых пісьменнікаў не толькі выяўляцца за пісьмовым сталом, а таксама актыўней падключыцца да грамадскай дзейнасці, увайсці ў розныя непрызнаныя ўладай суполкі.

На сакавіцкім (1987) пленуме ЦК КПБ Першы ўжо не мог не закрануць стан беларускай мовы, мімаходзь слушна прызнаў, што ўжытак яе вузкі. Але апраўдаў сітуацыю як натуральнае народнае волевыяўленне. А тым, "хто памыляецца ў гэтых пытаннях, трэба памагчы разабрацца". Значыць, даць ім прачуханцаў і нічога не мяняць "у далейшым працягу русіфікацыі" (абодва задвухкосеныя выразы з упомненых ужо "Нарысаў гісторыі Беларусі", с. 466 – 467).

Так, "волевыяўленне" было. І ў многім вялося яно ад улады. Нашай, родненькай, калі мясцовы Першы, Мазураў, у больш-менш па-савецку дэмакратычную пасляcталінскую эпоху кінуўся спаўняць хрушчоўскія выбрыкі наконт "зліцця моў". Нашы кіраўнікі пасля "зімянінскага эксперыменту" самі выракліся беларускай мовы, а заадно незадакументаваным камандным спосабам падоўжылі выцясненне беларускасці ва ўстановах і ў партыйна-дзяржаўных дакументах, з ВНУ і школ, з дзіцячых садкоў, падштурхоўвалі да пераводу многіх СМІ, надпісаў на шыльдах, афішах, назвах вуліц (апроч Мінска), розных этыкетках на рускую мову. Гэта і іншае не магло не выклікаць "волевыяўленне" наконт выбару мовы. Пасля карэннай таксама паўсакрэтнымі інструкцыямі падрэзалі корань: натхнілі ўцалелыя беларускамоўныя гарадскія школы не толькі пераводзіць на рускамоўе расійскіх падручнікаў, але і заадно дазвалялі беларускую мову апусціць да... адзінага неабавязковага прадмета ў школьнай праграме (урэшце ў сталіцы яе вывучала не больш за 10%). Найвышэйшая савецка-партыйная мудрасць, найвялікшае дасягненне Кампартыі і ўрада БССР! Як студэнт-практыкант мінскай школы, а пасля сельскі настаўнік 1960-х і пачатку 70-х, ведаю: вылучы неабавязковымі прадметы матэматыкі, фізікі або хіміі – таксама знойдуцца навучэнцы, якія палічаць, што ім штосьці з гэтага непатрэбнае, і будуць ахвотныя прагуляць адпаведны ўрок. А тут – імкнёны ў зрусіканы стагоддзямі горад "дзеравенскі язык". І падлетак, юнак умеюць разважаць рацыянальна: калі штосьці не ўжываецца як непрыдатнае, то нашто яно? Ды калі пры гэтым не асвятляецца па-сапраўднаму даўняя наша гісторыя, не развіваецца нацыянальная свядомасць, падмяняюцца паняцці патрыятызму, любові да роднага. Вунь, як часта чуеш, колькі сваіх і прыезджых любяць Беларусь (за прыроду, за людскую цярпімасць і сваё кормнае ўладкаванне), але не церпяць у ёй рэшткаў беларускасці...

Такія прымітыўныя, але ўказальныя выкрунтасы Першага змусілі мяне папрасіць "ЛіМ" змясціць мой пункт гледжання на ягоную, як казаў знаёмы дасціпнік у пераліцаванні значэнняў, "прапаганьбу". Пасля публікацыі пры спатканні паціснуў руку і Бураўкін, сказаў даверана: "Не думайце, што я свядома хітрую, не дазваляю на ўвесь голас гаварыць пра гэта па тэлебачанні. Не раз з Першым размаўляў сам-насам. У яго намоўленая цэнтрам логіка: у суседняй Польшчы падкупленая Захадам "Салідарнасць" пайшла ў атаку на камуністаў, супраць сацыялізму і сацыялістычнага лагеру, Варшаўскага дагавору. У суседняй Прыбалтыцы пачалася тэндэнцыя перагляду абставін яе далучэння да СССР. На яго думку, Гарбачоў недаацэньвае гэтыя небяспечныя з'явы, больш любіць сваёй дэмакратычнасцю пакрасавацца перад Захадам. Другі сакратар ЦК КПСС больш рэальна ацэньвае сітуацыю і не мае намеру паступацца прынцыпамі. Ён паўтарае і паўтарае нам: вы – падбрушша Масквы, заслона ад заўсёды ненадзейнай Польшы. Дык вось мы павінны ўтрымацца ў сілавым полі ідэалаў КПСС, сацыялізму, а значыць, і СССР. Калі і наша рэспубліка захістаецца, то адразу ж зашуміць Украіна. А без славянскага адзінства СССР – ужо не маналіт... Так што, дружа, пахітаў галавою Бураўкін, зусім невыпадкова да нас другім сакратаром ЦК прыслалі назірача з Масквы. Нечага светлага нам цяжка чакаць. Мы зноў, як пры падпісанні Рыжскага міру 1921 года, як пры Хрушчове "дзеля

вялікіх мэт” павінны паступіцца сваім боскім дарам, розумам і душой... І тут наш Яфрэм-старарэжымнік салідарны з прынцыпамі старарэжымнага Ягора. А каб не дапусціць тут арганізаваную палітычную апазіцыю, пачынаюць ужо ствараць насуперак ёй паслухмяныя грамадскія арганізацыі. І найбольшая падтрымка будзе ветэранскай, дзе касцяк – сталінскія гвардзейцы, якія “черпают сужденья с очаковских времён и покоренья Крыма”, свайго куміра лічаць савецкім Богам, а яго казармава-прыгонны лад найперадавым дасягненнем...”.

Пачутае падрэзвала надзею на перамены. Генадзь Мікалаевіч падбадзёрыў: “Толькі не апускаць нос, дружа. Калі падтрымалі перабудову, то не трэба адступацца ад яе. Хоць крок ды з ёй у хаду. Да новага і лепшага... Нашы папярэднікі з гэтым пражылі і нам з такім настроем жыць... Пад ляжачы камень вада не цячэ...”.

У асцярожнай для вышэйшай школы “Гісторыі Беларусі. Частка 2. Раздзел Х” ( Мн., 2000) па-свойму пералічана і прааналізавана з паўдзясятка сітуацый, чаму ахаваная (асядланая) цэнтрам, а таксама ўвераваныя ў вернападданасці насельнікаў савецкай уладзе кіраўнікі КПБ у перабудову былі непаддатныя, усяк адхіналі тое, што вяло да нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту і што таксама стала прычынай не вельмі бурнага, але ўсё ж значнага супрацьстаяння ў грамадстве, з’яўлення ўжо не кухоннай, а публічнай антыкамуністычнай апазіцыі. Не без сваёй цвёрдакаменнай пазіцыі КПБ пачала страчваць аўтарытэт і ў розных рабочых калектывах, якія, бадай, не столькі з-за нейкіх яўных палітычных поглядаў, колькі з-за эканамічных прабуксовак, апусцелых крамных прылаўкаў і ўзрослага “блату”, малой або доўга адсутнай зарплаты, цяжкіх жыллёвых умоў па прыкладзе не зусім зразумелых ім нефармалаў таксама зашумелі на сходках, мітынгах, а пазней выбухнулі вялікімі забастоўкамі (у красавіку 1991-га ў Мінску на плошчу Леніна, былі звесткі, выйшла да 100 тысяч). Галоўны партыйны штаб і яго важак нават былі не ў стане спакойна і сур’ёзна пагаварыць з людзьмі, многія з якіх ужо аддавалі перавагу не спакусам камуністычных ідэалаў, а вартаму жыццю, хлебу і жыллю, не жадалі больш выяўляць сваю талерантнасць у цярпенні, маўчанні ды яшчэ і яшчэ чарговаму абяцанню будучага райскага прыволля.

І ў прыхільнікаў Гарбачова пачала страчвацца вера ў яго шчырасць і дабрадзейнасць. Не толькі з-за ягоных эканамічных рэформ, што не прыносілі хуткага поспеху і выклікалі без славутай у царскай Расіі, у СССР “моцнай рукі” бязладдзе. Напрыклад, у 1986-м нашы славутасці (В. Быкаў, Я. Брыль, П. Панчанка, С. Станюта, Л. Шчамялёў і іншыя), хто не хадзіў, як мы, з чалабітнай-слязніцай да нашага Першага, амаль з такой просьбай па спрыянні ў нацыянальным адраджэнні нашага народа звярнуліся да самога галоўнага перабудоўшчыка. Ды той не даў адказу. Пасля другога ліста (1987), падпісанага ўжо не толькі славутымі творцамі, вучонымі, але і прадстаўнікамі шырокай грамадскасці, у тым ліку рабочымі ды сялянамі, у Мінск была адпраўлена камісія ЦК КПСС. Яна пачала выклікаць падпісантаў. Каб... не вывучаць “вопрос”, разумна падтрымаць, а пры дапамозе няўпыннага Саўкі ўгаварыць, урэшце застрашыць і змусіць “в силу определённых причин и для примера националистическим кругам в других республиках” адмовіцца ад свайго подпісу, што дазволіла б ціхавата пахаваць узбуджанае пытанне, далажыць у галоўным партыйным штабе пра сваю паспяхова праведзеную работу (тады, здаецца, і на радавы пленум Саюза пісьменнікаў БССР прыязджаў ажно прадстаўнік ЦК КПСС. Не без здзіву слухаў нашы выступленні, штосьці запісваў, слова не браў, чым далей, то тым больш не мог схаваць кіслага выгляду на адмыслова функцыянерскім твары). Ды ніхто з пакліканых абаронцаў беларускасці не запляміў сябе адступніцтвам. Як казалі некаторыя з ЦК КПБ, вывады той камісіі разглядаліся на Сакратарыяце ЦК КПСС на чале з Лігачовым, дзе, як можна меркаваць, дзейнасць ЦК КПБ у нацыянальным пытанні была ўхваленая і пастаўлена ў прыклад Кампартыям іншых рэспублік. Са шматлікіх

пунктаў просьбаў другога ліста было споўнена самае невялічкае. Напрыклад, дазвалялася пры часопісе "Маладосць" выдаваць літдадатак – на год па пяць кніжачак прозы і паэзіі, па адной крытыкі і публіцыстыкі маладых пісьменнікаў. Але штатная адзінка ў рэдакцыі не прадугледжвалася (у часопісе "Молодая гвардия" дзеля гэтага быў асобны аддзел), як і не прадпісваўся асобны ганарар. Пачаткоўцам – радасць, а вось супрацоўнікам – дадатковая бясплатная праца, кіраўніцтву – яшчэ клопат, а дзе браць аплату аўтарам за іхнюю працу? У ЦК КПБ вырашылі знайсці выйсце "ва ўнутраных рэзервах". У сувязі з гэтым нельга не падкрэсліць дзве простыя, але цяжкія рэчы. Тая пастанова пра "Бібліятэчку часопіса «Маладосць»" была сакрэтная, як і ўсё маскоўска-мінскае цэкоўскае. Грачанікаву і мне далі азнаёміцца з ёй ды тут жа паклалі яе ў сейф. Па-другое, брала крыўда: чаму нельга даць дазвол на рэспубліканскае такое зусім не буйное і не звышзатратнае выданне ў Мінску, а выпрошваць яго ў Маскве? Трэцяя горыч прыйдзе на пачатку 2000-х: я курыраваў "бібліятэчку" амаль 15 гадоў, выйшла больш за паўтары сотні зборнічкаў, шмат іхніх аўтараў, якія папоўнілі наш творчы саюз (у апошні час аўтары дапамагалі арганізоўваць падпіску, знаходзілі сродкі на выданне, то яно было для дзяржавы амаль бясплатнае), але ў нібыта ўжо ў авольненым нашым урадзе не прапалі такія "прыхільнікі" нашай літаратуры, якія нібыта дзеля эканоміі сродкаў скарачалі найперш беларускамоўныя выданні, то ў ліку ліквідаваных апынуўся і невялічкі сціпы падарунак ЦК КПСС – падможны для маладых творцаў літдадатак...

Як цяпер помню яшчэ адну сустрэчу (так званую ідэалагічную нараду) у кабінеце Першага пры нарастанні супрацьстаяння з ЦК КПБ па ўжо названых дачыненнях. Гаспадар усё яшчэ галоўнага рэспубліканскага кабінета, несамавіты мужычок, цяпер нібы падымаўся на дыбкі і падвышаўся ў росце, з напалеонаўскім выразам тэпаў туды-сюды ўздоўж сталоў, дзе сядзелі мы, працаўнікі пяра, газет і часопісаў, а таксама запрошаныя кіраўнікі некаторых міністэрстваў, і нудліва мямліў пра нагнятанне ў нас нацыяналістычнымі, падбухторанымі Захадам элементамі, асабліва пазнякоўцамі ды іншымі нефармаламі, варожасці да партыі, сацыялістычных каштоўнасцяў, а значыць, пра ўжо яўныя пагрозу і тут нацыяналізму, падрыву дзяржаўнага ладу, спакою (дрымоты?) у грамадстве. Задакараў, што многія з нас камуністы і абавязаныя падтрымліваць партыйную лінію, а яны, калі не ў шэрагах непрызнанага БНФ, то спачуваюць яму (яго, што здолеў утварыцца ў Вільнюсе і сваёй навізной зацікавіць творчы і навуковы свет, многіх асобных грамадзян, з першых крокаў пачалі яра абвінавачваць ва ўсіх грахах, аж у прыхільнасці да... фашызму. Хоць той да свайго II з'езду (сакавік 1991-га) падтрымліваў ідэі перабудовы з іх абнаўленнем сацыялізму). Зноў і зноў, ды яшчэ напорысцей, з перакрутам белага на чорнае, слухаць казань было нясцерпна. А прамоўца пасля праз зубы занегадаваў асабіста на Бураўкіна: менавіта даступнае амаль у кожны дом тэлебачанне павінна пра ўсё сказанае "правільна" тлумачыць усім гледачам, а значыць, народу, а яно не дае "належную" ацэнку. Нават у асобных перадачах загульвае з асобным "яўна антысавецкім кантыгентам", БНФ, які, на жаль, падтрымлівае лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Быкаў. І яшчэ абурыўся: нядаўнюю вельмі патрэбную паездку яго, першага сакратара ЦК, у праблемны сельскагаспадарчы раён тэлебачанне падало амаль як звычайнае турыстычнае падарожжа (такія асабістыя незадавальненні кіруючай асобы заўсёды шматзначныя). Затым вярнуўся да свайго стала, узяў нейкую цыдулку і затрос ёю, заззяў вачыма: вось указанне з ЦК КПСС. Нарэшце хопіць "разлагольствий"! Час наводзіць парадак, жорстка "пресекать деструктивные проявления! Если надо, то и силой"! Падняў указальны палец уверх: без цырымоній! Сілаю!

Да слова, я пазней даведаўся, што тыя пагрозы пра ўжытак сілы не былі толькі для застраху. П. Краўчанка згадвае вядомы яму факт: у час красавіцкіх

1991 года бурлівых рабочых забастовак, мітынгаў і дэманстрацый, выкліканых рэзкім павышэннем усесаюзных цэн на самае неабходнае, у Мінск прыбыла брыгада спецназу з Нагорнага Карабаху, якая ўжо мела досвед падаўлення не толькі людскіх хваляванняў, але і ўзброеных выступленняў. Так што і ў нас у выпадку вострага канфлікту з уладай, як у Тбілісі і Вільнюсе, было каму загадаць пусціць у ход сапёрныя рыдлёўкі. Хто з нашых кіраўнікоў мог пайсці на праліццё крыві, аўтар успамінаў не называе. Толькі ўпэўнівае: тагачасны кіраўнік Савета міністраў В. Кебіч быў супраць гэтага. А тады, у час запалохвання ўжываннем сілы Першым, прысутныя чыноўнікі па-ранейшаму "внимали" і, угнуўшы галовы, нешта крэмзалі-крэмзалі ў сваіх блакнотах, усе рэдактары газет, які ўжо час церпячы цяжкі ідэалагічны прэс Саўкі, што ажно вылузваўся са скуры ў "пресечении антипартийной линии", панура маўчалі. Папрасіў слова Бураўкін.

Як цяпер, чуецца: ён загаварыў спакойна, з выразнай інтанацыяй голасу і важнага чыноўніка, і высокакультурнай асобы. Не столькі для (у пераносным сэнсе) глухаватага вуха Першага, колькі для нас. Каб мы пачулі яго аргументы і каб звыш меры не асцерагаліся, адстойвалі тое, за што трэба трымацца прыстойнаму грамадзяніну і ў прыватнасці пісьменніку, журналісту. Мы пачулі прыкладна такое: я вам (імя і імя па бацьку гаспадара, які сеў за стол і ўвесь зашпількаваў, як вожык перад нападнікам на яго) ужо не раз гаварыў і яшчэ раз паўтаруся: ЦК КПБ па ўсіх накірунках фактычна не падтрымлівае курс партыі на перабудову. І асабліва пастаянна непрыязна ўспрымае праявы сапраўднага патрыятызму і клопату па адраджэнні нашай гістарычнай памяці, карэннай мовы і культуры, пастаянна падае іх як штосьці варожае – нацыяналістычнае ў сталінскай фармулёўцы і, адпаведна, дэструктыўнае. У гэтай справе трэба не перастарацца ў закручванні гаек (можна сарваць разьбу), а больш абдумана асэнсаваць нацыянальныя турботы і разумна пайсці на рацыянальныя перамены. Далей Бураўкін скарыстоўваў і старыя партыйныя метады: нацыяналізм вялікай дзяржавы, пра які гаварыў Ленін, – адно, пануючая ідэалогія, вядзе да імперскасці, а то і фашызму, а нацыяналізм малалікага прыгнечанага народа без сусветных памкненняў – зусім іншае, ратаванне самабытнасці яго. Бураўкіна вырашыў падтрымаць і я. Перасцярог у такой тонкай справе захапляцца грубым насіллем: яно ўжо нарабіла ў нас шмат вялікай бяды. Нават прынесла нацыянальную трагедыю. Загаварыў і пра народнае волевыяўленне. Падкрэсліў: так званыя нефармалы, людзі БНФ і яму спачуваючыя – не іншапланецяне, а частка нашага народа. Пры тым высокаадукаваная і нацыянальна-свядомая, мае права таксама на волевыяўленне. Яно не ад подкупу Захаду, ад імя народа, што асімілёўваецца стагоддзямі, але які заўсёды ўскладаў выратавальныя надзеі на лепшых сваіх сыноў і дачок (Усяслаў Чарадзей і Еўфрасіння Полацкая, Скарына, Каліноўскі, Багушэвіч з яго перасцярогай "каб не ўмёрлі", Янка Купала і Якуб Колас...). Менавіта з такіх пазіцый цяпер патрабавальна, але мірна загучаў голас пра народнае адраджэнне, то і зараз затыкаць рот, ужываць насілле, абсякаць гістарычны шанец – паказальна ўжо само па сабе, далёка ад народа і пра народ...

Ні выверанную прамову Бураўкіна, ні маю эмацыянальную не абсеклі. Але як такой у поўным сэнсе гэтага паняцця нарады (рада, раіцца) не выйшла. А калегі-журналісты адсядзеліся моўчкі. Адзін здольны і ў прынцыпе прыстойны журналіст, які пасля працы ў аддзеле Саўкі стаў галоўным рэдактарам рэспубліканскай газеты, апраўдваўся: "Вам, пісьменнікам, лягчэй. За вамі літаратурная праца, кнігі, ганарары. А што будзе са мной пасля звальнення?" Увечары пазваніў Бураўкін: "Дзякуй, дружа, за падтрымку. Астатняе пры сустрэчы". Пры спатканні прызнаўся: дні працы ягонай на радыё і тэлебачанні злічаныя. Ён ужо не патрэбен ЦК як яго член, як дэпутат цяперашняму Вярхоўнаму Савету, дзе ніякага зруху, на сесіях якога дэпутаты толькі ўхваляюць адобранае на бюро ЦК. Яшчэ ён не мог

не засмучацца і ад нападкаў некаторых шчырых, высокаадукаваных і сумленных, але часам гарачлівых у запале сяброў БНФ за тое, што, маўляў, тэлебачанне мала супрацьстаіць непрафесійным, найперш фальсіфікаваным і абвінавачвальным нападкам ідэолагаў розных узроўняў, асобных гісторыкаў на нашу даўніну, на ВКЛ, на нацыянальныя сімвалы, якія прыроўніваюць да фашысцкіх атрыбутаў, хоць герб "Пагоня" зацвердзіўся ў сталіцы ВКЛ Навагародку (Навагрудку) яшчэ ў канцы XIII ст., а колеры сцягу ВКЛ распрацоўваліся ў XVI-м, захаваліся ў памяці даследчыкаў і знайшлі сваё вырашэнне пры стварэнні БНР. Толькі ўзнікала загвоздка: на гэтыя сімвалы прэтэндавалі і літоўскія нацыянальныя дзеячы, бо яны, сімвалы, у час іх незалежнасці былі дзяржаўнай атрыбутыкай па праве таго, што ўласна Літва таксама ўваходзіла ў склад ВКЛ і на названым адрэзку сваёй гісторыі лічыла сябе пераемніцай былой аб'яднанай дзяржавы. Бураўкін засмучаўся, што яго крытыкі не ўлічваюць моцнай цэнзуры над тэлебачаннем. Цяпер яна асабліва строгая ад ЦК і асабліва па нацыянальным напрамку. Паглыбляцца ў гісторыю, асвечваць існы нацыянальны рух проста немагчыма. "Не надо", "не положено". Маўляў, больш увагі жыццю, простым людзям, працоўным поспехам, навуковым і культурным дасягненням, новым задачам, кіруючай ролі партыі. Сапраўды, службовыя магчымасці Бураўкіна працягвалі строга абмяжоўваць. Нават больш, чым у часопісе "Маладосць" пры публікацыі "Старажытнай Беларусі" М. Ермаловіча: у тэлебачання была шматмільённая аўдыторыя. То і прадугледжвалі, каб мільёны людзей не прачнуліся, не задумаліся, прасвятліліся ў нашай гісторыі, нацыянальнай бядзе і духоўнай патрэбе паратунку ад яе.

Бураўкін умеў валодаць сваім настроем і нават пры цяжкім не паддацца яму: "Ды ёсць і змены, дружа. І прагрэс. Вось я, член ЦК, ты, член партбюро СП, пакрытыкавалі нават Першага. І пераначавалі дома, а не ў вязніцы... Хоць супярэчнасці нарастаюць. І не зусім ясна, што далей будзе. Упала "жалезная заслона", СССР для Захаду – ужо не "імперыя зла". Савецкі люд хлынуў за мяжу. Але не столькі для таго, каб пабачыць свет і розныя ўкрасы, колькі па прыгожыя і танныя тавары. Без ідэалагічнага кантролю ў Маскве і Ленінградзе навал розных выданняў раней забароненага. І не толькі створанае па-высокамастацку пра штосьці праўдзівае і павучальнае. Але і па рознай містыцы, па так званым народным лекарстве (хтосьці Кашпіроўскі – панацэя ад усіх бедаў!), пра секс ды іншыя інтымныя паслугі. А колькі павалілі на прылаўкі прымітыўных, з выпінаннем жудасцей, забойстваў дэтэктываў. Ад моладзі адскоквае і новая, слабая камуністычная прапаганда, затое яе апалоньвае папса, дзе не толькі фанаты замежнай музыкі, але і ўвішныя дзялкі з вялікімі грашыма. Вераб'я падаюць за салаўя! І г.д., і г.д. І яшчэ больш небяспечнае: эканамічныя, сацыяльныя рэформы буксуюць. І большасць люду абяднела. Савецкі кацёл моцна закіпеў... Цікавая, але і не без блытаніны эпоха... У гэтай сітуацыі вялікае спадзяванне на хуткія выбары народных дэпутатаў. Хоць па новым выбарчым праве (усесаюзнае зацверджана ўвосень 1988-га, у нас на год пазней. – *Г.Д.*) трэць месцаў гарантавана грамадскім арганізацыям, найперш КПСС, ды іншыя таксама могуць быць вылучаныя або нават самі вылучыцца на сходзе. Гэта за сталінска-брэжнеўскі час будуць першыя такія свабодныя выбары, дзе бальшыня дэпутатаў будзе абірацца не па папярэдне складзеных спісах. І будзе не чарговая дэкларацыйная сесія ВС СССР, а З'езд народных дэпутатаў. Думаю, ягоры-яфрэмы пастараюцца даць бой..."

Больш-менш свабодныя выбары праходзілі бурна: у некаторых акругах было па дзясятку і больш кандыдатаў у дэпутаты, яны вялі гарачыя дыскусіі. Было, кансерватыўныя камісіі адсейвалі найбольш заўзятых перабудоўшчыкаў, ды сярод 60 нашых землякоў, абраных народнымі дэпутатамі СССР, па старой завядзёнцы быў і Першы, але патрапілі і не назначаныя, без адміністрацыйнай падпоры: В. Быкаў, прафесар С. Шушкевіч, іншыя навукоўцы і творцы, вылучэнцы ад

грамадскіх суполак. Упершыню ў беларускай дэлегацыі не ўсе падпарадкоўваліся ўказальнаму пальцу Першага, маглі выказацца, галасаваць паводле свайго пункту гледжання. І рабілі так, папраўлялі Першага, калі той на нейкія рэчы падаваў сваю думку ад імя ўсіх дэпутатаў з Беларусі.

Паколькі той З'езд народных дэпутатаў шырока асвятляўся па тэлебачанні, то ён, зноў жа сапраўды, стаў незвычайным, дагэтуль нябачаным відовішчам: некаторым (усё ж не без папярэдняй дамоўленасці) давалі слова, а некаторыя купамі каля трыбуны змагаліся за права на яго (вернуты са ссылкі акадэмік Сахараў і іншыя), выступалі ўжо і ад фракцый ("дерьмократы"), запатрабавалі змены VI пункта Канстытуцыі СССР пра манаполію КПСС на ўладу. Прыбалтыйскія дэпутаты спачатку дружна вылучылі патрабаванне даць новую прававую ацэнку савецка-германскім дагаворам аб ненападзенні, дружбе і мяжы паміж СССР і Германіяй (жнівень 1939-га), а пасля завялі дыскусію пра незаконнасць далучэння іх рэспублік да СССР у 1940-м, што давала ім права свабоднага выхаду з яго.

На многіх з нас зрабіў глыбокае і разам з тым гнятлівае ўражанне вынесены на з'езд даклад камісіі на чале з членам Палітбюро А. Якаўлевым пра той савецка-германскі дагавор: нарэшце было прызнана, што там не ўсё было чыста, гуманна з савецкага боку. У сапраўднасці была хіжая змова і да яе сапраўды, як гаварылася на Захадзе, прыклалі звышсакрэтнае пагадненне, па якім Гітлер і Сталін на чале ўрадаў дзялілі Рэч Паспалітую і Прыбалтыку на "зону сваіх інтарэсаў", і такім чынам абодва аднолькава завінаваціліся ў падрыхтоўцы да развязвання Другой сусветнай вайны... Яна, канечне, усё роўна не абмінула б СССР (Гітлер, пра што Сталін добра ведаў, адной са сваіх галоўных мэт бачыў ліквідацыю "фарпосту міжнароднага камунізму", з пачатку палітычнай кар'еры пасягаў на "жыццёвую прастору" для германскай нацыі, а Захад патураў яму ў гэтым і паступіўся, напрыклад, Чэхаславакіяй, Аўстрыяй). Цяпер мірным дагаворам СССР патураў Гітлеру напасці на Францыю, Англію і іншыя еўрапейскія краіны. Кіраўнікі буйнейшых еўрапейскіх дзяржаў вялі сваю гульню, не лічачыся з інтарэсамі слабейшых. Як адкрылася, у даваенных кіраўнікоў СССР таксама рыльца ў пушку. Ды яшчэ ў адносінах да Фінляндыі...

Ва ўжо ўжытай для цытат звышкампраміснай "Гісторыі Беларусі. Частка 2. Мн., 2000) быў паўтораны былы тэзіс, што дагавор (на 10 гадоў) Сталіна з Гітлерам быў вымушаны крок, ён спрыяў СССР лепш падрыхтавацца да вайны. Але аўтарам артыкула пра тыя падзеі было прызнана: той савецка-фашысцкі кампраміс "нанёс урон міжнароднаму прэстыжу СССР, які ўспрымаўся раней як флагман барацьбы з фашызмам", "дэзарыентаваў савецкі народ" і "факт размежавання інтарэсаў сацыялістычнай і фашысцкай дзяржаў сакрэтным пратаколам, прынятым у абход законаў СССР і ў парушэнне дагаворных абавязацельстваў перад трэцімі краінамі, адлюстроўваў грэбаванне нормамі права і маралі". Тым больш, што, як вядома, адзін з кіраўнікоў СССР, В. Молатаў, на папярэдніх перамовах з кіраўнікамі дэлегацый прыбалтыйскіх краін паводзіў сябе фанабэрліва, абражаў іх за мізэрнасць памераў іхніх краін, а пры ратыфікацыі савецка-германскага дагавора ў ВС СССР звышгруба зняважыў непаўнацэннасцю старажытны польскі народ і даўнюю, нароўні з кіеўскай, польскую дзяржаўнасць, якую абзываў, мякка кажучы, штучнай і непрыгоднай для жыццядзейнасці. І без такіх выпадаў у многіх палякаў, прыбалтаў была варожасць да СССР, які не лічылі ўвасабленнем справядлівасці і дабра: тым больш, што шмат прыбалтаў пабывала і загінула ў сталінскіх лагерах, а да вайны было знішчана нямала з эліты польскага афіцэрства ў прысмаленскай Катыні ды іншых мясцінах (як і ў Курапатах, там таксама ад чэкісцкіх куль гінулі і нашы землякі).

Як вядома, вайна з фашызмам заканчвалася, лёс Германіі, усёй Еўропы вырашаўся на тайных перамовах "вялікай тройкі" – СССР, ЗША, Вялікабрытаніі.

У выніку Перамогі СССР значна пашырыў "зону сваіх інтарэсаў" і ўрэшце выйшаў на шлях супрацьстаяння ЗША за сусветнае панаванне. Сталін асабліва не фетышаваў Перамогу, нават астуджаў запал эйфарыі ад маршалаў да радавых яе, жадаючы трымаць савецкую імперыю з васаламі не на іх гераізме, а з іхнімі пакорлівасцю ды паслухмянасцю. Яго наступнікі ўздымалі, а то і нагняталі дух Перамогі, каб затушоўваць ёю пралікі, недахопы, народнае жаданне больш свабоднага, прыстойнага жыцця. Дзеля гэтага многае, у тым ліку і тайная даваенная савецка-германска-сталінска-гітлераўская змова, замоўчвалася. Было нявыгадна яе паказваць і свайму народу, і ўсяму свету. Хрушчоў толькі рашыўся асудзіць дыктатарства Сталіна, не зважаючы, што дагэтуль той успрымаўся тварцом Перамогі. У гэтым быў свой сэнс: і вялікія сацыяльна-эканамічныя, ваенныя дасягненні тырана не могуць апраўдаць ягоныя злачынствы над сваім народам (дзікае сваволле, беспадстаўныя абвінавачванні, зняволенне і расстрэлы мільёнаў невінаватых, нагнятанне страху, давядзенне асобы да халопскага бяспраўнага стану і інш.). Адпаведна, нават самыя цвёрдакаменныя сталіністы ўжо аніяк не маглі прадухіліць цунамі выкрыцця свайго куміра "тк" – "тырана камунізму" – ды подступу ўжо да крытыкі папярдняга "тк" – "тварца камунізму" Леніна, а значыць, і святыні – сацыялізму-камунізму...

Прадстаўнікі тых "трэціх краін", у прыватнасці прыбалтыйскія дэпутаты, на гучна аб'яўленым свабодным З'ездзе народных дэпутатаў, выкарыстоўваючы міжнароднае права і праяўляючы настойлівае імкненне да аднаўлення незалежнасці сваіх краін, здолелі дабіцца свайго запаветнага, пра што марылі ўвесь савецкі час ды за што іх, як і заходніх украінцаў, нашы "савецкія беларусы" таксама абзывалі "нацыяналістамі" ў самым негатыўным сэнсе. Мо і напраўду найперш дзеля міжнароднага прызнання савецкага палітыка новай фармацыі Гарбачоў пайшоў на тое, каб падпісаць указ пра выхад Літвы, Латвіі, Эстоніі з СССР, не зважаючы на папрокі некаторых юрыстаў, праімперскіх сіл у парушэнні Канстытуцыі СССР і Закона СССР "Аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з выхадам саюзнай рэспублікі з СССР". Гэты працэс крыху пазней абумовіў права заявіць пра дзяржаўны суверэнітэт РСФСР, УССР, іншым рэспублікам. 27 ліпеня 1990 года ўжо і нашы народныя дэпутаты прынялі на сесіі ВС БССР Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. За яе, безумоўна, многія дэпутаты не прагаласавалі б без расійскага кроку, таму яна займела найперш лозунгава-прапагандысцкі характар: кіраўніцтва ВС БССР прымала актыўны ўдзел у перамовах пра сутнасць федэрацыі абноўленага СССР ("новаагароўскі працэс" Гарбачова).

У красавіку 1991-га адбыўся пленум ЦК КПСС. Нюансы яго былі вядомыя толькі вузкаму колу тагачаснага вышэйшага партыйнага сінкліту. Што датычыць выступлення новага і апошняга нашага Першага М. – няўцямнага і, як многія прызнаюць, самага слабога і непрыдатнага для вышэйшай вертыкалі функцыянера, – то тады была пагалоска: ён у ліку іншых таксама выказаўся за ўвядзенне надзвычайнага становішча ў СССР і спыненне ўсякіх перабудоў – г. зн. вяртання ў сталінска-брэжнеўскі лагер. Маўляў, страцілі сацыялістычны з васалаў, то хоць захаваем свой, савецкі (названы факт упамінаецца ў мемуарах экс-прэзідэнта Украіны Л. Краўчука). Тым не менш у чэрвені 1991-га дэпутаты ад БНФ дабіліся вынесці на сесію ВС БССР пытанне пра спыненне манапалізацыі КПБ, пра роспуск парткамаў ва ўстановах і на прадпрыемствах, але старая гвардыя камуністаў і іхніх прыхільнікаў прагаласавала супраць гэтай акцыі. М. прадаўжаў спробу застацца лідарам рэспублікі (як казалі, жорстка насядаў на старшыню ВС, на помач падцягнуў у бюро ЦК па-ранейшаму вернага партыі Шамякіна). Адпаведна, супрацьстаянне процілеглых бакоў працягвалася.

...У нас пры двух апошніх Першых не адбылося такіх буйных антысавецкіх дзей,

як у Тбілісі ды Вільнюсе, таму і не было зачэпкі для буйных распраў над натоўпам, раз'юшаных хапуноў асобных грамадзян, бязмежнага гвалту над схопленымі. Хоць уладны маральны ціск узмацніўся. А з гэтым і прававы (неправавы), судовы: выйшлі за подпісам старшыні Прэзідыума ВС БССР Т. указы заканадаўчага характару, што мелі на мэце антынацыянальныя зачысткі, розныя пакаранні за "дэструктыўныя", названыя "антыдзяржаўнымі", правіннасці. Але ў кватэры дзеля вышуку кампрамату сілавікі, наколькі помніцца, гвалтам не ўрываліся, а калі і траплялі, то не ўчынялі там пагром. Як і не распраналі чалавека, і не асочвалі колер ягоных шкарпэтак, маек і, выбачайце, нацельных трусоў, толькі за публічнае нашэнне значкоў, стужак з нацыянальнымі сімваламі, распаўсюджванне адпаведнай літаратуры досыць стрымана, з нячастым ужыткам такога важнага ў міліцэйскай справе аргумента, як дубінка, затрымлівалі, прыводзілі ва ўчастак і без абраз ды збіцця складалі пратакол, перадавалі ў суд, дзе таксама стрымана не дапускалі расправы, кары на доўгае турэмнае зняволенне. А таксама жорсткага, здзеклівага абыходжання з асуджанымі. Не прыпамінаюцца выпадкі, калі пры затрыманні, судзе "вінаватых" распачыналі гвалт над іхнімі недатычнымі блізкімі і далёкімі родзічамі. Ды тады і тая досыць стрыманая антынацыянальная зачыстка выклікала ў многіх з нас абурэнне (напрыклад, у Дом літаратара сілавікі пранiклі ноччу і зрабілі вобыск ў некаторых кабінетах. Па нашым пратэсце апраўдваліся тым, што па папераджальным званку шукалі закладзеную бомбу. Яе не знайшлі, толькі ў адным пакоі адсачылі бэнээфаўскую літаратуру і вынеслі яе як таксама выбуховую).

Пазней, калі той былы старшыня былога Прэзідыума ВС БССР быў адлучаны ад усіх пасад і яшчэ маладжавым ды непрыкаяным пенсіянерам сноўдаў па блізкіх дварах, падоўгу далей ад свайго адрачона сядзеў на лаўцы ў нашым, – дык вось, я аднойчы падсеў да яго. Спачатку ён паставіўся да мяне падазрона, але калі пабачыў, што мы разам патрапілі ў 5-ы том энцыклапедыі (1981) пад рэдактарствам Шамякіна, супакоіўся. Паколькі суседнічалі, то бачыліся частавата, нават часам для болей даверлівай гутаркі я не адмаўляўся зайсці з ім у простую забягалаўку. То не мог не напомніць тыя, падпісаныя ім фактычна антынацыянальныя ўказы.

"У школьны час толькі краем вуха чуў ад старых мядзельскіх інтэлігентаў пра ВКЛ, БНР, – прызнаўся ён. – У Львове навучаўся геадэзіі, там даведаўся толькі пра некаторыя ўкраінскія нацыянальныя справы, што ідэолагамі і некаторымі гісторыкамі ацэньваліся як варожыя савецкай уладзе. Пасля заканчэння вучобы пачаў працаваць у Мінску інжынерам, абараніў кандыдацкую, думаў пра доктарскую: меўся быць выкладчыкам і далей ад усякай палітыкі, ідэалогіі. Ды лёс мой павярнуўся інакш. Калі ўступіў у партыю (у 30), мне нечакана параілі падацца ў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Ад такога даверу не мог адмовіцца: паходзіў жа з Заходняй Беларусі. Такіх не ўсюды дапускалі. Напрыклад, на высокую партыйную пасаду. Іх займалі найперш усходнемінскія, гомельска-магілёўскія, а пры Машэраве віцебскія ўраджэнцы. А пасля маскоўскага навучання пайшоў якраз па партыйнай сцяжыне. Быў не горшы і не лепшы за калег, асабліва не вытыркаўся, але пайшлося. У мінскім райкаме, другім сакратаром у гаркаме. Пасля – старшыня гарсавета, неўзабаве – першы сакратар гаркама. Галоўным лічылася выкананне пастаноў з'ездаў, пленумаў ЦК КПСС, перавыкананне вытворчых планаў ("пяцігодку – за чатыры гады"). Патрыятычныя, у тым ліку і нацыянальныя праявы строга ў савецкім духу. Пры мне – што і як скажа Машэраў. Пазней ранейшы дабрадзей, Слюнькоў, параіў мяне на пасаду старшыні Прэзідыума ВС БССР". – "Досыць імклівая кар'ера ў верхні эшалон улады", – заўважыў я. "Верхні то верхні, але тая пасада была найперш намінальная. Пры Сталіне ўжо Саветы перасталі быць на чале дзяржавы. "Усесаюзны стараста", Калінін, быў толькі для шырмы. Ён нічога не вырашаў. Нават жонку не мог выратаваць ад арышту. Я, як і старшыня Савета Міністраў, цалкам залежаў ад галоўнага нашага

“Хазяіна” – першага сакратара ЦК КПБ і паслухмянага яму бюро, а той цалкам падпарадкоўваўся “хазяіну” СССР. Тады наша палітычная кухня была такая: Слюнькоў намерыўся паставіць стаўку на тэхнакратаў новага пакалення, г. зн., 1930 гадоў нараджэння”. – “А равесніка, нашага Бураўкіна, вы, член бюро ЦК, не бачылі, скажам, галоўным ідэолагам?” – “Я – так. Але “хазяін” асцерагаўся яго інтэлекту, наваўвядзенняў. Асабліва ў нацыянальнай сферы. То трымаў воддаль. Ягоны маскоўскі апякун, Рыжкоў (ст. Савета Міністраў СССР. – *Аўтар.*) у раздрай спрэчак пра Чарнобыль перавёў яго ў Маскву. Ён нічога талковага тут не зрабіў ці не паспеў зрабіць. У ліку тых, хто мог стаць першым сакратаром ЦК, назваў і мяне. Ды Лігачоў на Палітбюро ЦК КПСС настояў паставіць у нас на “хазяйстве” ды на мяжы з ненадзейнай Польшаю (у той час там было ўжо адменена ваеннае становішча, але ішла да ўлады “Салідарнасць”, што вяло да абвалу сацыялізму ў краіне. – Аўтар) не заходнебеларуса і не з нашага пакалення (“камсамольца”, як той іранізаваў), а праверанага на вернасць “старога бальшавіка” – першага сакратара Брэсцкага абкама. Той, закасцянелы ў партыйных схемах і паслушнік апекуну з цэнтра, яшчэ болей баяўся ўсялякіх наваўвядзенняў, не мог дапусціць узвышэння і малодшых, і з новымі поглядамі. З яго падачы маладзейшага і, лічу, здольнага старшыню Савета Міністраў БССР Бровікава перавялі паслом у Польшчу, а на яго месца ўзялі старэйшага і кансерватыўнага. Вось і запанавала ў нас шэрасць, забалочванне. Не без гэтага і ў нас пачаліся нападкі на партыю. Асабліва рэзкія ад БНФ. Калі ён на ўсіх перакрыжаваннях загаварыў пра даўняе гістарычнае, пра нацыянальнае, пра ВКЛ, БНР, то я ўжо свядома зацікавіўся гэтым. Пачаў кумекаць: гэта тлела ў народнай памяці, а цяпер ажыло. Нацыянальнае адраджэнне – зусім не панацэя ад усіх бед, але патрэбна, каб наш люд застаўся народам. З вялікай увагай азнаёміўся з Ермаловічавай “Старажытнай Беларуссю”, што вы надрукавалі ў “Маладосці”. І з іншымі публікацыямі. Ды па партыйнай дысцыпліне насуперак самому сабе мусіў слухацца Першага. То і падпісваў тыя нарыхтаваныя ў ЦК, як вы кажаце, антынацыянальныя ўказы”. – “А пра выхад калі не з партыі, то з ЦК не падумвалі?” – “Не. Як і іншыя, быў упэўнены: перабудова перабудоваю, а КПСС не страціць сваё кіраўніцтва. То трэба быць у яго шэрагах. Я толькі, што не хоча заўважаць той жа БНФ, змог насуперак нашаму бюро ЦК падтрымаць ідэю пачаць падрыхтоўку да Закона “Аб мовах у Беларускай ССР” і не замінаць, каб некаторыя члены камісіі, як вашы калегі па літаратуры Гілевіч і Сачанка, вялі работу па наданні беларускай мове статусу дзяржаўнай. Спадзяваўся: калі не сесія нашага старога ВС, то сесія народных дэпутатаў зможа зацвердзіць такі Закон і пойдзе ў гэтым накірунку далей. Не без помсты за маё непаслушэнства “хазяін” пастараўся не дапусціць мяне да выбараў у народныя дэпутаты і выпіхнуць з рэспублікі (як і вашага Бураўкіна). Мы абодва, ён з болей нацыянальным складам, я менеў, былі тут стрэмкамі...

У працяг свайго маналогу Т. дадаў яшчэ тое-сёе пра тагачаснае партыйнае закуліссе: “хазяін”, сказаў, каб разарваць звязкі нас, маладзейшых, хацеў пазбавіцца і ад прызнанага ўжо здольным гаспадарнікам Кебіча. Бачыў у тым пагрознага суперніка. Невыпадкова цэнтр пачаў спакушаць яго пасадай міністра станкабудавання СССР. Але хітры Чэсь ухіліўся: мінаціся часы, калі многія прагнулі ў Маскву, каб адтуль вярнуцца сюды на высокую пасаду. Цяпер лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. Заціх, пачаў чакаць свайго часу. А я не здолеў адмовіць Гарбачову (“прашу: памажы сваёй беларускай ментальнасцю”), згадзіўся ўзначаліць камісію ВС СССР. Мне, як яго ўпаўнаважанаму, выпадала весці няпростыя перамовы з кіраўнікамі некаторых рэспублік, тушыць там нацыянальны пажар. Але ў Тбілісі не складвалася мая місія...”

Не ведаю, наколькі шчыры быў Т. У прыватнасці, у тым, што тады грузінскае кіраўніцтва само прасіла дапамогі расійскага генерала Радзівонава, і той быццам не

па сваёй волі загадаў для разгону бурных дэманстрацый пусціць у ход сапёрныя рыдлёўкі. Толькі больш паверылася ў іншае яго прызнанне: “Там я пераканаўся: грузіны – не мы, а даўні народ, што меў сваю дзяржаву, сваіх цароў. І без іх яны захавалі вышэйшае эканамічна-фінансавае, нацыянальнае і культурнае асяроддзе. Напрыклад, і ў СССР іхняя мова мела статус дзяржаўнай. У іх моцны, па-сапраўднаму патрыятычны дух. Яны спаяныя нават сваімі самабытнымі песнямі і танцамі, застоллямі. Іх і сілай не пераломіш. І нават не сагнеш. Адпаведна, са сваёй місіяй уціхамірвання я не справіўся. Як і сам Гарбачоў у Літве, дзе яго чакаў халодны душ ад тамашняй Кампартыі: абудзіў тое, чаго мо і не трэба было чапаць... Не ведаю, як бы склаўся мой лёс, каб не паслухаўся Гарбачова і застаўся тут... Пасля няўдалага жніўеньскага путчу 1991-га я апынуўся ў адстаўцы. Кебіч, ужо старшыня Савета Міністраў, параіў мяне намеснікам міністра замежных спраў, але папрацаваў там мала: супраць упёрся новы міністр, былы сакратар гаркама, які пераарынтаваўся ў дэмакрата... І я, як раней старшыні Савета міністраў Аксёнаў і Бровікаў пры новых “хазяінах”, паехаў паслом у Польшу. Яны – пасланцамі СССР, а я – незалежнай Рэспублікі Беларусь... Ды ненадоўга. А пасля... І лідар нацыянальных дэмакратаў Пазняк, і вылучэнец савецкай эліты Кебіч – абодва апантана дабіваліся ўвядзення прэзідэнцтва, абодва верылі ў сваю перамогу. Але было ясна: Пазняку не будзе для гэтага патрэбнай падтрымкі. Нават у вёсцы. Як і адхіленаму ад улады Шушкевічу. Большыя шанцы ў Чэся. Ды, як даходзіла да мяне, заявіліся і для яго, нібыта сябра Чарнамырдзіна, а з тым быццам і прыхільнага Ельцына, трывожныя званкі. Па-першае, ён неабачліва наблізіў да сябе нямала малавядомых, цёмных цывільных і ў пагонах дзялкоў – яны не дапускалі да яго нацыянальную інтэлігенцыю, сварылі са старымі і новымі камфункцыянерамі, аграрыямі, са старшынёўска-дырэктарскім корпусам. У выніку ад гэтых плыняў былі вылучаныя свае кандыдаты на прэзідэнцтва. Па-другое, Чэсь так ці гэтак браў на сябе адказнасць за наша партыйна-дзяржаўнае мінулае. І гэта быў не малы цяжар, што не спрыяў лёгка ўсплыць. Па-трэцяе, у выбарную кампанію ягоная каманда тапорыла старымі метадамі, многае праваронiла, а мо і некаторыя з яе свядома падстаўлялі яго. Нават у побытавых дробязях. Да слова, не без іхняга ўдзелу з’явіліся ў незалежным друку кампраматныя здымкі з іх нібыта тайных пасядзелак, дзе Кебіч выстаўляўся ў непрывабным, нават агіднаватым выглядзе. Па-чацвёртае, ён, не надта які аратар і няўмелы дэмагог-камбінатар, прайграў тэлевізійныя дэбаты. Па-пятае, ён, як гаварылі, маючы вялікую ўладную сілу, не пайшоў ні на ніякія прававыя парушэнні, падробкі, запатрабаваў сумленных выбараў. Гэта робіць яму гонар, але... Так не было і не будзе...

Новы “хазяін” не хоча мяне ні чуць, ні бачыць... І са сваімі ведамі, вопытам я для яго – адпрацаваны матэрыял... Пры новых выбарах не толькі дзяржаўныя СМІ правялі адпаведную работу, каб абралі “чэсных” дэпутатаў... Здавалася, прыязная акруга не прагаласавала за мяне... А пра нацыянальна настроеных няма чаго і гаварыць... Яны ж – “нячэсныя” нават са сваёй, як са здзекам падаецца, “свядомасцю”, “пятая калона...”. Як і ў савецкі час: нацыянальнае і носьбіты яго не ў павазе і не ў цане... Як там у Пушкіна? “Ты просвещением свой разум осветил, Ты правды чистый свет увидел, И нежно чуждые народы возлюбил, И мудро свой возненавидел!”

Чуючы такое прызнанне, скаргу, мне тады падумалася і пра такое: “Вось такая яна, яе міласць кар’ера. Па нечай ласцы можа павярнуцца тварам, а па сваім праліку ці па нейчай злой волі можа, як і ў выпадку з Т., адвярнуцца. Не пайшла хада: ішлося ды збочылася, а то і спынілася...”

Успамінаючы, як рэалізоўваўся закон “Аб мовах”, я добра помню той час і тыя намаганні для яго прыняцця. У прыватнасці Сачанка даручаў мне, былому настаўніку, выпрабоўваць некаторыя напрацоўкі праекта на настаўніках, вучнях, іх

бацьках, на студэнтах і выкладчыках ВНУ, а таксама публікацыямі ў друку. Былі супраць грубыя выпады, нават і сярод мясцовых ураджэнцаў-“тожабеларусаў”, але бачылася і моцная зацікаўленасць, падтрымка. Скажам, нават у такіх няпростых школах, як у прыстаўбцоўскім пасёлку Коласава, дзе размяшчалася армейская часць і дзе навучаліся дзеці вайсковых і служачых пры іх, ці ў 10-й г. Мінска, дзе быў матэматычны ўхіл. Толькі выказвалася пажаданне, каб беларуская мова ажыла ў дзіцячых садах, у ВНУ, на прадпрыемствах, у партыйна-дзяржаўных структурах, каб не пачувацца там белай варонаю і не цярпець непрыняцця. І не без гэтага ўсведамлення той Закон не рашыўся забракаваць нават апошні савецкі Вярхоўны Савет. Дэпутаты прынялі яго, але ў большасці самі не карысталіся ім, як “таварамі для народа”...

...Запомнілася, як дажывала КПБ. У асноўным верхні эшалон зацята абараняў сваю цытадэль (ужо ў чэрвені 1991-га яе дэпутаты ў ВС на IV сесіі не дапусцілі пазнякоўскага падрыву сваёй манаполіі, дэпартызацыі ва ўстановах і прадпрыемствах), але мусіў улічваць новыя генеральныя павевы, што ці сыходзілі ад няўрымслівага Генсека, ці наляталі віхурай на З’ездзе народных дэпутатаў і ўвасабляліся ў Законы СССР або ва Указы Прэзідэнта СССР. Па-ранейшаму падпарадкоўваючыся цэнтру, прыходзілася рэзка не пярэчыць у адыходзе ад некаторых “сацыялістычных заваёваў”: скажам, прызнаць рыначныя адносіны, згадзіцца на права фермерства і іншага асобнага занятку людзей, кааператываў, арэнды і г.д., што пакрысе ў некаторым сэнсе вяртала нэп з яго паўкапіталістычным характарам. Азначыўся пэўны зрух і ў грамадскай, духоўнай сферы. Былі выкананыя патрабаванні многіх грамадзян па стварэнні камісій па расследаванні злачынстваў у Курапатах і па рэабілітацыі ахвяраў рэпрэсій 1920 – 50 гадоў. Пасля з’яўлення Савецкага фонда культуры ў Маскве была дадзена згода на ўтварэнне Беларускага фонда культуры, які мог займацца не толькі зборам і захаваннем сацыялістычных каштоўнасцяў. Дазвалялася ўтварыць Таварыства беларускай мовы, якое задумвалася не толькі як клуб аматараў роднай славеснасці. Пасля прыняцця Закона СССР “Аб грамадскіх арганізацыях” (студзень 1991-га) яго па традыцыі прадублявалі і ў нас, што дазволіла грамадзянам ужо афіцыйна ўтвараць партыі і розныя суполкі (толькі міністэрству юстыцыі дазвалялася пільна прасейваць іхнія праграмы і ўрэзваць правы). Як некаторыя пацяшаліся, новыя партыі былі болей папяровыя, не мелі значнага ўплыву на грамадства ды, як тыя дажджавыя кроплі, усё ж тачылі цвёрды партыйны камень, што пры нагрэве патрэскаўся.

Пры гэтых і іншых наваўвядзеннях, адпаведна, ужо не мог не змяніцца Асноўны Закон рэспублікі. Ды паколькі там, у верхнім эшалоне, знаходзіліся і кемныя партапаратчыкі, то яны ўсвядомілі: новая Канстытуцыя вызначыцца не толькі пэўнымі папраўкамі, але і пазбавіць партыю, а значыць і іх неабмежаванай моцы і прывілей. У выніку была ўтворана такая камісія для выпрацоўкі новай Канстытуцыі, што і сацыялістычнымі прынцыпамі не паступалася б, і зацягнула свой творча-прававы працэс. У савецкую эпоху наш новы Асноўны Закон так і не быў прыняты. Зрэшты, і народныя дэпутаты ВС зацягнулі прыняцце новай Канстытуцыі не на адзін год...

...Тыя, хто змог азнаёміцца з дакументальным даследаваннем “Чернобыль: как это было” (Львоў, “Гердан”, 1999) вучонага, былога намесніка старшыні Дзяржаграпрама БССР І. Нікітчанкі, той сабраў мноства дакументаў пра намаганні аўтара, многіх вучоных, пісьменнікаў і занепакоеных асоб дастукацца да нашых высокіх партыйных і дзяржаўных кабінетаў з клопатам пра зняцце замоўчвальнай заслоны пра чарнобыльскую бяду і магчымыя захады па яе змяншэнні. Многія СМІ пад ідэалагічным націскам нясмела спрыялі ў гэтым. Аказваецца, толькі ў 1988-м у Мінску адбылася паўзакрытая сходка асобных грамадзян і журналістаў, дзе невысокага рангу службоўцы грамадзянскай абароны, міністэрства аховы

здароўя, іншых арганізацый крыху адхінулі фіранку, але запэўнілі: партыя і дзяржава робяць усё для паратунку ад чарнобыльскай бяды. Адпаведна, трэба пазбягаць усякага ажыятажу, супакойваць усхваляваных людзей вялікім клопатам улады пра іх (с. 88 названага выдання).

Бураўкін выдатна ведаў, што і як тут робіцца на самай справе. 16 студзеня 1990 года па яго непасрэдным дазволе па тэлебачанні прайшла чарговая, але на гэты раз вострая, нават рэзкая перадача з цыкла "Ліра", дзе журналісты і вучоныя без аглядкі, смела загаварылі пра недастатковасць мер па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, пра небяспеку пражывання люду на забруджанай тэрыторыі, пра пільную патрэбу дасканалых прыбораў, методыкі абследавання глебы, траў на фураж, зерня, садавіны і агародніны, малака і мяса: там у асобных мясцінах набіраецца перабор цяжкіх металаў, небяспечных для жыцця многіх людзей. Пачутае асабліва кранула гомельскіх насельнікаў, і ў многіх калектывах адбыліся стыхійныя мітынгі з патрабаваннем большай увагі і помачы. Людское ўзбуджэнне затрывожыла першага сакратара гомельскага абкама. Прачуваючы, што быць можа і большае, ён шле занепакоены ліст Першаму ў Мінск (тэкст на с. 88-89): варта разабрацца. Калі сапраўды ёсць вялікая пагроза людскому здароўю (і ён, першы ў абкаме, пра гэта не ведаў?), то варта больш клапаціцца пра сітуацыю. Калі вучоныя свядома нагнятаюць, то вінаватыя павінны быць пакараныя. І строга: аж да таго, што іх пазбавіць навуковых званняў. Першы ў рэзалюцыі на гэты ліст пазначыў другому сакратару ЦК КПБ, прэзідэнту АН БССР, старшыні Камісіі па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС разабрацца і зрабіць вывады. Да названых ім імён быў падключаны і Г. Бураўкін паводле яго пасады і адказнасці за выпушчаную ў свет перадачу.

Праз адведзеныя пяць дзён камісія дала адказ, дзе было пазначана: "ліраўскі" матэрыял актуальны, але перакошаны: навукоўцы "изложили" факты "без учета решений", адпаведных захадаў ЦК КПБ і Савета міністраў "по данному вопросу". А наконт тэлежурналістаў было ўказана на "необходимость правдивых, взвешенных оценок при освещении проблем". Ад імя старшыні Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні адказ падпісаў ужо іншы кіраўнік. Як пазней убачыцца, цалкам "наш", г. зн. "управляемый".

Несумненна, меў рацыю Т., калі зазначаў: не без уліку, што ў сакавіку таго, 1990-га, павінны былі адбыцца выбары народных дэпутатаў і такая асоба, як Бураўкін, можа быць абраная і мець высокія шанцы ў новым ВС, яго адправілі ў пачэсную высылку. Пастаянным пасланцом рэспублікі пры ААН, дзе яго чакала праца пад кіраўніцтвам чыноўніка старой школы, хто толькі па дакументах лічыўся міністрам замежных спраў БССР. Ён не меў свайго голасу: па партыйна-дзяржаўнай дысцыпліне спаўняў указанні апарата ўсесаюзнага міністэрства. І пры гэтым мо і невыпадкова запусцілі брудную пагаласку: Бураўкін не жадае ўдзельнічаць у нашым няпростым грамадскім жыцці, падаўся за акіян па камфорт і долары. Такім чынам, са свайго пакалення самы яркі па службе чыноўнік, прызнаны ўжо дзярждзеяч пачаў шукаць сваю новую ролю і не мог сустракацца з працоўнымі калектывамі, набываць новыя акцыі, патрапіць у дэпутаты, а з гэтым статусам – і на адну з пасад у ВС, што ў новых умовах ужо мог годна і важка засупернічаць за ўладу з КПБ.

Тады складвалася так, што ў многіх рэспубліках першы партыйны сакратар імкнуўся патрапіць у народныя дэпутаты, а пасля выбараў узначаліць ВС, а вось наш Першы па нейкім сваім меркаванні адмовіўся ад палітычнай барацьбы за далейшае ўладаранне, толькі, як пераказвалі, параіў сваім давераным: хочаце і далей руляваць – любой цаною выйгравайце выбары і гуртуйцеся ў спаяную фракцыю. Здольныя і аўтарытэтныя, а з імі і ўвішныя здолелі ўстояць у перадвыбарных бурных перапалках, явіць сябе перад не ўсімі разборлівымі слухачамі адзінымі сапраўднымі народнымі заступнікамі або спрытна скарыстаць

мясцовую адміністрацыйную падпору (не грэбавалі праз паслухмяных мясцовых падначаленых, друк ашальмаваць суперніка, маглі ў раённым або абласным цэнтры паказушна заасфальтаваць якую лужную вуліцу, завезці ў крамы доўгачаканыя тавары, падабраць такую выбарную камісію, якая “правільна” падлічыць галасы, каб суперніку не хапіла літаральна аднаго і г.д.). Некаторыя і не такія ўжо малыя чыны, як, да слова, першы сакратар Мінскага гаркама, са сваёй без’языкасцю і з зацяганай дэмагогіяй, пры большай дасведчанасці, свядомасці і актыўнасці выбарнікаў, пры строгім кантролі пры падліку галасоў не займелі такіх шанцаў. Тут перамагалі бойкія, з прывабнымі прамоўніцкімі здольнасцямі кандыдаты, якія вылучалі свежыя погляды і прапановы. Прайшлі і некаторыя тыя, хто раней на гэта не мог разлічваць: вылучэнцы ад розных арганізацый і калектываў, заявіцелі тыпу “сам ад сябе і за народ”, ад БНФ, хоць яго працягвалі ў многіх дзяржаўных СМІ, на выбарчых сходах заўзята ганьбіць, шальмаваць, прыніжаць самым непрыстойным чынам. На асобных участках галасы падзяліліся так, што ніхто не быў абраны народным дэпутатам. Тым не менш і гэта азначала: і ў нас нарэшце зрушыўся гарбачоўскі працэс.

У некаторых рэспубліках кіруючы партапарат не панёс вялікіх страт: па выніках выбараў у ВС сталася большасць яго вылучэнцаў. Адпаведна, яны вызначалі характар і новага прэтэндэнта на ўладу (напрыклад, ва Украіне на чале новага парламента абралі другога сакратара ЦК Л. Краўчука). Падобнае адбылося і ў нас: гуртаванцы КПБ пры абранні старшыні ВС арыфметычнай перавагаю не дапусцілі “чужынца”, паспрыялі зацвердзіць сакратара ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы. “Неблагі хлопец”, – прынамсі, казаў пра яго нам Шамякін, які цесна знаўся з верхнім уладным эшалонам. Той, пажылаваты ўжо дзядзька, які стараннай выканаўчасцю ўсяго даручанага цягавіта выслужыў не малую пасаду, чулася і ад іншых, быў сапраўды незласлівы і нефанабэрысты чалавек. Ды адразу ўбачылася: у парламенце не зусім на сваім месцы. Для кіраўніка такога чыну было малавата нават ягонага слоўнікавага запасу, асабліва з прававой тэрміналогіі. Калі адрываўся ад цыдулкі і гаварыў ад сябе, то часта запінаўся або дапускаў такія перлы, што станавіліся падставай для пацешных пародый. Да ўсяго заставаўся членам бюро ЦК і, як пачала папікаць апазіцыя, дзеіў па яго інструкцыях. Як мог, тушыў і дыскусійныя жарсці, што падкідвалі асобныя правазнаўцы, і антыкамуністычныя выпады, што сыходзілі ад бескампраміснага Пазняка і яго аднадумцаў. Як раней на З’ездзе народных дэпутатаў у Маскве, так цяпер і ў Мінску найбольш актыўныя не чакалі, пакуль ім дадуць права на слова, самі пры спрыяльным моманце тоўпіліся каля трыбуны і жадалі стаць за ёй, то старшыня мусіў даваць заўвагу ў сваім стылі: “Вы там, у задним праходзе, не заминайця выступаюшчаму”. Той-сёй з “агрэсіўнай большасці” таксама выходзіў на бой і калі нападаў на “негатыўныя” прапановы бубненнем пра “сацыялістычныя святыні”, то яго перапынялі абурэннем. Не могучы супернічаць са спраўнымі гаварунамі, паступова з таго асяроддзя заціхалі, дачэкваліся выступу пагрознага для іх Пазняка, а пасля, стаміўшыся ад інтэлектуальных паядынкаў, той-сёй з пажылых ветэранаў сцюцюрваўся і мірна даваў храпака. Толькі падштурхнуты суседавым локцем для галасавання, рабіў гэта спрасонку ды ўсё ж так, як было сказана ім на асобнай нарадзе партыйнай фракцыі, што ў саюзе з іншымі (некаторымі аграрнікамі, з дырэктарскага корпусу) магла колькаснай большасцю падтрымаць або адкласці на далейшы разгляд, а то адхіліць любую пастанову некамуністычнага характару. Многае дзелавое, патрэбнае ў той важданіне літаральна выпарвалася ў паветра. Без працэджвання асобнае састарэлае не магло не апускацца ў звычайны, непрыгодны асадак.

Каб супыніць болевую сутаргу сацыялізму, а з ёй і пахістак свайго становішча, партыйная эліта паратунак і вяртанне ранейшай сваёй моцы бачыла не столькі

ў пэўным аздараўленні, колькі ў фізічна-хірургічнай аперацыі – маскоўскім антыгарбачоўскім перавароце. І ўсё смялей прыспешвала такую сілавую дзею. Да гэтага настрою грамадства падштурхоўваў эканамічна-сацыяльны стан у СССР – найперш ўсё большае апусценне прылаўкаў і ўсё большая людская трывога за выжыванне ў заўтрашнім дні. А паколькі не толькі простаму чалавеку цяжка было разабрацца, чыя віна ў гэтым, камуністаў або дэмакратаў, то ўсё болей павышаўся грамадскі градус незадаволенасці і апаноўвала настальгія па ранейшым – без нармальнай свабоды, з living рознымі, як тады гаварылі, “дэфіцытамі”, але затое з пастаяннай, хоць і невялікаю зарплатай, з недарагой варанай каўбасой. Вось і наступіла 19 жніўня 1991 года, калі ўсе мы пачалі працоўны дзень усхвалявана: з Масквы паведамілі пра сфармаваны там ГКЧП, што нібыта ў час хваробы Генсека і прэзідэнта СССР бярэ поўную ўладу ў свае рукі, будзе сілай “наводзіць парадак” без дэмакратычных цырымоній. Адпаведна, тут жа разнесліся застрашальныя пошапты: паўторыцца польскі варыянт уводу надзвычайнага становішча, г. зн. многія вінаватыя ў разладжванні савецкай сістэмы па ўжо складзеных “чорных спісах” будуць зняволеныя. Нібыта галоўны ініцыятар перабудовы ўжо арыштаваны. І яшчэ знаўцы навін дадавалі страху: паблізу Мінска, іншых гарадоў падрыхтаваныя ўжо “цялятнікі” для вывазу чорнаспісных. Калі не такога, то пад гарачую руку звальнення з працы можна было чакаць многім: скажам, мы, члены КПСС у “Маладосці”, не заяўлялі пра свае антыкамуністычныя погляды, але ўсё ж былі “отшельники”: з лістапада мінулага года перасталі браць удзел у партыйных справах і плаціць партыйныя ўнёскі. Як піша ва ўспамінах Краўчанка, некаторыя з дэпутатаў, хто не па глыбокіх перакананнях “прымкнуў” да Пазняка, зведалі перапуд і забегалі перад старой гвардыяй, што распраміла плечы, выпнула грудзіну з медалямі і ардэнамі ды ўскінула галаў...

Як можна было зразумець з тону нашага тэлебачання, вярхоўе КПБ (сярод членаў бюро ЦК і Шамякін) падтрымала акт, што неўзабаве назавуць “путчам” (ням. *Putsch* – авантурыстычная спроба групы змоўшчыкаў зрабіць дзяржаўны пераварот). Наш ВС афіцыйна не выказваўся, у ім толькі адразу ж запратэставалі дэпутаты ад БНФ і асудзілі “хунту”. Яны ведалі, што не толькі іх, мякка кажучы, “возмутителей”, але і ўсю маладую дэмакратыю чакае перамога артадаксальных камуністаў на чале сілавых структур. ГКЧП гучна і грозна аб’явіўся, але бясслаўна праваліўся. Разлік змяніць становішча злучанымі сіламі КДБ, арміі ды міліцыі не ўдаўся. І радавыя масквічы з дэмакратычнымі поглядамі на чале з папулярным і рашучым прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Ельцыным не далі вялаватым ды не зусім ўпэўненым у сваім поспеху змоўшчыкам разгарнення, каб зноў жорстка абрэжыміць СССР.

Пасля падзення ГКЧП у ВС БССР была ўтворана камісія па расследаванні ступені пасобніцтва таму. Старшыня, “добры хлопец”, засцерагаючыся абурэння і шквалу крытыкі, абачліва падаў у адстаўку, замест яго выбралі прафесара-дэмакрата С. Шушкевіча. 25 жніўня Бураўкін з-за акіяна па сваіх каналах, а мы, не верачы сваім вачам і вушам, назіралі па мінскім тэлебачанні, як зляканая “агрэсіўная большасць” дэпутатаў літаральна за паўгадзіны салідарна прагаласавала за тое, супраць чаго дружна выступала пастаянна. У прыватнасці, пайшлі на “святатацтва”: хоць і з агаворкай часовасці, але прыпынілі... дзейнасць КПСС – КПБ, яе маёмасць перадалі дзяржаве (будынак ЦК пераходзіў ВС), прынялі Закон “Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб Дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР”, што хутка, у верасні, аформіцца ў яснейшае паняцце – Рэспубліка Беларусь. А яна, цяпер суверэнная дзяржава, паўстане пад “бэнээфаўскімі” сімваламі. Белавежскія пагадненні таго пераломнага года запынілі існаванне СССР. Ды... Прыняцце новай Канстытуцыі, што заканадаўча замацоўвала б азначаныя мірныя заваёвы

і забяспечвала б жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь, не было ажыццёўлена ні ў гэты, ні ў наступны год...

Паўплывала і тое, што новы старшыня ВС па сваім меркаванні не падтрымаў БНФ у тым, каб распусціць пераважна артадаксальны ВС і абраць новы, больш прафесійны і з дэмакратычным мысленнем. Ён пайшоў па шляху так званага ўмеранага радыкалізму – і вашым, і нашым. Кампартыя ажыла і падсобіла пераадолець зляк у прыхільнай большыні дэпутатаў; зноў разгарэліся спрэчкі пра дзяржаўны, эканамічны ўклад, пра знешнюю палітыку ды іншае, у тым ліку і пра тое, якой быць рэспубліцы: парламенцкай або па прыкладу Расіі і Украіны прэзідэнцкай. Як кідалася ў вочы, асцярожнасць, кампрамісы не ўмацоўвалі становішча новага старшыні ВС (ягоны прыём пісьменнікаў пакінуў расчараванне: нам было найперш даволі напышліва паказана, што ён – не проста сын рэпрэсаванага ў свой час бацькі-паэта, навуковец, а кіраўнік дзяржавы, які дбае пра ўвесь народ. Так што нам цяпер не трэба, як у савецкую эпоху, ускладаць вялікія надзеі на выданне нашых кніг за дзяржаўны кошт і на ганарары, што нам ва ўмовах рынку варта дбаць пра гэта самім і г.д. Суцешвала толькі адно: быў першы з высокіх кіранікоў, хто з намі гаварыў па-беларуску і быў за функцыянаванне роднай мовы на дзяржаўным узроўні).

Нечакана сярод тых, хто заклікаў не спяшацца з увядзеннем прэзідэнцтва, быў і такі аўтарытэт, як вядомы паэт, старшыня Пастаяннай камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

“А хіба няма ў гэтым вялікай небяспекі і пагрозы? – прыкладна так пры нашай асабістай сустрэчы пачаў ён абгрутоўваць сваё меркаванне. – Адзін чалавек можа годна ўзначаліць краіну не толькі тады, калі ён яркая асоба. Але і тады, калі ў ёй у моцы Канстытуцыя, дэмакратыя і апазіцыя. У нас аснова гэтага закладвалася ў часы ВКЛ, а пасля з цяжкасцю ўтрымлівалася ў эпоху федэратыўнай Рэчы Паспалітай да яе падзелаў. У царскай Расіі Канстытуцыі, дэмакратыі, тым больш апазіцыі не было, там самаўладна правіў памазанік Божы. Не адно наша пакаленне з’явілася, жыло і памерла ва ўмовах прыгнёту і бяспраўя як насельнікі Паўночна-Заходняга краю імперыі. У СССР існаваў вышэйшы Закон, па ім мы лічыліся рэспублікай, але і па ім дэмакратыя як такая зводзілася да нуля за “буржуазны перажытак”, апазіцыя была разгромленая і забароненая, вышэйшаю асобай стаў генсек. Камуністычны зямны Бог. “Бацька ўсіх народаў”. Цяпер прасавецкая большасць нашых дэпутатаў свядома зацягвае ўзгадненне асобных канстытуцыйных асноў, чым змушае год за годам заканадаўча таптацца на адным месцы. Што да прэзідэнства, то большасць схіляецца: яму быць. Толькі адны за вялікія паўнамоцтвы яму, іншыя – за абмежаваныя. Мяне турбуе, што мы атрымаем, калі прэзідэнт будзе з вялікімі правамі. Як ён выкарыстае іх? Не павабіць яго стаць адзіным, усеўладным? Вырашаючы многія праблемы, ці не паступова сам пераўтворыцца ў невырашальную праблему? Зразумела, у нас не такія ўмовы, каб ён стаў варыянтам камбаджыйскага Пол Пота (кажуць, паходжаннем з беднай сялянскай сям’і), але няма гарантыі, што не паўторыць асобныя метады таго. Не адзін вылучэнец за абсалютную ўладу прадасць і чорту душу. Будзе гундзець пра народ, але вытрасе з яго ці падамне самых разумных і сумленных, непрыхільных да яго. Мы па славянскім суседстве здаўна блізкія мовай і культурай з Расіяй, а па энергарэсурсах на цеснай эканамічнай прывязі да яе. То рэальнасць: у нас затрымаецца на прэзідэнцтве той, каго ўпадабаюць Лубянка і Крэмль. Значыць, вялікія шанцы ў Кебіча: ён цяпер у сіле і літаральна глядзіць у рот Чарнамырдзіну, а той – Ельцыну. Тыя пакуль што занятыя сваімі турботамі, найперш рыначнымі рэформамі, забастоўкамі, зарплатамі, “ножкамі Буша”, а Ельцын яшчэ вядзе нялёгкае змаганне з парламентам за дзяржаўнае стырно. Лічу, перасіліць ён. Але, як бачна, ягоны дэмакратызм абмежаваны: у яго

ўсё больш прарываюцца самаўладныя замашкі. Ад свайго высокага партыйнага нядаўняга, ад таго, што яго пачынаюць называць царом Барысам. Апошняе яму вельмі падабаецца. Помніце, ён перад Віскулямі і ў іх падтрымаў Краўчука па роскідзе СССР? Чаму? Не найперш дзеля таго, каб і самому выйсці з-пад улады Гарбачова і ўзвысіцца? Але хіба не бачыць СНД па ўзоры СССР, а сябе яго лідарам? Ці не менавіта такое выявіў тут, калі перад Віскулямі зазірнуў у наш ВС? Яго сустрэлі як героя ў адыходзе ад партыйнай артадоксіі і ў змаганні з ёй, у зрыве перавароту ГКЧП. А ён? У поглядзе на сучасную Беларусь дастаў з пыльнага куфра адмысловую граматку цара Аляксея Міхайлавіча і расхваліў яе як даўні братні клопат пра наш народ... І многія нашы, у тым ліку і некаторыя пасягальнікі на прэзідэнцтва, горача пляскалі ў ладкі... Уявіце такога невука або, наадварот, хітруна з паўнатой улады... Не пойдзе не толькі на многія саступкі, але і на здрадніцтва дзеля свайго ўладарання? І, падстрахаванага правамі, вельмі не паправіш, лёгка не скінеш нават згодна з Канстытуцыяй... Нам пакуль што разумней мець дзяржаўную сістэму на чале з парламентам і рыхтавацца да пераходу да прэзідэнцкай..."

Той ельцынскі візіт і асабліва ягоны "гістарычны падарунак" быў вельмі паказальны: высокі расійскі госць падаў архіўны дакумент. "Ахоўную грамату Оршы ад 1664 года". Недасведчаным гэта было да душы: пераклік стагоддзяў, братэрства, клопат пра нас. Знаўцы ж адразу спазналі сэнс гэтага пераклiку: гістарычная даведка паходзіла з часоў вайны Расіі з Рэччу Паспалітай у 1654 – 1667 гады. Той перыяд у савецкай гістарычнай навуцы падаваўся як вызваленчы для беларускага і ўкраінскага народаў. Толькі ў 1994-м ("Нарысы гісторыі Беларусі", т. 1) і ў 1995-ым ("Беларусь. Энцыклапедычны даведнік") быў асвечаны як захопніцкі, што, дарэчы, вынікала яшчэ з падрабязнага апісання той вайны ў "Истории России с древнейших времен" (1851 – 1879) нават гісторыка імперскага погляду С. Салаўёва. Гэта там было вельмі відавочна, але ў савецкі час дзеля сучаснай палітыкі ў нацыянальных справах замоўчвалася. Як і сама тая багатая на сапраўдныя гістарычныя факты "История".

Салаўёў зазначыў: цару Аляксею Міхайлавічу, як і яго папярэднікам, таксама зажадалася далучыць да свайго царства ВКЛ, усю Украіну, а то і здаўна варожае Польскае каралеўства. Момант быў выбраны зручны: перад маем 1654-га не без яго падтрымкі казакі Б. Хмяльніцкага ўзмацнілі вайну з Польшчай, спустошылі многія землі ВКЛ, заключылі пагадненне на ўваходжанне ў рускую дзяржаву на правах аўтаноміі. Да ўсяго Польшчы пагражала турэцкая і шведская інтэрвенцыя. Перад пачаткам баявой аперацыі Аляксей Міхайлавіч правёў шырокую агітацыйна-прапагандысцкую: разаслаў у шматлікія гарады ВКЛ граматы, дзе спачуваў праваслаўным вернікам, браўся вызваліць іх ад каталіцкага засілля, прасіў помачы, гарантаваў недатыкальнасць жыцця і маёмасці тым, "которые противны не будут", прысягнуць яму і згодзяцца адмовіцца ад сваіх парадкаў (магдэбургскае права і інш.), нават памяняць свае формы адзення, прычоску на маскоўскія ўзоры, каб асобнымі славянамі не выдзяляцца. Спачатку і сваім военачальнікам быў наказ: "чтоб белорусцев крестьянские веры" (г. зн., "сапраўднай": праваслаўнай. – *Аўтар.*) не крыўдзілі, "что им быть под нашею государскою высокою рукою навеки неотступно и нам служить". Спачатку многія скрыўджаныя і з-за веры праваслаўныя людзі даверыліся ўварваным з розных бакоў заступнікам (разам з казакамі Хмяльніцкага больш за 100 тысяч), здавалі ім некаторыя гарады, сумесна змагаліся супраць вайсковых злучэнняў ВКЛ (у іх было каля 20 тысяч сваіх і наёмных вояў). Але месяц за месяцам такіх даверлівых менела, а то нямала хто збягаў з царскай арміі ды паварочваў зброю супраць яе. Салаўёў ухваляў царскую палітыку ды як даследчык на аснове глыбока спазнанага дакументальнага матэрыялу не мог не прызнаць: тон царскіх грамат, наказаў, "сказок", а з імі і ход вайны неўзабаве пачаў мяняцца. У

новых граматах, падкрэслівае ён (кніга V), ужо загадвалася непакорлівых забіваць “безо всякой пощады”, “везде хлеб и животину брать”. Таму, дадае гісторык, “ратные люди свирепствовали в покорившихся уездах”, “насиловали женщин, убивали мужчин”. Значыць, братнія спачуванні і клопаты Аляксея Міхайлавіча былі толькі прыкрыццём, на самай справе мелі захопніцкія мэты.

Аршанцы таксама патрапілі ў калаўрот. “Прысяжныя мужыкі” (тыя сяляне, хто прысягнуў цару. – *Аўтар.*) у жніўні 1654-га памаглі наўгародскім стральцам разбіць атрад ВКЛ, а мяшчане Оршы па прыкладзе іншых адчынілі вароты горада перад царскім войскам. Ды ўжо неўзабаве і некаторыя аршанскія прысяжнікі далучыліся да тых, хто пачаў засыпаць Аляксея Міхайлавіча скаргамі. Яны (у прыватнасці, жыхары вёсак Любавіцкага стана Аршанскага павета) называлі сябе сіротамі (страцілі заступніцтва ўлад ВКЛ і ад царскіх начальнікаў яго не набылі), наракалі: “мы... тебе, государю, с хлебом и с солью били челом. А ныне...” І тлумачэнне: царскія ратныя людзі пазабіралі ў іх здаровых жанчын, дзяцей і некуды павезлі, “скотину и хлеб поимали, и домишки пожгли, скитаемся по лесам наги и босы, сидим на пепелище, и с холоду и голоду в конец погибли и разорены до основания... Милостивый государь... пожалуй нас сирот...” Чытаючы такое, нельга не зразумець, ад каго трэба было ратаваць аршанцаў па ахоўнай грамаце, хто спрычыніўся ў шматгадовай вайне да таго, што і праваслаўныя, і католікі ВКЛ панеслі велізарныя страты, а лік іх скараціўся больш чым удвая... Вось і сталася гнеўнае абурэнне Ельцыну за яго такі і з такой хітрай падкладкай “клопат” пра нашых цяперашніх “сірот...”, многія з якіх ужо не жадалі быць абяздоленымі, хацелі мець сваю сям’ю, гаспадарку...

П. Краўчанка спрабуе апраўдаць ход Ельцына тым, што “хтосьці ў Маскве яго свядома тады падставіў” (с. 164). Але як міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь, назіраючы за Ельцыным у Віскулях і пазней, пры фармаванні СНД, калі той абяцаў кіраўнікам былых рэспублік разуменне і помач у правядзенні постсавецкіх рыначных рэформ, заўважае пра “дэмакратызм” таго: “Ельцын хутка забыўся на ўсе свае абяцанні. У Мінску <...> на пытанне іншых удзельнікаў саміту – а як жа быць з віскулёўскімі дамоўленасцямі аб узгодненасці рэформаў – Ельцын безапеляцыйна адказаў: – Вы мусіце ісці за Расіяй!” (с. 205). Былі і адмысловыя “жарты” ўжо “рускага цара-бацюшкі”, калі ён на банкеце на дзвесце асобаў па шырыні сваёй душы захапіўся пазабаўляцца ігрой на лыжках, стукаючы імі па сваіх каленях і па... лобе некаторых кіраўнікоў рэспублік, ведаючы, што тыя, шмат у чым залежныя, абурацца, але змаўчаць, нават будуць пачціва ўсміхацца (с. 335)... Такі кіроўца рэспублікі не праміне мо і больш сурова пастукаць па лобе сваіх падначаленых...

Доўгачаканая Канстытуцыя Рэспублікі была прынятая толькі ўвесну 1994-га. На думку многіх, у ёй знайшлі месца правы кожнага грамадзяніна і асновы народаўладдзя, акрэслена ўстанаўліваліся статус прэзідэнта, значныя паўнамоцтвы ВС і яго Прэзідыума, Кабінета міністраў, прынцыпы правасуддзя і судовай сістэмы, мясцовага самакіравання, фінансавай сістэмы, нацыянальная сімволіка, беларуская мова зацвярджалася дзяржаўнай, руская – мовай міжнацыянальных зносін і інш. Толькі не ва ўсіх гэта выклікала энтузіязм, аптымізм, імкненне ў новую эпоху нашай гісторыі...

Адбыліся прэзідэнцкія выбары. Фактычна самы ўладны ў рэспубліцы Кебіч і папулярны сярод шматлікай інтэлігенцыі Пазняк іх не выйгралі. І, як у Расіі ў 1991-м, у нас таксама адразу ж пачалі мерацца сілай ВС і прэзідэнт. Як і было заведзена стагоддзямі: у каго моц, у таго і права...

Бураўкін, у гэты напружаны час вярнуўшыся на радзіму, атрымаў, на першы погляд, немалую, а на самай справе не вельмі ўплывовую пасаду намесніка міністра культуры і друку і не мог як след праявіць свой дар, пабольшаны вопыт

дзяржаўнага мысліцеля ды арганізатара. А іменна такім мы пачулі яго на нашай першай сустрэчы з прэзідэнтам, які намерыўся, як падымала трывогу незалежная прэса, звесці нацыянальныя сімвалы і дзяржаўнасць беларускай мовы вылучыць на перагляд. Страта ёй статуса адзінадзяржаўнай пазбаўляла яе спрыяльных гарантый Закона “Аб мовах у Беларускай ССР” і Дзяржаўнай праграмы Савета Міністраў БССР ад 20 верасня 1990 г. па развіцці беларускай і іншых моў, зноў асуджала беларускую мову на савецкую міласць “волевыяўлення”. Дый тэзіс пра інтэграцыю з Расіяй быў не без перагляду нашага суверэнітэту: натуральна мець палітычныя, дзяржаўна-эканамічныя, навукова-культурныя сувязі з усімі краінамі на самым розным узроўні (заводы і фабрыкі, фірмы, міністэрствы, урад), але чаму менавіта такая асобная звязка пад такой фармулёўкаю? Па-лацінску паняцце “інтэграцыя” азначае “ўзнаўленне”, але пад ім здаўна бачылі “аб’яднанне” частак ці цэлага па аднатыповай мадэлі. То што нясе нам аднатыповасць і на палітычна-эканамічнай, навукова-тэхнічнай, і на грамадска-культурнай, моўнай аснове – суверэнітэцкіх складніках? Прапагандай “яднання народаў” ці не спроба ўзнаўлення СССР, а то Расійскай імперыі з яе цэнтральным тэзісам “единственности и неделимости?” Што – Беларусі зноў доля быць першай, як пры пабудове камунізму, у своеасаблівай аб’яднаўчай справе, дзе яе роля будзе ўмоўная? Тым больш, што Ельцын і ягоныя прапагандысты чэпка ўхапіліся за гэтую перспектыву...

Лічу, на той сустрэчы выдатна выклаў свой погляд на рэчаіснасць, на многія аспекты нашага духоўнага жыцця У. Някляеў, не схібіў і я, але найперш Бураўкін – у кароткай прамове сцісла і ярка сфармаваў дзяржаўную платформу для нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва нашай краіны, перасцярог ад празмернага пакланення савецкай спадчыне (камуністычная сімволіка ў розных назвах, найменаванні вуліц, паркаў і сквераў імёнамі скампраметаваных дзеячаў, старыя догмы ў падручніках, усё яшчэ віслыя палотнішчы з лозунгамі тыпу “народ и партия едины” і інш.), прыцягнення тых, хто “ни в чём белорусском не замечен”, “камандзіраваных” і, у прыватнасці, вайскоўцаў, якія ў многім кантралююць не толькі вайсковую, але і ідэалагічную справу. У прыватнасці, ён назваў прысутнага палкоўніка З., які яшчэ нядаўна агрэсіўнічаў у Кебічавай камандзе і вызначыўся беспрынцыпнымі палітрукоўскімі ганеннямі на носьбітаў беларускасці, бачачы ў ёй толькі нацыяналізм і экстрэмізм.

Тая сустрэча была задумана так, што пасля прэзідэнцкага ўступу прамаўлялі са сваімі думкамі, прапановамі мы, а пасля зноў браў слова гаспадар уладнага кабінета, выказваўся наконт пачутага і па-сутнасці часткамі выкладаў сваю праграму эканамічнага, сацыяльнага, навукова-культурнага развіцця рэспублікі. Каб мы маглі пачуць яе загадзя, то, зразумела, былі б і карэктывы ў нашых выступленнях. Што да бураўкінскага, то прэзідэнт прызнаў: вялікія магчымасці Генадзя Мікалаевіча незапатрабаваныя. Справаздача пра сустрэчу і размову павінна была быць апублікаваная. Рыхтаваць тэкст было даручана старшыні Саюза пісьменнікаў У. Някляеву і палкоўніку З. Апошні, як і прадбачвалася, намагаўся выхаласціць з яе ўсё “негативное” – не толькі крытычнае, але і жыватрапяткое, надзённае, нацыянальна занепакоенае. Пазней ён выхалошчваў гэта будучы на чале розных ідэалагічных ведамстваў; ягоная нянавісць была такая, што нават на побытавым узроўні, як пісалася ў незалежнай прэсе, груба абражаў магазінных касіраў, калі тыя загаворвалі з ім па-беларуску... І такіх яго паслядоўнікаў было, ёсць нямала, яны любяць Беларусь (прыроду, гасціннасць, смачныя дранікі. Лёгкае працаўладкаванне на любую пасаду), і любілі б яшчэ больш, каб не гэтая, чорт яе пабяры, таптаная-перетаптаная, але трывушчая “мова”... Як сіпеў ад злосці, здаецца, падвышаны да генерала З., “ваш долбанный язык”...

Бураўкін затрымаўся ў вышэйназваным міністэрстве мала, пасля для кавалка хлеба знайшоў таксама на кароткі час працу ў часопісе “Вожык”...

Вось такі лёс таго, хто савецкай эпохай быў вылучаны, а новай адлучаны... Але гэта – не бязрадасная планіда называнага тут былога старшыні Прэзідыума ВС Т. Генадзь Мікалаевіч так не кане ў Лету: ён для многіх застаўся ў памяці як наватар тэлебачання, сканцэнтраваўся як паэт і яшчэ ярчэй засвяціўся сваёй зоркай на небасхіле нашай літаратуры. Новыя яго кнігі – узор высокай грамадзянскасці і майстэрскай мастацкасці. <...>

...Былы прэзідэнт Украіны Л. Краўчук напісаў вельмі змястоўныя і цікавыя ўспаміны са знамянальнай назвай “Маемо те, що маемо”. Так і мы...

...Яшчэ ў 1994-м, перажываючы за пэўнае вырашэнне нашага лёсу, Генадзь Бураўкін напісаў сваю “Малітву”:

*Мы здалёку ўбачылі свабоду*
*І яшчэ не вырваліся з пут...*
*Божа,*
*Не дабаў майму народу*
*Пошасці,*
*Няпраўды*
*І пакут.*
*У чужым нялюдскім землятрусе*
*Хіба ў нечым мелі мы віну?..*
*Божа,*
*Адвядзі ад Беларусі*
*Здраду,*
*Вераломства*
*І вайну.*
*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*Калі ўсё вакол ідзе на злом,*
*Божа,*
*Захіні маю Радзіму*
*Мудрасцю,*
*Спакоем,*
*І цяплом!*

...Бураўкін быў з тых, хто мог многім нас захінуць...

*2021 – 2022 гг.*

Анатоль Трафімчык



...часам нават наяўнасць некаторых недахопаў у мастацкім творы якраз падкрэслівае ўзровень яго эстэтыкі...

# “Служыць будучым пакаленням...”

## *Паэма Якуба Коласа “Новая зямля” як “энцыклапедыя” ў святле фармальнай логікі і дыялектыкі: крамольныя думкі на маргінэзе твора*

*Публікацыя падрыхтавана ў рамках праекта БРФФД № Г-22-054 «Алегарызацыя гістарычнай рэчаіснасці ў мастацкіх творах класікаў беларускай літаратуры (Ф. Багушэвіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы і інш.)».*

### Азначэнне “энцыклапедыя” стасоўна “Новай зямлі”: генезіс

Нярэдка можна сустрэць меркаванні, што паэма Якуба Коласа “Новая зямля” стваралася быццам бы ў якасці і ў першую чаргу, як пасля трапна падсумуюць, мастацкай энцыклапедыі жыцця беларускага сялянства канца XIX ст. Насамрэч гэтакай стала яна толькі ў працэсе творчай працы аўтара. Першаснасць яго мэты пры напісанні твора патрабуе асобнага даследавання. У прапанаванай рабоце ўвага сфакусаваная якраз на энцыклапедычным баку “Новай зямлі” з правядзеннем літаратуразнаўчай, і не толькі, рэвізіі такога, найбольш распаўсюджанага, прачытання.

Дадзеную дэфініцыю прынята прыпісваць Алесю Адамовічу[1], несумненна, найаўтарытэтнейшаму навукоўцу. (У папулярных крыніцах часам аўтарства аддавалі нават Петрусю Броўку.)

Сапраўды, названы даследчык з першых сваіх крокаў у навуцы і літаратуразнаўчай крытыцы казаў пра энцыклапедычнасць Коласавага шэдэўра[2]:

"Этнаграфічнае аблічча беларуса ў зборніках і працах гэтых вучоных ужо вызначылася даволі акрэслена. Беларуская ж літаратура паступова знаёміла чытача з жывым беларускім селянінам, з яго паўсядзённым побытам. Асабліва поўна гэтая задача вырашалася ў «Новай зямлі» Якуба Коласа. Іменна ў гэтым творы сацыяльнае, гістарычнае, бытавое, маральнае, а таксама этнаграфічнае і моўнае аблічча беларускага народа выяўлена з асаблівай паўнатой.

«Новая зямля» ў гэтым сэнсе – сапраўдная энцыклапедыя дакастрычніцкага жыцця беларускага народа"[3].




*Вокладка першага выдання паэмы «Новая зямля». 1923 год.*

Вядомая работа згаданага беларускага даследчыка пра "паэму-раман" "Новая зямля" "Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы", у якой аўтар такою рысаю характарызуе твор, датуецца 1957 г. Адзначым, што А. Адамовіч нарадзіўся ў 1927 г. і на пачатку 1950-х гг. яшчэ не меў публікацый па творчасці Якуба Коласа.

Між тым дзеля справядлівасці варта заўважыць, што падобныя вызначэнні ўзніклі раней. Так, Антон Адамовіч ва ўступе да мюнхенскага выдання паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" 1952 г. фразу "энцыклёпэдыя беларускага сялянскага жыцьця" прыпісваў Міколу Байкову[4] (першакрыніца не ўказана і намі не адшукана, але заўважым, што апошняму з 1930 г. пасля арышту ў навуковую сферу вярнуцца не дазволілі, значыць, прыпіска датычыцца 1920-х гг.). Яўген Мазалькоў, паэт, перакладчык, літаратуразнавец, у кнізе пра Якуба Коласа не пазней 1953 г. пісаў, што "паэму "Новая зямля" крытыкі не раз *называлі* (курсіў, пакліканы звярнуць увагу на прошлы час дзеяслова, наш. – *А.Т.*) энцыклапедыяй беларускага сялянскага жыцця дарэвалюцыйных гадоў"[5]. Практычна тую ж фармулёўку і ў той жа час паралельна знаходзім ў сумнаславутага Алеся Кучара: "Гэта паэма можа быць па праву названа энцыклапедыяй жыцця беларускага сялянства канца XIX стагоддзя"[6]. Устанавіць, хто ўвёў у навуковы спажытак тое азначэнне, сёння хіба не ўяўляецца магчымым.

Асобна адзначым, што такое вызначэнне не з'яўляецца аўтэнтычным вынаходніцтвам беларускіх літаратуразнаўцаў. У свой час слынны расійскі крытык Вісарыён Бялінскі ў артыкуле «Евгений Онегин» на аснове аналізу вершаванага рамана Аляксандра Пушкіна падсумаваў: «"Онегина" можно назвать энциклопедией русской жизни и в высшей степени народным произведением»[7].

Нашы ўдакладненні, аднак, не адмяняюць азначэння. Нягледзячы на аўтабіяграфізм паэмы, аўтар у яе рэалістычна-эпічным пласце не робіць цэнтрам сусвету сваю сям'ю ці – тым болей – сябе (прататыпа хлопчыка Костуся). Галоўнае ў паэме – жыццё селяніна наогул. Беларускага. Характэрнае, часам да банальнасці (кантэксту свайго часу) жыццё з адпаведнымі клопатамі. Прывядзём, напрыклад, словы Антона Луцкевіча: "...Дадзены Коласам абраз ёсьць тыповы для ўсяго беларускага незаможняга сялянства"[8]. Такая тэза ўзнікла яшчэ пры жыцці паэта. Думка тыражуецца па сённяшні час у найбольш распаўсюджанай

літаратуры – вучэбнай: “Сям’я самога паэта была тыпова сялянская і жыла як тысячы, сотні тысяч сялянскіх сямей. <...> Сям’я, апісаная ў творы, – Міхал, яго брат Антось, жонка Міхала Ганна, дзеці – самая звычайная сялянская”[9]. Радзіна Міцкевічаў аказалася канкрэтным і прыватным выпадкам для адлюстравання той тыповасці, можна нават сказаць, сродкам. Чаму – зразумела: у сілу найлепшага ведання аўтарам гэтага выпадку. Прычым – як знутры (у часы дзяцінства), так і звонку (у часы юнацтва і маладосці).

Традыцыйна склалася разглядаць візітоўку беларускай літаратуры ў рэалістычным святле. Таму яна паўстае, прывядзём дзеля паказальнасці словы выдатнага даследчыка Алега Лойкі, як “перш за ўсё твор сацыяльна-бытавы, а затым ужо псіхалагічны; апісальна-бытавы, а затым ужо псіхааналітычны”[10]. У такім ключы звычайна бачаць і энцыклапедычнасць Коласава твора. Значыць, маецца на ўвазе рэалістычнасць і нават літаральнасць у падачы матэрыялу жывога жыцця. Як заключыў Іван Замоцін, “...увесь гэты сінтэз назіранняў і матэрыялаў паэмы зроблены... спакойным і выразным пяром мастака-этнографа, запісваючага тое, што дакументальна сабрана і праверана асабовым доследам”[11].

У той жа час некаторыя кажуць на паэму “Новая зямля” “энцыклапедыя” і пры гэтым падкрэсліваюць метафарычнасць такой дэфініцыі[12] (яе звычайна называюць без двухкоссяў, якія намі часцей усё ж прымяняюцца з прычыны нелітаральнага сэнсу паняцця і да таго ж у якасці яе цытавання). Але ці знаходзяцца такія даследчыкі, якія тлумачаць, у чым заключаецца тая вобразнасць і сімвалічнасць? Нам прыкладаў не траплялася (калі мець на ўвазе сістэмную аналітыку). Дык вось паспрабуем высветліць гэты, як аказваецца, зусім не відавочны момант. Дзеля гэта варта, аднак, пачаць з устанаўлення сутнасці літаральнага азначэння “Новая зямлі” як энцыклапедыі.

## Якой павінна быць энцыклапедыя і ці ёсць такой “Новая зямля”?

Каб адказаць на гэтае пытанне, прыменім заснаваны Віктарам Шклоўскім літаратурны прыём, які называецца «остранение»[13] і пакліканы вывесці чытача са стану аўтаматычнага ўспрымання мастацкага твора шляхам разбурэння пэўнага стэрэатыпа пра яго.

У сувязі з пастаўленай задачай варта задумацца, што такое энцыклапедыя? Даверымся вызначэнням. Напрыклад, як напісана ў прадмове да адной з першых у гісторыі чалавецтва энцыклапедый французскіх мысляроў Дэні Дзідро і Жана Лерона Д’Аламбера, мэтай энцыклапедыі з’яўляецца збор ведаў, рассеяных па свеце, прывядзенне іх у сістэму, зразумелую для людзей, якія цяпер жывуць, і перадача тым, хто прыйдзе пасля нас, з тым, каб праца папярэдніх стагоддзяў не стала бескарыснай для стагоддзяў наступных, і каб нашы нашчадкі, узбагачаныя ведамі, сталі дабрэйшымі і шчаслівейшмі, і каб мы не адышлі ў вечнасць, не здолеўшы паслужыць будучым пакаленням[14]. У аўтарытэтнага дасюль мовазнаўца-лексіколага Дзмітрыя Ушакова сустракаем бачанне энцыклапедыі як прыведзенага ў сістэму сціслага агляду ўсіх галін чалавечых ведаў ці кола дысцыплін, у сукупнасці складаючых асобную галіну ведаў[15]. Нарэшце, паводле айчыннага тлумачальнага слоўніка, энцыклапедыяй называецца і “навуковае або навукова-папулярнае даведачнае выданне па ўсіх або асобных галінах ведаў, звычайна ў выглядзе слоўніка”, і “прыведзены ў сістэму агляд розных раздзелаў, галін якой-небудзь навукі, уводзіны ў курс якой-небудзь навукі”[16].

Фактычна такой бачаць і “Новую зямлю”. Напрыклад, Галіна Адамовіч у прыватнасці ў сувязі з гэтым выказала тоеснае меркаванне: «Комплекснасць праведзенага беларускім навукоўцам (Іванам Навуменкам. – *А.Т.*) аналізу паэмы Коласа заключаецца найперш у “комплекснасці”, шматзначнасці, энцыклапедычна-

сці зместу самога твора, у звароце пісьменніка да самых розных аспектаў жыцця беларускага сялянства. <...> "Энцыклапедычны" змест "Новай зямлі" набывае ў яго (І. Навуменкі. – *А.Т.*) працы сістэмны характар: літаратурная класіка раскрываецца перад чытачом-рэцыпіентам рознымі сваімі бакамі: і як высокамастацкі твор, і як праца пазнавальнага плана, і як твор, што мае вялікі выхаваўчы патэнцыял»[17].

Аднак стэрэатып адносна і энцыклапедычнасці, і тыповасці паэмы "Новая зямля" нельга не ўспрымаць крытычна і не падвяргаць верыфікацыі і пераасэнсаванню. Само слова "энцыклапедыя" – катэгорыя, якая належыць да сферы рацыянальнай, строга дэтэрмінаванай логікай.

У савецкім час нас пераканалі ў наступным (каб не быць галаслоўным, прывядзём літаральна адно з меркаванняў, прычым аўтарства выдатнейшага вучонага і педагога Алега Лойкі): "Малюнак за малюнкам вырысоўвае Якуб Колас у паэме, узнаўляючы шматлікія падзеі з жыцця сям'і Міхала, паказваючы асноўных герояў паэмы ў іх разнастайных сувязях з грамадствам і прыродай, апісваючы ўсе чатыры пары года, усе асноўныя сельскагаспадарчыя работы, гадавыя традыцыйныя святы і інш. Паэма, такім чынам, вырастае ў энцыклапедыю жыцця беларускага дарэвалюцыйнага сялянства..."[18]

Тым не менш давайце прыгледзімся ўважлівей, ці так гэта. Тады ўбачым: сапраўды, у паэме "Новая зямля" чытачу дэманструюцца найбольш характэрныя і характарныя эпізоды. Але – далёка не ўсе з магчымых і да таго ж на суб'ектыўны выбар аўтара! Ён, як мімаходзь заўважыў, але не развіў сваю думку, І. Замоцін, "умела сінтэзаваў найбольш яркія і жывыя матэрыялы сваіх назіранняў над бытам і культурай Беларусі"[19]. Дзякуючы сугестыўнасці паэзіі, магутнай па геніяльнасці, і ствараецца ўражанне шырыні і глыбіні, адэкватных для вырашэння эпічных задач. Тым не менш у літаральным плане няма падставы на аснове наяўнага кола карцін паэмы гаварыць пра капітальную, усёабдымную фундаментальнасць Коласавай "энцыклапедыі". Сялянскае жыццё нашмат больш разнастайнае. Дый катэгорыя "сялянства" вельмі шырокая. У савецкія часы яна часцей ужывалася ў якасці сацыяльнага класа. Яго панараму наўрад ці магчыма праілюстраваць на прыкладзе адной сям'і. Няхай сабе і самай удалай ілюстрацыяй, на якой выяўлены і палітычны аспект (міжкласавае супрацьстаянне), і эканамічны бок (у паэме Якуба Коласа гэты бок займае ці не галоўнае месца), і культурны (у разгляданым творы ён рэпрэзентаваны таксама даволі прыстойна, кангеніяльна, нярэдка ў сімбіёзе з гаспадарчым бэкграўндам). У той жа час гісторыкам, напрыклад, для аналізу жыцця беларускага сялянства прадстаўленага ў паэме часу спатрэбіўся цэлы том[20]. Ці можна лічыць паэтычным эквівалентам гэтай навукова-гістарычнай работы паэму "Новая зямля"? З пункту гледжання фармальнай логікі адказ на такое пытанне напрошваецца адмоўны.

Акрамя таго, хіба мала аргумента, што галава сям'і Міхал не быў па родзе дзейнасці селянінам? Толькі па паходжанні. Яго сітуацыя, скажам прама, не самая тыповая.

Таму ў выпадку з беларускай паэтычна-паэмнай "энцыклапедыяй" дастаткова задумацца пра яе старонкі, якія магчымыя ў тканіне твора, арганічна дапоўнілі б яго менавіта інфарматыўны бок.

## Што не перашкодзіла б энцыклапедычнасці сялянскага жыцця?

У дыскусійных дыскурсах нярэдка ўсплывае прынцып – "крытыкуючы прапануй". Яго можна прымяніць і адносна праблемы паўнаты прадстаўленай у паэме Якуба Коласа "Новая зямля" панарамы беларускага сялянскага жыцця. Калі казаць пра выбарнасць яго старонак з боку аўтара, дык варта задумацца, чаго ж не хапае мастацкаму твору дзеля яго комплекснасці. Шчыра кажучы, у прапанаванай "энцыклапедыі", хоць і літаратурна-мастацкай, бракуе паэтызацыі

некаторых прынцыповых для тагачаснага сялянскага жыцця-быцця старонак. Пройдземся спачатку па важных працоўных буднях.

Аўтару гэтых радкоў, сялянскаму нашчадку, са сваімі ўлюбёнасцямі ў пэўныя работы колішняга вясковага дзяцінства, вельмі цікава было б у Коласавым стылі чытаць прыклад **свежавання** (апявання чаго беларуская літаратура так і не дачакалася да настальгічнага верша Максіма Танка “Смаленне кабана” (1961) і блізкага па назве апавядання Міхася Стральцова (1973), дый то ў выглядзе “эпітафіі”, – але! У абодвух творах няма разгорнутай карціны свежыны). На гэту тэму ў паэме Якуба Коласа знаходзім адно ўрывак з перавагай іранічных канатацый пра свежыну як з’яву ў сялянскім жыцці і зусім без заглыблення ў саму падзею (тым больш у яе некаторую сакральнасць, якая ў рэчаіснасці мела месца):

Адзнакі блізкіх зімніх святак –
Гарыць салома каля хатак.
Пажар вясёлы ў час світання!
– А што там свеціцца, нябожа?
Няўжо гарыць хто, не дай Божа?
– Не, не пажар: то – сцяг калядны,
Япрук там смаліцца дзесь ладны,
Свой крок апошні замыкае:
Япрučча доля ўжо такая.

І кожны дворык, кожна хата,
Хоць і жыве не так багата,
Але Калядаў у адзнаку
Заколе хоць бы падсвінаку
І дворык свой ці прыгумень
Асвеціць раніцай ці ўдзень,
Бо хто ж, скажыце, хто не ласы
На тое сальца і кілбасы?
Другі Каляд не дачакае,
Цішком свяжынкі паспытае,
А ўжо на свята – што казаці? –
Паходзіць так каля свінчаці,
Што ўжо на ночку разоў дзесяць
Табе жывот закуралесіць.
І гэта, братцы, не загана!
Даўно, не знаю кім, казана:
«Калі заколеш япрука ты,
Ды не пабегаеш за хаты,
То гэта – гонар невялікі,
Гэта вяселле без музыкі,
Як кажа мудрасць чалавеча» [т. 8, с. 177-178][21].

Між тым свежына (гэтым словам называць могуць увесь дзень у сям’і, дзе адбывалася падзея) уяўляла цэлы рытуал. Для яго па магчымасці выбіраўся не любы, але адмысловы дзень (згодна з народнымі традыцыямі і рэлігійным календаром). Калі надыходзіў ён, з самага ранку ўсталёўвалася асаблівая атмасфера. Неверагодна, але яна перадавалася нават скаціне, птушкам. Асабліва востра яе адчувала будучая ахвяра. Як пісаў пра свойго “героя” М. Стральцоў, “ён яшчэ і не здагадваецца ні пра што, адно трывожыць яго, чаму гаспадыня, выходзячы з сенцаў на двор, не хоча падаць на ягонае рохканне голас, чаму з дурным кэрханнем, з бязладным лопатам крылаў пазляталі з седала і раней часу кінуліся да ганка куры”[22]. Рацыянальна рэакцыю можна было патлумачыць тым, што скаціне не далі згодна з рэжымам падсілкавацца (каб вантробы былі максімальна апарожненыя). Але часта ў гаспадароў не было сумненняў, што свіння чуе свой кон. Этнаграфічную цікавасць уяўляе ці кожны далейшы крок: як свінню

выманьваюць са свінуха, якім чынам да яе падступаюцца, як ажыццяўляюць сам акт калоння. Смаленне, мыццё, урэшце сам разбор маюць не толькі практычныя рысы, – як, напрыклад, лёгкія парэзы крыжам на чэраве памытай тушы (маўляў, з Богам! – квазіхрысціянскі элемент), адразанне смочак, кончыкаў хваста і лыча ды выкідванне іх у свінух (дзеля таго, каб не пераводзілася жыўнасць – хіба чыстае язычніцтва). Не раўнуючы свята! Лірыка! І прыхарошваць не трэба.

Адсутнічае ў паэме таксама патэнцыйна вельмі маляўнічае апісанне **нарыхтоўкі дроў**. Гэта ж цэлы працэс – ад выбару дрэва да складвання паколатых пален у кастры (апошняе слова не блытаць з вогнішчам) і ў канчатковым выніку гарэння ў печы. Апішам яго характарыстычнымі дзеясловамі – тэзісным абазначэннем этапаў вытворчасці і спажывання дроў: спілаваць, раскрыжаваць, звезці, парэзаць, пакалоць, скласці, прынесці, спаліць. Прычым сам Якуб Колас, ужо жывучы ў Менску[23], вельмі любіў рэзаць і секчы дровы (дый парсючка, дарэчы, трымаў). Для сям'і палясоўшчыка, канечне, пытанне ацяплення не ўяўляла праблемы. У лесе дровы знаходзіліся пад рукою, і назапашванне іх не мела стратэгічнага значэння (там і на свежыну магчыма было разжыцца). Паводле паэмы ж паліва нарыхтоўвалася адно на некалькі дзён уперад, што можна зразумець па наступным пасажы: “І дроў на свята накалолі...” [т. 8, с. 180]. У той жа час звычайнаму селяніну, які па вялікім рахунку на працягу ўсяго свайго існавання вырашаў толькі дзве праблемы – холаду ды голаду, нарыхтоўка дроў была жыццёва, стратэгічна неабходнай. Гэта справа не саступала тым жа шыкоўна апетым у “Новай зямлі” сенакосу ці жніву (раздзел “Летнім часам”; не дзіўна, што ён самы вялікі ў творы – любімая ж пара года аўтара!).

Гэтаксама не менш важнае месца для вяскоўца займала **гадоўля жывёлы**, паводле сельскагаспадарчай тэрміналогіі, мясамалочнага напрамку. Дзічыну ў панскім лесе здабыць селяніну не выпадала. У адрозненне ад палясоўшчыка Міхала, у якога на стале свежае мяса магло паяўляцца часцей – праз паляванне. Але пра дзічыну, дарэчы, нідзе не згадваецца, хоць тэма палявання закранаецца некалькі разоў – на глушцоў (раздзелы XXII “На глушцовых токах” і XXIII “Панская пацеха”), воўка (XVII “Воўк”), зайцоў і тхара (XVIII “Зіма ў Парэччы”). Ды глушцы былі мішэнню для паноў, воўк і тхор прыцягвалі ўвагу дзеля сваіх шкур, і толькі зайцы з пералічанага шэрагу, як можна меркаваць, былі прызначаны для кулінарнага спажывання Міхалавай сям'і. Тым не менш у кантэксце святочных застолляў сярод страў фігуруе шмат рыбы (“Тут быў таран, мянёк пузаты, / Шчупак, лінок, акунь, карась, / Кялбок і ялец, плотка, язь...” [т. 8, с. 183]), але не мяса лясных звяроў. Прычым рыбалоўства выступае хутчэй у якасці хобі, занятку пабочнага, які можна дазволіць у вольную часіну. Той жа “дзядзька быў рыбак выдатны, / Хоць больш урыўкавы, прыватны” [т. 8, с. 92]. Канечне, побач з такой шыкоўнай рэчкай, як Нёман, паэт не мог не звярнуцца да тэмы рыбалоўства, робячы гэта на працягу твора шмат разоў. Тым не менш яно ў адрозненне ад гадоўлі жывёл не было тыповым (нават на ўзроўні хобі) для многіх і многіх беларускіх паселішчаў, для якіх паняцце вадаёмаў ці рэчак было даволі аддаленым.

Малако ў любой беларускай сялянскай сям'і з малымі дзецьмі займала месца экзістэнцыйнага складніка. Таму гэтак высока цанілася карова. У паэме Якуба Коласа разоў колькі адзначаецца важнасць малака і прадуктаў з яго (тварагу і смятаны, сыру і масла), напрыклад:

...Яшчэ больш смачнае, ядкое,
І тарабаніла сюды
Для заканчэння ўжо яды
Тварог, запраўлены смятанай
(Нясла з вялікаю пашанай) [т. 8, с. 24].

А масла..: Не! Маўчу, баюся
У час пайковай суяты
Дражніць пустыя жываты [т. 8, с. 118]. (Выразаныя цэнзураю радкі.)

Але ў цэлым нельга сказаць, што аўтар удзяляе тым прадуктам колькасна шмат увагі. Гэтаксама толькі аднойчы падаецца апісанне буйной рагатай жывёлы ў гаспадарцы:

З-за рэчкі ціснуцца каровы.
Ідзе паперадзе Красуля,
За ёю Лысая, Рагуля,
Ды дзве пярэзімкі-цялушкі
Ідуць у згодзе, як дзве дружкі;
А збоку чмыша бык Мікіта,
Хвастом матаючы сярдзіта [т. 8, с. 16].

Далей расказчык некалькімі мазкамі стварае даволі каларытную карціну сужыцця гавяды. Ды больш да тэмы не вяртаецца. Між тым свойскія жывёлы, асабліва каровы і коні, важнымі былі ў гаспадарцы яшчэ ў сувязі з выпрацоўкай гною, без якога панаваў бы недарод і, як вынік, няшчымніца.

Не большага гонару атрымала і свінагадоўля, а таксама птушыная частка гаспадаркі:

Ў пастаўніку, пры самым полі,
Свіння, як хворая, стагнала,
Хоць гэтай хворасці не знала,
Яе такая ўжо натура:
Стагнаць і лыч трымаць панура,
Як бы ёй цяжка жыць на свеце.
А парасяткі, яе дзеці,
Ўсяму дзівіліс̌ь несканчона,
Бо надта рохкалі здзіўлёна.
Другі гурток другой жывёлы,
Дзесятак кур, пявун вясёлы
Каля платоў чарвей шукалі;
Квактуха голасна квактала,
А кураняткі чарадою
Паслушна ўсюды йшлі за ёю.
Тут кожна рэч аб тым казала,
Што маладая гаспадарка
Ішла ўпярод паспешна, шпарка
І большы круг яна займала [т. 8, с. 36].

Разам з тым працытаваныя фрагменты ствараюць дастатковае паняцце пра жыўнасць на сядзібе беларускага селяніна. Што, аднак, дзіўна: каню пры ўсёй цэнтральнай ролі для гаспадаркі аўтарам не надаецца і такога піітэту. Хаця, між іншым, па цячэнні твора коні, не толькі Міхалавы, згадваюцца рэгулярна (часцей у якасці сродку для перамяшчэння [т. 8, с. 27, 46, 114, 122, 124, 196, 200-201, 214-215, 238], радзей – апрацоўкі зямлі [т. 8, с. 73-74]). Як можна палічыць, іх у гаспадарцы пратаганістаў было два – Ножык і Сівак [т. 8, с. 74, 200, 238].

Святочных старонак у Коласавым творы таксама магло быць больш – не толькі Каляды і Вялікдзень, што атрымалі па раздзеле (да іх ускосна можна далучыць не ўказаны наўпрост Мядовы Спас, які таксама апеты асобным раздзелам – “Падгляд пчол”). Так, першы шэраг тагачаснага сялянскага жыцця складалі такія святы, як **Дажынкі і Радаўніца** (у праваслаўных) ці **Дзяды** (хіба больш пачэснае месца займаюць у католікаў, якімі зусім у нядаўнім мінулым – да 1866 г. – былі Міцкевічы[24], як і ўся Мікалаеўшчына[25]). Хаця Якуба Коласа падчас напі-

сання “Новая зямлі” востра турбавала праблема памяці. Аднак у сваім творы ён вырашаў яе ў адваротным згаданым памінальным святам ключы – так, як і было ў народнай культуры:

І бацьку скора сын забудзе –
Каротка памятка аб людзе,
Аб простым людзе. І такая
Ўсім бедным доля выпадае:
Прайсці свой круг, прамарнавацца
І невядомымі астацца
Ды быць забытымі тут ўсімі –
І сваякамі і чужымі.
І мне заўсёды горка стане,
Калі я ўбачу на кургане
Пад шэрым прыкладам драўляным
Прыпынак вечны селяніна.
Стаіць там крыжык-сіраціна,
Сівенькім мохам ўвесь убраны,
З павязкай белай, даматканай.
Пытаю: хто тут пачывае?
Дзяўчына, можа, маладая
У поўным цвеце красы-сілы
Сышла без часу да магілы?
Ці здатны хлопец-малайчына?
Маўчыць магіла селяніна.
А хто пахован, я не знаю
І смутак моцны ў сэрцы маю.
А тут закопаны навекі
Надзеі, радасць чалавека
І гора схована ліхое –
Жыццё бядачае людское [т. 8, с. 47-48].

Што ж, аўтар гэтых радкоў быў аб’ектыўны ў адлюстраванні рэчаіснасці. Прыкладна тое самае, толькі дакументальнай прозай, трохі раней заўважыў “вясковы лірнік” Уладзіслаў Сыракомля (1823–1862) у “Вандроўках па маіх былых ваколіцах”, зусім недалёкіх ад Коласавых мясцін: “...Селянін у хаце на печы альбо пад чыімсьці плотам заканчвае сваё ціхае жыццё. Сям’я паплача па ім, замкне яго ў чатыры сасновыя дошкі, пахавае на могілках, а праз год пасля смерці паставіць над ім драўляны крыж, справіць памінкі, нап’ецца там, потым яшчэ паўздыхае, памоліцца і... забывае нябожчыка”[26]. (У шляхецкай культуры рэцэпцыя чалавечай смерці ўсталявалася іншай: паколькі індывід шанаваўся, яго сыход меў вартасць. Такі падыход сведчыць пра панаване лінейнасці ў экзістанцыяльнай прасторы вышэйшага класа.)

Разам з тым, што датычыцца працоўна-святочных этапаў, у паэме ўвага звернута на меней значную (у параўнанні, напрыклад, са жнівом), прычым зусім без ценю святочнасці (калі не лічыць нотак лірычнай вобразнасці), працу па малацьбе снапоў:

– Ну, хлопцы: зараз дамо жару!
Саб’ем пасадаў яшчэ з пару.–
Снапы ў радочкі палажылі,
Так і дзяды яшчэ вучылі,
Каб каласы ды з каласамі,
А да пярылаў гузырамі.
– Ну, грымнем, хлопцы, каб звінела! –
І пяць цапоў ідуць у дзела!
Не малацьба, а бубнаў хоры!
Здаецца б, цэпам вадзіў хворы!
Бічы кладуцца так рытмічна,

Само гудзенне іх музычна;
Снапы не ўлежаць, скачуць самі
І сыплюць жыта пад бічамі,
А дзядзька рэй вядзе, гукае
І адным крыкам памагае:
– Дай, дай яму, брат! Дай з-за вуха!
Гэ-гэх, скачы, баба-псяюха! –
Гудуць цапы ўгары праворна,
Ідзе работа дружна, спорна,
Аж падшыбае ўсіх ахвота,
Бо мае свой захоп работа [т. 8, с. 146-147].

Таксама асаблівае месца – на цэлы раздзел пад назвай “Падгляд пчол” – заняла вытворчасць мёду (прычым тэма пчол была выразна абазначана ў зачыне – першым раздзеле). Якуб Колас апісвае (у адной з самых большых структурных адзінак твора!) працэс ад часу заводу пчол у гаспадарцы да дня збору іх салодкага прадукта, дня, які рабіўся рыхтык святочным і збіраў цэлую радзіну, апісвае са смакам, гумарам і настальгічным сумам, апісвае з веданнем тонкага знаўца справы. Аднак вытворчасць гэтага (хоць і безумоўна важнага) ласунка хіба не з’яўляецца ў асяроддзі беларускага сялянства настолькі распаўсюджанай, каб дасягнуць узроўню тыповасці, – далёка не кожны селянін меў борці або вуллі.

У той жа час **бульба** (аднойчы названая “картофелем”) згадваецца толькі тройчы, дый то аказіянальна [т. 8, с. 60, 72, 93]. Між тым гэта, як прынята казаць, другі хлеб і прадукт, які з уваходжаннем беларускай этнічнай тэрыторыі ў склад Расійскай імперыі стаў трыгерам для іранічнай мянушкі беларусаў з боку суседзяў. Гэта значыць, на момант дзеяння ў паэме і тым больш на час яе напісання і бульба, і ад яе ўтвораны этнафалізм (называнне народа ці этнасу з адмоўнай канатацыяй) былі шырока распаўсюджаны і дастаткова вядомы. Аднак гэты факт не з’явіўся падставай для фігуравання ў “энцыклапедыі” “Новая зямля”.

Далей. Не хапае для энцыклапедыі любімага ў народзе свята **Купалля**. Па карнавальнасці яно ў народнай культуры як мінімум не саступала ні Калядам, ні Вялікадню, з якімі склаўся б даволі арганічны шэраг дзён сонцастаяння і раўнадзенства. Ролю аналагічнага восеньскага свята, звязанага са зборам ураджаю ў “Новай зямлі”, хоць гэта і не называецца, грае Мядовы Спас у раздзеле “Падгляд пчол”, што разам складае тры святочныя застоллі ў творы. (Хоць калі ўлічваць чатыры ключавыя пункты сонцазвароту, тут больш пасуе Багач, які адзначаецца 21 верасня па новым стылі і падводзіць рысу якраз пад сельскагаспадарчым сезонам ці, паводле прыказкі, “прыйшоў Багач – кідай рагач, бяры сявеньку – сей памаленьку”.) Да таго ж Купалле параўнальна ў меншай ступені “ўцаркоўлена”. Таму яго глыбокая народнасць неаспрэчная. Адсутнасць гэтага свята ў “Новай зямлі” (ні слоўца!) варта патлумачыць, што для яго належнага правядзення патрабавалася масавасць, чаго не было пры жыцці ў лесе. Разам з тым і Каляды, і Вялікдзень, прысутныя ў паэме, можна было адзначыць вузкім сямейным колам.

І гэта не ўсё. Самае вялікае значэнне ў чалавечым жыцці на беларускай зямлі спрадвеку надавалася тром яго момантам: **нараджэнню, вяселлю і смерці**. Міхаіл Піятуховіч сцвярджаў, што ў “Новай зямлі” “абхоплена ўсё жыццё беларуса ад калыскі да магілы”[27]. Аднак насамрэч у творы прадстаўлены толькі сыход. Праўда, з’ява смерці асэнсавана ажно ў пяці выпадках: глушца [т. 8, с. 208], тхара [т. 8, с. 165], ваўка (раздзел “Воўк”), пана ляснічага (раздзел “Смерць ляснічага”), урэшце цэнтральнага персанажа – гаспадара (раздзел “Смерць Міхала”). І гэта калі не лічыць спамянутых падчас Міхалава абходу тапельцаў Дароты і Яўхіма [т. 8, с. 156]. Часцей чамусьці сустракаем канцэптуалізацыю толькі трох трагедый – пана, ваўка і галоўнага героя[28], быццам бы тыя ж глушэц і тхор, са шкадаваннем апетыя ахвяры чалавечых паляванняў, не маюць мастацкай вартасці і важкасці (дзеля справядлівасці варта

адзначыць развагі Жанны Шаладонавай пра долю глушца і паралелі з “жыццёвай устаноўкай Міхала”[29]). Іншая справа, што іх улік разбурае сакральную лічбу “тры” і пабудаваныя на ёй філасофска-літаратуразнаўчыя тэорыі. Хаця, канечне, трэба прызнаць, што сам Якуб Колас для гэтых трох трагедый стварыў па асобным раздзеле. Па сутнасці, смерць пратаганіста ўвогуле становіцца кантрапунктам твора. Тым не менш да апісання рытуалу пахавання аўтар таксама не падступіўся.

Пра шлюб (Міхалаў) у паэме страчаецца адно кароценькая згадка [т. 8, с. 33]. Тэма з’яўлення на свет (чалавека наогул) нават не закранаецца (калі не браць пад увагу метафарычнага параўнання стварэння паэмы з цяжарнасцю [т. 8, с. 281]). Ізноў-такі пра рытуалы тых падзей – ні слоўца. Праўда, тэма дзяцінства (што важна, markdown рознаўзроставага) прысутнічае шырока – з гульнямі-забавамі, вучобай, працай (гл. раздзелы II, III, VI, VII, XI, XIII-XVI, XVIII, XIX, XXI, XXIV). Ды пара юнацтва практычна не раскрыта. Толькі пра маладое пачуццё дзядзькі Антося сказана мімаходзь у некалькіх радках. І то не дзеля рэпрэзентацыі кахання – “каб дапісаць партрэт Антося...” [т. 8, с. 145].

Усе названыя справы і святы, агульныя ці прыватна жыццёвыя, з’яўляюцца знакавымі для штодзённага жыцця беларускага этнасу, для цыклічнага кругабегу. Да другасных іх аніяк не аднесці. Яны суправаджаюцца строгай і нярэдка насычанай рытуальнасцю, не абдзеленай флёрам таямнічасці і іманентнай душэўнасці ды лірычнасці. Хаця іх дэманстратыўнае выяўленне, падкрэсленне, тым больш на ўзроўні кічу, не тыповыя для беларускай культуры ў цэлым і асобнага яе носьбіта ў прыватнасці. Якраз наадварот – сакральнасць падобных старонак жыцця моўчкі, апрыёры лічылі нясціплым выстаўляць і латэнтызавалі, часам нават стылістычна іх выкананне зніжаючы, каб лішнім пафасам не наклікаць сурокаў. (Такія тонкасці! Ці ж не выдатнейшы матэрыял для мастацтва?) У беларускім прыгожым пісьменстве многія з указаных з’яў айчыннай культуры да сённяшняга часу не прадстаўлены ці выяўлены недастаткова па-мастацку і наўрад ці ўжо калі-небудзь увасобяцца ў творы з той простай прычыны, што ў аўтэнтычным выглядзе час тых з’яў даўно мінуў. Балазе радуюць вока багатыя навуковыя этнаграфічныя матэрыялы, якія сталі неад’емнай канцэптуальнай і каларытнай часткай беларускай Атлантыды.

Чаму адсутнічаюць або слаба раскрыты ў разгляданым творы вышэйпералічаныя старонкі? Яны менш важныя для энцыклапедыі? Ці сапсавалі б яе, нанеслі б шкоду мастацкаму твору, які прэтэндуе на сацыяльную панараму ці эпапею (гл. далей)? На гэты конт расійскі тэарэтык Георгій Гачаў схіляўся да як мага шырэйшага бытавізму ў мастацкай літаратуры і яго аксіялагізацыі, што ў эпапеях звычайна ўзмацняецца праз кантрасты з трагічным бэкграўндам[30] (паводле названага мысляра, меліся на ўвазе якія-небудзь ваенныя падзеі; іх няма ў “Новай зямлі” зусім, але яны кампенсуюцца шматразовымі зваротамі да тэмы смерці – гл. вышэй). Дый сам Якуб Колас імкнуўся “апісаць усё падрад” [т. 8, с. 231]. Але ж не апісаў! Бо наперад вылучыўся прынцып “каб песня ўся была дапета / на мой манер і на мой лад” [т. 8, с. 231] – непрыхавана суб’ектыўны падыход. Ці мы сумняваемся ў здольнасцях паэта раскрыць тую ці іншую (адсутную ў “энцыклапедыі”) старонку сялянскага жыцця?

Тыя пытанні ў аснове сваёй рытарычныя, і за імі адкрываецца магчымасць, нават неабходнасць і абавязковасць прысутнасці дадатковых матэрыялаў у “мастацкай энцыклапедыі”. Разам з тым яны маюць рацыянальны характар, без прэтэнзіі да твора як феномена вобразнага. (Пры гэтым якраз тыя пытанні прымушаюць рэвізаваць энцыклапедычную дагматычнасць Коласава твора, але не самі запастуляваныя часам і чытачамі самага markdownрознага ўзроўню мастацкія вартасці шэдэўра.) Тым не менш у нашым выпадку просьба не губляць менавіта гэту, рацыянальную нітку прапанаваных разважанняў.

## Праблема аб’ёму “Новай зямлі” ў святле параўнанняў

Эвентуальная апеляцыя да перапоўненасці “энцыклапедыі” як у першую чаргу мастацкага твора, “завялікасці” аб’ёму пры дапаўненні дадатковымі раздзеламі, як пастараемся давесці далей, не з’яўляецца здавальняючай[31]. У гісторыі сусветнай літаратуры бывалі творы нашмат больш “габарытныя”, чым “Новая зямля” з яе трыццацю раздзеламі і з колькасцю радкоў пад 11 тысяч (калі быць дакладным, 10 933 – паводле самага свежага Збору твораў). Параўнаем (на аснове звычайных вучэбных матэрыялаў) з канкрэтнымі прыкладамі. Але найперш (дзеля карэктнасці ў пошуку тых прыкладаў для супастаўлення) акрэслім значэнне і статус Коласавага твора.

Пагодзімся, паэма Якуба Коласа “Новая зямля” не без прэтэнзій на тое, каб называцца эпасам/эпапеяй. Ужо ў 1923 г. Язэп Лёсік параўновае твор з паэмай А. Міцкевіча “Пан Тадэвуш” і пры гэтым заяўляе сцверджанне, што заданні Якуба Коласа “далёка шырэйшыя” і сягаюць маштабу “Іліяды”[32]. Аператыўнасць Я. Лёсіка (“Новая зямля” была закончана толькі 5 студзеня 1923 г.) можа вытлумачвацца сваяцкімі сувязямі (ён прыходзіўся дзядзькам паэту) і сяброўствам. Таму ў першым жа нумары перыёдыка, які паводле планаў меўся выходзіць штоквартальна (аднак адразу быў забаронены), убачыла свет першая аналітыка не ўрыўкаў, але ўсяго твора. Летам таго ж года героі твора яшчэ ў адной рабоце былі пастаўлены побач з Ахілам і Адысеем. Гэта зрабіў не прафесійны літаратар – звычайны школьны настаўнік Антось Харэвіч[33]. Такім чынам запачаткавалася вымярэнне паэмы беларускага класіка катэгорыямі эпасу Гамера.

Таксама яшчэ ў тым жа годзе (1923) з падачы аўтара першай рэцэнзіі Міколы Байкова твор Якуба Коласа быў размешчаны ў адным шэрагу з “романом в стихах” А. Пушкіна “Евгений Онегин” (1823–1830) і эпічнай паэмай Адама Міцкевіча «Pan Tadeusz, czyli Ostatni zajazd na Litwie. Historia szlachecka z roku 1811 i 1812 we dwunastu księgach wierszem»[34] (1832–1834) – творы першай паловы XIX ст. і пра той жа час. “Новая зямля” створана на добрае стагоддзе пазней, і яе рэалістычны пласт датычыцца канца XIX ст. Трыма гадамі пазней (пасля выхаду цэлай “Новай зямлі”) праз М. Піятуховіча яна названа Адысеяй беларускай літаратуры[35], гэта значыць, ізноў параўнана з эпічнымі творамі Гамера. Канечне, супастаўленне “Новай зямлі” больш карэктнае з названымі творамі А. Пушкіна і А. Міцкевіча, бо імі адкрывалася мадэрная эпоха для народаў кожнага аўтара (для апошняга, варта ўсё ж удакладніць, хутчэй закрывалася папярэдняя – ліцвінская – эпоха). Параўнанне з творамі Гамера слушнае пры ўмове вялікай ступені сімвалічнасці такога кроку (хаця і тут прысутнічае логіка, бо ў часы легендарнага грэка сацыяльная эвалюцыя знаходзілася на парозе ўзнікнення еўрапейскай цывілізацыі, якая спарадзіла протанацыянальныя народнасці і кантынуальна доўжыцца да сённяшняга дня).

У той жа час Уладзіслаў Дзяржынскі (сапраўднае прозвішча Чаржынскі) хіба ўпершыню назваў “Новую зямлю” эпапеяй[36]. Тут жа прафесар Павел Растаргуеў яе паменуе нацыянальным беларускім эпасам[37]. Калі ва ўсю моц у Савецкай Беларусі шалела сацыялагізатарства і паэма класіка была не ў пашане, “заходнік” Антон Луцкевіч акрэсліў твор як “эпопэю беларускага сялянства, у пэўнай меры нават – беларускага народу”[38]. Пасля вайны Антон Адамовіч прывядзе даволі шырокі шэраг супастаўленняў “Новай зямлі” з манументальнымі творамі сусветнай літаратуры і ў сваю чаргу знойдзе кропкі судакранання з імі[39]. Такім чынам, ад самага пачатку існавання “Новай зямлі” яна бачылася гістарычна – эпахальна! – знакавай і этапнай.

Канечне, варта зважаць, што паэма Якуба Коласа ўяўляе феномен усё-такі мадэрнай эпохі, інакш кажучы – позняга Новага часу (паводле беларускай этніч-

на-нацыянальнай эвалюцыі) і часткова нават Найноўшага часу (паводле агульна-прынятай у еўрапейскай культуры перыядызацыі – з 1918 г.). У сувязі з гэтым на дапамогу нашай аргументацыі слушна далучыць разважанні папярэднікаў. Як заўважылі Юльян Пшыркоў і Міхаіл Лазарук (менавіта ў сувязі з “Новай зямлёй”), яшчэ Вісарыён Бялінскі зазначаў, што час эпічных паэм даўно мінуў, і Карл Маркс казаў пра немагчымасць узнікнення эпапеі ў эпоху друкарскага станка. Аднак яны мелі на ўвазе досвед сваіх літаратурна-мастацкіх кантэкстаў, з якімі прынцыпова разыходзіліся сцежкі-дарожкі беларускай культуры, дакладней, паводле названых навукоўцаў, беларускі народ як такі толькі абуджаўся ад доўгага летаргічнага сну[40]. Працягваюць развіваць такія думкі нашы сучаснікі. Так, болей смелыя фармулёўкі прапануе Сяргей Дубавец: “Найчасцей эпасам называлі “Новую зямлю” Якуба Коласа. Але Коласу не пашанцавала з эпохай – ён выступіў тады, калі аўтарства ўжо стала фіксаванай інтэлектуальнай каштоўнасцю і не дазваляла напісанаму табой абрынуцца ў акіян народнае творчасці. Фармальныя літаратурныя прыёмы пры ўсім нежаданьні аўтара пераважылі тое, што называюць “кардыяграмай нацыі”. Але і апроч Коласа былі ахвочыя выканструяваць, выстылізаваць тое, што магло б называцца беларускім эпасам”[41].

Як бачым, паводле пэўнай логікі ідэйна-мастацкая шырыня “Новай зямлі” з улікам беларускага гістарычнага кантэксту дазваляе бачыць у творы Якуба Коласа крытэрыі эпасу/эпапеі. Такі феномен атрымлівае ўвагу і як мастацкі твор, і як дакумент эпохі, становячыся сінкрэтычным артэфактам. Падобная жанравая маркіроўка ўжо сваёй этымалогіяй гаворыць пра карэляванасць мастацкага твора са зменаю эпох ці, як мінімум, эпахальнымі зменамі (што не адно і тое ж). І для таго ж Гамера, і для Якуба Коласа дагістарычнасць адыходзіла ў гісторыю – і выспельвала перадумовы, з аднаго боку, каб застацца ў памяці (у выглядзе таго самага энцыклапедычнага падсумавання) шляхам захавання вобраза, з другога боку, быццам бы патрабавала гэтым самым падсумаваннем дакументальнага (у дадзеным выпадку – дакументальна-мастацкага) пачэснага закрыцця. Таксама паказальна, што старажытнагрэцкі эпас не адразу быў занатаваны ў пісьмовым выглядзе: ён колькі стагоддзяў існаваў праз вусную рэтрансляцыю рапсодаў і ўпершыню зафіксаваны на папірусе нашмат пазней за сваё ўзнікненне. Расцягнутасць у часе адлюстроўвае маруднасць эпахальных перамен, у той жа час – і незваротнае іх насоўванне. Тым не менш галоўнае – па-першае, дэтэрмінаваны прадчуваннем і наступам цывілізацыйных зрухаў эпас, фундаментальнейшы па сваёй маштабнасці, узнік, па-другое, быў запісаны не адразу, але ізноў-такі – калі з’явілася неабходнасць. Яе не існавала да таго часу, пакуль захоўвалася такая самая культура, што апісвалася Гамерам і яго сучаснікамі. Аднак як толькі даўнія “фарбы быту і быцця” (фармулёўка Жанны Шаладонавай стасоўна “Новай зямлі”) пачалі адыходзіць у *нябыт*, спатрэбілася Гамеравы радкі аддаць больш трываламу захавальніку, чым чалавечая памяць, – папірусу, пергаменту, паперы і г. д. У выпадку з Якубам Коласам адбывалася ўсё нашмат хутчэй і недзе прасцей, але прынцып заставаўся той самы – адпаведны эпасу.

Між тым такая маркіроўка сінанімічная мастацкай энцыклапедычнасці. Паявіліся абодва штампы (адносна “Новай зямлі”) – эпасу/эпапеі і энцыклапедыі – даўно, суіснавалі паралельна, карэлявана і па-ранейшаму практыкуюцца ў падыходах айчыннай літаратуразнаўчай навукі[42]. Напрыклад, сучасная даследчыца Таццяна Студзенка абодва вызначэнні ўвогуле красамоўна ставіць побач у якасці ўзаемадапаўняльных, кажучы пра візітоўку беларускай літаратуры літаральна: «эпас-“энцыклапедыя” “Новая зямля” Я. Коласа»[43].

Па нашых назіраннях, з названымі вышэй трыма творамі сусветнай літаратуры (А. Міцкевіча, А. Пушкіна, Гамера) “Новая зямля” Якуба Коласа так ці іначай супастаўлялася найчасцей. Таму і супастаўленне праводзіць слушней менавіта з імі.

Раман А. Пушкіна “Яўген Анегін” не дацягвае 6 000 радкоў. Па гэтым паказчыку “Новая зямля” пераўзыходзіць на 97,3% (па колькасці слоў розніца атрымаецца яшчэ большай і пераўзыдзе 100%, бо даўжыня слова ў беларускай мове крыху меншая за рускамоўную лексему). Між іншым, гэта твор, у якога было запазычана вызначэнне “Новай зямлі” (далей коску можна было б не ставіць), як энцыклапедыі. Але – аб’ектыўна – ахопам тыповых карцін твор класіка рускай літаратуры не дацягвае да паўнавартаснай панарамы жыцця, аб якой заявіў, як ужо згадвалася (аўтар дэфініцыі В. Бялінскі. Дый галоўны герой там – не тыповы прадстаўнік свайго асяродку, хутчэй наадварот – вялікі арыгінал і, як пазней назаве яго крытыка з лёгкай рукі аўтара выразу Івана Тургенева, лішні чалавек. Да таго ж «Яўген Анегін» (пры ўсіх яго неаспрэчных вартасцях) зроблены па лекалах, у многім перанятых з французскіх аналагаў, што заўважана даследчыкамі[44], хаця і не агучана ў просталінейных фармулёўках, каб не прыбядняцца (прынамсі арыентацыя на французскую літаратуру атрымала большую перавагу, чым узгадаванне на гумусе папярэдняга развіцця рускай славеснасці, як бы таго ні адпрэчваў той жа В. Бялінскі). Тым больш, устанаўліваючы мастацкі метад, паводле якога створаны вобраз пратаганіста Пушкінавай “энцыклапедыі”, укажам на рамантызм. У яго парадыгме герой выключны. Якім і ёсць Яўген Анегін. Яму з такой прычыны варта адмовіць у неабходнай для вызначэння “энцыклапедычнасці” тыповасці. Аддамо належнае, паэма беларускага класіка не толькі без малога ў два разы большая, чым раман А. Пушкіна, але і валодае нашмат большай ступенню тыповасці карцін тагачаснага народнага жыцця, і характарызуецца колькасна большай напоўненасцю тых самых карцін.

Яшчэ адзін арыенцір – тая самая, мякка кажучы, не чужая беларускай культуры паэма Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш” (часцей прымяняецца скарочаная назва твора) – складаецца з супастаўляльнай (стасоўна “Новай зямлі”) колькасці радкоў (9 721). Такім чынам, творы двух Міцкевічаў нібыта блізкія, суадносныя па аб’ёме. Паказальна, што ў беларускім літаратуразнаўчым дыскурсе “Пан Тадэвуш” нярэдка таксама фігуруе як “энцыклапедыя”. Вось, напрыклад, што сказана ў адной з анатацый яе выданняў: «“Пан Тадэвуш” – энцыклапедыя шляхецкага ладу жыцця, што грунтаваўся на традыцыях колішняй еўрапейскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага»[45]. Або – як варыянт – хіба самае распаўсюджанае дзякуючы папулярным крыніцам вызначэнне: “гэта мастацкая энцыклапедыя жыцця Беларусі канца XVII–пачатку XIX ст.”. Аднак, відавочна, “энцыклапедызацыя” Міцкевічава “Пана Тадэвуша” адбылася праз беларускіх літаратараў (у сваю чаргу пазычыўшых выраз у В. Бялінскага і ператварыўшых тую метафару ў штамп, клішэ) і застаецца ў рамках толькі айчыннай культуры. У гісторыі польскай літаратуры звычайна прымяняецца іншае азначэнне, а менавіта – “epopeja narodowa” (нацыянальная эпапея) або – радзей – “epopeja ludowa” (народная эпапея)[46].

Пры супастаўленні формы “Пана Тадэвуша” з “Новай зямлёй”, тым не менш, варта ўказаць на пэўную асаблівасць польскамоўнага твора. Ён складаецца не проста з дзясятка тысяч вершаваных радкоў, але напісаны сілабічным 13-складнікам – польскім александрыйскім вершам. У беларускай “энцыклапедыі” прымяняецца, за рэдкім выключэннем, 4-стопны ямб, што дае толькі восем (калі мужчынская рыфма, што прымяняецца зрэдку) або дзевяць (пры жаночай клаўзуле) складоў на радок. Таму, дарэчы, і па колькасці слоў у “Пане Тадэвушы” лічба на добрую трэць пераўзыходзіць аналагічны паказчык у “Новай зямлі”. Падрахуем яшчэ адну розніцу: у творы А. Міцкевіча складоў на радок без малога ў паўтара разы больш. Дзеля мадэлявання павялічым колькасць радкоў Міцкевічавай паэмы на парадкоўную прапорцыю ў параўнанні з Коласавым творам – атрымаем яшчэ пад 5 000 умоўных радкоў. У суме з наяўнымі атрымліваецца ўсіх блізу 15 000

умоўных радкоў эпапеі А. Міцкевіча (у святле мерак беларускага класіка, вядома ж). Што даў бы "Новай зямлі" выхад на больш-менш такі аб'ём? Павелічэнне, груба кажучы, на 10-13-15 раздзелаў. Ці пацярпеў бы Коласаў твор пры яго дапаўненні яшчэ тузінам структурных адзінак з мэтай фундаменталізацыі энцыклапедычнасці? Больш, як адлюстроўвае вышэй пералічаны тэматычны шэраг адсутных, але магчымых і для некага, можа, таксама пажаданых старонак, і не трэба было б. Урэшце эпічнасць па змесце патрабуе менавіта самавітага аб'ёму па форме. Якраз для таго, каб і змясціць так званую энцыклапедычнасць – шырока, грунтоўна, падрабязна і сістэматызавана раскрыць тэму.

Не меней слушна будзе звярнуцца з мэтай параўнання яшчэ да цэлага шэрагу мастацкіх твораў шырокай панарамнасці сусветнага значэння. Давайце таксама паглядзім на іншыя эпасы, у тым ліку дагістарычныя, класічныя (як называлі такія творы дапісьмовай эпохі). Што скажуць яны на гэты конт?

Старажытнаіндыйскі эпас «Махабхарата» (III тысячагоддзе да н. э.) увабраў, паводле максімальных падлікаў, каля 100 000 двухрадковікаў-шлок (гэта такі старажытнаіндыйскі санскрыцкі эпічны вершаваны памер, які складаецца з трыццаці двух складоў – па 16 у кожным радку) – значыць, 200 000 радкоў – без малога ў разоў 20 больш, чым "Новая зямля". Яшчэ адзін старажытнаіндыйскі эпас «Рамаяна» (недзе з VII па IV стагоддзе да нашай эры) складаецца з 24 000 шлок – 48 тысяч вершаваных радкоў. Калі ж мераць даўжыню радкоў па колькасці складоў, аб'ём Коласава твора саступіць яшчэ больш. Па колькасці слоў захоўваюцца тыя самыя тэндэнцыі ў розніцы.

Канечне, варта ўлічваць, што там былі эпасы народныя (хаця ў той жа час яны прыпісваюцца адзіным аўтарам – імі былі адпаведна В'яс і Валмікі). У той жа час адметна, што існаванне эпасаў доўгі час было вусным і толькі праз многія-многія стагоддзі, пад сярэдзіну I тысячагоддзя н. э. – у так званы залаты век, якім "закрываўся" дагістарычны этап развіцця Індыі – творы былі пісьмова занатаваны.

Тое самае можна сказаць пра эпас ужо згаданага Гамера (чыім імем, да слова, па сённяшні дзень часам ганарова называюць Якуба Коласа аўтарытэтныя вучоныя[47]). "Іліяда" і "Адысея" ўзніклі ў перыяд IX–VIII ст. да н. э. Першая складаецца прыкладна з 15 693 радкоў, другая – з 12 110. Пры гэтым творы напісаны гекзаметрам. Яго аўтэнтычная структура адрозніваецца ад усходнеславянскай у сілу моўнай спецыфікі, што адбілася на вершаскладанні. Гэты памер ва ўсходнеславянскай перакладной традыцыі набыў выгляд шасцістопнага дактыля, гэта значыць, часцей за ўсё 17-складовага радка (паколькі ў старажытнагрэчаскай паняцці вершаванага памера крыху адрозныя, таму будзем кіравацца эквівалентам, выпрацаваным у блізкім да нашага дыскурсе і запазычаным беларускім прыгожым пісьменствам). Гамераў радок даўжэйшы і амаль у два разы большы за памер "Новай зямлі" – чатырохстопны ямб з дзевяццю, часам з васьмю складамі. Як бачым, эпас беларускага класіка па аб'ёме, груба кажучы, у разы два – два з паловаю меншы за кожны твор старажытнага грэка. Гэта толькі па радках. Што датычыцца паказчыка колькасці слоў і складоў, разыходжанні будуць яшчэ большыя.

Дарэчна таксама тут успомніць сабраны і абагульнены ў першай палове XIX ст. вучоным-гуманітарыем Эліясам Лёнратам эпас фінскага народа пад назвай "Калевала", што ў перакладзе азначае месца, дзе жыве Калеў – заснавальнік краіны, які характарызуецца магутным целаскладам і волатаўскай сілай. Твор быў ацэнены вельмі высока Якубам Коласам і ўзяты за прыклад[48]. "Калевала" складаецца з 50 песень-рун на 22 795 радкоў, напісаных карэла-фінскім чатырохдольнікам, які ў перакладзе на рускую мову атрымаў выгляд 4-стопнага харэя, што пры механічным перамнажэнні дае 182 360 склады. Абодва паказчыкі (колькасці радкоў ды іх даўжыні) перавышаюць "Новую зямлю" больш чым у два разы.

Фінскі эпас паўстаў у выніку даследчыцкага збірання і мастацкай селекцыі. Але

яго ўзнікненне адносіцца да часу дагістарычнага і дахрысціянскага (да XII ст.). Таму карэктней ставіць "Калевалу" побач з класічнымі эпасамі. Хаця паказальна: сам факт яго запісвання і абагульнення фенаменізуецца ва ўмовах фарміравання мадэрнай фінскай нацыі.

Рухаючыся далей па храналагічнай паслядоўнасці, нельга не зазірнуць ізноў на Усход. Хаця б таму, што там узнік самы аб'ёмны з вядомых эпасаў – "Манас". Нарадзіла яго протакіргізская культура. Называецца твор у гонар галоўнага асілка. Існуюць розныя варыянты эпасу. Найбольшы з іх крыху (па сваіх мерках) не дасягае мільёна (!) вершаў-радкоў. Калі пераводзіць у колькасць складоў, дык лічба можа скласці каля 7 млн. Гэтыя паказчыкі ў разы пераўзыходзяць таксама немаленькі старыжытнаіндыйскі эпас. Тыпова, што стымулявала ўзнікненне "Манаса" ізноўтакі зараджэнне кіргізскага народа (канечне, у этнічным разуменні катэгорыі) і яго дзяржаўнасці каля тысячагоддзя таму. Але запісаны твор быў толькі ў першай палове XX ст. – калі кіргізы выходзілі на нацыянальны шлях развіцця.

Як бачым, у кіргізаў ажыццявілася схема, ідэнтычная ўзнікненню фінскага эпасу. Між тым прынцыпы спрацавалі тыя самыя, якія датычацца і ранейшых, разгляданых намі тут дагістарычных эпасаў: галоўным трыгерам узнікнення эпасаў з'яўляўся пераход ад першабытнага ладу да фармату цывілізацыі з яе адпаведнай атрыбутыкай – найперш утварэннем народнасці і дзяржаўнасцю. Адрозненнем фінскага і кіргізскага твораў ад эпікі старажытных Індыі і Грэцыі стала пазнейшае занатоўванне – яно адбылося падчас выспявання мадэрнай нацыі. Таму "Калевала" і "Манас", можна сказаць, сталі свайго роду мосцікамі паміж дагістарычнай эпохай і сучаснасцю, у выніку чаго атрымалася частковае падабенства з узнікненнем мадэрных эпасаў у другіх нацый пры іх фарміраванні ў позні Новы час, у тым ліку беларускага народа.

Падобны шлях, дарэчы, прайшло і шырокавядомае ва ўсходнеславянскім навуковым і мастацкім дыскурсе "Слова пра паход Ігараў": яго ўзнікненне адносіцца да заключнай чвэрці XII ст. (пра падзеі гэтага часу ў ім і распавядаецца), калі на Русі востра стаяла праблема з этнічнай інтэграцыяй перад абліччам знешняй пагрозы; выяўленне і ўвод у грамадскі зварот адбылося ў канцы XVIII ст., калі ў Еўропе пачаліся нацыятворчыя працэсы.

Часам яны правакавалі на фабрыкаванне знакавых артэфактаў. Зазначым, што і адносна "Слова пра паход Ігараў" жыццяўстойлівай ад самага часу яго знаходжання з'яўляецца тэорыя, дастаткова моцна аргументаваная, пра фальсіфікацыю твора. Аднак пераважаюць меркаванні пра яго аўтэнтычнасць. Цікавы выпадак уяўляе фальсіфікаваны чэшскі эпас – "Краледворскі рукапіс" і "Зялёнагорскі рукапіс", "адкрытыя" адпаведна ў 1817 і 1818 гг. У іх распавядаецца пра падзеі вельмі даўнія – калі чэхі ўступалі ў сваю гістарычную эпоху і адстойвалі сваё месца пад сонцам як народная супольнасць у суседстве перадусім з экспансіўнымі немцамі і перад абліччам татарскага нашэсця (VIII і IX стст. – другі дакумент і XIII ст. – першы). Заканамерна, што спатрэбіўся эпас таксама ў важнейшы для чэхаў час – калі яны паўставалі як мадэрная нацыя (да таго ж пагроза ў выглядзе нямецкага паглынання захоўвалася і нават абвастрылася). Адметна, што такая фальсіфікацыя сыграла канструктыўную ролю ў станаўленні чэшскай нацыі.

Дзеля пошуку тыповасці таксама звернем нашы погляды ў бліжэйшыя часы і пашукаем у іх твораў, названых так ці інакш эпасамі. Такія знойдуцца ў многіх народаў. Але спынімся толькі на тых, якія найбольш вядомы і маюць пэўны водгук ці пункты для паралелей з беларускай культурай і Коласавай паэмай "Новая зямля".

З пераходнасцю эпахальных часоў звязана і "Боская камедыя" Дантэ Аліг'еры. Пачынаючы з гэтага твора можна нават весці адлік першых ластавак Рэнесанса ці Новага часу (хоць і не проста ранняга, але вельмі ранняга, нават яго пярэдад-

ня) або закрываць эпоху Сярэднявечча. У сувязі з гэтым важнейшым штрыхом з'яўляецца тое, што "Боская камедыя" напісана на жывой італьянскай мове. Хаця тады традыцыйна пісалі на латыні. Таму, безумоўна, твор спрычыніўся да зараджэння італьянскай нацыі. "Тэхнічнымі" велічынямі, калі верыць знойдзенай статыстыцы[49], паэма Дантэ пераўзыходзіць "энцыклапедыю" Якуба Коласа: 14 233 радкі (кожны з якіх мае даўжэйшы памер, чым практыкуецца ў "Новай зямлі") і не менш чым 156 000 складоў. Уражвае таксама колькасць лексічных адзінак, дзе прысутнічае двухразовая розніца (за кошт у тым ліку большай колькасці складоў і слоў у радку)[50].

Больш блізкая да Коласава твора па зместавай сутнасці (перадусім за кошт каляндарнасці) з'яўляецца паэма Джэймса Томсана "Поры года", напісаная ў эпоху Асветніцтва. Гэты твор у два разы меншы за беларускі аб'ект нашай увагі. Хаця падобны з ім вершаваным памерам – толькі на адну ямбічную стапу большы.

Паэма літоўца Крысціёніса Данелайціса "Чатыры пары года" (так гучыць назва ў перакладзе твора на беларускую мову) нам важная геаграфічнай і культурнай блізкасцю: з народам, які ў мадэрным часе стаў называцца літоўскім, беларусаў звязвае мінулае ВКЛ. Між тым гэтая дзяржава ў час напісання эпасу нашых паўночных суседзяў (1765–1775) існавала. Але сам аўтар жыў на заходнім узмежку будучай Літвы, які знаходзіўся ў складзе Прусіі. Дарэчы, само нацыянальнае запачаткаванне літоўскага народа канцэптуальна звязана з той тэрыторыяй, што знаходзілася менавіта пад нямецкай уладай. Таму няма дзіва ў з'яўленні на белы свет і літоўскага эпасу менавіта ў тым куточку краіны (якая і назвы "Літва" яшчэ не мела ў сучасным разуменні). Гэта яшчэ адзін з намі ўзятых для разгляду (разам з вышэйразгледжаным расійскім "Яўгенам Анегіным") твор, які меншы па аб'ёме за "Новую зямлю" Якуба Коласа. Аднак прынцыповае значэнне заключаецца ізноў-такі ў напісанні твора падчас этнічна-нацыянальных трансфармацый. Прычым апублікавана паэма К. Данейлаціса была толькі ў 1818 г. (пасля смерці аўтара). Гэта можа сведчыць пра зацягнутасць працэсаў і пра існаванне пэўных перашкод. Той жа літоўскай мове (як і беларускай у той час) было цяжка прабіцца ў друкаваны дыскурс. Але высокаадукаваны К. Данейлайціс, як і Дантэ, упэўнена звярнуўся да роднай моўнай стыхіі.

Пярліна сусветнага прыгожага пісьменства, драматычная паэма Гётэ "Фаўст" таксама нарадзілася на хвалі фарміравання нацыянальнай свядомасці нямецкага народа, стала квінтэсенцыяй менталітэту і культуры будучай нацыі, якая ў гады жыцця паэта знаходзілася яшчэ на стадыі хутчэй феадальнай арганізацыі. Твор налічвае 12 111 радкоў (пры іх вершаваным памеры ў сярэднім крыху большым за даўжыню радка Коласавай "Новай зямлі"). Як бачым, шэдэўры нямецкага і беларускага класікаў цалкам супастаўляльныя.

Гэты шэраг, калі настойліва пашукаць, можна папоўніць іншымі аналагамі эпасаў – празаічнымі. Яны яшчэ большыя. Напрыклад, раман Мігеля дэ Сервантэса «Хітры гідальга Дон Кіхот Ламанчскі» названы энцыклапедыяй іспанскага жыцця свайго часу (імя аўтара вызначэння прывесці не можам, але – ізноў-такі – яно адносіцца да рамак усходнеславянскага, моцна залежнага ад расійскага, дыскурсу). Той жа чатырохтомны раман-эпапея Льва Талстога "Война и мир" значна пераўзыходзіць па аб'ёме "Новую зямлю" (няхай чытач даруе за адсутнасць скрупулёзнасці).

Пералічаныя творы тут нездарма. Многім з іх, як заўважыла таксама Галіна Адамовіч, не без падстаў прыпісваюць энцыклапедычнасць[51] (зразумела, кожнага ў сваёй галіне). Зрэшты, для параўнання з нашым выпадкам палічым рэестр дастатковым.

Прыведзены шэраг эпічных твораў розных народаў, відавочна, падзяляецца на дзве часткі. Першая (старажытнаіндыйскі эпас, дылогія Гамера, "Калевала",

“Манас”) – дамадэрная, данацыянальная, але і яна адносіцца да эпохі ўзнікнення народаў, толькі не ў нацыянальным сэнсе. Другая – якраз датычыцца часу фарміравання нацый у еўрапейскім разуменні. Аднак роля ўсіх эпасаў калі не аднолькавая, дык блізкая: яны клаліся ў падмурак існавання народаў – ці то тых, даўніх, ці то гэтых, сучасных (прычым нацыянальнай эвалюцыі спрыялі не толькі мадэрныя эпасы, але і іх старажытныя аналагі). “...Эпическое творение есть сказание, то есть Книга, или Библия, народа, и у каждой великой и значительной нации есть такие абсолютно первые Книги, где высказано то, что составляет изначальный дух народа. В таком смысле эти памятники представляют собой не что иное, как подлинные основы сознания народа...”[52]

Канечне, маюцца і пэўныя адрозненні. Напрыклад, Мікола Арочка слушна лічыць, што калі “Новая зямля” ў сэнсе маштабнай абагульненасці і набліжаецца да ўзораў класічнага эпасу, то хутчэй за ўсё не да “Іліяды”, а да эпасу народнага, да “Калевалы”[53].

Важна іншае. У святле сказанага праблема аб’ёму мастацкіх твораў падобнага жанравага фармату вырашаецца літаратуразнаўцамі на карысць адсутнасці абмежаванняў. “Ей (эпапеі. – *А.Т.*) нет границ, все может захватывать и включать в себя»[54].

Паэма Якуба Коласа “Новая зямля” ў параўнанні з аналагамі іншых літаратур і народаў не самая малая, хаця і саступае многім. Галоўнае – яна супастаўляльная з мадэрнымі (і большымі, і меншымі) творамі. У цэлым узбуйненне Коласавай паэмы (перадусім як энцыклапедыі, з пункту гледжання эпаснасці) ёй не зашкодзіла б і прынесла б толькі карысць. Але ж трэба мець на ўвазе, што гэтаму мастацкаму твору ўласцівы таксама іншыя герменеўтычныя прачытанні. У іх святле павелічэнне аб’ёму магло б не выглядаць гарманічна. Тым не менш гісторыя не мае ўмоўнага ладу, затое гісторыя беларускай літаратуры мае шэдэўр.

## Мастацтва: фармальная логіка vs дыялектыка

Калі арыентавацца на рэпрэзентаваную аналітыку, больш адэкватна было б скарэкціраваць маркіраванне паэмы Якуба Коласа “Новая зямля” энцыклапедыяй з папраўкай – як мастацкай ілюстрацыі найбольш яркіх для памяці канкрэтнага чалавека (выхадца з народных мас) з’яў жыцця беларускага сялянства ў іх канцэптуальным выглядзе. Пры наяўнасці пэўнай сістэматызацыі (хаця і тут ёсць пытанні) нельга назваць такую энцыклапедыю дастаткова поўнай. Аднак усё-такі ў гісторыі літаратуры замацавалася і распаўсюдзілася вышэйназваная дэфініцыя. З ёю змагацца – не толькі шкодна (як для твора і беларускай культуры, так і для самога “змагара”), але і бессэнсоўна. Да таго ж тое азначэнне мае менавіта сімвалічны характар.

Канечне, на сэнсавую недасканаласць выразу, які стаў галоўным эпітэтам стасоўна “Новай зямлі”, нельга не звяртаць увагі. Разам з тым не варта паддавацца спакусам вышэйзгаданай фармальнай логікі. Як слушна разважаў выбітны мысляр Аляксей Лосеў, “диалектика не есть ни формальная логика, ни феноменология, ни метафизика, ни эмпирическая наука. Но она лежит в основе всякого и всяческого разумного отношения к жизни. Вся жизнь насквозь есть диалектика, и в то же время она – именно жизнь, а не диалектика, она – неисчерпаемая, темная глубина непроявленных оформлений, а не строжайше выведенная абстрактно-логическая формула”[55]. Так, свет мастацтва (ён жа з’яўляецца часткай наяўнага свету і быцця) таксама функцыянуе па законах, дзе сумяшчаецца несумяшчальнае, суіснуюць у адзінстве і барацьбе супярэчнасці і супрацьлегласці. Ці ж не дыялектычна выглядае кімсьці вынайдзенае наступнае азначэнне паняцця паэзіі? Паэзія дапамагае словамі выказаць тое, чаго выказаць словамі немагчыма. Нават у тым выпадку можа быць

Поэзия, когда под краном
Пустой, как цинк ведра, трюизм,
То и тогда струя сохранна,
Тетрадь подставлена, – струись![56]

Заснавальнік дыялектыкі як універсальнага вучэння Гегель, несумненна, скептычна паставіўся б да нашых факталагічных і арыфметычных калькуляцый. Як заўважыў расійскі філосаф і літаратуразнавец Генрых Волкаў, "в гегелевской философии более чем в какой-либо иной важен не результат, а сам процесс его получения, не достигнутые вершины, а путь к ним, не система, а метод, с помощью которого она была возведена"[57] – такі тэзіс цалкам прымянімы да фенаменізацыі "Новай зямлі", у тым ліку як мастацкай энцыклапедыі. Да таго ж паводле нямецкага філосафа, «правильность и симметрия в качестве абстрактного единства и определенности того, что в самом себе носит внешний характер как в пространстве, так и во времени, упорядачивают преимущественно лишь количественную сторону, определенность величины. То, что не принадлежит этой внешней стороне как своей настоящей стихии, свергает с себя господство чисто количественных отношений и определяется более глубоким отношениями и их единством. Чем больше искусство выходит за пределы внешнего материала как такового, тем меньше оно допускает, чтобы способом его формирования управляла правильность, и отводит последней лишь ограниченную подчиненную область»[58]. Такім чынам, разгляд адно абалонкі любога мастацкага феномену вядзе да памылковасці ў высновах, дэтэрмінізм якіх знаходзіцца ў глыбіні і шматграннасці. Тым болей што высокамастацкі твор належыць не столькі гэтаму свету – зямному, колькі таму, які называецца ў супрацьвагу фізічнаму *мета*фізічным, спалучаючы іх абодвух, з'яўляючыся своеасаблівым парталам для пераходу ў сферу трансцэндэнтнага і назад.

Пры гэтым якраз праз такую недасканаласць мастацкага твора з гледзішча фармальнай логікі яшчэ больш раскрываецца не толькі дыялектычнасць, але і не раўнуючы па-боску харызматычны патэнцыял паэмы Якуба Коласа. Да яго ў поўнай меры можна дастасаваць думку В. Бялінскага (з кантэксту яго захаплення "энцыклапедыяй рускага жыцця"): "Большинство нашей публики еще не стало выше... отвлеченной и односторонней критики, которая признаёт в произведениях искусства только безусловные недостатки или безусловные достоинства и которая не понимает, что условное и относительное составляют форму безусловного"[59]. Сапраўды, часам нават наяўнасць некаторых недахопаў у мастацкім творы якраз падкрэслівае ўзровень яго эстэтыкі і творчай магутнасці ў цэлым.

"...Для паэтычнага твора маленькая шурпатасць большая вартасць і дасягненне, чым тэхнічная дасканаласць. <...> Маленькі агрэх ва ўсім, у тым ліку і ў вершы, заканамерны і натуральны, бо і сам чалавек, як і жыццё ўвогуле, недасканалыя. <...> «Правільнай» паэзіі не бывае, бо гэта нішто іншае, як шаблон, схема, чыстапісанне, тое, што не адбываецца. А тое, што адбываецца, не ўпісваецца ў існуючы распарадак, парушае яго. Аднак усё ў ім і схавана.

Паэзію ні ў якім разе нельга звесці да кангламерату слоў і мастацкіх прыёмаў, бо яна найперш – духоўная з'ява і, страціўшы духоўны пачатак і патэнцыял, *творца* становіцца *вытворцам*. Таму паэзія павінна заўсёды заставацца крыху няправільнай, барочнай, у сэнсе – з невялікім недахопам, бо памкненне да ўзорнасці, нястрымнае і неперадольнае, непазбежна вядзе да схематызацыі, знешняй упарадкаванасці, адкуль просты шлях не да ўяўнай дасканаласці, прывіднай і недасягальнай, а да рэальнай гібелі і знікнення"[60], – заключае Іван Штэйнер.

Таксама збівае з панталыку тое, што да "Новай зямлі" часцей за ўсё праяўляюць пазітывісцкі падыход. Што такое пазітывізм? Агульна кажучы, гэта веды

практычна-фактальагічныя і дакладныя. Можна правесці паралелі з рэалізмам у мастацкай творчасці. Гэты метад найбольш адпавядае пазітывізму. У навуковай гуманітарнай сферы пазітывісцкая метадалогія вядзе да спрашчэнства і абмежавання ім. Тым самым пад корань знішчаюцца базавыя прынцыпы мастацтва. У першую чаргу – магчымасць праз вымоўнае і матэрыяльнае рэпрэзентаваць невымоўнае і метафізічнае. “Новая зямля” пры першым уражанні сапраўды ўспрымаецца творам рэалістычным. Такая рэцэпцыя і становіцца падставай для правакацыі пазітывісцкай аналітыкі. У выніку яе і спараджаецца вызначэнне, якое хутчэй варта назваць формулай, – “энцыклапедыя” (далей па тэксце). Аднак як з’ява мастацкая – тым больш паэма! – “Новая зямля” не толькі мае права, але і заключае ў сваёй іманентнасці насамрэч вобразнасць шырокую і шматслойную. І тут ужо пазітывізм не дапаможа. Таму што нават у рэалістычным пласце паэмы знаходзяцца нечаканыя “шыфроўкі”, вобразныя феномены. Больш таго – такія будуць у квінтэсенцыі таго рэалістычнага пласта – так званай энцыклапедыі (якая, між іншым, нібыта цалкам павінна ўпісвацца ў парадыгму пазітывізму).

Тым болей, што называць мастацкі твор энцыклапедыяй і ўспрымаць яго можна не толькі ў літаральным, але і ў пераносным сэнсе. З такім тэзісам пагаджаюцца літаратуразнаўцы. Хаця спачатку іх увага была засмужана рэалістычным планам “Новай зямлі”, ужо праз некалькі гадоў і ў ім Уладзіслаў Чаржынскі ўбачыў метафізічнасць: “Вышэйпаданыя (у аналітыцы аўтара гэтай цытаты. – *А.Т.*) ацэнкі “Новае зямлі” ўзьніклі ў пляне рэалістычнае інтэрпрэтацыі поэмы. Але яе гэта інтэрпрэтацыя можа быць і ў пляне сымболічным. І тады мы ў рэалістычных вобразах поэмы пабачым сымболь беларускага нацыянальнага адраджэньня, сымболь высока-мастацкі ў сваёй рэалістычнай прастаце. Уласная зямля, да якой імкнуўся Міхал, набывае значэньне сымболю ўласнае айчыны”[61]. Вельмі смелую для свайго часу думку выказаў М. Лазарук: “Вобраз новай зямлі ў паэме – гэта вялікая метафара, сэнс якой раскрываецца поўнасцю толькі ў кантэксце ўсяго нацыянальна-вызваленчага руху беларускага народа”[62]. Яшчэ большую маштабнасць твора ўбачыла сучасная даследчыца Жанна Шаладонава: «“Вялікая метафара” Я. Коласа вырастае ў найшырэйшую “метафарычную тэму” (тэрмін В. М. Жырмунскага), якая ўзнімаецца над побытавай праблематыкай канкрэтных сітуацый, змяшчае небывалыя філасофскія абагульненні, даследуе духоўна-творчы патэнцыял нацыі і індывідуальнай асобы, імкнецца да вобразна-інтуітыўнага выяўлення агульных заканамернасцей напружана-імклівай плыні чалавечага жыцця з яго шматбаковымі, драматычна завостранымі сувязямі і адносінамі»[63]. (У той жа час пераноснасць азначэння мастацкага твора не адмяняе зместу паняцця, якім прадпісваецца абагульненне і сістэматызацыя, дзе не павінна быць прынцыповых лакун, канцэптуальных прабелаў.)

Адносна лірычнага рода літаратуры сфармуляваны наступны прынцып: як можна карацей і як можна паўней[64]. Што мае на ўвазе дасягненне праз наймажлівейшую лаканічнасць максімальнай рэпрэзентабельнасці. Так, пра Гётэ пісалі, што ён як «художник стремится и в капле росы увидеть отражение всего мироздания, в цветке – схватить принцип всего сущего. Он, пристально вглядываясь в единичное, видит в нем образ целого, и он обладает искусством поведать о всем богатстве этого целого, изобразив только частичку. <...> Гётевские строки – лишь символ некой целостной картины, мы сами дорисовываем ее, сами воссоздаем всю мелодию из одной ноты, разворачиваем ее до целостности»[65]. Ці пасуе такая “формула” пярліне беларускага мастацтва слова? Відавочна, так. Менавіта таму, што, коратка кажучы, эпічнасць “Новай зямлі” – лірычная!

Паэма Якуба Коласа “Новая зямля”, як і згаданая паэзія нямецкага класіка, уяўляе адзін з такіх выпадкаў, паказальных і ўзорных. Як і павінна быць, у дачыненні да твора фармальная логіка не працуе. Наша так званая энцыклапедыя, як

і любы іншы “предмет литературоведения... не поддается решениям однозначного характера, не допускает строгого математического доказательства”[66]. На справе дзейнічаюць законы і прынцыпы мастацтва. Яны зусім не супярэчаць усюдыіснай дыялектыцы. У прыватнасці, намі праведзенае асэнсаванне дазваляе вылучыць тры дыялектычныя аспекты сімвалізацыі дадзенага твора праз вызначэнне яго энцыклапедыяй.

Паэма “Новая зямля” фармальна, з рацыянальна-зместавага, рэалістычнага пункту погляду не з’яўляецца паўнавартаснай канцэптуальнай сістэмай адлюстравання сялянскага жыцця на Беларусі пэўнага часу. Яно нават у асноўных сваіх праявах нашмат багацейшае. Аднак прадстаўленыя ў паэме змест і якасць сялянскай рэчаіснасці выступаюць як цэлы кантынуум. Яго паэт стварыў шляхам своеасаблівай якаснай селекцыі эпічных старонак і асабістых настрояў з іх мастацкім выяўленнем.

Аўтар выбраў важныя, але не заўсёды галоўныя моманты беларускага жыцця. Яны ў мінімальным сваім спалучэнні праз перадачу матэрыяльнага свету ствараюць у рэцыпіента адчуванне рэпрэзентатыўнасці па аб’ёме, сістэмнасці па форме і завершанасці па сэнсе. Таму сімвалічнасць “Новай зямлі” як энцыклапедыі заключаецца і ў колькаснасці – як мага сціслейшай, сканцэнтраванай падачы матэрыялу для стварэння панарамы сялянскага жыцця з дапамогай мастацкіх сродкаў.

Калі першыя два пункты сімвалізацыі паэмы “Новая зямля” датычацца яе “энцыклапедычнага” боку, дык трэці рэпрэзентуе – яшчэ болей сімвалічна і для павярхоўнага погляду латэнтна – выхад за рамкі эпічнасці твора ў цэлым з вялікай доляй лірыкі і алегарычна ўвасабляе будучыню, якая хаваецца за фармулёўкай назвы.

Улічваючы сказанае, маем сцвердзіць, што “Новая зямля” Якуба Коласа – гэта не столькі энцыклапедыя, колькі ўражанне энцыклапедыі. Так, тэарэтык літаратуры Аляксандр Пацябня пісаў: “Лирика говорит о будущем и о прошедшем (предмете объективном) лишь настолько, насколько оно волнует, тревожит, радует, привлекает или отталкивает. Из этого вытекают свойства лирического изображения: краткость, недосказанность, сжатость, так называемый лирический беспорядок”[67]. Вонкавыя прыкметы апошняга – лірычнага беспарадку – прысутнічаюць і ў разгляданым творы, што можна прасачыць, напрыклад, у суадносінах паміж элементамі сюжэта, фабулы і кампазіцыі. Між тым, як даводзяць спецыялісты, гэта з’яўляецца выяўленнем інтарэсу мастака да патаемных глыбінь чалавечай свядомасці, да вытокаў перажыванняў, да складаных, чыста лагічна нявызначаных рухаў душы[68]. Такая характарыстыка выдае перавагу лірычнасці над эпічнасцю ў паэме Якуба Коласа. Таксама Аляксандр Фадзееў указваў на «необходимость организовать весь сложившийся, нередко огромный, материал в единое целое. Сталкивается множество фактов, событий, мыслей; есть среди них мысли хорошие и большие. Но для того, чтобы все это зазвучало, помогло прийти к поставленной цели, нужно найти верные пропорции...»[69] (падкрэсленне наша. – *А.Т.*). Што было і зроблена ў выніку беларускім класікам адносна аб’ёму “Новай зямлі”.

Фактычна, Якуб Колас ішоў шляхам, што прадракаўся Антонам Чэхавым, які, дарэчы, вельмі паважаў навуку: «...Я подумал, что чутье художника стоит иногда мозгов ученого, что то и другое имеют одни цели, одну природу, и что, может быть, со временем при совершенстве методов, им суждено слиться вместе в гигантскую чудовищную силу, которую трудно теперь и представить себе...»[70]. Беларускі класік у паэме “Новая зямля” спалучыў і мастацтва (прычым самага высокага палёту), і этнаграфію ў шырокім яе спектры ўключна са штодзённым бытам і побач з ім няпісанай філасофіяй народнага жыцця, што і дало ў выніку падставы прымяніць да твора прыгожага пісьменства навуковае паняцце “энцыклапедыя”, захаваўшы пры гэтым першынство эстэтыкі.

[1] Гл., напрыклад: Тварановіч, Г. Вектары беларусазнаўчых даследаванняў: Традыцыя – Сучаснасць – Узаемасувязі / Галіна Тварановіч. – Białystok : Uniwersytet w Białymstoku, 2016. – С. 296.

[2] Адамовіч, А.М. Беларускі раман : станаўленне жанра / А. М. Адамовіч. – Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1961. – 290 с. С. 33, 49; Адамовіч А. Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы... – С. 76.

[3] Адамовіч, А. М. Беларускі раман : станаўленне жанра / А. М. Адамовіч. – Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1961. – 290 с. С. 33, 49. Гл. таксама: Адамовіч, А. Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы... С. 76.

[4] Адамовіч, А. М. Беларускі раман : станаўленне жанра... – С. 366.

[5] Мазалькоў, Я. Якуб Колас: крытыка-біяграфічны нарыс / Я. Мазалькоў. – Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1953. – С. 60.

[6] Кучар, А. Літаратурна-крытычныя артыкулы / А. Кучар. – Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1953. – С. 150.

[7] Белинский, В. Г. Полное собрание сочинений: В 13 т. / АН СССР, Ин-т рус. лит. (Пушкин. дом); редкол.: Н.Ф. Бельчиков (гл. ред.) и др. – М. : Изд-во АН СССР, 1955. – Т. 7. Статьи и рецензии. 1843. Статьи от Пушкине. 1843-1846 / [текст и коммент. В. С. Спиридонов при участии А. П. Могилянского; ред. Д. Д. Благой]. – С. 503.

[8] На пройдзеным шляху // Калосьсе. – 1936. – №5. – С. 266-267.

[9] Беларуская літаратура: вучэб. дапам. для 9-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / пад рэд. В.П. Рагойшы. – Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2011. – С. 230, 234.

[10] Лойка, А.А. Новая Зямля Якуба Коласа : Вытокі, веліч, хараство / А.А. Лойка . – Мінск : Выд-ва міністэр. выш. сярэд. спец. і прафес.адукацыі БССР, 1961. – С. 96.

[11] Замоцін, І.І. Творы: літаратурна-крытычныя артыкулы / І.І. Замоцін. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1991. – С. 159.

[12] Адамовіч, Г.Я. Энцыклапедыя сялянскага жыцця: шматзначны змест «Новай зямлі» ў інтэрпрэтацыі Івана Навуменкі / Г. Я. Адамовіч // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст : Рэспубліканская навуковая канферэнцыя да 85-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі акадэміка І. Я. Навуменкі (Мінск, 16 лютага 2010 года) / [рэдкалегія: С. С. Лаўшук (навуковы рэдактар) і інш.]. – Мінск, 2010. – С. 77.

[13] Гл. падрабязней: Леонтьев, А. А. Остранение // // Краткая литературная энциклопедия / Гл. ред. А. А. Сурков. – М.: Сов. энцикл., 1962–1978. – Т. 5: Мурари – Припев. – 1968. – С. 489-490.

[14] Паводле: Энциклопедический словарь: [в 86 т.]. – Санкт-Петербург : И. А. Ефрон : Лейпциг, Ф. А. Брокгауз, 1890-1907. – Т. 40А (80): Электровозбудительная сила – Эрготин. – 1904. – С. 879.

[15] Толковый словарь современного русского языка / Д.Н.Ушаков. – Москва : Альта-пресс, 2005. – С. 1194.

[16] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65 000 слоў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Інстытут мовазнаўства ім. Я. Коласа. – Мінск : Беларуская Энцыклапедыя, 2016. – С. 957.

[17] Адамовіч, Г.Я. Энцыклапедыя сялянскага жыцця: шматзначны змест «Новай зямлі» ў інтэрпрэтацыі Івана Навуменкі... – С. 77.

[18] Лойка, А. А. Новая Зямля Якуба Коласа : Вытокі, веліч, хараство... – С. 84.

[19] Замоцін, І. І. Творы: літаратурна-крытычныя артыкулы... – С. 156-157.

[20] Гісторыя сялянства Беларусі. У 3 Т. Том 2. Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. – Мінск: Беларуская навука, 2002. – 552 с.

[21] Тут і далей спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца ў квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі па наступным выданні: Колас, Я. Збор твораў : у 20 т. / Якуб Колас / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. – Мінск: Беларус. навука, 2007–2012.

[22] Стральцоў, М. Выбраныя творы / Міхась Стральцоў. – Мінск : Беларуская навука, 2015. – С. 322

[23] У беларускай мове сучасная сталіца Беларусі Мінск да 1939 г. называлася Менскам. Таму лічым правільным і карэктным у работах па гісторыі да часу перайменавання прымяняць гістарычную назву горада. Гэтаксама робіцца пры называнні, напрыклад, Санкт-Пецярбурга, які ў розныя часы называўся Петраградам і Ленінградам: у работах пра тыя часы гэты расійскі горад называецца толькі так, як ён тады і называўся, і не іначай.

[24] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). – Ф. 937. – Воп. 4. – Спр.

99. – Арк. 20 адв.; Спр. 100. – Арк. 208; Янушкевіч, Я. Зямля волатаў. «Новая Зямля» ў кантэксце нацыянальнай гісторыі / Я. Янушкевіч // Наша вера. – 2002. – №3. – С. 23. Часам кажуць пра прыналежнасць да ўніяцтва – грэка-каталіцызму: Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры / А. Адамовіч. – Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. – С. 382. Але тут указаныя архіўныя крыніцы завяраюць менавіта ў рыма-каталіцызме продкаў класіка.

[25] З жыццяпісу Якуба Коласа: дакументы, матэрыялы / Уклад., уступ артыкул і імян. паказ. Г. В. Кісялёва; Рэд. В. Б. Барысенка, М. І. Мушынскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – С. 19-20; 107.Тумас, Г. Родны бераг песняра / Генадзь Тумас. – Мінск: Полымя, 1982. – С. 16-17, 19-20.

[26] Сыракомля, У. Выбраныя творы / Уладзіслаў Сыракомля; уклад., прадм., камент. К. Цвіркі. – Мінск : Беларуская навука, 2010. – С. 318.

[27] Піятуховіч, М. Творчы шлях Я. Коласа / М. Піятуховіч // Полымя. – 1926. – № 8. – С. 102.

[28] Гл., напрыклад: Конан, У. Эсхаталагічныя матывы ў паэзіі Якуба Коласа / У. Конан // Каласавіны. Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. – Мінск, 2003. – С. 23-28.

[29] Шаладонава, Ж. С. Фарбы быту і быцця ў паэме Я. Коласа «Новая зямля» / Ж Шаладонава. – Мінск: Бел. навука, 2001. – С. 88-89.

[30] Гачев, Г. Содержательность художественных форм. Эпос. Лирика. Театр / Г. Гачев. – М.: Просвещение, 1968. – С. 84.

[31] Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць за гутарку на тэму гэтага аспекту “Новай зямлі” акадэміку Аляксандру Аляксандравічу Лукашанцу, у выніку чаго дадзеная аналітыка ўбагацілася пэўнымі разважаннямі.

[32] Лёсік, Я. Выбраныя творы / Я. Лёсік. – Мінск: Беларуская навука, 2019. – С. 412.

[33] Паводле: Конан, У. Іван Замоцін: на сумежжы дзвюх культур / У. Конан // Творы: літаратурна-крытычныя артыкулы / Склад. Я. М. Гаварушка; Навук. рэд. У. М. Конан. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 14.

[34] Байкоў, М. Новая беларуская літаратура: Якуб Колас. «Новая зямля» / М. Байкоў // Полымя. – 1923. – № 5–6. – С. 113-114.

[35] Піятуховіч, М. Творчы шлях Я. Коласа... – С. 102

[36] Дзяржынскі, Ул. Беларуская літаратурная сучаснасьць / Ул. Дзяржынскі // Полымя. – 1925. – №1. – С. 156.

[37] Растаргуеў, П. А. Творчасьць Якуба Коласа / П. А. Растаргуеў // Літаратурная творчасьць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа). Зборнік артыкулаў. – Масква: [б. в.], 1926. – С. 21.

[38] На пройдзеным шляху // Калосьсе. – 1936. – №5. – С. 267.

[39] Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры / А. Адамовіч. – Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. – С. 396-397.

[40] Пшыркоў, Ю. С. Народная эпапея // Летапісец свайго народа : жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа / Ю. С. Пшыркоў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1982. – С. 177-120. Пшыркоў, Ю. С. Эпас рэвалюцыі : паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», трылогія «На ростанях» / Ю. С. Пшыркоў. – Мінск : Вышэйшая школа, 1975. – С. 64-67. Лазарук, М. А. Беларуская паэма ў другой палавіне XIX–пачатку XX стагоддзя / М.А. Лазарук. – Минск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 1970. – С. 201-202.

[41] Дубавец, С. Паміж нянавісцю і любоўю / С. Дубавец // Дзеяслоў. – 2007. – №1. – С. 256.

[42] Гл., напрыклад: Пшыркоў, Ю. С. Народная эпапея... С. 94–169; Пшыркоў, Ю. С. Эпас рэвалюцыі : паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», трылогія «На ростанях»...; Студзенка, Т. С. Міфатворчы эпас: «Новая зямля» Якуба Коласа і «Рассечаны камень» Баграта Шынкуба / Т. С. Студзенка // Журналістыка-2014: стан, праблемы і перспектывы: матэрыялы 16-й Міжнар. навук.-практ. канф., 4–5 снеж. 2014 г., Мінск / рэдкал. : С.В. Дубовік (адк. рэд.) [і інш.]. – Вып. 16. – Мінск : БДУ, 2014. – С. 254-256; Тычына, М. А. Якуб Колас: нацыянальная класіка ў беларускай і сусветнай літаратуры (Да 135-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа) / М. А. Тычына // Вес. Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. – 2017. – № 3. – С. 103–133 і інш.

[43] Студзенка, Т. Беларускі эпас трэцяга тысячагоддзя... – С. 87.

[44] Гл., напрыклад: Томашевский, Б. В. Пушкин и Франция / Б. В. Томашевский. – Л.: Советский писатель, 1960 – С. 157-161.

[45] Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве / А. Міцкевіч. – Мінск: Беларускі фонд культуры, 1998. – С. 880.

[46] Выказваем шчырую ўдзячнасць за кансультацыю па гэтых пытаннях кандыдату філалагічных навук, паэту і перакладчыку, паланісту св. памяці Сержу Мінскевічу.

[47] Тычына, М. А. Якуб Колас: нацыянальная класіка ў беларускай і сусветнай літаратуры (Да 135-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа)... – С. 103, 105.

[48] Лужанін, М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ / М. Лужанін. – Мінск: Маст. літ., 1982. – С. 125-127.

[49] Лингвистический анализ: Божественная комедия (Данте Алигьери) // CoolLib [Электронный ресурс]. – Режим доступа: https://coollib.com/b/35795/la. – Дата доступа: 13.03.2022.

[50] Выказваем шчырую ўдзячнасць за кансультацыю па гэтым пытанні кандыдату філалагічных навук, знаўцы італьянскай літаратуры Кацярыне Часнаковай.

[51] Адамовіч, Г.Я. Энцыклапедыя сялянскага жыцця: шматзначны змест «Новай зямлі» ў інтэрпрэтацыі Івана Навуменкі / Г. Я. Адамовіч // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст : Рэспубліканская навуковая канферэнцыя да 85-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі акадэміка І. Я. Навуменкі (Мінск, 16 лютага 2010 года) / [рэдкалегія: С. С. Лаўшук (навуковы рэдактар) і інш.]. – Мінск, 2010. – С. 72.

[52] Гегель, Г.В.Ф. Эстетика : в 4 т. / Г.В.Ф. Гегель. – М. : Искусство, 1968–1973. – Т. 3. – 1971. – С. 427.

[53] Арочка, М. Беларуская савецкая паэма / М. Арочка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1979. – С. 59

[54] Гачев, Г. Содержательность художественных форм. Эпос. Лирика. Театр / Г. Гачев. – М.: Просвещение, 1968. – С. 82.

[55] Лосев, А. Ф. Философия имени / А. Ф. Лосев. – Санкт-Петербург : Издательство Олега Абышко, 2016. – С. 50.

[56] Пастернак, Б. Полное собрание сочинений / Борис Пастернак. Т. 1 : Стихотворения и поэмы, 1912—1931 / [составление и комментарии Е. Б. Пастернака, Е. В. Пастернак]. – 2003. – С. 205

[57] Волков, Г. Сова Минервы / Г. Волков. – М.: Молодая гвардия, 1973. – С. 119.

[58] Гегель, Г.В.Ф. Эстетика : в 4 т. / Г.В.Ф. Гегель. – М. : Искусство, 1968–1973. – Т. 1. – 1968. – С. 259.

[59] Белинский, В. Г. Полное собрание сочинений: В 13 т. / АН СССР, Ин-т рус. лит. (Пушкин. дом); редкол.: Н.Ф. Бельчиков (гл. ред.) и др. – М. : Изд-во АН СССР, 1955. – Т. 7. Статьи и рецензии. 1843. Статьи от Пушкине. 1843-1846 / [текст и коммент. В. С. Спиридонов при участии А. П. Могилянского; ред. Д. Д. Благой]. – С. 431.

[60] Штэйнер, І. Ф. Уводзіны ў невымоўнае: філасофія паэзіі Алеся Разанава / І. Ф. Штэйнер. – Мінск: Выдавецкі дом "Звязда", 2013. – С. 31-32.

[61] Чаржынскі, У. В. Выпісы з беларускай літаратуры XIX і XX ст. / У. В. Чаржынскі. – Менск: БДВ, 1929. – Ч. 1. – С. 193.

[62] Лазарук, М. А. Беларуская паэма ў другой палавіне XIX–пачатку XX стагоддзя... – С. 222.

[63] Шаладонава, Ж. С. Фарбы быту і быцця ў паэме Я. Коласа «Новая зямля»... – С. 5.

[64] Сильман, Т. И. Заметки о лирике / Т. И. Сильман. – Л.: «Советский писатель». Ленинградское отделение, 1977. – С. 33.

[65] Волков, Г. Сова Минервы / Г. Волков. – М.: Молодая гвардия, 1973. – С. 182-183.

[66] Бушмин, А. С. Наука о литературе: Проблемы. Суждения. Споры / А. С. Бушмин. – М.: Современник, 1980. – С. 89.

[67] Потебня, А. А. Эстетика и поэтика / А. А. Потебня. – М.: Искусство, 1976. – С. 449.

[68] Введение в литературоведение. Основные понятия и термины: Учеб. пособие / Л. В. Чернец, В. Е. Хализев, С. Н. Бройтман и др. / Под ред. Л. В. Чернец. – М.: Высш. шк.; Издательский центр «Академия», 1999. – С. 136.

[69] Цыт. паводле: Цейтлин, А. Г. Труд писателя: Вопросы психологии творчества, культуры и техники писательского труда / А. Г. Цейтлин. – 2-е изд. – М. : Сов. писатель, 1968. – С. 339.

[70] Чехов, А. П. Письма. Том второй: 1887–сентябрь 1888 / А. П. Чехов. – 2-е издание, стереотиное. – М.: издательство "Наука" Российской академии наук, 2009. – С. 348.

прачытанне

Сяргей Кавалёў



...Мінкін – сапраўды класік,
але, дзякаваць Богу, «жывы»...

# Класік, якога не было...

***Паэзія Алега Мінкіна 80-90-х гг. XX ст.***

*Пераклад артыкула на рускую мову пад назваю "Поэт в «малом» и «большом» времени. Творчество Олега Минкина" апублікаваны ў часопісе "Annales Universitatis Mariae Curie-Skłodowska. Sectio FF" (Vol. XL. 2022/1. S. 115-131).*

Паэт Алег Мінкін займае спецыфічна-парадаксальнае месца ў сучаснай беларускай літаратуры. З аднаго боку, сярод калег-паэтаў ён мае рэпутацыю "жывога класіка", паэта ад Бога, эстэта, прадстаўніка "паэзіі чыстай красы", прадаўжальніка традыцый Максіма Багдановіча і Уладзіміра Жылкі. З другога боку, мы не знойдзем раздзелаў пра паэзію Мінкіна ў школьных і ўніверсітэцкіх падручніках ды і ў шматтомнай акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX ст." яго імя толькі згадваецца ў пераліках сучасных паэтаў, але творчасць не разглядаецца ў асобным раздзеле ў адрозненне ад творчасці куды менш таленавітых аўтараў[1]. Усяго абзац прысвяціў Алегу Мінкіну англійскі славіст Арнольд Макмілін у сваёй манаграфіі "Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён" (2011), якая налічвае каля тысячы старонак і ў якой ёсць персанальныя падраздзелы амаль пра сотню беларускіх пісьменнікаў[2]. Імя Алега Мінкіна згадваецца мімаходзь у некаторых даследаваннях, прысвечаных беларускай літаратуры 80-90-х гг. XX ст.[3],



Алесь АРКУШ, Алег МІНКІН, Вінцэсь МУДРОЎ.
Вільня, 1991 г. Фота Таццяны Козік.

некалькі абзацаў прысвяціў паэзіі і прозе Мінкіна беларускі літаратуразнаўца Алесь Бельскі ў вучэбных дапаможніках "Сучасная беларуская літаратура"[4] (1997) і "Сучасная літаратура Беларусі"[5] (2000). У друку з'яўляліся асобныя рэцэнзіі на зборнікі Мінкіна "Сурма" (1985), "Расколіна" (1991), "Праўдзівая гісторыя краіны Хлудаў" (1994), "Пэнаты" (2007)[6], але дагэтуль няма ніводнага навуковага артыкула пра ягоную творчасць, не напісана пакуль манаграфіі пра выдатнага беларускага пісьменніка, якому ў 2022 годзе споўнілася семдзесят гадоў.

Паэт і філосаф Ігар Бабкоў, рэдактар выдавецкай серыі "Галерэя Б." у анатацыі да кнігі выбраных твораў Алега Мінкіна "Пэнаты" (2007) зазначыў: "Бальшыня вершаў Алега Мінкіна напісаная так даўна, што ўсе ўжо забыліся навошта і хто іх напісаў. Сам Мінкін часам сцвярджае, што пісала "Сама Мова". Як бы там ні было, але ўсё напісанае сталася клясыкай беларускай паэзіі ХХ стагоддзя"[7]. Крытык і літаратуразнаўца Ганна Кісліцына ў адной з радыёперадач аспрэчыла званне класіка ў дачыненні да аўтара "Пэнатаў", заявіўшы, што ёсць шмат людзей, якія ніколі не чулі імя Алега Мінкіна[8]. Паэт і літаратурны крытык Леанід Галубовіч, працытаваўшы ў рэцэнзіі на зборнік "Пэнаты" з'едлівае выказванне Кісліцынай, адзначае, што, сапраўды, Мінкін піша і друкуецца мала і малады чытач можа ягоныя творы не ведаць, але тым не менш пацвярджае: "Мінкін – сапраўды **класік**, але, дзякаваць Богу, «жывы», а значыць недаастатку спраўджаны"[9].

Літаратурны крытык, празаік, выдавец Сяргей Дубавец у кнізе-эсэ "Вершы" (2007), прысвечанай беларускай паэзіі 80-х гг. ХХ – пачатку ХХІ ст., з усіх сучасных паэтаў найчасцей цытуе вершы Алега Мінкіна, хоць і не аналізуе ніводнага з працытаваных твораў[10]. Напрыканцы кнігі аўтар тлумачыць чытачу свой выбар вершаў:

"Ня ставіў я на мэце ахапіць чым большае кола паэтаў. Шмат каго не згадаў не таму, што недаацэньваю іхнюю творчасьць, а таму, што казаў пра найбольш блізкія і зразумелыя *мне асабіста* творы" (курсіў мой – *С.К.*)[11].

І, нарэшце, працытуем выказванне пра паэзію Алега Мінкіна Ігара Бабкова з кнігі "Вытлумачэньні ру[і]наў" (2005):

"Паэзія Алега Мінкіна напоўніцу адбылася, калі Каралеўства Беларусь у выніку пэўнага перанасычэньня прасторы матэрыялізавалася са сваёй маўклівай посткаланіяльнай рэальнасьці руінаў у а-рэальнасьць тэкстаў.

Мінкін даў гэтаму Каралеўству некалькі метафараў, якія аказаліся істотнымі"[12].

Такім чынам, хоць імя і творы Алега Мінкіна невядомыя многім сучасным чытачам (што адзначыла Ганна Кісліцына), але паэт карыстаецца вялікім аўтарытэтам у асяроддзі беларускіх творцаў і інтэлектуалістаў (Леанід Галубовіч, Сяргей Дубавец, Ігар Бабкоў і інш.), а ягоныя творы, бясспрэчна, паўплывалі на развіццё беларускай літаратуры. У гэтым сэнсе, унікальнае месца Алега Мінкіна ў сучаснай беларускай літаратуры можна параўнаць з месцам Інакенція Аненскага ў рускай літаратуры канца ХІХ - пачатку ХХ ст.: амаль невядомы шырокай публіцы, якая захаплялася вершамі Сямёна Надсона і Ігара Севераніна, аўтар "Тихих песен" (1904) і "Кипарисового ларца" (1910) аказаў вялікі ўплыў на паэзію Сярэбранага веку: на Ганну Ахматаву, Восіпа Мандэльштама, Барыса Пастарнака і іншых вядомых паэтаў.

Цікава, што Інакенцій Аненскі выдаў свой зборнік “Тихие песни” пад псеўданімам “Ник. Т-о”, які можна прачытаць як слова “Никто”. Назва зборніка выбраных твораў Алега Мінкіна “Мяне тут не было” (2018), за які паэт атрымаў літаратурную прэмію імя Міхася Стральцова, таксама гучыць сімптаматычна і адлюстроўвае спецыфічна-парадаксальнае месца аўтара ў беларускай літаратуры. Паэт прысутнічае ў беларускай літаратуры вось ужо сорак гадоў – ад пачатку 80-х гг. XX ст., але ў той жа час нібыта адсутнічае: фізічна (жыве за межамі Беларусі: нейкі час у Расіі, цяпер у Літве), творча (толькі перавыдае свае творы, напісаныя ў 80-х гг. XX ст, а нешматлікія новыя тэксты змяшчае напрыканцы зборнікаў і яны губляюцца сярод ранейшых тэкстаў; альбо хаваецца за маскамі-псеўданімамі: Хведар Ніцка, Кукубака), як аб’ект даследавання (няма пакуль артыкулаў і манаграфій пра творчасць Мінкіна).

Ёсць у Алега Мінкіна верш “Хата”, лірычны герой якога трапляе аднойчы ў закінутую хату і пасля штораніцы прачынаецца ў гэтай самай хаце, дзе б ні знаходзіўся[13]. Падобнае адчуванне – зацыкленасці і нават нерухомасці часу – ўзнікае ў чытача, які бярэ ў рукі чатыры зборнікі паэта: ён увесь час апынаецца ў “Сурме”, першым зборніку паэта. У “Расколіне” змешчаны вершы, якія з прычынаў цэнзуры не былі апублікаваныя ў “Сурме”, і нават ёсць асобны раздзел “Водгулле сурмы”. У зборніках “Пэнаты” і “Мяне тут не было... ” перадрукаваныя амаль усе вершы з “Сурмы”. У выбраных зборніках паэт аб’ядноўвае старыя і новыя вершы ў цыклы: “Вяснянкі”, “Клясыка”, “Гарады”, “Эцюды”, “Літаратурныя фрагменты”, “Пахмелле”, “Пырскі на твары” і інш. Як андэрсенаўскі герой Кай (а таксама і мінкінаўскі, з аднайменнай нізкі “Кай”) імкнуўся з мноства ільдзінак скласці слова “вечнасць”, так і паэт з трох соцен сваіх вершаў імкнецца скласці гэтае слова (альбо іншае, напрыклад: “Радзіма”).

У рэцэнзіі на зборнік “Пэнаты” Леанід Галубовіч выказаў меркаванне, што “вершы і кнігі А. Мінкіна абсалютна натуральна пачуваліся б і іх без змусу ўспрымалі б у багдановічаўскім часе”[14] (г. зн. у пачатку XX ст., у часах “Нашай нівы” і станаўлення беларускай літаратуры), бо “большасць твораў Мінкіна не патрапляе ў рытм сённяшняга часу”[15]. Потым, згадаўшы колішняе прызнанне самога Алега Мінкіна, што ягоная творчасць не прывязана да геаграфіі і да часу, выказаў яшчэ больш парадаксальную думку пра бязчаснае, пазачаснае гучанне вершаў паэта:

“Мінкін, здавалася б, працуе ў бясчассі. Старыя хаты, сутарэнні, павучынне, маркота, скрушаны розум – усё гэта нібыта знакі пачатку XX стагоддзя, а не яго канца, але за выняткам нейкіх нязначных алюзій, туманных сімвалаў, вобразных абрысаў дзіўным чынам, дзякуючы версіфікацыйнаму майстэрству і паэтычнаму чараўніцтву, наводзяцца масты і з нашым часам. Таму пазачаснае гучанне яго вершаў – як рэха (адбітак сапраўднага далёкага голаса – ці то з мінулага, ці то з будучага) укладваецца ва ўсякі час, а значыць, і ў бяздонную сферу самой вечнасці...”[16]

Знаёмства з творчасцю Алега Мінкіна, уважлівае прачытанне ягоных вершаў з арыгінальных зборнікаў “Сурма” (1985) і “Расколіна” (1991) пераконваюць нас у тым, што выснова Галубовіча – выдатнага паэта і ўдумлівага крытыка – тым разам памылковая, як не зусім слушнае ўяўленне самога Мінкіна, нібыта ягоныя вершы не прывязаныя да геаграфіі і да часу. Насамрэч, трэба гаварыць не пра бясчаснасць і пазачаснасць творчасці Алега Мінкіна, а пра шматчаснасць ягоных твораў, пра паралельную прысутнасць паэта ў розных сістэмах часавых каардынат, у “малым” і “вялікім” часе.

Паняцці “малога” і “вялікага” часу ўвёў у навуковы дыскурс расійскі літаратуразнаўца і філосаф Міхаіл Бахцін (упершыню гэтыя ідэі агучаны ім у 1970 г. у адказе на пытанні рэдакцыі часопіса “Новый мир”)[17]. Разумеючы пад “малым часам” час жыцця аўтара і напісання твора (“час цяпер”, сучаснасць аўтара), Бахцін акцэнтаваў увагу на катэгорыі “вялікага часу”, у якім літаратурныя творы жывуць на працягу стагоддзяў і набываюць у кожную новую эпоху новае значэнне:

“Пытаясь понять и объяснить произведение только из условий его эпохи, только из условий ближайшего времени, мы никогда не проникнем в его смысловые глубины. <...> Произведения разбивают грани своего времени, живут в веках, то есть в б о л ь ш о м времени, при том часто (а великие произведения – всегда) более интенсивной и полной жизнью, чем в своей современности. <...> В процессе своей посмертной жизни они обогащаются новыми значениями, новыми смыслами; эти произведения как бы перерастают то, чем они были в эпоху своего создания”[18].

Традыцыйна пад літаратурнымі творамі, якія жывуць у “вялікім часе”, разумеюцца “вялікія творы”, сусветная класіка, творы Гамэра, Шэкспіра, Дастаеўскага і г.д. (менавіта творы Шэкспіра і Дастаеўскага Бахцін прыводзіў у якасці прыкладаў). Але, па-першае, прэтэнзіі на існаванне ў “вялікім часе” маюць усе творы, і мы, іх сучаснікі, не ведаем, наколькі гэтыя прэтэнзіі спраўдзяцца. А па-другое, у сучасных творах прысутнічаюць – больш ці менш заўважна – водгукі “вялікага часу” ў выглядзе літаратурнай традыцыі, топасаў, наследаванняў, цытат і алюзій з твораў папярэднікаў; сучасныя творы знаходзяцца ў стане актыўнага культурнага дыялогу з творамі мінулых стагоддзяў, і сучасны пісьменнік з’яўляецца такім жа інтэрпрэтатарам і адкрывальнікам іх патэнцыяльных сэнсаў, як і сучасны літаратуразнаўца.

“Чужая культура только в глазах д р у г о й культуры раскрывает себя полнее и глубже (но не во всей полноте, потому что придут и другие культуры, которые увидят и поймут еще больше). Одни смыслы раскрывают свои глубины, встретившись и соприкоснувшись с другими, чужими смыслами: между ними начинается как бы д и а л о г, который преодолевает замкнутость и односторонность этих смыслов. Мы ставим чужой культуре новые вопросы, каких она сама себе не ставила, мы ищем в ней ответы на эти наши вопросы, и чужая культура отвечает нам, открывая перед нами свои стороны, говые смысловые глубины”[19].

У паэзіі Алега Мінкіна традыцыі сусветнай літаратуры, актыўны дыялог з творамі італьянца Дантэ, амерыканца Эдгара По, беларуса Максіма Багдановіча, інтэртэкстуальныя сувязі са шматлікімі творамі нацыянальнай і сусветнай літаратуры асабліва заўважныя ў параўнанні з творчасцю большасці беларускіх пісьменнікаў, засяроджаных выключна на нацыянальных ці сацыяльных праблемах (гаворка не пра эрудыцыю, не пра жангліраванне імёнамі, цытатамі, алюзіямі, а пра плённае выкарыстанне традыцыі і актуалізацыю ранейшых сэнсаў у новай гістарычнай і эстэтычнай рэчаіснасці). Вось чаму пры першасным прачытанні твораў Мінкіна складваецца ўражанне пра яго прысутнасць думкамі і пачуццямі выключна ў “вялікім часе”, пра пагарду паэта да “малога часу”, пра адсутнасць біяграфічнага і гістарычнага кантэксту ў яго творах, пра бясчаснасць, пазачасавасць, чужачаснасць ягоных твораў.

Уважлівае прачытанне твораў Алег Мінкіна ў біяграфічным, гістарычным і культурным кантэксце пераконвае, аднак, у тым, што паэт аднолькава заўважна прысутнічае як у “вялікім”, так і ў “малым” часе, калі пад першым разумець плённае наследаванне традыцыі, а пад другім – сугучнасць твораў думкам і перажыванням свайго пакалення, стварэнне знакавых тэкстаў і метафар.

Беларускія вершы Алега Мінкіна пачалі з’яўляцца на старонках афіцыйнага друку на пачатку 80-х гг. (у 70-я гг. ён пісаў вершы на рускай мове), акрамя таго, некаторыя яго творы распаўсюджваліся ў рукапісах у асяроддзі маладых літаратараў і нацыянальна-свядомай моладзі (напрыклад, нізка вершаў “Наследаванні Дантэ”, паэма-апокрыф “Апошняе казанне Белабога”, аповесць “Краіна хлудаў”). Нарадзіўся Мінкін у 1952 г. у вёсцы Чарняўка на Магілёўшчыне, скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў сельскагаспадарчай вытворчасці, пасля доўгіх блуканняў па Расіі і Беларусі асеў у Брэсце, дзе пражыў дзесяць гадоў да пераезду ў Вільню ў 1991 г.

Свой першы зборнік “Сурма” паэт выдаў у 1985 г. ва ўзросце трыццаці трох гадоў. З вышыні сённяшняга часу (малога адрэзку “вялікага часу”) можна сцвяр-

джаць, што “Сурма” стала адным з найважнейшых здабыткаў беларускай паэзіі 80-х гг. XX ст. побач з такімі кнігамі, як “Шлях-360” (1981) Алеся Разанава і “Пан Лес” (1989) Анатоля Сыса.

Трэба памятаць, што зборнік выдаваўся ў дзяржаўным выдавецтве “Мастацкая літаратура” пад пільным наглядам цэнзуры – Галоўнага літаратурнага аддзела ЦК КПБ. І хаця рэдактарам кнігі быў таленавіты паэт Леанід Дранько-Майсюк, нядаўні выпускнік Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, а дырэктарам выдавецтва – інтэлігентны і эрудыраваны перакладчык і пісьменнік Міхась Дубянецкі, “Сурма” выйшла ў моцна дэфармаваным выглядзе. Па-першае, некаторыя важныя для аўтара вершы не ўвайшлі ў зборнік (напрыклад, прарочы верш “Я сніў, што дождж зацяты перасціх... ” альбо верш “Свінні” з нізкі “Наследаванні Дантэ). Па-другое, каб атрымаць дазвол Галоўліта на выданне зборніка, аўтару па парадзе рэдактара давялося кардынальна змяніць кампазіцыю кнігі, што заўважна нават няўзброеным вокам. Па выдавецкай традыцыі ў СССР паэтычны зборнік павінен быў пачынацца ідэалагічна-заангажаваным вершам, так званым “паравозам”, які пацягне за сабой увесь цягнік. Гэта мог быць верш пра Леніна, Камуністычную партыю, Кастрычніцкую рэвалюцыю, Вялікую Айчынную вайну (у крайнім выпадку – пра Радзіму і пра маці). У рукапісе зборніка Алега Мінкіна “Сурма” ніводная з пералічаных вышэй тэмаў не была прадстаўлена, таму на першую старонку былі вынесены пейзажныя вершы “Кастрычнік” і “Май” з каляндарнай нізкі “Месяц за месяцам”, каб выклікаць асацыяцыі з Кастрычніцкай рэвалюцыяй і святам працы Першага мая. Праграмныя нацыянал-адраджэнскія вершы “Сурма”, “Дуда”, “У Полацку” былі “схаваныя” ў сярэдзіне кнігі, а нізка “Наследаванні Дантэ” – напрыканцы.

Чытача зборніка ўражвала выкшталцоная беларуская мова паэта (многія словы, знойдзеныя Мінкіным у слоўніках Насовіча, Ластоўскага, Станкевіча, сустракаліся толькі ў ягоных творах і адтуль ужо запазычваліся іншымі маладымі пісьменнікамі), эрудыцыя і мастацкі густ аўтара, гарманічнае суіснаванне-перапляценне нацыянальных і сусветных традыцый, класічная форма і мілагучнасць верша. Назва зборніка ўпісвалася ў беларускую традыцыю называць паэтычныя кнігі назвамі музычных інструментаў (“Дудка беларуская” (1891) і “Смык беларускі” (1894) Францішка Багушэвіча, “Скрыпка беларуская” (1906) Цёткі, “Жалейка” (1908) Янкі Купалы і інш.), але змест і стылістыка вершаў выразна адсылалі да паэзіі Максіма Багдановіча, аўтара “Вянка” (1913) – лепшага паэтычнага зборніка ў гісторыі беларускай літаратуры. Мінкінаўская нізка “Наследаванне народнаму” перагукалася з багдановічаўскай нізкай “У зачараваным царстве”, партыятычны верш “У Полацку” – са славутай багдановічаўскай “Пагоняй”, верш “Дык бывай... ” – з вершам “Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...” Але не толькі ў інтэртэкстуальных сувязях вершаў выўлялася ў паэзіі Алега Мінкіна пераемнасць з традыцыяй Максіма Багдановіча.

У рэцэнзіі на “Сурму” аўтар гэтага артыкула, на той час малады, дваццацігадовы крытык, адзначаў:

“Невыпадкова, што ў кнізе Алега Мінкіна багдановічаўская традыцыя знайшла сваё найбольш поўнае ўвасабленне і, што галоўнае, творчае развіццё, імкненне да працягу: выявілася блізкасць у спектры ўспрымання, прынцыпах выяўлення, схільнасць сумяшчаць класічнасць і эксперымент, высокая культура творчасці (разуменне народнага, нацыянальнага, спрадвечнага ў Алега Мінкіна ўжо склалася пад уздзеяннем эстэтыкі Багдановіча)[20].”

Як і Максім Багдановіч, Алег Мінкін захапляўся “Боскай камедыяй” Дантэ (пазней нават пераклаў некалькі першых раздзелаў паэмы на беларускую мову). Нізка “Наследаванні Дантэ” належыць да ліку найлепшых вершаў “Сурмы”. Выкарыстоўваючы структуру і ўзнавіўшы гнятлівую атмасферу дантаўскага пекла, Алег Мінкін змясціў у яго чатырох колах (з дзевяці апісаных Дантэ) шматлікіх здраднікаў Радзімы: тых, хто забыўся родную мову і пра свае карані (“Матылі”);

тых, хто пакінуў родны край і за грошы працаваў на чужую культуру ("Вечны вырай"); тых, хто ведаў пра гаротны лёс Радзімы, але баязліва адсіжваўся ў норах ("Святыя"); і ўрэшце тых, хто адкрыта перайшоў на бок ворага і здзекваўся з зававанай Радзімы ("Пацукі"). У тлумах насельнікаў дантаўска-мінкінаўскага пекла няцяжка было пазнаць сучаснікаў паэта – зрусіфікаваных і саветызаваных беларусаў, якія забыліся родную мову і культуру, рабілі паспяховую кар'еру ў Беларусі ці Расіі, выслужваліся перад маскоўскім начальствам і цкавалі сваіх суайчыннікаў, якія спрабавалі бараніць Радзіму. Асабліва шматлікім быў тлум людзей-матылёў:

Я сунуўся ў гнятлівай цішыні
Між прахлых дрэў і чуў сваё дыханне,
І ў цемрадзі глухой згубіў дазвання
Уяву часу, руху, глыбіні.

І раптам даляцела да мяне,
Здалёк, нябачных крылаў трапятанне.
Сумеўшыся, пачуў я шэпт літанняў,
Што ў шолаху то нікнуў, то мацнеў.

"Жыцця! Жыцця!" – ледзь чутна хор маліў.
І ён сказаў: "Ты чуеш галашэнне
Прыніжаных, аблудных пакаленняў,
Што адышлі, не жыўшы на зямлі.

Бо іх яшчэ ў калысцы аднялі
Ад малака гаючага Радзімы:
Без памяці, без мовы – днём адзіным –
Жылі пад сонцам людзі-матылі!"

*("Матылі")*[21].

На жаль, з цэнзурных прычынаў у зборніку не быў апублікаваны яшчэ адзін верш нізкі: "Свінні", пад якімі меліся на ўвазе тыя беларускія пісьменнікі, што дзеля ганарараў і дабрабыту ("карыта") прадаліся ўладзе і пісалі хлусню ў сваіх творах, не пераймаючыся гаротным лёсам роднай мовы і Бацькаўшчыны. Верш гэты хадзіў па руках у асяроддзі беларускай свядомай моладзі, сябры суполкі "Тутэйшыя" пагардліва называлі старэйшых калег "прыкарытнымі", а ў 1991 г., калі выдавецкая цэнзура аслабла, Алег Мінкін апублікаваў верш у зборніку "Расколіна" ў нізцы "Партрэты"[22].

Нізка "Наследаванні Дантэ" заканчваецца вершам "Пацукі", у якім з'яўляюцца таямнічыя вершнікі з Пагоняй на шчытах і разганяюць статак пацукоў, помсцячы за здзек з Радзімы (у "Сурме" Пагоня надрукаваная з малой літары, у пазнейшых перавыданнях гэтага верша – з вялікай). Вобраз вершніка з герба Вялікага Княства Літоўскага Пагоня (і з аднайменнага верша Максіма Багдановіча "Пагоня") з'яўляецца таксама ў містычна-патрыятычным вершы "У Полацку". Але самым патрыятычным, праграмным вершам зборніка з'яўляецца аднайменны верш "Сурма", які паводле аўтарскай задумы павінен быў адкрываць кнігу, але па парадзе рэдактара быў "схаваны" ад прыдзірлівага вока цэнзара ў сярэдзіну:

Над дахамі, над скачанелым голлем,
Як попел, узняліся крумкачы,
Злавесна засланілі далячынь,
Дзе вецер раздзімаў зары вуголле.
І крумкалі ўтрапёна... І міжволі
Я за нашэсцем жудасным сачыў:
То быў мне напамін, што не ўцячы
Ад роспачы нікому і ніколі.

Гэй, гнюсы! Паняверкі чорнай світа!
Прарочыце вы крыкам хіжым, тлумным
Засілле вечнай сцюжы і зімы,
Ды праз ваш гвалт мне чуцен звон забыты
Званоў Сафіі і прызыўна-сумны,
Працяглы спеў абуджанай сурмы![23]

*(“Сурма”)*[24]

Тэма Радзімы, яе нацыянальнага і духоўнага адраджэння, была галоўнай, але не адзінай тэмай зборніка Алега Мінкіна “Сурма”. Ужо ў першым зборніку выявілася схільнасць паэта да стварэння цыклаў вершаў, многія з якіх былі распачатыя ў “Сурме”, а канчаткова аформіліся ў зборніках выбраных твораў “Пэнаты” і “Мяне тут не было...” (нізкі “Наследаванне народнаму”, “Месяц за месяцам”, “Вяснянкі”, “Класіка”, “Гарады”, “Пырскі на твары” і інш.) Не бракавала вядомых у еўрапейскай літаратуры з антычных часоў топасаў пра хуткаплыннасць часу, нетрываласць кахання, марнасць жыцця, непазбежнасць смерці, асалоду самоты, але гэтыя матывы ў першым зборніку Алега Мінкіна знаходзіліся на другім плане, не выяўляліся так выразна, як у яго пазнейшых творах. Цікавым прыкладам мастацкага эксперыменту з часам стаў сюжэтны верш-верлібр “Вяртанне”, у якім апісаная фантастычная сітуацыя развітання-сустрэчы з каханай у адваротным парадку, калі стрэлкі гадзінніка спыніліся і пасунуліся назад.

Увогуле, тэма кахання выяўлена ў зборніку “Сурма” ў адметнай, вытанчана-дыхтоўнай манеры, як, напрыклад, у вершы “Нясвіжскія партрэты”, дзе мастацтва гарманічна пераплятаецца з жыццём, гісторыя – з сённяшнім днём:

Па зале халоднай з блішчастым паркетам
Іду я скрозь шыхт старасвецкіх партрэтаў,
Паміж срэбратканых каптанаў, сукенак
І твараў уладных паноў і паненак.
Дзіўлюся на пыху ў паставах васковых,
На жорсткія вусны, на тонкія бровы.

Святло на эфесах і спражках мігціцца,
На поўсці сабак паляўнічых ільсніцца,
На пацерках, на ланцужках, на маністах
І на завушніцах зіхціць прамяніста...
Здавалася, гэтыя людзі ніколі
Не ведалі палкіх жаданняў і болю.

І раптам уразіў загадкавы позірк
Жанчыны ў манерна-абражанай позе,
І доўга глядзеў я ў здзіўленні маўклівым
У бездань вачэй прыцягальных і кплівых,
І губы... знаёмыя прагныя губы –
Такія ж мяне сцалавалі да згубы!

*(“Нясвіжскія партрэты”)*[25]

На фоне тагачаснай беларускай савецкай паэзіі “Сурма” выглядала тэматычным і мастацкім выбрыкам, апафеозам апалітычнасці і асацыяльнасці, эстэцкім вычварэннем. Дастаткова параўнаць змест першага зборніка Алега Мінкіна са зместам зборніка ягонага равесніка Міколы Мятліцкага “Мой дзень зямны”, які пабачыў свет у тым самым 1985-м годзе ў тым самым выдавецтве “Мастацкая літаратура”. Пералічым назвы некаторых вершаў са зборніка Мятліцкага: “Перамога”, “Маёй зямлі нядрэмныя трывогі”, “Маё пакаленне”, “Раённай газеце «Ленінскі сцяг»”, “...Вайны сусветнай ці астыла хата?”, “...Параніў сэрца боль чылійскіх хат...”, “Чытаю «Праўду»”, “У музеі Вялікай Айчыннай”, “Талісман Нікарагуа”, “Палігон (Дзённік

салдацкай трывогі)", "Прысвячэнне Радзіме", "Матчына хата", "Наш хлеб", "Плошча Перамогі", "Унукі рэвалюцыі", "Парк Гастэла ў далёкім Кызыле..." і г.д[26].

У тагачаснай беларускай масавай паэзіі панавала зусім іншая вобразнасць, рытміка, стылістыка, чым у неакласічных, вытанчана-філігранных вершах Мінкіна, зусім іншае было ў большасці паэтаў адчуванне сучаснасці, разуменне задач і сэнсу літаратуры:

Параніў сэрца боль чылійскіх хат,
Стань, верш, ключом ад турмаў Пiначэта!
Я гнеўна чую: ў сэрца нібы кат,
Сярод начы ўціскаецца планета. <...>

*("Параніў сэрца боль чылійскіх хат...")*[27]

З пункту гледжання савецкага чытача, літаратуразнаўцы-канфарміста (рэцэнзентам кнігі "Мой дзень зямны" быў доктар філалагічных навук Уладзімір Гніламёдаў) і партыйнага начальства зборнік Міколы Мятліцкага, складзены з вершаў пра Леніна, Кастрычніцкую рэвалюцыю, Вялікую Айчынную вайну, пра барацьбу за мір і хараство роднага краю, выглядаў вельмі актуальным і сугучным свайму часу (у 1986 г. быў адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі). Але ўсе гэтыя кан'юнктурна-заангажаваныя тэксты засталіся ў сваім "малым часе" як прыклад эстэтыкі позняга сацрэалізму[28], састарэлі ўжо ў наступным дзесяцігоддзі, а лепшыя вершы са зборніка Алега Мінкіна "Сурма" перавыдаюцца ў зборніках выбраных твораў паэта і ў калектыўных анталогіях, прыадчыніўшы дзверы ў "вялікі час".

Так сталася, што і ў сістэме каардынатаў "малого времени" "Сурма" аказалася больш актуальнаю, чым кан'юнктурны зборнік Міколы Мятліцкага і дзясяткі падобных зборнікаў іншых беларускіх савецкіх паэтаў, якія ўслаўлялі ўжо адыходзячую эпоху. У красавіку 1985 г. новы Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў абвясціў пачатак палітыкі перабудовы, дэмакратызацыі і галоснасці; услед за гэтым у Беларусі, які і ў іншых рэспубліках СССР, пачаліся працэсы нацыянальнага адраджэння. У Мінску, Віцебску, Гародні, Гомелі, Полацку ўтварыліся нефармальныя маладзёжныя суполкі і арганізацыі ("Талака", "Пагоня", "Ратуша" і інш.), а ў снежні 1986 г. адбылося першае паседжанне Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя", у шэрагі якога ўступіў і Алег Мінкін. Перыяд 1985-1991 гг. аказаўся вельмі важным для паэта, ягонай Радзімы і ўсяго свету: распалася "імперыя хлусні" СССР, Беларусь набыла ў 1991 г. незалежнасць, а Алег Мінкін выдаў у тым самым 1991 г. свой другі зборнік: "Расколіна".

Як ні дзіўна, напісаная ў эпоху гарбачоўскай перабудовы "Расколіна" больш тужлівая і мінорная па настроі, чым напісаная ў брэжнеўскую застойную эпоху "Сурма". Магчыма спрычыніліся да гэтага нейкія біяграфічныя чыннікі, нам нязнаныя (паэт набліжаўся да небяспечнага саракагадовага ўзросту); магчыма, рамантычныя ўяўленні аўтара "Сурмы" пра шлях краіны да свабоды і незалежнасці адрозніваліся ад палітычных і эканамічных рэаліяў пераходнага перыяду ў Беларусі; а, магчыма, новы вобраз паэта і новыя настроі былі вынікам мастацкай эвалюцыі Мінкіна, наступствам ягоных бясконцых вандровак у кніжным свеце, у "вялікім часе". Калі першы зборнік Алега Мінкіна напісаны пад уплывам паэзіі Максіма Багдановіча, другі зборнік – пад прыкметным уплывам Уладзіміра Жылкі – паэта, які працягваў багдановічаўскія традыцыі "паэзіі чыстай красы", але меў больш трагічнае, хваравіта-балючае ўспрыманне свету. З сусветнай класікі на аўтара "Расколіны" найбольшы ўплыў аказаў Эдгар По з ягонай неўралгічнай схільнасцю да містыкі і фаталізму (невыпадкова ў зборніку сярод арыгінальных вершаў Мінкіна змешчаны пераклад "Крумкача").

У эпіграфе да кнігі аўтар папярэджваў чытача: "Non sum qualis eram" ("Я не той, які быў раней"[29]). Калі лічыць праграмнымі вершамі тыя, што далі назвы

зборнікам: “Сурма” і “Расколіна”, і параўнаць іх – розніца паміж двума зборнікамі будзе відавочная. Гарачая вера ў нацыянальнае і духоўнае адраджэнне краіны, імкненне абудзіць беларусаў паэтычным словам ад пракаветнага сну змянілася горкай самарэфлексіяй, грамадскім скептыцызмам, усведамленнем супярэчлівасці і дваіснасці чалавечай істоты:

<...>
І вось жа настала хвіліна,
Што гэтулькі снілася нам,
І свет раскалоўся, як шкліна,
Не змогшы брыды, напалам:

Направа – сябры-аднадумцы
Да зор неспазнаных ляцяць,
Налева – паскудныя людцы
У курчы смяротным хрыпяць.

Ды вось жа якая прыгода –
Так глыбака ўелася мгла...
Расколіна тая не воддаль,
А ў сэрцы маім пралягла.

*(“Расколіна”)*[30]

Расколіна ў душы, раздвоенасць, духоўны надлом адчуваюцца ў вершах самай рознай тэматыкі, нават у інтымнай лірыцы. У выдатным з мастацкага пункту гледжання вершы “Прэлюдыя” лірычны герой спрабуе зрабіць выбар паміж дзвюма жанчынамі: прыгожай жанчынай-распусніцай і цнатлівай жанчынай-анёлкам. Калі цела насыціцца пешчамі першай з іх, душа з надзеяй на выратаванне цягнецца да другой і ўзыходзіць услед за жанчынай-анёлкам па лесвіцы да неба, але на апошняй прыступцы ва ўяўленні героя ўзнікае вобраз спакуслівай прыгажні, і ён зноў абрынаецца ў бездань. Магчыма, у “малым часе”, у біяграфіі паэта кожная з дзвюх жанчын мела свой рэальны праВобраз, але ў “вялікім часе”, у літаратурнай традыцыі вобразы гэтых жанчын відавочна ўзыходзяць да дантаўскай Беатрычэ (святы анёлак, які паказвае паэту шлях да збавення) і петраркаўскай Лауры (Медуза-Гаргона, ад погляда якой паэт камянее і не можа зрабіць ані кроку на шляху да выратавання).

Аўтар “Расколіны” “раздзерты” паміж сваім часам, у якім адбываюцца біяграфічныя і гістарычныя падзеі, і паміж “вялікім часам”, з яго пракаветнымі, анталагічнымі праблемамі быцця. Як некалі заўважыў расійскі пісьменнік Яўгені Замяцін: “Есть два способа преодолеть трагедию жизни: религия или ирония”[31]. Алегу Мінкіну бліжэй іранічны погляд на свет, нават у дачыненні да самых трагічных рэчаў, такіх як Чарнобыльская катастрофа:

Даўней хвароб было нямала
бо свет наш быў недасканалы
а зараз толькі дзве хваробы:
жах існавання і Чарнобыль.

*(“Даўней хвароб было нямала...”)*[32]

Цікава, што заўважная перамена адбылася на пераломе 80-90х гг. XX ст. яшчэ з адным таленавітым беларускім паэтам – Анатолем Сысом, які адышоў ад нацыянальна-патрыятычнай тэмы, што прынесла яму славу, занурыўся ў “бремя страстей человечих” і змяніў імідж прарока на маску блазна і лёс юродзівага. Метамарфозы Алега Мінкіна былі не такія кардынальныя і трагічныя, як у Сыса, ад “жаху існавання” ратавала іронія, стаіцызм, прыроджаная інтэлігентнасць і любоў да літаратуры. Якімі б ні былі прыватныя, біяграфічныя прычыны метамарфозаў двух выдатных

беларускіх паэтаў, напэўна, на абодвух з іх паўплывала расчараванне рэальным поступам беларускага нацыянальнага адраджэння, калі эпоха паэтаў змянілася эпохай палітыкаў.

Адным са знакавых твораў зборніка "Расколіна" з'яўляецца верш "Хата", лірычны герой якога заначаваў выпадкова ў старой, закінутай хаце і ўжо не мог з яе выбрацца, бо куды б ні сыходзіў, кожную раніцу прачынаўся ў гэтым загадкавым месцы. На гэтую ж тэму напісана апавяданне Мінкіна "Стары дом" (1991), дзе аўтар тлумачыць датычнасць апісанай сітуацыі для ўласнага лёсу: "Бо ўсё маё жыццё складаецца з незразумелых вяртанняў да нейкага пункту, у якім усё існае страчвае раптам сэнс ды ператвараецца ў нагрувашчанне нічым не звязаных спаміж сабой асклёпкаў"[33]. Але ў вершы, у адрозненне ад апавядання, ёсць яшчэ эпіграф, радкі класіка беларускай літаратуры XIX ст. Францішка Багушэвіча: "Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце, / Не пайду да вас я, хіба у арэшце"[34]. Таму верш можна інтэпрэтаваць таксама як трапную метафару беларускага нацыянальнага адраджэння, якое стагоддзямі топчыцца на месцы, з нейкіх містычных прычынаў не даходзіць да завяршальнай стадыі:

"Беларускі праект вызваленьня зь ягонай энергетыкай сацыяльнага і культурнага аптымізму атрымаў у выніку дапасаваньня гэтай метафары метафізічнае "кароткае замыканьне". Куды б мы ні выпраўляліся ў пошуках свабоды, нам наканавана заўсёды прачынацца ў "старой хаце" (Багушэвіча?), якая можа быць убачаная як "стары катух", а можа (у выніку пэўнага містычнага прасьвятленьня) – як Каралеўства[35]."

І ўсё ж, нягледзячы на прыроджаны песімізм і скептыцызм, на агарнуўшую паэта роспач і паняверку, на "расколіну ў сэрцы", на дне душы аўтара "Расколіны" тоіцца юнацкі рамантызм і гатовасць па прызыву сурмы ўстаць у шэрагі змагароў за свабоду Радзімы (загінуць за Радзіму часам бывае лягчэй, чым захоўваць веру ў перамогу). Цікава, што самы патрыятычны, мажорны, змагарскі верш у зборніку называецца "Самота".

У рэальным жыцці аўтару верша таксама давялося змагацца за свабоду, але не за свабоду Беларусі, а за свабоду Літвы, куды Алег Мінкін пераехаў на пачатку 90-х гг. разам з шэрагам маладых беларускіх інтэлектуалаў адраджаць легендарную газету "Наша Ніва" і традыцыі беларускай культуры ў поліэтнічнай Вільні.

Вершы Алега Мінкіна 80-х гг. XX ст. – пра манкуртаў і здраднікаў Радзімы, пра абуджэнне нацыянальнай годнасці беларусаў, пра сны аб свабодзе і незалежнасці роднай краіны – застаюцца па-ранейшаму актуальнымі ў цяперашніх палітычных рэаліях Беларусі. Напэўна, іх тэматычная і ідэйная актуальнасць у "малым часе" не цешыць паэта, які з 1991 г. жыве за межамі Беларусі. Але мастацкая актуальнасць і класічная дасканаласць твораў, напісаных трыццаць-сорак гадоў назад, іх перавыданне ў новых зборніках і ў калектыўных паэтычных анталогіях сведчаць пра тое, што іх прэтэнзіі на існаванне ў "вялікім часе" небеспадстаўныя.

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Рэд. У. Гніламёдаў, С. Лаўшук. – Мінск: Беларуская навука, 2003 – Т. 4. – Кн. 2; Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Рэд. У. Гніламёдаў, С. Лаўшук. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – Т. 4. – Кн. 3.

[2] Макмілін А. Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён. – Беласток: Orthdruk, 2011. – С. 237.

[3] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". Гісторыя. Асобы. Жанры. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. – С. 37, 45, 71; Кісліцына Г. Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы. Мінск: Логвінаў, 2006. – С. 55, 71, 72.

[4] Бельскі А. Сучасная беларуская літаратура. – Мінск: Народная асвета, 1997. – С. 44-47.

[5] Бельскі А. Сучасная літаратура Беларусі. – Мінск: Аверсэв, 2000. – С. 50, 92-93.

[6] Сідарэвіч А. Кветка паэзіі і жытнёвы колас // "Літаратура і мастацтва". – 6.12.1985; Кавалёў С. Шляхам уяўлення // "Беларусь". – 1986. – №12. – С. 11-12 (перадрукавана ў кнізе: Кавалёў С. Як пакахаць ружу. Літаратурна-крытычныя артыкулы пра маладую беларускую паэзію 80-х гадоў. – Мінск: Бібліятэчка часопіса "Маладосць", 1989. – С. 60-64;

Куртаніч В. Спявай мой турыны рог // “Народная газета”. – 11.06.1991; Туровіч А. Расколіна, якая бароніць // “Літаратура і мастацтва”. – 14.08.1992; Андрэйчанка Т. Метамарфозы Алега Мінкіна // “Літаратура і мастацтва”. – 29.09.1995; Бяляцкі А. Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў // “Літаратура і мастацтва”. – 4.04.1997 (перадрукавана ў кн.: Бяляцкі А. Асвечаныя Беларушчынай, Вільня: Вясна, 2012. – С. 403-404; Галубовіч Л. Сыс і кулуары. Літаратурна-крытычныя эсэ. – Мінск: Літаратура і мастацтва, 2010. – С. 110-116.

[7] Мінкін А. Пэнаты. – Мінск: Выдавец І.П.Логвінаў, 2007. – С. 2.

[8] Гл.: Галубовіч Л. Сыс і кулуары. – С. 116.

[9] Тамсама. – С. 116.

[10] Дубавец С. Вершы. – Менск: Бібліятэчка часопісу “Дзеяслоў”, 2007. – С. 3, 31, 48, 62, 65, 73, 81.

[11] Тамсама. – С. 86.

[12] Бабкоў І. Вытлумачэньні ру[і]наў. – Менск: Логвінаў, 2005. – С. 67.

[13] Мінкін А. Расколіна. Вершы і паэма. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 20.

[14] Л. Галубовіч, Сыс і кулуары. – С. 112.

[15] Тамсама. – С. 113.

[16] Тамсама. – С. 113.

[17] Катэгорыі “малога часу” (працягласць аднаго чалавечага існавання) і “вялікага часу” (ланцуг усіх перараджэнняў на шляху да нірваны) сустракаюцца таксама ў рэлігійна-філасофскіх вучэннях Старажытнай Індыі, у прыватнасці ў будызме. Але ўплыў будызму на паэзію Алега Мінкіна – прадмет асобнага даследавання.

[18] Бахтин М. Литературно-критические статьи. – Москва: Художественная литература, 1986. – С. 504.

[19] Тамсама. – С. 508.

[20] Кавалёў С. Шляхам уяўлення. – С. 11.

[21] Мінкін А. Сурма. Вершы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. – С. 36.

[22] Мінкін А. Расколіна. – С. 14.

[23] Сурма, альбо турыны рог – старадаўні народны інструмент, адроджаны напачатку 80-х гг. XX ст. рэстаўратарам Уладзімірам Пузынем.

[24] Мінкін А. Сурма. – С. 27.

[25] Тамсама. – С. 16.

[26] Мятліцкі М. Мой дзень зямны. Вершы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. – С. 1-94.

[27] Тамсама. – С. 10.

[28] Што праўда, за антываенныя вершы, за якія ў СССР давалі прэміі, сёння кідаюць у турму. Чым не антываенны плакат:

*Капаючы пляцоўкі для ракет,*
*Іржавая лапата далакопа*
*Наткнецца з хрустам –*
*Веру! –*
*На шкілет*
*Таго,*
*хто зычыў смерць табе, Еўропа.*

(Тамсама. С. 11).

[29] Мінкін А. Расколіна. – С. 3.

[30] Тамсама. – С. 55.

[31] Замятин Е. Современная русская литература. Вступительная лекция // “Литературная учеба”. – 1988. –№5. – С. 131-142.

[32] Мінкін А. Расколіна. – С. 50.

[33] Мінкін А. Мяне тут не было. Паэзія і проза. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – С. 229.

[34] Мінкін А. Расколіна. – С. 20.

[35] Бабкоў І. Вытлумачэньні ру[і]наў. – С. 67.

---

“Дзеяслоўцы” сардэчна віншуюць
шаноўнага **Сяргея Кавалёва**
з шасцідзесяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае моцы, Божае ласкі і, вядома ж, –
новых выдатных твораў ды даследаванняў!

in memoriam

Алена Лепішава



...трагічнай, фактычна неопераадольнай бачыцца страта гэтага чалавека для беларускай культуры...

# Тэатральны працэс вачыма нестаронняга. З інтэрмедыямі. Без фіналу

***Мастацкая канцэпцыя Аляксея Стрэльнікава***

*Это какие слова?*
*Те слова,*
*Которые мы с любовью*
*Промолчим.*

**Алёна Іванюшанка**

*...неабыякавы чалавек, здольны адчуваць нерв часу і жыць з гэтай пульсацыяй унутры сябе.*

**Крысціна Бандурына**

Мы ліставаліся па-руску і па-беларуску. Маглі б і па-ангельску, каб не мой, у параўнанні з суразмоўцам, сціплы ўзровень. Выхадцы з першага постсавецкага пакалення, для якога школа прыпала на 1990-я, мы ўжо тады разумелі перспектывы актыўнага выкарыстання гэтай мовы і таго, што лунала ў паветры і абазначалася як "касмапалітызм" – грамадзянства свету, уражанне аб яго бязмежнасці, геапалітычнай, прафесійнай, інтэлектуальнай. Застацца ў

гэтай разнастайнасці сабой, захаваць цікавасць да чужых культур і падставу “сваёй”, выбудаванай на скрыжаванні разнастайных уплываў, – не задача, але талент. Яго ўладальнікам быў, у маім разуменні, Аляксей Стрэльнікаў, чалавек, які парадаксальна спалучаў траекторыі розных лёсаў – выдатнага навукоўцы, філосафа, вандроўнага акцёра, інтэлектуала бетоннага мегаполіса, чулага сына і бацькі. Медыятар, парабала, адчайная камета, якая ўпала на чужую зямлю, каб прарасці, пусціць карані, напоўніцца яе энергіяй і аддаць сваю. Зерне.



*Аляксей СТРЭЛЬНІКАЎ. Фота Ягора Войнава.*

І тым мацней рэжа свядомасць думка аб яго заўчасным сыходзе і абставінах, якія таму спрыялі. Апускацца на дно – і ўжо, здавалася б, выбрацца на паверхню, зацвердзіўшы надзею на жыццё, – і змоўкнуць. Што значыць гэта для чалавека з досведам супраціву перад абставінамі, які здолеў навучыць гэтаму іншых своечасова сказаным словам, увагай, падтрымкай? На гэтае пытанне ў мяне няма адказу. Відавочна іншае: ёсць жорсткія “цыскі”, у якіх чалавек з абвостраным сацыяльным пачуццём і ўстойлівым этасам амаль не мае шанцаў дажыць да сарака. І што гэта – крыж альбо праклён – найярчэйшых прадстаўнікоў пакалення, я не ведаю.

Ідэя гэтага тэксту ўзнікла адразу пасля сыходу Аляксея з жыцця. Гэта быў імпульс, даследчы і эмацыйны, хоць здавалася, што немагчыма ўклініцца ў інфармацыйную прастору, наэлектрызаваную здагадкамі пра абставіны яго смерці, успамінамі сяброў і калег, якія відавочна не змяшчаліся ў стужку сацсеткі, якую на старонцы Стрэльнікава можна было гартаць бясконца. Нарэшце, нельга забываць пра шок, змяшаны з пачуццём “млоснасці” ад адчування безвыходнасці сацыяльнай (асабліва паказальныя ў гэтым плане словы расійскага крытыка Паўла Руднева, горкія для ўспрымання і адначасова шчырыя[1]). Разам з тым не пакідала пачуццё выключнасці моманту, які выходзіць за рамкі перажывання гора, індывідуальнага і супольнага. З часам сумневы адпалі: тыя дні сталі важнай старонкай гісторыі беларускай культуры. Зафіксаваць іх падаецца мне вельмі важным.

Разумеючы, што пафас меседжа ідзе ўразрэз са светаўспрыманнем самога Аляксея, з яго іранічнай усмешкай і спакойным голасам, рызыкну вызначыць *“незадачы”* свайго тэксту. Мне хацелася б:

– акрэсліць дыяпазон творчых пошукаў Стрэльнікава;

– даць уяўленне аб тым, чым беларускі тэатр і драматургія (шырэй – культура) маглі б стацца без яго і што яны атрымалі дзякуючы яму;

– паглядзець на зробленае Аляксеем як на адзіную эстэтычную сістэму, важную для развіцця эксперыментальнага вектара беларускага мастацтва.

Апошняе патрабуе ўдакладнення: ёсць падставы меркаваць, што Стрэльнікаў быў лідарам беларускага тэатральнага андэграўнду. Наколькі важкія – пакажа гэты тэкст, “звышзадачу” і “канву” якога я вызначыла. На жаль, не так іранічна, як хацелася б і як гэта мог зрабіць Аляксей.

Прыход Стрэльнікава ў крытыку ў пачатку 2000-х быў адметны дыскусіямі аб перспектывах развіцця тагачаснага тэатральна-драматургічнага мастацтва ў Беларусі. За плячыма ў Аляксея ўжо была вучоба на факультэце журналістыкі БДУ, а наперадзе – аспірантура ў Беларускай акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці “тэатразнаўства”, па якой ён абараніў кандыдацкую дысертацыю “Выкарыстанне мастацкіх сродкаў эпічнага тэатра Б. Брэхта на беларускай сцэне” (Мінск, 2010). Усё гэта, канешне, яшчэ не гарантуе пазіцыю *а*ктара (лац. *acter*) культурнага працэсу. Тым не менш знаходжанне ў навуковым кантэксце “цэнтравала” разнастайную натуру Стрэльнікава, надавала яго пошукам адзіны вектар. І тым больш прыкметна, што ажыццяўляліся яны ў модусе “адштурхоўвання” ад мэйнстрыму беларускага тэатразнаўства, з паслядоўным узрастаннем крытычных адносін да яго кан’юнктурнага патоку. Мне здаецца, і гэтае стаўленне Стрэльнікаў з цягам часу пераадолеў, стварыўшы арыгінальную канцэпцыю тэатральнага мастацтва ў рэчышчы не спрэчкі, але дыялогу з досведам папярэднікаў і нацыянальнай традыцыяй.

Мяне заўсёды ўражвала, чаму чалавек, які з’яўляўся ўраджэнцам Новасібірска (бо ток не быў генетычна звязаны з прасторай беларускай культуры), стаў яе даследчыкам і папулярызатарам. Пры гэтым у цікавасці Аляксея не адчувалася ні палымянасці неафіта, ні этнічнага лаялізму, уласцівага апалагетам нацыянальнай ідэі ў яе радыкальнай версіі.

Між тым час да таго падштурхоўваў. Пачатак 2000-х – далейшае развіццё постсавецкай “новай літаратурнай сітуацыі”, якая звязвалася В. Акудовічам і Г. Кісліцынай з набыццём нацыянальнага суверэнітэту, ростам нацыянальнай самасвядомасці, цікавасцю да феномену нацыянальнага быцця (В. Акудовіч, І. Бабкоў, С. Дубавец і інш.), з’яўленнем творчых аб’яднанняў “Тутэйшыя”, “Таварыства Вольных Літаратараў”, “Бум-Бам-Літ” [1; 5]. Акрамя таго, гэтыя гады адзначаны смелымі эксперыментамі ў галіне паэтыкі, дыфузіяй драмы і эпасу, драмы і лірыкі, рэактуалізацыяй досведу мадэрнізму (у прыватнасці, заходнееўрапейскай “драмы абсурду” 1950-1960-х у п’есах прадстаўнікоў пакалення “Бум-Бам-Літ” 1990-х, а ў 2000-х – у п’есах А. Карэліна, М. Рудкоўскага і інш.), зваротам да эстэтыкі постмадэрнізму перформер-груп “Тэатр псіхічнае неўраўнаважанасці”, “Спецбрыгада афрыканскіх братоў”, а таксама С. Кавалёва, аўтара п’ес-рэмейкаў.

Усё гэта сфармавала ў навукова-крытычным дыскурсе дзве праблемныя зоны. Першая з іх – шляхі і перспектывы развіцця беларускай драматургіі і тэатра, якія абмяркоўваліся на старонках вядучых часопісаў “Актуальныя праблемы культуры і мастацтва”, “Тэатральная Беларусь”, “Літаратура і мастацтва”, “Мастацтва”. Адны навукоўцы (П. Васючэнка, С. Кавалёў, С. Лаўшук, В. Мазура) лічылі мяжу XX-XXI стагоддзяў “крызісам”, абумоўленым “грамадска-палітычнай нявызначанасцю і сацыяльнай апатыяй” [6, с. 320], “камерцыялізацыяй, <...> рынкавымі ўмовамі існавання” [8, с. 2] ), а таксама эстэтычнымі прычынамі: выкарыстаннем “чужых” жанравых сродкаў (публіцыстыкі, журналістыкі), няздольнасцю стварыць “арыгінальныя, яркія, маштабныя характары” [6, с. 319]. Іншыя (А. Бельскі, Е. Лявонава, Г. Нефагіна, І. Шаблоўская) – усплёскам творчай актыўнасці, які прывёў да інтэнсіўнага абнаўлення жанрава-стылявой палітры.

Аднак у акадэмічным дыскурсе дамінавала меркаванне аб другаснасці, эстэтычнай недасканаласці ўказаных эксперыментаў, прыярытэт аддаваўся “традыцыйнаму” вектару беларускай драматургіі, звязанаму з рэалістычнай традыцыяй (а ў шэрагу выпадкаў і з рэваншам сацрэалізму, напрыклад, у п’есах “Такая доўгая навальніца...” С. Бартохавай, “Пеўчыя 1941 года” Г. Марчука), што прывяло да ўстойлівага дамінавання *гістарычнай* (“Меч Рагвалода” (2003) А. Петрашкевіча, “Князь Вітаўт”, “Палачанка” (абедзве – 1998) А. Дударава і інш.), *гісторыка-біяграфічнай* (“Паэт і

дзяўчына" (2007) П. Васючэнкі, зборнік "Францыск Скарына і сучаснасць" (Мінск, 2017) і інш.) драмы.

Акрамя таго, арганічнай часткай тэатральна-драматургічнага працэсу мяжы 1990-2000-х стала праблематызацыя нацыянальнага фактару, рэзкае размежаванне літаратурнага поля па моўнай прыкмеце і філасофска-эстэтычным арыенцірам. У драматургіі вылучыліся, з аднаго боку, пласт эксперыментальных тэкстаў, створаных на беларускай мове (С. Кавалёў, А. Асташонак, М. Арахоўскі, І. Сідарук і інш.), з другога, – рускамоўны вектар, прадстаўлены А. Паповай, А. Дзялендзікам, С. Бартохавай, М. Рудкоўскім, А. Курэйчыкам, etc. Гэта акумулявала досыць вострую палеміку аб статусе рускамоўных тэкстаў у прасторы нацыянальнай культуры, правамернасці іх далучэння да яе з улікам аслабленага нацыянальна-культурнага кампанента, праявы якога часта разглядаліся на ўзроўні мовы.

Наперадзе былі канферэнцыя на філфаку БДУ "Руская і беларуская літаратуры на мяжы XX – XXI стст." (Мінск, 2010), міжнародны (фактычны, а не намінальны) статус якой, як падаецца, аказаў уплыў на вывучэнне "нацыянальнага" ў полікультурных практыках, зборнікі навуковых прац "Руская і беларуская літаратуры на мяжы XX – XXI стагоддзяў" (Мінск, 2010), "Погляды на спецыфічнасць "малых" літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры» (Мінск, 2012), сямітомная анталогія беларускай драматургіі, выдадзеная польскім літаратуразнаўцам і тэатральным крытыкам А. Масквіным (у яе склад увайшлі выключна п'есы рускамоўных аўтараў у польскім перакладзе, а два асобныя тамы прысвечаны П. Пражко і Д. Багаслаўскаму[2]), манаграфіі С. Ганчаровай-Грабоўскай "Русскоязычная драматургия Беларуси рубежа XX – XXI вв. (проблематика, жанровая стратегия" (Мінск, 2015), калектыўная праца С. Кавалёва, І. Лапо, Н. Русецкай "Поколение RU белорусской драмы: контекст – тенденции – индивидуальности" (Lublin, 2020). Усё гэта спрыяла ўваходжанню тэрміна "рускамоўная літаратура Беларусі" ў навуковых тэзаўрус і галоўнае – погляду на ўказаны феномен з метапазіцыі – "надэмпатычнай", з улікам моўнага і сацыякультурнага фактараў.

Іншая справа, што на практыцы, "у кулуарах" размежаванне пазіцый не заўсёды насіла характар дыхатаміі. Адметна, што дысертацыйнае даследаванне А. Стрэльнікава стваралася пад кіраўніцтвам прафесара Р. Смольскага, рэктара Акадэміі мастацтваў, вядомага крытыка, які шмат пісаў пра "традыцыйны" вектар беларускага тэатра"[3]. У той жа час навуковае кіраўніцтва працай К. Смольскай (дачкі Р. Смольскага) "Асаблівасці засваення беларускай драматургіі ў нацыянальным тэатральным мастацтве канца XX – пачатку XXI стагоддзя" (Мінск, 2013) ажыццяўляў д.ф.н., член-карэспандэнт НАН С. Лаўшук, аўтар фундаментальных даследаванняў у галіне беларускай гістарычнай драматургіі, камедыі[4].

Такім чынам, дынаміка тэатральна-драматургічнага працэсу ў Беларусі, які працякаў досыць складана праз білінгвізм, міжкультурнае ўзаемадзеянне, абумовіла "замкнёнасць" навукова-тэатральнай рэфлексіі ў коле ўнутраных праблем, што ўскладнялася кансерватызмам акадэмічнай супольнасці, недастаткова актыўным удзелам у міжнародных даследчых і культурных праектах[5].

У той жа час у бліжэйшым замежжы назіраліся іншыя тэндэнцыі. "Крэатыўны выбух" расійскай драматургіі і тэатра, паводле формулы Г. Заслаўскага, хоць і выклікаў скептыцызм некаторых крытыкаў і літаратуразнаўцаў (Г. Заслаўскага, А. Злобінай, В. Малягіна, А. Чэцінай), але, безумоўна, зрабіўся аб'ектам пільнай увагі. Варта прыгадаць не толькі дыскусіі на старонках часопісаў "Современная драматургия", "Театр", "Знамя", "Литературная газета" (гэта мела месца і ў Беларусі), але і зборнікі навуковых артыкулаў[6], праведзеныя канферэнцыі і семінары[7]. Адзначым вялізны ўнёсак у іх рэалізацыю прадстаўнікоў тэатральнай і навуковай супольнасці, прынамсі, Вадзіма Ляванава (культавай асобы Тальяцці, памяці якога прысвечаны навукова-практычны семінар), Міхаіла Угарава (кіраўніка "Центра драматургии и

рэжиссуры А. Казанцева и М. Рощина”, суарганізатара фестывалю “Любимовка”), Івана Вырыпаева (аднаго са стваральнікаў “Театра. doc”), а таксама навукоўцаў з Казані, якія арганізавалі адну з першых навуковых канферэнцый па “новай драме” пачатку XXI стагоддзя, к.ф.н., эксперта прэміі “Золотая маска” Таццяну Журчаву, кіраўніка навукова-практычнага семінара, які рэгулярна праходзіць у Самары з 2009 года, дацэнта РДГУ Сяргея Лаўлінскага, сарэдактара “Экспериментального словаря новейшей драматургии” (Siedlce, 2019), і шмат іншых.

Як бачым, да сярэдзіны 2000-х гадоў у Расіі склаліся цэлыя навуковыя школы, якія вывучалі найноўшыя пошукі ў галіне драматургіі і тэатра. Як правіла, яны далучаліся да цэнтраў іх інтэнсіўнага развіцця: “уральскай школы” М. Каляды, маскоўскага “Тэатра.doc” (А. Грэміна, І. Вырыпаеў і інш.), Тальяцінскага цэнтра драматургіі (В. Ляванаў, браты Дурнянковы, etc.).

На гэтым фоне спробы беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў абмяркоўваць новыя п’есы і спектаклі выглядаюць больш чым сціплымі з прычыны фактычнай нелігітымнасці гэтага матэрыялу ў публічным дыскурсе, адсутнасці пляцовак для прафесійных сетынгаў, відавочнай недастатковасці эксперыментальных сцэнічных платформ. Нагадаю, што тэатр-лабараторыя “Вольная сцэна”, створаны ў 1990 годзе, у актыўнай фазе праіснаваў да пачатку 2000-х, а яго пераемнік Цэнтр беларускай драматургіі пры РТБД, адкрыты ў 2007-м, рэгулярна сутыкаецца з цэнзурнымі абмежаваннямі. Што да тэатральнага андэграўнду, то яго прадстаўнікі Беларускі свабодны тэатр (Мінск), “Крылы халопа” (Брэст), якія заявілі пра сябе ў другой палове 2000-х, былі выціснуты на перыферыю культурнага жыцця, а пасля – і за межы Беларусі.

Паказальна і тое, што гэтыя пляцоўкі былі сканцэнтраваны ў большай ступені на сцэнічных практыках, чым на навукова-крытычным асэнсаванні тэндэнцый развіцця мастацтва. Склалася несуцяшальная сітуацыя: у Расіі, Украіне, Польшчы (не кажучы ўжо пра Заходнюю Еўропу) разам са з’яўленнем новых п’ес і спектакляў аператыўна пашыраўся навукова-крытычны дыскурс. З’явіліся работы, прысвечаныя вынікам перфарматыўна-рэцэптыўнага павароту ў сусветным тэатры (М. Ліпавецкі, Б. Боймерс, С. Лаўлінскі, Г. Сініцкая, Н. Малюціна, Я. Гракля і інш.), новым формам драматургічнага выказвання, напрыклад, соунддраме (М. Сізова), монадраме як эго-дакументу (В. Журчава), гульнявым формам драмы (В. Нікалаева). У той жа час у беларускай прасторы гэтыя тэндэнцыі фактычна заставаліся (і застаюцца) у зоне замоўчвання. Разам з тым, запатрабаванасць іх на беларускай глебе з улікам усплёску творчай актыўнасці такіх драматургаў, як Павел Пражко, Мікалай Рудкоўскі, Дзмітрый Багаслаўскі, Андрэй Іваноў, добра вядомых за мяжой, а таксама пастановак у рэчышчы неканвенцыйнай эстэтыкі Яўгена Карняга, Кацярыны Аверкавай, Уладзіміра Шчэрбаня, відавочная.

Але ж вернемся да прац Аляксея Стрэльнікава. Агляд артыкулаў, рэцэнзій, радыёэфіраў і іншых тэкстаў дазваляе зрабіць выснову аб тым, што іх тэматыка не толькі рэзанавала са спектрам вывучэння найноўшай драматургіі і тэатра, але ў шэрагу выпадкаў акумулявала ўзнікненне новых кейсаў, задавала тон абмеркаванню актуальных праблем беларускага мастацтва. Сярод іх – перспектывы развіцця эксперыментальнага вектара, які фактычна апынуўся на перыферыі культурнага працэсу, а таксама цесна звязаныя з ім неабходнасць дэцэнтрацыі тэатральнай прасторы, рэвізія форм узаемадзеяння паміж яго (у ідэале) суб’ектамі: драматургам, рэжысёрам, акцёрам, гледачом, крытыкам, злучэнне розных падыходаў да тэатра, якія раскрываюць яго перфарматыўнасць як “слова – дзеянне”, дзе важныя абодва кампаненты.

Мяркую, што падчас іх вырашэння ў Стрэльнікава сфармавалася арыгінальная эстэтычная канцэпцыя, у эпіцэнтры якой – ідэя *“дзейснага”, гуманістычна арыентаванага мастацтва*, якое варта разумець як сатворчасць свабодных асоб у пра-

цэсе выказвання пра чалавека і свет, у аснове сваёй перфарматыўнага, нацэленага на пераадоленне фрустрацыі, сацыяльнай і псіхалагічнай. У гэтым сэнсе погляд Аляксея на тэатр быў не проста "не староннім", а стваральным, бо праз тэатр ён асэнсоўваў *"прысутнасць я ў свеце"*.

Таму не выпадкова, што, як чалавек энергічны, камунікабельны, з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, Аляксей на працягу свайго 39-гадовага жыцця паспеў пабываць у розных іпастасях. Дакладней будзе сказаць: сумясціць розныя ролі, кожная з якіх была часткай яго шматграннай натуры. Так, акрамя крытыка і мастацтвазнаўцы, ён быў педагогам у Акадэміі мастацтваў і ў творчых лабараторыях, працаваў у разнастайных "цэнтрах" развіцця драматургіі[8], скончыў незалежную тэатральную школу, выступаў на сцэне як выканаўца перформансаў і монаспектакляў, быў куратарам чытак п'ес, пастановак і іх абмеркаванняў, публічных лекцый і іншых праектаў, у тым ліку дзякуючы спецыяльным навыкам (выпускнік праграмы Фонду Роберта Боша "Культурны менеджар з краін Усходняй Еўропы"), рыдарам тэатральных конкурсаў і фэстаў, як вядомых у Беларусі ("Write Box", "Другая дзея"), Расіі ("Ремарка", "Любимовка", "Первая читка"), так і аматарскіх (напрыклад, конкурсу-агляду дзіцячых аматарскіх тэатраў Фрунзенскага р-на Мінска "Рамонак"), пастаянным удзельнікам тэатральных фестываляў "Новая драма", "Любимовка", "Тэарт", "M.art@Кантакт", "Белая вежа" і інш, папулярызатарам беларускай літаратуры і тэатра. Адзначым, што Стрэльнікаў не проста курыраваў незалежную літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца, але ў пэўны час стаў яе ідэйным натхняльнікам, без якога ініцыятыва спыніла б сваё існаванне. Акрамя таго, ён вёў аўтарскую калонку на платформе "Букстэр", дзе дзяліўся ўражаннямі ад прачытаных твораў, а таксама эфіры на радыё "Культура" з аглядамі ключавых падзей тэатральнага жыцця, удзельнічаў у праекце Сяргея Будкіна "(Не)растраляная паэзія", прысвечаным творчасці паэтаў 1930-х[9].

Адзін з найбольш рэпрэзентатыўных у гэтым плане ўспамінаў належыць Аляксею Кісялёву, тэатральнаму крытыку, кіраўніку Мабільнага мастацкага тэатра:

*Ён усё чытаў, усё глядзеў, усё слухаў. Я нават так з ходу і не скажу, ці ведаю я яшчэ кагосьці такога ж зацікаўленага ў сучасным тэатры, такога ж азартнага інтэлектуала. Пры гэтым, вядома, панка, якому паняцце "насуперак" больш зразумела, чым "дзякуючы". Ён займаўся тэатрам, вядома, насуперак. Але многія, і я ў тым ліку, пра мноства ўсяго даведаліся, шмат зразумелі і зрабілі ў прафесіі дзякуючы яму. Сучаснае беларускае мастацтва такое прыкметнае і жывое шмат у чым дзякуючы Стрэльнікаву. <…> Чалавек рэнесанснай прыгажосці. У ім дыхала нейкая біблейская старажытнасць. Велізарнае сэрца. Матор любові і мудрасці[10].*

У перспектыве часу гэтыя разнастайныя, на першы погляд, актыўнасці ўспрымаюцца як спосабы рэалізаваць адзіную эстэтычную канцэпцыю, якая фармавалася, "інструменталізавалася" ў артыкулах і вусных выказваннях, карэктавалася з улікам практыкі і беларускіх рэалій. Яна шмат у чым абапіралася на ідэю "эпічнага тэатра", здольнага перадаць гледачу "гуманістычна мудры давер да міру" праз "апасродкаванае, умоўна-метафарычнае асэнсаванне сучаснасці" (Ж. Жыроду, К. Чапек, Ж. Ануй, Ж.-П. Сартр, Я. Шварц, Г. Горын і інш.) [2, с. 179]. Адну з найбольш вядомых яго версій прапанаваў Бертольт Брэхт. Паводле ягонай мадэлі, выбудоўваліся прынцыпова новыя ўзаемаадносіны паміж акцёрамі і аўдыторыяй, узнікала сатворчасць. У кандыдацкай дысертацыі Стрэльнікаў даследаваў рэалізацыю ідэяў Брэхта беларускімі рэжысёрамі: вызначыў перадумовы інтарэсу да гэтых ідэяў, звязаных з генезісам нацыянальнага тэатра (блізкасцю да фальклора, "адкрытай" аўтарскай пазіцыяй, злучэннем "этычнага і эстэтычнага ідэалаў"[11]), абазначыў этапы засваення канцэпцыі Брэхта. Першы, з яго пункту гледжання, прыпаў на 1960-1970-я гады і быў азнаменаваны спектаклямі В. Раеўскага ("Што той салдат, што гэты", "Трыбунал", "Князь Вітаўт"), В. Мазынскага ("Званы Віцебска", "Кастусь Каліноўскі"),

якія ў гэтым аспекце фактычна не вывучаліся, нягледзячы на папулярнасць на беларускай сцэне[12]. Другі – на 2000-я, калі эстэтычная спадчына Брэхта аказалася вельмі запатрабаванай у рэжысёрскай практыцы В. Мазынскага (праект "Вольная сцэна"), М. Пінігіна ("Тутэйшыя"), С. Кавальчыка ("Адвечная песня"), а таксама М. Лашыцкага, К. Агароднікава, П. Харланчука, Я. Карняга і інш.

Непасрэдная рэалізацыя ключавых палажэнняў тэорыі Брэхта заставалася прадметам пільнай увагі Стрэльнікава-крытыка. Не выпадкова "наўпроставая" (непасрэдная) сувязь з аўдыторыяй, спектакль як інтэрактыўны, творчы працэс, які аб'ядноўвае рэжысёра, акцёра і гледача, сталі лейтматывамі артыкулаў і рэцэнзій.

З гэтым звязаны разважанні аб разбурэнні "чацвёртай" сцяны, актыўным уключэнні гледача ў тэатральны час-прастору, якая становіцца, па сутнасці, сінкрэтычнай, страчвае дакладныя межы. "Бо ніколі нельга быць упэўненым, што той, хто імкнецца пакінуць спектакль, не з'яўляецца часткай спектакля", – піша Аляксей Стрэльнікаў у рэцэнзіі на спектакль "...Пасля" тэатра "ІнЖэст", паказаны на Адкрытым форуме пластычных тэатраў "ПлаSтформа" (2013) [15, с. 32].

Пры гэтым нельга сказаць, што новыя сродкі сцэнічнай выразнасці цікавілі крытыка самі па сабе выключна сваёй навізной і эпатажам. У яго працах нямала гаворыцца аб іх дарэчным выкарыстанні, якое павінна адпавядаць ідэйна-філасофскаму зместу твора, таму, што я называю "эталагічным заданнем". Ужо ў ранніх артыкулах можна знайсці прыклады рэжысёрскіх няўдач, у прыватнасці, у рэцэнзіі на пастаноўку "Нататкі вар'ята" паводле Гогаля на сцэне Тэатра юнага гледача (рэжысёр – Наталля Башава; 2008), у якой галоўны "герой-аўтыст", татальна самотны, паводле канцэпцыі спектакля, у той жа час лёгка давяраецца гледачам у зале, садзіцца сярод іх, пачынае гутарку [10].

Важныя для Брэхта ідэі *"ачужэння"*, *"гестуса"* як "сацыяльна-значнага, выяўленага знешне" праз візуальны шэраг (сцэнаграфію), музычнае афармленне [12, с. 14], заставаліся ў цэнтры ўвагі Стрэльнікава практычна ва ўсіх артыкулах. Адмысловае месца ў іх займаў танец, які рэпрэзентуе неканвенцыйную форму мастацкага выказвання. Знарочыстая завуаляванасць яго семантычнага напаўнення разглядалася крытыкам як неабходная ўмова для прырашчэння новых адценняў сэнсу, якія, у сваю чаргу, прадвызначалі варыятыўнае "прачытванне", дыялог свядомасці ўсіх удзельнікаў рэцэптыўнага працэсу. "Важна не тое, што танец значыць, але – што ён можа значыць. Рух, дзеяньне даюць нам новае значэньне, новую інфармацыю пра нас. Гэтая інфармацыя неабавязкова мусіць быць вербалізаванай", – чытаем у артыкуле "Ніша эксперыменту", прысвечаным фестывалю "ПлаSтформа" (2013) [15, с. 33].

Асаблівую цікавасць у гэтым плане ўяўлялі для Стрэльнікава пластычныя спектаклі, напрыклад, тэатра "ІнЖэст" Вячаслава Іназемцава, а таксама творчасць Яўгена Карняга. Ужо ў рэцэнзіях на раннія спектаклі "Нятанцы", "Кавярня *Паглынанне*" прапанаваны ключ да прачытання неканвенцыйнага эстэтычнага кода, які ляжыць у аснове дыскрэтнай кампазіцыі дзеяння. З пункту гледжання Стрэльнікава, такі спектакль патрабуе не рацыянальнага, а пачуццёвага, інтуітыўнага ўспрымання, здольнага ўлавіць "унутраны рытм", які "надаюць спектаклю харэаграфічныя інтэрмедыі" [15, с. 33].

І тут трэба падкрэсліць: не ўсякі танец, на думку Стрэльнікава, становіцца сродкам "ачужэння", бо можа заставацца на ўзроўні сцэнічнай эксцэнтрыкі, як, напрыклад, у спектаклі В. Ераньковай "Жаніхі" Гогаля ў НАДТ імя М. Горкага (2009), пра які крытык пісаў: "Ды толькі чым Мікалай Гогаль адрозніваецца ад сучасных аўтараў „Аншлагу", па гэтым спектаклі не вельмі зразумееш" [11].

Павышаную ўвагу да візуальных аспектаў тэатральнага мастацтва слушна разглядаць у больш шырокім кантэксце – цікавасці Стрэльнікава да эксперыментальнага вектара развіцця беларускага тэатра. Мы памятаем, што ў беларускім

публічным дыскурсе 2000-х (асабліва ў акадэмічным асяроддзі) дамінавала вельмі негатыўнае стаўленне да эксперыменту. Часткова яго згладжвалі спробы знайсці абгрунтаванне дадзенай тэндэнцыі, не заўсёды, праўда, вытрыманыя ў рэчышчы аб'ектыўнага аналізу, паколькі зыходзілі з ідэі “нацыянальнага асветніцтва”, імкнення прадэманстраваць шырыню жанрава-стылявой палітры беларускага мастацтва. На гэтым фоне пазіцыя Аляксея Стрэльнікава прыцягвае адсутнасцю якой бы там ні было ангажаванасці.

Так, увага да эксперыменту не супярэчыць у яго працах традыцыям нацыянальнай сцэны. У дысертацыі вучоны пісаў пра народную школу акцёрскай гульні з яе “кантактам з гледачом, камічнай стыхіяй, здольнасцю спалучаць музычнае і драматычнае” [12, с. 5], схільнасцю да знешняй, візуальнай выразнасці, што дазволіла вызначыць генетычныя сувязі паміж беларускімі тэатральнымі практыкамі і ідэямі Брэхта. Гэтая думка карэлюе з нязвыклым поглядам на гісторыю беларускай драматургіі ў кантэксце эстэтыкі абсурду, прапанаваным літаратуразнаўцам Ірынай Шаблоўскай, што адкрывае перспектывы для вывучэння генезісу беларускага культурнага авангарду [21].

Эксперыментальны вектар заставаўся ў эпіцэнтры інтарэсаў Стрэльнікава не толькі падчас разважанняў аб тэатральна-драматургічных практыках, але і падчас арганізацыі культурных мерапрыемстваў, якія, па сутнасці, былі спробай пашырыць аб'ём грамадскай увагі да “нефармальнай” культуры. У сувязі з першым момантам цікавыя артыкулы, прысвечаныя нетрадыцыйным формам тэатра. Аляксей быў адным з першых крытыкаў, які напісаў пра сямейны інклюзіўны тэатр “і”. Гэты калектыў быў створаны ў Мінску пад кіраўніцтвам Ірыны Кісялёвай і не мае аналагаў у бліжэйшым замежжы. Важна, што Стрэльнікаў лічыў тэатр “і” тэатральным феноменам, а не прыкладам карэкцыйнай тэрапіі [17]. Пасля яго разважанні дапамаглі мне ў падрыхтоўцы матэрыялу пра гэты дзіўны калектыў, разгледжаны ў кантэксце найноўшых перфарматыўна-рэцэптыўных практык [7]. Стрэльнікаў стаў першым, хто прафесійна адрэагаваў на з'яўленне на беларускай глебе анлайн-спектакля “Школа для дурняў” паводле рамана Сашы Сакалова, пастаўленага Беларускім свабодным тэатрам у перыяд пандэміі каранавіруса летам 2020 года (рэжысёр – Павел Гарадніцкі) [18]. Падчас Zoom-канферэнцыі, прысвечанай новым формам тэатра, яго меркаванні ўяўляліся вельмі важнымі для вызначэння эстэтычных перспектыў спектакляў, створаных з дапамогай інтэрнэт-рэсурсаў[13].

Шмат напісана Стрэльнікавым і пра тэатр лялек – візітоўку Беларусі на міжнародных форумах і фестывалях. Характэрна, што тут, разам з агульнапрызнанымі Аляксеем Ляляўскім, Алегам Жугждам, Аляксандрам Янушкевічам, крытык звяртаецца да творчасці іх калег, няхай і не такіх “тытулаваных”, але якія ўносяць важны ўклад ў развіццё беларускага тэатра праз пераадоленне жанрава-відавых межаў. У выніку фарміруюцца новыя формы выказвання аб свеце і чалавеку, напрыклад, у тэатры прадмета Святланы Бень, у праектах Юры Дзівакова-Душэўскага, бэбітэатры Златы Глотавай і Ганны Шапашнікавай [16].

Эксперыментальныя практыкі, якія балансуюць на мяжы андэграўнду, нярэдка з цэтлікам “аматарскіх”, успрымаліся Аляксеем як арганічная частка агульнага тэатральна-драматургічнага працэсу, пазбаўленага падзелу на “цэнтр” і “перыферыю”. У гэтым сэнсе для яго не было тэатральных падзеяў “значных” і “часовых”, аднолькавай увагі заслугоўвалі і міжнародныя фестывалі, конкурсы, форумы “Белая вежа”, “Тэарт”, “Любимовка”, “Золотая маска”, “Ремарка” і інш., і фэст студэнцкіх тэатраў “Тэатральны куфар”, фестываль “Дзверы”, майстэрня маладога рэжысёра ў рамках фэсту “M.art@Кантакт”, etc.

Дэцэнтралізацыя творчага жыцця як адна з асаблівасцей рэальнага існавання тэатра ў Беларусі, якая актыўна фарміруецца насуперак няўвазе з боку дзяржаўных масмедыя, стала адным з топавых кейсаў у артыкулах і выказваннях Аляксея. Ён

папулярызаваў праекты ў Магілёве (форум “M.art@Кантакт”, фестываль “ПлаSтформа”, ініцыятывы Кацярыны Аверкавай), у Гомелі (творчую лабараторыю пры абласным тэатры), у Віцебску, Брэсце і ў іншых гарадах, якія злучыліся ў яго ўспрыманні з дрыфтам мастацтва ў бок незалежных арт-прастораў (“Цэх” / “Ок16”, “Корпус”, “Lo-Fi” “ME100” у Мінску). Пра гэта крытык адкрыта гаварыў не толькі ў першай палове 2010-х, калі можна і модна было (паказальная рэпліка аўтарытэтнага мастацтвазнаўцы Р. Смольскага падчас круглага стала рэдакцыі часопіса “Мастацтва” ў 2014 г.: “Аматары выратуюць тэатр” [4, с. 23]), але і пазней, калі творчыя ініцыятывы паступова сталі спыняцца, а многія былі забаронены. І нават тады Стрэльнікаў апеляваў да ідэі ўзаемадзеяння розных суб’ектаў тэатральнага жыцця: дзяржаўных і прыватных пляцовак, традыцыйных і альтэрнатыўных мадэляў тэатра, якое называў “законам сазлучаных сасудаў” і з якім звязваў найбольш прадуктыўны шлях развіцця беларускага мастацтва [4, с. 24].

Ідэя дэцэнтрацыі мастацтва знайшла адлюстраванне і ў ініцыятывах Аляксея апошніх гадоў, звязаных з мадэллю хатняга камернага тэатра. Яе актуалізацыя была прадвызначана сацыяльнымі працэсамі ў Беларусі 2020-х, а генезіс звязаны з досведам музычна-тэатральных кабарэ, вар’етэ, кафэ-шантанаў, папулярных у крызісныя эпохі (Сярэбраны век у Расіі, Першая сусветная вайна і пасляваеннае дзесяцігоддзе ў Заходняй Еўропе, Беларусь 1920-х) з іх трагічным светаўспрыманнем, стратай пачуцця апоры, спробай самазахавання ў эпіцэнтры гістарычнага катаклізму з дапамогай духоўнасці, культуры, у тым ліку нацыянальнай. У сувязі з гэтым не выпадковай бачыцца прапанова Стрэльнікава адаптаваць да камернага фармату шоу, перфарматыўныя практыкі, спектаклі незалежна ад сацыяльных умоў, вітанне хатніх музычных вечароў (напрыклад, прысвечаных творчасці Аляксандра Вярцінскага), паэтычных чытанняў, выказаныя ў інтэрв’ю апошніх гадоў, прыватных гутарках.

І тым больш трагічнай, фактычна непераадольнай бачыцца страта гэтага чалавека для беларускай культуры, якая працягвае сцвярджаць сябе, нягледзячы на прэсінг абмежаванняў 2020-х, тым больш недарэчнымі ўяўляюцца выказванні некаторых калегаў Аляксея аб “растраце таленту” на аматарскія праекты, аб уяўнай няздольнасці засяродзіцца на “значнай” навуковай працы...

Асобна варта сказаць пра феномен чыткі. У той час як у бліжэйшым замежжы гэтая форма зацвердзілася ў пачатку 2000-х, на беларускай глебе яна заставалася слаба асвоенай аж да 2010-х. Вось чаму так важна было паказаць яе патэнцыял у стварэнні мастацкага ўніверсума сумеснымі намаганнямі акцёра і слухача, пастаўленага перад неабходнасцю ўключыць фантазію. Можна без перабольшання сказаць, што з першымі доследамі ў гэтай сферы беларускага гледача знаёміў Аляксей Стрэльнікаў. Ён не толькі шмат пісаў пра чыткі, напрыклад, пра чытку п’ес П. Пражко “Ураджай” і “Жыццё атрымалася” Тані Арцімовіч і Паўла Харланчука, пра яго ж монадраму “Гаспадар кавярні” ў выкананні Паўла Гарадніцкага ў прасторы мінскага клуба “Графіці” (2013), з якой сам Аляксей праз амаль 10 гадоў будзе выступаць у якасці акцёра, пра цыкл чытак на малой сцэне Магілёўскага тэатра ці ў РТБД [3; 13; 14], але і займаўся іх арганізацыяй у розных гарадах Беларусі.

Важнай умовай рэалізацыі эксперыменту было для Стрэльнікава захаванне творчай этыкі, “кодэкс гонару” кожнага актора (лац. *acter*) культурнага працэсу, які не падлягае сумневу ні ў прафесійнай сферы, ні ў асабістай. Сярод найбольш рэпрэзентатыўных кейсаў першай – меркаванне аб пастаноўцы Беларускага свабоднага тэатра “Быў у пана верабейка гаварушчы” па кнізе З. Бартосіка (рэжысёр – М. Халезін, Мінск, 2017), выказанае ў інтэрв’ю Анастасіі Панкратавай. Асаблівасць спектакля ў канчатковым разбурэнні “чацвёртай сцяны”, інтэрактыўнасці: сцэнічнай пляцоўкай служыў пакой у катэджы, дзе за сталом знаходзіліся акцёры і гледачы, на стале стаялі сапраўдныя закускі, самагонка, што здавалася б, давала магчымасць

поўнага пагружэння ў сцэнічную прастору. Аднак, як адзначае Стрэльнікаў, "спектакль зроблены так, што ты туды нават не ўклінішся", падкрэсліваючы тым самым далікатнасць сцэнічнай арганізацыі пастаноўкі [9].

І ў прыведзеным каментары, і ў шматлікіх іншых (напрыклад, падчас анлайн-абмеркавання на пляцоўцы "HomoTalk. Тэатр [не]гвалту" у 2021 г.) крытык падкрэсліваў неабходнасць асцярожнага засваення інтэрактыўных практык, не звыклых для айчыннага гледача, у адрозненне ад гледача замежнага, знаёмага з "тэатрам абсурду", вулічным тэатрам, карнавалам і інш. Як вядома, рэферэнтныя ім пошукі беларускага авангарду былі гвалтоўна перапынены фізічным знішчэннем яго прадстаўнікоў у 1930-я. Імкнучыся запоўніць гэты прабел, Стрэльнікаў, па-першае, стаў суаўтарам драматургічнай часткі анталогіі "Нерастраляная паэзія", а па-другое, шмат пісаў аб неабходнасці выпрацаваць правілы ўзаемадзеяння з аўдыторыяй [3; 4; 9]. У гэтым, з яго пункту гледжання, павінен дапамагчы досвед вулічных тэатраў, а таксама анкетаванне, уведзенае ў практыку РТБД у тым ліку і па ягонай ініцыятыве.

Што да адказнасці асабістай, то тут мне хацелася б даць слова Алёне Іванюшанка, беларускаму драматургу, жонцы Аляксея. Апярэджваючы яе ўспамін, падкрэслю, што аўтарская сістэма Алёны, самабытная ў плане праблематыкі і эстэтычных рашэнняў, накіраваная на пошук тонкіх граняў душы сучаснага чалавека, зацвердзілася б у культурнай прасторы і без непасрэднага ўдзелу Стрэльнікава. Іншая справа, што менавіта ягоны ўдзел паскорыў працэс, акумуляваў вектар творчых пошукаў у эксперыментальнае рэчышча, звязанае з развіццём монадрамы, якая дамінуе ў палітры драматурга.

*Калі я пісала п'есы, ён быў маім суразмоўцам. Хоць я магла ў любы момант звярнуцца да яго, ніколі не выкарыстоўвала яго ідэі. У нас нават быў хатні мем: "Навошта мы гэта абмяркоўваем, калі ты ўсё роўна не паслухаеш?" – казаў Лёша. А я дадавала: "Мы пагаворым, і я прыдумаю што-небудзь пятае". Творчы бадмінтон. Спачатку маё пісанне выклікала ў Лёшы з яго класічнай адукацыяй здзіўленне, потым ён рабіў чытку маёй п'есы "Ты знойдзеш Алісу пад старым снегам" у Гомелі, але ў цэлым практычна не працаваў з маімі тэкстамі. Яго пазіцыя заключалася ў прыняцці, падтрымцы, але як блізкага чалавека. У той жа час як рыдар тэатральных конкурсаў ён заўсёды перадаваў мае п'есы калегам, каб захаваць аб'ектыўны погляд, прафесійную этыку*[14].

Аляксея Стрэльнікава можна па праве назваць генератарам не толькі смелых тэатральных эксперыментаў, але і арыгінальных рашэнняў драматургічных. Дастаткова прыгадаць прыход у тэатр Паўла Пражко, п'есы якога практычна не ставіліся ў Беларусі. Рэдкае выключэнне – чыткі Тані Арцімовіч, Паўла Харланчука, а таксама ранняя п'еса "Калі скончылася вайна", пастаўленая на сцэне РТБД, шмат у чым "кампрамісная", бо выходзіць за рамкі творчай манеры драматурга з яго жорсткім поглядам на соцыум, вывядзеннем на сцэну "полай свядомасці" героя "постабсурду", перададзенай на ўзроўні мовы. На жаль, усё гэта не канвертуецца ў прызнанне дзяржаўнымі тэатрамі Беларусі, застаючыся запатрабаваным за мяжой.

Мне здаецца, пазіцыя Стрэльнікава-крытыка, актыўны зварот да эксперыментальных пошукаў, былі абумоўлены некалькімі момантамі. Па-першае, чуласцю да тэксту як да неад'емнай часткі сцэнічнага выказвання. Адсюль – цікавасць да п'ес Паўла Пражко з іх моўнай дамінантай, а пасля і да монадрамы (выкажу здагадку, што шмат у чым дзякуючы дыялогам-спрэчкам з Алёнай Іванюшанка), увага да празаічных твораў (успомнім, што асаблівая сфера дзейнасці Стрэльнікава была звязана з арганізацыяй прэміі імя Ежы Гедройца), нарэшце, захапленне камерным фарматам тэатра, монаспектаклем, у якім дзеянне рухае слова, выбудоўваюцца ледзь улоўныя, інтымныя сувязі паміж выканаўцам і гледачом.

Павышаная ўвага да творчых інавацый развівалася ў рэчышчы канцэпцыі

*“дзейснай крытыкі”*, нацэленай на дапамогу драматургам і тэатральным калектывам здабыць “творчы тонус, правільную інтанацыю” [4, с. 24], каб, у спалучэнні з “дзейснай аўдыторыяй”, стаць прасторай інтэлектуальнай і творчай свабоды, сацыяльна-актыўнай, якая непрадузята адлюстроўвае гістарычныя працэсы, становіцца “барометрам” грамадскага быцця. Тое, што асаблівай яго гранню было быццё нацыянальнае, выяўленае ва ўстойлівай цікавасці Стрэльнікава да беларускай культуры, асабліва ў яе авангардным, знарочыста эксперыментальным інварыянце, вельмі важна.

У якасці апошняй “інтэрмедыі” мне хацелася б уключыць сюды рэфлексію пра лёс тэатра, трывожную перасцярогу і мужны дыягназ яго рэальнаму існаванню ў Беларусі, якая належыць Аляксею:

*Я б хацеў адказваць на пытанне, у якой ступені беларускія рэжысёры вызначаюць аблічча беларускага тэатра. Мне здаецца, ні ў якой. Усе працуюць па вызначанай і апрацаванай схеме, робяць тое, што трэба. Пры гэтым высветліць, калі рэжысёры самавыяўляюцца як творчыя асобы, – вельмі цяжка. <...> Варта развіваць альтэрнатыўныя формы тэатра* [19].

Сфармуляваная ў 2010 годзе падчас чарговага “круглага стала” часопіса “Мастацтва”, з пазіцыі 2020-х, яна ўспрымаецца не як скептычнае канстатаванне, а як заклік да дыялогу, упэўненасць не толькі ў неабходнасці, але і ў магчымасці змяніць абставіны. І зарок для тых, хто застаўся “тут”, каб даць жыццё таму, што Аляксей Стрэльнікаў, чалавек тэатра, ужо здзяйсняе на сцэне сусветнага “там”.

**Літаратура:**


1. Акудовіч, В. Уводзіны ў новую літаратурную сітуацыю. Лекцыі для Беларускага Калегіюму / В. Акудовіч // Фрагмэнты. – № 7, 8, 9. [https://knihi.com/storage/frahmenty/7akudovich.htm. Доступ: 20.03.2017].

2. Головчинер, В.Е. Эпический театр Евгения Шварца / В.Е. Головчинер. – Томск, 1992. – 260 с. (Пераклад цытаты мой. – *А.Л.*).

3. Итоги 2013: современный театр имеет огромный потенциал // Зерне. – 2013. – 27.12 [http://ziernie-performa.net/blog/2013/12/27/itogi-2013-sovremennyj-teatr-imeet-ogromnyj-potencial. Доступ: 30.12.2013].

4. Каардынатары без крытэрыяў: з рэдакцыйнага “круглага стала” / Р. Смольскі [і інш.]; падрыхтавала Людміла Грамыка // Мастацтва. – 2014. – № 4. – С. 20-25.

5. Кісліцына, Г.М. Новая літаратурная сітуацыя: змена літаратурнай парадыгмы : дыс. д-ра філал. навук : 10.01.01 / Г.М. Кісліцына; НАН Беларусі; Цэнтр далед. бел. культуры, мовы, літаратуры. – Мінск, 2015. – 241 л.

6. Лаўшук, С.С. Гарызонты беларускай драматургіі / С.С. Лаўшук. – Мінск : Бел. навука, 2010. – 410 с.

7. Лепишева, Е. Семейный инклюзив-театр “i” в контексте перформативно-рецептивного поворота в современной драматургии / театре / Е. Лепишева // Motyw inności w literaturach i kulturach słowiańskich / red. E. Pańkowska, J. Dziedzic, A. Alsztyniuk. – Lublin: Episteme, 2022. – S. 71-83.

8. Мазура, В.Я. Тэатральны сезон 2005 / 2006 г. у драматычным мастацтве Беларусі ў кантэксце сучаснага тэатральнага працэсу: асноўныя падзеі, праблемы і тэндэнцыі развіцця: рэпертуарная палітыка, творчыя пошукі, спалучэнне элементаў традыцыйнага і сучаснага мастацтва [Электронны рэсурс] / В.Я. Мазура // Актуал. прабл. культуры і мастацтва : зб. / Нац. б-ка Беларусі. – Мінск, 2007. – Вып. 3. – 1 электрон. апт. дыск (CD-ROM).

9. Панкратава, Н. Дубінка — для ўзмацнення эфекту / Н. Панкратава // Мастацтва. – 2018. – № 19.

10. Стрэл, А. Адзінота ў глядзельнай зале. / А. Стрэл // Мастацтва. – 2008. – № 12.

11. Стрэл, А. Жаніхі ды сваццi / Дзень тэатра ў эпоху постмадэрнізма // Мастацтва. – 2009. – № 3.

12. Стрэльнікаў, А. Выкарыстанне мастацкіх сродкаў эпічнага тэатра Б. Брэхта на бела-

рускай сцэне: аўтарэф. дыс. канд. мастацказнаўства: 17.00.01; НАН Беларусі, ДНУ “Інстытут мастацказнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы” / А. Стрэльнікаў. – Мінск, 2010. – 22 с.

13. Стрэльнікаў, Патрэба ў нетэатры // Другое прышэсце Хлестакова / Л. Грамыка і інш. // Мастацтва. – 2010. – № 12.

14. Стрэльнікаў, А. Бог чыткі: у Цэнтры беларускай драматургіі / А. Стрэльнікаў // Мастацтва. – 2011. – № 1. – С. 11.

15. Стрэльнікаў, А. Ніша эксперымента / А. Стрэльнікаў // Мастацтва. – 2013. – № 4. – С. 32-33.

16. Стрельников, А. Путешествие в микрокосме театра (театр кукол Беларуси) / А. Стрельников // Невропаст. – 2018. – № 2.

17. Стрэльнікаў, А. “Дзеці з радасці — на сцэну!” Рэпартаж пра тое, як інклюзіў-тэатр “і” рыхтуецца да прэм’еры / А. Стрэльнікаў // Наша ніва. – 2019. – 20.03.

18. Стрельников, А. Онлайн-школа для дураков / А. Стрельников // Петербургский театральный журнал. – 2020. – 3.06. [http://ptj.spb.ru/blog/onlajn-shkola-dlya-durakov. Доступ: 10.06.2020].

19. У пошуках ідэальнага рэжысёра // Мастацтва. – 2010. – № 1.

20. Умер белорусский театральный деятель Алексей Стрельников. – Театр. – 2022. – 18.12 [ https://oteatre.info/umer-belorusskij-teatralnyj-deyatel-aleksej-strelnikov/. Доступ: 18.12.2022].

21. Шаблоўская, І.В. Драма абсурду ў славянскіх літаратурах і еўрапейскі вопыт. Паэтыка. Тыпалогія / І.В. Шаблоўская. – Мінск : Белдзяржуніверсітэт, 1998. – 20 с.

---

[1] “Его стрелы не были ядовиты. Напротив, незлобивость и любовь, покорность и горестное размышление – он выглядел побитым, словно вечно простуженным интеллигентом, продолжающим наговаривать слова любви ртом, полным собственной крови” (Памяти Алексея Стрельникова // Петербургский театральный журнал. – 2022. – 20 дек. [https://ptj.spb.ru/blog/pamyati-alekseya-strelnikova/. Доступ: 20.12.2022]).

[2] Nowa dramaturgia białoruska, t. 1–7, wybor, redakcja i wstęp A. Moskwina, Warszawa, 2011–2018.

[3] Смольский, Р.Б. Сотворение судьбы: историческая и героико-революционная тема в театрах Белоруссии 70-80-х годов / Р.Б. Смольский. – Минск : Наука и техника, 1987. – 220 с.; Смольскі, Р.Б. Сінхронна з часам: актуальныя праблемы развіцця беларускага тэатра / Р.Б. Смольскі, А.А. Ракаў, В.А. Грыбайла. – Мінск : БДАМ, 2010. – 265 с.

[4] Лаўшук, С.С. Кандрат Крапіва і беларуская драматургія / С.С. Лаўшук. – Мінск : Навука і тэхніка, 1986. – 240 с.; Лаўшук, С.С. На драматургічных скрыжаваннях / С.С. Лаўшук. – Мінск : Навука і тэхніка, 1989. – 160 с.; Лаўшук, С.С. На творчай арбіце Андрэя Макаёнка / С.С. Лаўшук // Полымя. – 2010. – № 8. – С. 136–146.

[5] Згадаем меркаванне Ганны Кісліцынай аб развіцці беларускай навукі 2010-х: “На жаль, у той час калі літаратуразнаўцы суседніх краін бралі актыўны ўдзел у фарміраванні і асэнсаванні новых з’яў літаратуры, беларускія даследчыкі праз шматлікія прычыны відавочна адставалі. Больш за тое, яны і сёння не спяшаюцца тлумачыць працэсы, якія адбываліся з айчыннай літаратурай апошняга дзесяціголдзя XX стагоддзя” [5, с. 3].

[6] “Новейшая русская драма и культурный контекст” (Кемерава, 2010), “Поэтика русской драматургии рубежа XX-XXI веков” (Кемерава, выпускі 1-4), матэрыялы навукова-практычнага семінара “Новейшая драма рубежа XX-XXI веков” (Самара, 2008-2023), працы яго ўдзельнікаў рэгулярна друкаваліся і ў іншых часопісах: “Вестник СамГУ”, “Миргород”, “Семиотические исследования”, etc.

[7] “Драмомания” (Кемерава, 2009, 2010, 2011), “Современная российская драма” (Казань, 2007), “Современная драматургия (конец XX – начало XXI в.) в контексте театральных традиций и новаций” (Навасібірск, 2011), “АРТсессия” (Чэлябінск, 2011, 2013), “Новая драма XIX – XX вв.: проблематика, поэтика, пути сценического воплощения” (СПб, 2014) і інш.

[8] Пра гэта Аляксей з самаіроніяй пісаў на сайце фэста “Любимовка-2020”: https://flyingcritic.ru/post/pokaji-mne-dramy. Доступ: 13.08.2020.

[9] Не расстраляныя / Васіль Дранько-Майсюк і інш. – Мінск : А. М. Янушкевіч, 2021. – 440 с.

[10] Ермолова, А. Умер белорусский театральный деятель Алексей Стрельников / А. Ермолова // Театр. – 2022. – 18 дек. Пераклад з рускай мой. – *А.Л.*

[11] Згадаем формулу беларускага літаратуразнаўцы Аляксандра Рагулі, які пісаў пра

нацыянальныя традыцыі беларускай драматургіі (Гл.: Рагуля, А. Філасофскі тэатр Кандрата Крапівы / А. Рагуля // Шлях да Брамы Неўміручасці: матэрыялы рэсп. навук. чыт., прысвеч. 115-годдзю з дня нараджэння Народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, Мінск, 3 сакавіка 2011 г. / уклад. А.А. Манкевіч. – Мінск : Бел. навука, 2012. – С. 110–119).

[12] Нефед, В. Гражданская миссия театра // Театр и жизнь : некоторые проблемы театрального процесса в Белоруссии 70–80-х годов / В.И. Нефед, Р.Б. Смольский, Т.Е. Горобченко [и др.]; ред. В.И. Нефед, АН БССР, Ин-т искусствознания, этнографии и фольклора. – Минск : Наука и техника, 1989. – С. 3–32; Васючэнка, П.В. Драматургія і час / П.В. Васючэнка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – 143 с.; Лаўшук, С.С. Гарызонты беларускай драматургіі / С.С. Лаўшук. – Мінск : Бел. навука, 2010. – 410 с. і інш.

[13] Анлайн-абмеркаванне найноўшых тэндэнцый развіцця беларускага тэатра ў кантэксце сусветнага з удзелам беларускіх і замежных крытыкаў, тэатразнаўцаў, рэжысёраў, актораў.

[14] З прыватнай размовы Алёны Іванюшанка з аўтаркай публікацыі. Пераклад з рускай мой. – *А.Л.*

# Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Наста Кудасава



***1.*** Я заўжды любіла чытаць, гадоў з чатырох чытала апантана ўсё, што знаходзіла ў бібліятэках. Напэўна, гэта нейкая мая прыроджаная патрэба – успрымаць свет праз слова. Таму з ранняга дзяцінства я сама пачала пісаць, але нічога з тае пары не памятаю, дзіцячыя сшыткі з вершамі даўно спаліла, каб потым не саромецца іх, наўрад ці там было штосьці, вартае ўвагі. Назваць кагосьці "хросным бацькам" не наважуся. Усё ж пісаць я навучылася сама. Але сапраўды, у мяне на працягу ўсяго жыцця заўсёды знаходзіліся людзі, якія мне дапамагалі і ўсяляк спрыялі, каб я працягвала пісаць. У гэтым я, безумоўна, шчаслівы творца.

***2.*** Нічога адметнага: вершы прыходзяць у галаву, а я стараюся паспець іх запісаць, пакуль не выскачылі. Тэхнічна гэта можа быць аловак або ручка і любая паперчына, што трапілася пад руку. Потым стараюся ўсё з такіх паперак перанесці ў кампутар, каб яно не згубілася. Ніякіх стымулятараў не прызнаю катэгарычна, мяне яны толькі адцягваюць і падманваюць, лепей за ўсё дапамагае цішыня і некалькі гадзін вольнага часу сам-насам. Звычайна такія гадзіны здараюцца ў дарозе, калі едзеш, напрыклад, цягніком без сям'і, гэта ідэальны час засяродзіцца.

Я ўвогуле ранішні чалавек, на досвітку адчуваю сябе максімальна здарова і адэкватна, таму і пісаць люблю больш за ўсё ўранні. Начэй баюся і не давяраю іхнім відзежам, начамі ў мяне абвастраецца трывожнасць. Часам нешта і ўдзень пішацца, калі гэты дзень атрымалася вырваць у будзённай мітусні і схавацца ад усіх, але ранак гэта адназначна мой самы любімы час для творчасці. Што да крыніцаў натхнення, у мяне ўжо назбіралася ўнутры досыць шмат успамінаў, шмат нітачак болю ці любові, за якія варта толькі пацягнуць і тут жа патрэбны стан прыходзіць. Мне заўжды ёсць да чаго звярнуцца ў маёй памяці, каб адчуць натхненне, так што выдумляць і чакаць не даводзіцца. Наадварот з гадамі мацнее адчуванне, што я раблюся суцэльным клубком з такіх нітачак натхнення, уразлівым, танкаскурым, аголеным, таму і пісаць цягне ўсё больш і больш.

***3.*** Звычайна шкілет верша прыходзіць сам, незразумела адкуль. А я ўжо толькі дапрацоўваю дэталі, апранаю яго, аздабляю, выступаю рэдактарам для цуда. Спачатку гэта заўсёды рытм, пэўны вершаваны памер. Як толькі ўдаецца дакладна пачуць неабходны памер, літаральна ў 2-3 радках, тады звычайна астатні верш арганічна сам дапісваецца, сцелецца як радно. Калі нешта зусім не ідзе або ідзе пакутліва, то гэта амаль заўжды азначае няправільна абраны памер, недачуты. Тады варта пакруціць словы так, каб яны сталі ў патрэбнай паслядоўнасці, і верш цалкам увойдзе ў гэтую паслядоўнасць, як у патрэбны паз.

У слоўнікі я зазіраю пастаянна, вельмі люблю іх чытаць, яшчэ са школьных гадоў я з'яўляюся фанатам усемагчымых слоўнікаў. Гэта таксама свайго роду крыніца натхнення. Часам нават не ведаю, што шукаю там, бывае, проста рандомна праглядаю старонкі *slounik.org*, каб раптам напаткаць акурат тое, чаго не хапала. Да даведачнай літаратуры таксама нярэдка даводзіцца звяртацца, бо мне важна быць рэалістычнай, дакладнай. Дапусцім, я напісала радкі:

“рэкі, дзе лётаюць шпарка шчаслівыя карпы”. Потым я іду ў інтэрнэт і вывучаю табліцу хуткасці рыб, а таксама арэал распаўсюджвання карпаў , бо мне важна ўпэўніцца, што пра карпаў можна напісаць “шпарка” і што яны сапраўды могуць жыць у рэках. І так з усімі вершамі, стараюся спраўджваць інфармацыю, якая прыйшла мне ў галаву аднекуль, а не паддавацца адным эмоцыям. Таму напісанне нават невялікага васьмірадковага верша – гэта доўгі складаны працэс. Бо, апрача нябеснага паклікання, ёсць яшчэ праца чалавечага розуму, без яго нікуды. Потым трэба яшчэ кожнае слова шмат разоў прагаварыць уголас, пакруціць на языку, каб радок адшліфаваўся, не быў шурпатым, каб упэўніцца ў гладкасці і “дрыжыкавыклікальнасці” верша. А бывае, наадварот, дапрацоўваеш верш так, каб ён быў не гладкім, а каструбаватым, косназыкім, цяжка вымаўляльным. Такі гукавы воблік мае сэнс, калі табе трэба перадаць стан дысгарманічны, няўтульны, ненармальны. Адмыслова падабраныя спалучэнні гукаў, алітэрацыі, асанансы вельмі важныя для паэзіі.

***4.*** Не перапісваю нанова ніколі, бо не магу ўжо вярнуцца ў той стан. Мне прасцей выкінуць верш цалкам, калі ён сумнеўнай якасці, чым перапісваць. Магу толькі адно-два словы замяніць, падрэдагаваць, калі ўгледжу відавочную памылку. Да думкі калегаў прыслухоўваюся, калі яны ўказваюць на недакладнасці або слабыя месцы. Звычайна адчуваю ўдзячнасць добрым людзям за якасную крытыку, але часцей застаюся пры сваім.

Спрыяюць мне, канечне ж, людзі, якія натхняюць, якімі хочацца захапляцца, ад якіх вырастаюць крылы. Вельмі шчасліваю пачуваюся, калі атрымліваю шчымлівыя водгукі ад удзячных чытачоў, гэта надае моцы. А перашкаджае руціна, неабходнасць быць сацыяльнай істотай. Я вельмі цяжка пераношу неабходнасць вылазіць са сваёй норкі вонкі і пражываць “нармальнае” штодзённае жыццё.

Увогуле, часцей я адчуваю, што гэта я ўсім перашкаджаю сваім існаваннем. Паэт – нязручны чалавек, ён увесь час кудысьці знікае, як той алкаголік, што сыходзіць час ад часу ў запой і тады яму нішто немагчыма даверыць. Нараджэнне верша – гэта такі “запой”, калі ты не выходзіш на працу, не адказваеш на званкі і паведамленні, бо адарвацца немагчыма, пакуль не дапішаш.

***5.*** З аднаго боку, я задаволеная ўсімі творамі, хаця б таму, што іх нараджэнне – заўжды цуд. Нават калі яны недасканалыя, я мушу быць удзячнай за тое, што я ў прынцыпе маю такі дар. І ў той жа час, канечне, я бачу шмат недасканаласцяў у напісаным. Я, напрыклад, амаль не ўспрымаю сваіх ранніх вершаў, не разумею сябе ранейшую, нават раздражняюся часам. Але, напэўна, і гэтае раздражненне – неабходная ўмова для росту. Тым не менш я не хацела б нічога змяніць у гэтым шляху, ён мой – такі як ёсць, нават калі на ім было шмат памылак. Мне вельмі падабаецца жыць, і чым старэйшаю раблюся, тым больш цікавым і асэнсаваным робіцца кожны мой дзень, хочацца ўхапіць кожную хвіліну з тых, што мне засталіся. Безумоўна, мае вершы звязаныя з біяграфіяй, але падзеі ў жыцці – гэта толькі штуршок, намёк, таму я ні ў якім разе не ставіла б знаку роўнасці паміж тэкстамі і жыццём аўтара, нават калі ў вершы стаіць прысвячэнне. Гэта ўсё адно ў пэўным сэнсе гульня, абыгрыванне рэчаіснасці дзеля паэзіі.

***6.*** Я не ведаю, як гэта калі “не пішацца”, калі “лянота”. Не пішацца звычайна толькі таму, што даводзіцца працаваць шмат ці вырашаць побытавыя клопаты, і на творчасць не застаецца часу. Пісаць жа немагчыма між іншым, паралельна са справамі. Паэзія патрабуе поўнай аддачы. На жаль, часцей бывае так, што яно “пішацца” нешта ў галаве, а я не магу сабе дазволіць спыніцца, засяродзіцца і запісаць, радкі знікаюць, збягаюць, забываюцца... Наадварот, калі б можна

было, я пісала б штодня. Я атрымліваю неперадавальную асалоду, калі магу нараджаць вершы, гэта мой сапраўдны допінг для жыцця.

Дзённікі ў традыцыйным сэнсе не вяду ўжо вельмі даўно. Але, магчыма, можна такімі лічыць допісы ў фэйсбуку. Часам узнікаюць думкі, што варта было б запісваць і больш дзеля захавання памяці, але ўсё ж такі мець справы з мовай мне нашмат прасцей у вершаванай форме, любыя празаічныя жанры даюцца мне надзвычай цяжка. Каб напісаць літаральна абзац, мне можа спатрэбіцца гадзіна-дзве, а то і палова дня, і яшчэ некалькі дзён перад гэтым, каб яго абдумаць і вынасіць, таму гэта, відаць, не зусім маё. Любы тэкст не ў вершаванай форме для мяне пакута, многія гэтаму здзіўляюцца, калі даведваюцца.

***7.*** З беларускае паэзіі стараюся чытаць усё, што выходзіць новага, чытаю і маладых, і старэйшых калегаў. Мне блізкія вершы Антаніны Хатэнкі, Валянціны Аксак, Марыі Вайцяшонак, Андрэя Хадановіча, Юлі Цімафеевай і іншых. З сусветнай паэзіі па-ранейшаму асабліва шаную і перачытваю Марыну Цвятаеву. З нашай прозы хацелася б нарэшце перачытаць Караткевіча, Быкава, Брыля, але я цяпер зусім не маю часу на гэта і ад таго крыху сумую. З сучаснікаў мне даспадобы творчасць Макса Шчура і Андрэя Адамовіча, але я далёка не ўсё паспяваю чытаць з таго, што выходзіць новага ў беларускай прозе, таму не магу сабе дазволіць экспертна выказацца на гэтую тэму. З замежнай літаратуры я перачытала б нанова “Школу для дураков” Сашы Сакалова і “Ночевала тучка золотая” Анатоля Прыстаўкіна, гэта адны з найважнейшых у маім жыцці кніг.

***8.*** Не хапае свабоды жыць і працаваць на сваёй зямлі на поўную сілу, не баючыся, не хаваючыся, не прыстасоўваючыся. Мне не хапае палітычных і сацыяльных зменаў, каб наладзіць кніжнае, творчае жыццё ў краіне, каб болей друкавацца і сустракацца з чытачамі ў маленькіх гарадах і вёсках. Нявдзейсненых творчых планаў у мяне вельмі шмат, нават дзяліцца імі балюча, бо адчуваю, як паступова згасае патэнцыял. Таму і пра будучыню загадваць ужо баюся. Астатняе ў беларускай літаратуры ўсё ёсць, яна надзвычай раскошная і разнастайная сёння, багатая на тэмы, формы і таленты. Бывае, часам у сучасных літаратурных творах я не бачу грунтоўнасці, глыбіні, патрабавальнасці да сябе, працавітасці, усё як быццам наспех скроенае, але гэта, відаць, праблема наагул сучаснага сусветнага мастацтва, яна не толькі ў беларускай літаратуры мае праявы.

Тым, хто пачынае, пажадаю верыць сабе, не здраджваць унутранаму голасу, не старацца спадабацца ўсім і не чакаць ад творчасці выгодаў, бо ў першую чаргу пісаць – гэта прапускаць праз сябе жах усёй чалавечай гісторыі, быць чуйным да болю іншых штодня, штохвіліны, а гэта нялёгка, і акупаецца яно толькі шчасцем мець гэты дар.

# Нашыя аўтары

**Бондар Васіль** – украінскі літаратар і грамадскі дзеяч. Заслужаны журналіст Украіны. Аўтар кніг «Одвідини», «Смарагдові китиці у воді», «Камінь від хандри», «Візит ввічливості» ды інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Тэліжынцы на Кіеўшчыне. Жыве ў горадзе Крапіўніцкім (Украіна).

**Будовіч Яна (Таццяна)** – паэтка. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Воцінава Святлана** – журналістка, публіцыстка, перакладчыца. Даследчыца і папулярызатарка жыцця і творчасці Элізы Ажэшкі, аўтарка навуковых і публіцыстычных артыкулаў, цыклаў лекцый. Пераклала на беларускую мову раман Элізы Ажэшкі «Два полюсы» і стварыла на яго аснове кнігу-квэст «Дзікунка. Раман XIX стагоддзя і як яго сёння чытаць». Адна з арганізатарак праекта «Слаўная кампанія: рэANIMAцыя» па заахвочванні даследчыкаў да напісання мастацкіх біяграфій беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя. Нарадзілася ў 1972 годзе ў Гродне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Кліч роднага звона» ды інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1987), дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1996). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, журналіст, дызайнер, фатограф, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «На пачатку маўчання», «Родавыя аскепкі неба», «Тутсамасць», «Чоў», «Графіці» ды інш., мастацка-паэтычных выданняў «Лялькі, альбо музыка кахання», (пераможца Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2008»), «Мудраслоўе беларусаў» ды інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Захарэвіч Зміцер** – паэт, бард. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Вершы друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. Аўтар трох электронных зборнікаў паэзіі. Лаўрэат «Фэсту аднаго верша» (2015). Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Значонак Дар'я** – празаік, крытык. Выпускніца Школы маладога пісьменніка. Публікавалася ў часопісах «Маладосць» і «Дзеяслоў», калектыўных зборніках «Першацвет» і «Цень зоркі». Адной са сваіх мэт бачыць пашырэнне тэмы авіяцыі ў беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1996 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Івашчанка Анатоль** – празаік, паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг вершаў «Вершnick», «Хай так», кнігі прозы «Анаталогія», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Лаўрэат прэміі «Залатая літара» (2005), конкурсу «Экслібрыс» (2014), прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2015). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кавалёў Сяргей** – драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» ды інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Кудасава Наста** – паэтка. Аўтарка кніг «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля», «Вясна. Вуснам цесна», «Я працягваю». Лаўрэатка прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра «Кніга году–2016», літаратурнай прэміі імя Міхася Стральцова (2021). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове, дзе і жыве.

**Кулеш Андрэй** – празаік. Лаўрэат літаратурнай прэміі «Экслібрыс» (2018). Нарадзіўся ў 1996 годзе ў Браславе. Жыве ў Віцебску і ў Слуцку.

**Лепішава Алена** – літаратуразнаўца, крытык. Аўтарка артыкулаў, прысвечаных сучаснай літаратуры і тэатру, а таксама мастацкай прозы. Асноўны кірунак інтарэсаў – эксперыментальны вектар мастацтва, нязвыклыя стратэгіі пісьма, міжлітаратурныя сувязі. Тэксты друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Цирк “Олимп” +TV», «Дружба народов», «Миргород», «Studia Białorutenistyczne» ды інш. Нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Самойла Галіна** – паэтка, празаік. Аўтарка зборнікаў вершаў «Сола трох галасоў», «Между светом и тьмой», «Зоркі над маўклівай адзінотай», «Чароўны ліхтарык», «Паляцелі птушкі ў вырай». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Бандары на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гродне.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове», «1939 год і Беларусь» ды інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт», рамана-фэнтэзі «Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996), прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** – паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» ды інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка ды інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шакель Ганна** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кнігі паэзіі «Цела мігдалу». Публікавалася ў выданнях «Маладосць» і «Дзеяслоў». У 2022 творы ўвайшлі ў «Анталогію паэтак. Выбранае Вальжынай Морт». Асобныя творы перакладзеныя на англійскую, нямецкую, украінскую, нарвежскую мовы. Нарадзілася ў 1998 годзе ў Маладзечне. Жыве ў Мінску.

**Шульман Давід** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг прозы «Когда мы ездили за носками», «Дзе ўзяць крыху шчасця», «В тёплом городе Эйлате», «Баскетболистка с улицы Жданова», «З вялікай літары «Б», «Особое женское состояние», «Жанчына валіць з ног, жанчына ставіць на ногі», «Не по правилам сыграли», «Краткие истории нашего времени», «Горад без перапынку», «Жизнь без антракта». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Барысаве. Жыве ў Эйлаце (Ізраіль).

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.